ШТОМЕСЯЧНЫ НАВУКОВЫ І МЕТАДЫЧНЫ ЧАСОПІС

# Роднае слова

2011/12
(288)
снежань

ЗАСНАВАЛЬНІК:
МІНІСТЭРСТВА АДУКАЦЫІ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ

УСТАНОВА
«РЭДАКЦЫЯ ЧАСОПІСА "РОДНАЕ СЛОВА"»

Часопіс выходзіць з 1988 года (у 1988 – 1991, №№ 1 – 48, выдаваўся пад назвай **"Беларуская мова і літаратура ў школе"**)



Над нумарам працавалі рэдактары:

**Вольга Крукоўская** (*Да 120-годдзя з дня нараджэння Максіма Багдановіча:* Прапануем план-канспект, З вопыту работы, Мая Радзіма – Беларусь, Гасцёўня; *Калі закончыўся ўрок:* Размова пра істотнае, Адрасы педагагічнага майстэрства, Каляндар народных святаў),
**Крысціна Пучынская** (*Да 120-годдзя з дня нараджэння Максіма Багдановіча:* Новыя выданні, Суладнае гучанне ліры; *Літаратура і час:* Літаратурны партрэт, Пошукі і знаходкі; Каляндар памятных датаў і юбілейных дзён; Кола гадоў; Крыжаванка),
**Ларыса Сагановіч** (*Мовы рысы непаўторныя:* Род блізкі і далёкі, Праблемы перакладу, Малады даследчык прапануе, З архіваў часу),
**Мікола Трус** (*Да 120-годдзя з дня нараджэння Максіма Багдановіча:* Дакументы сведчаць, Водгук літаратурнай класікі, У энцыклапедыю "Максім Багдановіч"),
**Наталля Шапран** (*Нацыянальная і сусветная культура:* Вяртанне да вытокаў, Асобы, З гісторыі музычнага мастацтва, Мастацтва ў кантэксце часу),

Галоўны рэдактар
**Зоя ПАДЛІПСКАЯ**

намеснік галоўнага рэдактара **Марыя Кныш,**
адказны сакратар **Аляксандр Кахановіч,**
дзяжурны рэдактар **Вольга Крукоўская,**
літаратурныя рэдактары **Ніна Ваніцкая, Вера Кулінок,**
вядучы рэдактар літаратурны **Алена Салахітдзінава,**
тэхнічны рэдактар **Канстанцін Лісецкі,**
галоўны бухгалтар **Валянціна Ракіцкая,**
загадчык прыёмнай **Вольга Барздова.**

WWW.RS.UNIBEL.BY

# Змест



Рэдакцыя выказвае падзяку супрацоўнікам Літаратурнага музея Максіма Багдановіча за дапамогу ў афармленні нумара выявамі мастацкіх твораў з фондаў музея.

Часопіс уключаны ў Пералік навуковых выданняў ВАК Рэспублікі Беларусь для друкавання вынікаў дысертацыйных даследаванняў па філалагічных навуках, мастацтвазнаўстве, культуралогіі, педагагічных навуках (тэорыя і методыка навучання беларускай мове і літаратуры).



# ВЕЛІЧ І ХАРАСТВО БЕЛАРУСКАЙ КЛАСІКІ

## ДА 120-ГОДДЗЯ З ДНЯ НАРАДЖЭННЯ МАКСІМА БАГДАНОВІЧА

Творчасць Максіма Багдановіча, прыцягальная для звычайнага чытача і масцітага вучонага, заўсёды займала адно з самых пашанотных месцаў на старонках часопіса "Роднае слова". Грані таленту паэта раскрываліся ў артыкулах прадстаўнікоў розных пакаленняў даследчыкаў, па-новаму інтэрпрэтаваліся, важка ўзбагачаліся фактаграфічнай базай да жыцця і творчасці адной з самых ясных зорак на небасхіле беларускага песняспеву.

Паводле бібліяграфічнага паказальніка **«Беларускія пісьменнікі на старонках часопіса "Роднае слова"»** (2008), у якім сабрана бібліяграфія выдання за 20 гадоў (1988 – 2007), М. Багдановічу прысвечана толькі літаратуразнаўчых 70 артыкулаў; з рэгулярнасцю перадрукоўваліся таксама творы паэта, песні на яго вершы, публікаваліся матэрыялы да радаводу, вопыт музейнай справы, асэнсаванне творчасці ў іншых відах мастацтва, метадычны вопыт разгляду паэзіі "песняра чыстай красы" на ўроках літаратуры ў агульнаадукацыйных установах і інш. Натуральна, што найбольшы ўраджай даследаванняў прыпадаў на юбілейныя гады.

Да 120-годдзя з дня нараджэння паэта часопіс рыхтаваўся асабліва грунтоўна. Яшчэ са студзеньскага нумара за 2009 г. пачала дзейнасць рубрыка **«У энцыклапедыю "Максім Багдановіч"»**, якая фактычна ўзяла на сябе ролю стымулу і масмедыйнай падтрымкі працы над выданнем, што рыхтавала выдавецтва "Беларуская энцыклапедыя імя П. Броўкі". Такі факт супрацоўніцтва яшчэ не меў прэцэдэнтаў у гісторыі беларускай гуманітарнай навукі.

Часопісныя публікацыі стымулявалі актыўнасць даследчыкаў, дазвалялі падаць сціслы даведачны матэрыял у пашыраным варыянце. Артыкулы пра М. Багдановіча не абмяжоўваліся гэтай рубрыкай, сістэматычна публікаваліся ў іншых раздзелах.

Такія публікацыі падказвалі новыя тэмы для энцыклапедыі: успрыманне творчасці паэта вачыма нашаніўскіх сучаснікаў, М. Багдановіч і параўнальнае літаратуразнаўства, жыццё і творчасць паэта ў інтэрнэт-прасторы і інш. Артыкулы адразу дэманстравалі як мінімум дваісты характар тэм: падводзілі пэўную рысу пад напрацаваным матэрыялам і адначасова вызначалі перспектывы для далейшых пошукаў, новых падыходаў, замацоўвалі адкрыты характар узнятых пытанняў.

Часопісам апрацавана свая адметная дзялянка на ніве багдановічазнаўства. Вопыт гэтай рупнасці ўпэўнівае, што наступныя публікацыі не саступяць папярэднім ні ў навізне, ні ў інтэлектуальным узроўні. Юбілей класіка беларускай літаратуры часопіс "Роднае слова" сустрэў з асаблівым душэўным уздымам, радасцю за плён супольнай працы з адданымі аўтарамі і чытачамі выдання.

**Мікалай ТРУС,**
загадчык кафедры беларускай мовы
Беларускага дзяржаўнага тэхналагічнага ўніверсітэта,
навуковы рэдактар энцыклапедыі "Максім Багдановіч".

Мікола ТРУС

# ЭНЦЫКЛАПЕДЫЯ "МАКСІМ БАГДАНОВІЧ": ПЕРАЕМНАСЦЬ ТРАДЫЦЫЙ, ГІСТОРЫЯ СТВАРЭННЯ




**Вокладка энцыклапедыі "Максім Багдановіч".** 2011 г.

Традыцыйнае цэласнае ўспрыманне асобы і творчасці М. Багдановіча для шырокай чытацкай аўдыторыі, як правіла, трымаецца сілавога поля вядомых метафарычных вызначэнняў: "пясняр чыстай красы" (А. Луцкевіч), "госць з высокага неба" (А. Смоліч), "страцім-лебедзь беларускай літаратуры" (А. Лойка), "беларускі Ікар" (Р. Лубкіўскі), "загадка Максіма Багдановіча" (М. Стральцоў) і інш. Энцыклапедыя як універсальны збор матэрыялаў пра жыццё і творчасць пісьменніка, акружэнне, эпоху, шматбаковае асэнсаванне пакінутага ў мастацтве слова, іншамоўнае перастварэнне заклікана трымацца яго вялікасці факта, выверанай і дакладнай інфармацыі, аб'ектыўнасці.

Выданне персанальнай літаратурнай энцыклапедыі "Максім Багдановіч" – вехавая падзея ў гісторыі нацыянальнай культуры, але натуральны поступ гісторыі, развіццё гуманітарнай навукі падказвае: не трэба спяшацца падводзіць рысу. Змяняюцца часы, уносяцца карэктывы ў сістэму каштоўнасных, вартасных падыходаў да асэнсавання. Творчасць М. Багдановіча тым і прыцягальная на стагоддзі, што валодае жывой пульсацыяй слова, непаўторнымі эмоцыямі. Прадстаўленай энцыклапедыяй падсумоўваецца найперш фактаграфічная база жыцця і творчасці паэта, прадэманстравана ступень навуковай спеласці і цэласнасці яе ўспрымання сёння.

#### ПЕРСАНАЛЬНЫЯ ЛІТАРАТУРНЫЯ ЭНЦЫКЛАПЕДЫІ: ЕЎРАПЕЙСКІ ВОПЫТ

Персанальныя літаратурныя энцыклапедыі – гэта выданні энцыклапедычнага жанру, цалкам прысвечаныя аднаму пісьменніку, у якіх дэталёва пададзены біяграфія, творчасць, гісторыя іх даследавання і асэнсавання. Як паказвае міжнародны вопыт, такія выданні могуць быць плёнам калектыўнай або індывідуальнай даследчыцкай працы. Персанальныя энцыклапедыі, як правіла, акрэсліваюць пэўны этап вывучэння творчай спадчыны аднаго з класікаў нацыянальнай літаратуры.

На Захадзе персанальныя энцыклапедыі ўпершыню ўбачылі свет у канцы XIX ст., найбольшае іх распаўсюджанне прыйшлося на XX ст. Вынікам працы літаратуразнаўцаў, мастацтвазнаўцаў, гісторыкаў сталі энцыклапедыі, энцыклапедычныя даведнікі, прысвечаныя Р. Бёрнсу, Ч. Дзікенсу, І. В. Гётэ, У. Блэйку, Ф. Кафку, У. Тэкерэю, Ф. Шылеру, У. Шэкспіру і іншым пісьменнікам.

Праца над першай персанальнай літаратурнай энцыклапедыяй на тэрыторыі былога СССР – Пушкінскай – была распачата ў 1930-я гг., і да гэтага часу мы маем магчымасць азнаёміцца толькі з этапнымі вынікамі гэтага маштабнага праекта.

За савецкім часам першым літаратурным выданнем энцыклапедычнага характару стаў **Шаўчэнкаўскі слоўнік** у 2 тамах (1976 – 1977), падрыхтаваны Інстытутам літаратуры імя Т. Р. Шаўчэнкі АН УССР [17].

Адной з найлепшых у гісторыі еўрапейскай энцыклапедыстыкі лічыцца **Лермантаўская энцыклапедыя** (1981), праца над якой вялася ў Інстытуце рускай літаратуры (Пушкінскім доме) з 1958 г. [7]. Выданне абагульніла напрацоўкі лермантазнаўства, стала ўзорам для даведачнай літаратуры падобнага кшталту ў савецкай і постсавецкай інфармацыйна-культурнай прасторы. Тэматычныя блокі энцыклапедыі складаюць своеасаблівы зместавы канон персанальных літаратурных энцыклапедый: агульныя звесткі пра жыццё і творчасць, радавод, літаратурнае





і побытавае акружэнне, паслядоўнікі, даследчыкі, асэнсаванне сюжэтаў і вобразаў у розных відах мастацтва, асаблівасці паэтыкі, сувязі М. Лермантава з замежнымі літаратурамі, лермантаўскія мясціны і інш. Кожнаму твору адведзены асобны артыкул.



Старонкі з энцыклапедыі "Максім Багдановіч".

Значнымі падзеямі нацыянальнага і агульнасаюзнага ўзроўняў стала выданне беларускіх даведнікаў: персанальнага літаратурнага **"Янка Купала"** (1986) і персанальнага культуралагічнага, мастацтвазнаўчага **"Францыск Скарына і яго час"** (1988). Адзначым парадаксальнасць афіцыйнага жанравага вызначэння гэтых фундаментальных прац: "энцыклапедычны даведнік" на вокладцы і "энцыклапедыя" ў анатацыі ці ва ўступным артыкуле.

Так, у анатацыі да выдання, прасвечанага класіку беларускай літаратуры, чытаем: «"Янка Купала" – першая на Беларусі персанальная энцыклапедыя. Асвятляе асноўныя моманты жыцця і творчасці народнага паэта Беларусі. У ёй змешчана 3095 артыкулаў. Гэта артыкулы, прысвечаныя творам паэта, праблемныя артыкулы пра творчасць Я. Купалы, лірыку, драматургію, публіцыстыку, паасобныя жанры, вобразы, пра сувязі паэта з рускай літаратурай, літаратурамі народаў СССР і замежных краін, пра ўвасабленне купалаўскай тэмы ў выяўленчым мастацтве, музыцы, тэатры, кіно. Кніга багата ілюстравана».

Ва ўступным артыкуле да энцыклапедычнага даведніка "Францыск Скарына і яго час" адзначаецца, што гэта "…другая на Беларусі персанальная энцыклапедыя (пасля Купалаўскай). <…> Даведнік фактычна з'яўляецца падрахункам развіцця скарыназнаўства ў краіне. У кнізе 728 артыкулаў. Змешчаны артыкулы пра ўсе выданні Ф. Скарыны, у якіх даецца аналіз структуры выдання і паліграфічных асаблівасцей выканання, гісторыі знаходкі і вывучэння, інфармацыя аб наяўнасці выдання ў кнігазборах краіны і за мяжой; артыкулы пра мастацкае аздабленне выданняў, іх графічную арнаментыку, а таксама пра кожную з кніжных гравюр. Шэраг артыкулаў прысвечаны гістарычным дзеячам і геаграфічным месцам, якія неаднаразова сустракаюцца ў тэкстах скарынінскіх прадмоў і пасляслоўяў. Частку матэрыялаў даведніка складаюць абагульняльныя артыкулы пра кнігавыдавецкую, асветніцкую, літаратурную дзейнасць Ф. Скарыны, у якіх разглядаецца яго філасофска-этычныя, дзяржаўна-прававыя, эстэтычныя погляды, патрыятызм".

Новае жыццё расійская практыка падрыхтоўкі і выпуску персанальных літаратурных энцыклапедый атрымала ў пачатку 1990-х гг. На гэты працэс накладвалі адбітак шэраг акалічнасцей найноўшай гісторыі: камерцыялізацыя кніжнай справы, неабходнасць мабільна рэагаваць на патрэбы і запыты чытача, канкурэнцыя на рынку кніжнай прадукцыі і інш.

Адзін з прыкладаў квазівыданняў новага пакалення – **"Пушкинская энциклопедия. 1799 – 1999"** (1999), якая выйшла да 200-гадовага юбілею паэта і ўяўляе з сябе падарункавы багата ілюстраваны варыянт даведачнай літаратуры. Выданне змяшчае біяграфію А. Пушкіна, храналагічны агляд яго творчасці, успаміны сучаснікаў, звесткі пра акружэнне паэта, прамовы і артыкулы пісьменнікаў, прысвечаныя класіку рускай літаратуры.

Расійскую серыю аўтарскіх персанальных энцыклапедый распачала **"Краткая ахматовская энциклопедия: от А до Я"** (1991) С. Умнікава [19]. Эстафету падхапілі аўтары выданняў, прысвечаных жыццю і творчасці М. Булгакава [14], М. Гогаля [15], Ф. Дастаеўскага [1], В. Шукшына [16] і інш.

У другой палове 1990-х гг. расійская энцыклапедыстыка прадставіла новы жанр універсальнай даведачнай літаратуры – персанальна-рэгіянальныя літаратурныя энцыклапедыі. Так, у Арэнбургу ў 1997 г. убачылі свет адразу тры выданні т. зв. Арэнбургскай трылогіі: Пушкінская, Талстоўская і Шаўчэнкаўская энцыклапедыі, падрыхтаваныя Л. Бальшаковым. Традыцыі краязнаўства падма-




**Лермантаўская энцыклапедыя.** 1981 г.

цаваны выданнямі – плёнам калектыўнай працы даследчыкаў **«Пушкинская энциклопедия “Михайловское”»** (Масква, 2003), **“Замятинская энциклопедия. Лебедянский контекст”** (Тамбоў, Ялец; 2004), **Шукшынская энцыклапедыя** (т. 1 – 2, Барнаул, 2005). Сёння вядзецца праца па стварэнні Прышвінскай, Розанаўскай, Хлебнікаўскай, Чэхаўскай, Ясенінскай энцыклапедый.

#### ЭНЦЫКЛАПЕДЫЯ “МАКСІМ БАГДАНОВІЧ”: АД ЗАДУМЫ ДА ЗДЗЯЙСНЕННЯ

Прыцягальнае слова класіка беларускай літаратуры больш за два дзесяцігоддзі таму паклікала да жыцця значную для беларускай культуры ініцыятыву: стварэнне і выданне энцыклапедыі паэта.

Падобны вопыт у інфармацыйна-культурнай прасторы былога Савецкага Саюза ўжо быў назапашаны дзякуючы энцыклапедычнаму даведніку “Янка Купала”, ды і нядаўняя яго папярэдніца Лермантаўская энцыклапедыя давала на той час узор аб’яднанай працы літаратуразнаўцаў, мастацтвазнаўцаў, архівістаў, спецыялістаў музейнай справы і г. д.

У 1987 г. па ініцыятыве загадчыка рэдакцыі БелСЭ імя П. Броўкі Івана Уладзіміравіча Саламевіча (для навукоўцаў і шырокага кола грамадскасці вядомага па публікацыях найперш як Янка Саламевіч) пачалася праца над будучай энцыклапедыяй. Даследчыкам быў складзены слоўнік, запрошаны да супрацоўніцтва вядучыя багдановічазнаўцы.

Ініцыятыва І. Саламевіча насіла прыватны характар, не была аформлена арганізацыйна, падмацавана фінансава; да гэтага дадаўся яшчэ шэраг неспрыяльных абставін аб’ектыўнага характару, таму ў пачатку 1990-х гг. праца над энцыклапедыяй была спынена, а падрыхтаваныя артыкулы ляглі ў архіў выдавецтва.

Толькі ў 2008 г. па ініцыятыве навукоўцаў НАН Беларусі, супрацоўнікаў Літаратурнага музея М. Багдановіча, Нацыянальнага архіва, выкладчыкаў Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта справу ўдалося рэанімаваць. Нарада ініцыятыўнай групы прайшла 9 красавіка 2008 г. у музеі паэта. На грамадскіх пачатках навуковым рэдактарам будучага выдання быў абраны былы дырэктар Літаратурнага музея М. Багдановіча, літаратуразнаўца, кандыдат філалагічных навук, дацэнт БДУ Мікалай Валянцінавіч Трус.

З запрашэннем вядучых навукова-даследчых арганізацый Рэспублікі Беларусь быў удакладнены слоўнік, падрыхтаваны І. Саламевічам, з улікам новых рэалій часу, стану гуманітарнай навукі, дасягненняў у галіне багдановічазнаўства. Вызначыўся найбліжэйшы план дзеянняў, канстатавалася неабходнасць перагляду і дапрацоўкі раней сабраных матэрыялаў у сувязі са зменай ідэалагічнай каштоўнаснай парадыгмы ў грамадстве. Праца атрымала новы імпульс, калі выдавецтва “Беларуская Энцыклапедыя імя П. Броўкі” ўзначаліла Таццяна Уладзіміраўна Бялова.

Для рэдакцыйнай калегіі, аўтарскага, рэдактарскага калектываў стала відавочна, наколькі перапынак у працы над выданнем аб’ектыўна паспрыяў назапашванню фактаграфічнай базы; за кароткі па гістарычных маштабах перыяд у нацыянальную культуру былі вернуты выбітныя асобы, якія былі знаёмыя з М. Багдановічам, спрыялі папулярызацыі і навуковаму асэнсаванню яго творчасці (Іван і Антон Луцкевічы, Вацлаў Ластоўскі і інш.).

У 1991 г. у Мінску да 100-годдзя з дня нараджэння паэта былі адчынены Літаратурны музей Максіма Багдановіча і яго філіял “Беларуская хатка”, якія сталі важнымі цэнтрамі экспанавання матэрыялаў, звязаных з жыццём і творчай дзейнасцю песняра чыстай красы, яго акружэння, а таксама ўзялі на сябе ролю лакаматываў навуковай думкі: тут праводзяцца міжнародныя навукова-практычныя канферэнцыі, выдаюцца зборнікі архіўных матэрыялаў. У пачатку XXI ст. набыў завершаныя абрысы філіял “Фальварак Ракуцёўшчына” ў Маладзечанскім раёне Мінскай вобласці.

Асноўныя кірункі ў галіне багдановічазнаўства ў апошнім дзесяцігоддзі XX ст. – першым дзесяцігоддзі XXI ст. былі непасрэдным чынам звязаныя з грамадска-палітычнай сітуацыяй у Беларусі, набыццём і ўмацаваннем дзяржаўна-





га суверэнітэту. Адкрытасць архіваў, вяртанне раней забытых імёнаў нацыянальнай гісторыі, актыўны міжкультурны дыялог, далучэнне да сілавога культурнага поля краіны беларускай дыяспары акрэслілі новыя далягляды для гэтай галіны айчыннага літаратуразнаўства.



**Энцыклапедычны даведнік "Янка Купала".** 1986 г.

Вехавай падзеяй стала выданне Інстытутам літаратуры імя Янкі Купалы АН Беларусі Поўнага збору твораў Максіма Багдановіча ў 3 тамах (1992, 1993, 1995), у якім сабрана ўся вядомая спадчына паэта, зняты купюры з яго твораў. Даследаванні прысвечаны праўдзіваму і поўнаму асвятленню ўзаемадачыненняў М. Багдановіча з дзеячамі беларускага адраджэння, украінскімі пісьменнікамі пачатку XX ст., стварэнню дэталёвага радаводу паэта, увядзенню ў навуковы ўжытак невядомых архіўных матэрыялаў, асэнсаванню месца класіка беларускай літаратуры ў беларускай, славянскай, заходнееўрапейскай, сусветнай культурнай прасторы.

У працы над энцыклапедыяй сышліся розныя пакаленні даследчыкаў. Для навукоўцаў, аматараў творчасці М. Багдановіча засталіся артыкулы вядучых навукоўцаў, якіх ужо з намі, на вялікі жаль, няма: Н. Ватацы, М. Грынчыка, У. Калесніка, Г. Каханоўскага, Г. Кісялёва, Л. Тарасюк, Т. Чабан і інш. Вялікай стратай за апошні час для аўтарскага калектыву стаў зыход у лепшы свет членаў рэдкалегіі энцыклапедыі У. Конана і В. Скалабана, чыёй мудрай парады так не хапала.

Вялі рэй працы, заставаліся нязменнымі стырнавымі прадстаўнікі старэйшага пакалення даследчыкаў: В. Рагойша, М. Мушынскі, Я. Гарадніцкі і інш.

Можна сцвярджаць, што энцыклапедыя "Максім Багдановіч", плён працы некалькіх пакаленняў навукоўцаў, адпавядае стану сучаснага багдановічазнаўства і літаратуразнаўства ўвогуле. Гэта першае выданне. Імклівы час, новыя гарызонты айчыннай гуманітарыстыкі прыўнясуць свае карэктывы. Але і тое выданне, якое чытач трымае перад сабой, ужо гісторыя сама па сабе.

### Спіс літаратуры

1. **Белов, С. В.** Достоевский и его окружение. Энциклопедический словарь / С. В. Белов. – СПб. : Алетейя, 2001.

2. **Большаков, Л. Н.** Оренбургская толстовская энциклопедия : Материалы. Поиски. Исследования. Хроника / Л. Н. Большаков. – Оренбург, 1997.

3. **Большаков, Л. Н.** Оренбургская шевченковская энциклопедия : Тюрьма. Солдатчина. Ссылка. Энциклопедия одиннадцати лет, 1847 – 1858 / Л. Н. Большаков. – Оренбург, 1997.

4. **Большаков, Л. Н.** Оренбургская пушкинская энциклопедия : Путешествие – 1833. Реалии "Истории Пугачева". Прототипы "Капитанской дочки". Исследователи и интерпретаторы / Л. Н. Большаков. – Оренбург, 1997.

5. **Вацуро, В. Э.** "Лермонтовская энциклопедия". К истории создания / В. Э. Вацуро // Русская литература. – 1978. – № 4. – С. 157 – 160.

6. **Замятинская энциклопедия. Лебедянский контекст** / ред. Л. В. Полякова. – Тамбов, Елец, 2004.

7. **Лермонтовская энциклопедия** / гл. ред. В. А. Мануйлов. – М. : Сов. энцикл., 1981. – 784 с. (2-е изд. – 1999).

8. **Лотман, Ю. М.** "Лермонтовская энциклопедия" и проблема построения персональных литературных энциклопедий / Ю. М. Лотман, М. Ю. Лотман // Лотмановский сборник. – 1995. – Т. 1. – С. 89 – 95.

9. **Малофеева, Н. Н.** Отечественные персональные литературные энциклопедии / Н. Н. Малофеева // Научная книга. – 2000. – № 3.

10. **Мейлах, Б. С.** О задачах и принципах создания Пушкинской энциклопедии / Б. С. Мейлах // Русская литература. – 1974. – № 2.

11. **Наседкин, Н. Н.** Достоевский. Энциклопедия / Н. Н. Наседкин. – М. : Алгоритм, 2003.

12. **Николаев, В.** Шекспир. Энциклопедия / В. Николаев. – М. : Алгоритм, 2007.

13. **Пушкин и мировая литература.** Материалы к Пушкинской энциклопедии. – СПб., 2004.

14. **Соколов, Б.** Булгаков. Энциклопедия / Б. Соколов. – М., 1996 (2-е изд. – М. : Алгоритм, 2007).

15. **Соколов, Б.** Гоголь. Энциклопедия / Б. Соколов. – М. : Алгоритм, 2007.

16. **Творчество В. М. Шукшина. Энциклопедический словарь-справочник** : в 3 т. – Барнаул : Алтайский гос. ун-т, 2005. – Т. 1 – 2.

17. **Шевченківський словник** : у 2 т. / Інститут літератури імені Т. Г. Шевченка АН Української Радянської Єнціклопедії; редакційна колегія : Є. П. Кирилюк (відповідальний редактор) [та інш.]. – Київ, 1976 – 1977.

18. **Францыск Скарына і яго час** : энцыклапедычны даведнік / БелСЭ; рэдкал. : І. П. Шамякін (гал. рэд.) [і інш.]. – Мінск : БелСЭ, 1988. – 608 с.

19. **Умников, С. Д.** Краткая ахматовская энциклопедия : от А до Я. Тысяча слов – кратких справок. – Л., 1991.

20. **Янка Купала** : энцыклапедычны даведнік / БелСЭ; рэдкал. : І. П. Шамякін (гал. рэд.) [і інш.]. – Мінск : БелСЭ, 1986. – 727 с.





*Дакументы сведчаць*

# *“…СВЕТЛЫ Ж СЛЕД БУДЗЕ ВЕЧНА ЖЫВЫМ”**

## ДА ГІСТОРЫІ АРХІЎНАЙ СПАДЧЫНЫ МАКСІМА БАГДАНОВІЧА

21 красавіка 1923 г. газета “Савецкая Беларусь” нататкай “Знойдзеныя скарбы! (К творчасці Максіма Багдановіча)” Н. Бываеўскага (Я. Дылы) паведамляла, што *“пазаўчора, 19 красавіка, атрыман ліст ад бацькі без пары памершага беларускага паэта Максіма Багдановіча, які парадуе ўсіх культурнікаў”*. Аўтар пісаў пра цудам выратаваныя скарбы творчасці паэта і пра тое, што А. Я. Багдановіч гатовы падарыць іх *“маладой Савецкай Беларусі”*. *“Прыдзецца падумаць і аб выданні твораў”*, – зазначаў Н. Бываеўскі і ў заключэнні вітаў *“працоўных Беларусі з гэтым шчаслівым для беларускае культуры днём”*.

У хуткім часе, 16 чэрвеня 1923 г., у Доме працаўнікоў асветы ў Мінску адбыўся вечар памяці беларускага паэта М. Багдановіча. У гэты ж дзень ужо згаданая тут газета “Савецкая Беларусь” апублікавала ўспаміны З. Бядулі, Я. Дылы, а таксама артыкул “Скарбы творчасці Максіма Багдановіча (Атрыманыя рукапісы пісьменніка)” Я. Дылы. З хваляваннем, не хаваючы выключнай радасці з нагоды набыцця Інстытутам беларускай культуры *“скарбаў творчасці”*, аўтар упершыню расказаў пра шчаслівы вынік пошукаў, які неўзабаве ўвасобіўся ў выдатны двухтомнік **“Творы М. Багдановіча”** з серыі “Акадэмічная бібліятэка беларускіх пісьменнікаў”.

Аўтар дзяліўся з чытачамі звесткамі пра тое, што ўвайшло ў гэтае паступленне, і першым рабіў агляд архіўнай спадчыны пісьменніка. Уражвае багацце дакументаў, якія маглі б і сёння служыць невычэрпнай крыніцай інфармацыі пра жыццё і творчасць аднаго з самых выдатных паэтаў Беларусі.

Язэп Дыла паведамляў, што архіў М. Багдановіча прывёз у Мінск яго бацька Адам Ягоравіч, каб *“перадаць на захоў і карыстанне беларускім культурным установам”*. Як ужо сказана, архіў быў багаты. Аўтар артыкула з захапленнем пісаў: «*Па надворнаму ўжо ўражанню адразу відаць, што найбольш усяго мы маем перад сабой вершаў М. Багдановіча. Цэлыя сшыткі спроб накідаў і выпрацаваных тэкстаў; дзесяткі лістоў, чацьвёртак, паўлістоў і цэлых аркушаў паперы, занятых радкамі таксама вершаў. Тут мы маем першабытныя варыянты як друкаваных яго вершаў, так яшчэ і нідзе не надрукаваных.* <…> *Сярод чарнавікоў ёсьць і першая рэдакцыя “Мушкі-зелянушкі”, варыянты “Вэронікі”, “Максіма і Магдалены” і іншых больш выдатных паэтычных твораў песьняра. Асаблівую ўвагу зварочваюць на сябе вершы першага перыяду творчасьці, калі яшчэ слоўнікавы матар'ял вершаў не даваўся пісьменніку ў сэнсе чыстаты беларускай мовы; затым ёсьць папачка вершаў, якія падбіраліся Максімам для сшытку “Палын-трава”, новага збору яго паэтычных твораў. Ёсьць таксама цікаўная тэтрадка вершаў-перакладаў з беларускае на расейскую мову пад назваю “Белорусские поэты”, дзе зьмешчаны пераклады Максіма Багдановіча з Марцінкевіча, Няслухоўскага, Я. Купалы, Я. Коласа і іншых. Ня выкарыстаўшы белавік гэтых сваіх перакладаў для надрукаваньня ў расейскіх журналах (на рукапісы ёсьць адзнакі, што сшытак вярнулі), Максім карыстаецца гэтым сшыткам для сваіх чарнавых накідаў беларускіх вершаў і кожын шматок чыстае паперы напаўняе сваею “бісернаю” рукою новых арыгіналаў. У гэтым якраз сшытку зьмешчан вельмі цэнны аўтабіяграфічны нарыс – ліст да рэдакцыі “Нашае Нівы”, арыгінал якога, мабыць, не захаваўся*».

Камісія, створаная Інбелкультам для прыёму архіўнай спадчыны паэта, занатавала 48 арыгінальных вершаў, большая частка з якіх не друкавалася, а таксама папку з вершамі (30 – 40 адзінак), моцна пашкоджаную агнём і якую можна было чытаць толькі адзін раз з павелічальным шклом.

Ужо па першым аглядзе было зразумела, што ў папцы невядомыя вершы. З архівам паступілі 10 твораў мастацкай прозы, многія з якіх былі аўтарам не завершаны, а таксама рукапісы артыкулаў на рускай, беларускай і адзін на ўкраінскай мове (“Забути шлях”). Сярод рукапісаў невялікая колькасць лістоў: усяго каля 10 не адасланых адрасатам, сярод якіх два перадсмяротныя – бацьку і прыяцелю. Як адзначаў Я. Дыла, «*маем 194 захаваўшыхся лістоў да Максіма Багдановіча, якія часткаю датычаць яго творчасьці (напр., перапіска з рэдакцыяй “Нашай Нівы”), часткаю асьвятляюць беларускае культурна-нацыянальнае жыцьцё, матар'ялаў аб чым, шчыра кажучы, беларускія культурнікі не захавалі па сваёй нядбаласьці і ў гэтым сэнсе “някультурнасьці”. Маюць таму вялікую цэннасьць лісты без пары памёршага беларускага паэты і публіцыста Сяргея Палуяна (лікам 9), лісты кіраўнікоў “Нашае Нівы” (27 экз.), Яўгеня Хлябцэвіча (4),*

* Радок з верша “С. Е. Палуяну” М. Багдановіча // Творы М. Багдановіча. – Мінск, 1927. – Т. 1. – С. 171.





*Я. Купалы (2), Б. Эпімах-Шыпілы (2), В. Лявіцкай (12) і 7 лістоў добра Менску вядомага Алеся Бурбіса (ад 1915 і 1916 г.г.). Нельга не адзначыць, што сярод лістоў да Максіма Багдановіча ёсьць адзін ліст ад Цёткі (Алёізы Пашкевічанкі – Кэйрыс), гэтай адзінай беларускай сацыялісткі "без палітычнай плямы" памылак».*

Камісія прыняла 11 здымкаў паэта, індывідуальных і групавых. Усё гэта павінна было скласці аснову выдання твораў М. Багдановіча, працу над якім распачынаў Інбелкульт. Перададзенае бацькам паэта Адамам Багдановічам склала хоць і асноўную, але толькі частку яго архіўнага збору.

Пачынаючы працу, літаратурная камісія рабіла аб'явы ў перыядычным друку, пісала лісты тым, хто мог валодаць рукапісамі і дакументамі, мог напісаць успаміны, і запрашала далучацца да справы *"па дастойным выданні жыцьцеапісу і пладоў багатай творчасці без пары памёршага нашага таленту"**. Так што пад канец працы над двухтомнікам Інбелкульт валодаў даволі багатым і разнастайным архіўным зборам творчай і дакументальнай спадчыны М. Багдановіча.

Язэп Дыла зрабіў спробу адшукаць у Яраслаўлі сям'ю М. Багдановіча яшчэ ў 1918 г., калі Беларускі нацыянальны камісарыят у Маскве** пастанавіў сярод іншага і выданне твораў М. Багдановіча. Але намаганні былі дарэмнымі. Як напісаў Я. Дыла, *"пасля некалькіх спроб адшукаць бацькоў пісьменніка, якія жылі ў Яраслаўлі, і за часы, калі гэтае места перажыло белагвардзейскае паўстанне, лічылі ўжо загінуўшымі ад бояк на вуліцах і пажару як старых Максіма, так і ўсе яго рукапісы"****. І ўсё ж пад задуму Белнацкама даследчыку ўдалося сабраць некаторыя матэрыялы, у асноўным ад знаёмых і сяброў паэта. Белнацкамаўскае выданне не адбылося, і, калі пачалася праца над укладаннем збору ў Інбелкульце, Я. Дыла перадаў іх літаратурнай камісіі.

Адам Багдановіч самастойна знайшоў шлях да Інбелкульта, і трэба адзначыць, у нейкім сэнсе выпадкова. Як ужо тут гаварылася, 19 красавіка 1923 г. установа нечакана атрымала заяву *"заведующего Научной библиотекой при Ярославском историческом музее Адама Георгиевича Богдановича"*. У заяве тлумачылася акалічнасць,



**Адам Багдановіч, бацька паэта Максіма Багдановіча.** 1908 г.

якая спрыяла яе аўтару знайсці патрэбнага адрасата:

*«Уважаемые товарищи, дорогие земляки!*

*В № 12 "Красной нивы" в заметке об Институте белорусской культуры, между прочим, напечатано: "Инбелкультом приготовлены два академических издания белорусских писателей и поэтов, которые выйдут впервые в свет в полном собрании. В первую очередь будут изданы сочинения Дунина-Марцинкевича, Богдановича, Цётки, Каганца и Ядвигина Ш."*****

*Эта случайная заметка меня несказанно обрадовала, ибо дает мне возможность исполнить свой национальный долг перед белорусским народом и перед памятью моего сына Максима Адамовича Богдановича, ранняя смерть которого несомненно была тяжелой утратой и для его друзей, и для его родни.*

*Дело в том, что у меня хранится его архив и все то, что имело отношение к его личности и к его литературной деятельности: несколько десятков его стихотворений последнего периода, нигде не напечатанных, черновики почти всех его стихов и других писаний, экземпляр отдельного издания его стихов ("Вянок") с его замечаниями и поправками, оттисками его статей на русском языке, его переписка и предсмертные письма ко мне и к товарищам, его фотографи-*

* Радок з названага тут артыкула Я. Дылы ў "Савецкай Беларусі" ад 16.06.1923 г.

** Беларускі нацыянальны камісарыят – аддзел Наркамата па справах нацыянальнасцей РСФСР у 1918 – 1919 гг. Створаны ў Петраградзе 13.02.1918 г. 3 сакавіка 1918 г. – у Маскве. Я. Дыла падтрымліваў сувязі з Белнацкамам, а з лістапада 1918-га стаў сябрам Маскоўскай беларускай секцыі РКП(б).

*** Радок з артыкула Я. Дылы, змешчанага ў "Савецкай Беларусі" ад 16.06.1923 г.

**** Можна дапусціць, што ў дадзеным выпадку слова *будуць* больш азначала намеры, чым сцвярджэнне.






Подписываюсь на „Н. Н." на 2 мес.
русским шрифтом
Адрес мой: Ялта, Аутка, дача
„Шалашъ", М. А. Богдановичу.
М. Богданович

**Аўтограф паштоўкі Максіма Багдановіча ў "Нашу Ніву".** 1909 г.

*ческие карточки, в том числе одна из позднейших, белорусская азбука, над которой он работал в последние дни своей жизни и т. п.*

*По весу все представляет значительную массу – около пуда.*

*Сохранить все это от пожара во время Ярославского восстания (моя квартирная уникальная библиотека и почти все имущество сгорели) представляло чрезвычайные трудности. Закопать в землю не было времени, и я, затолкав все это в сундук, затопил его в погребе.*

*Хотя сундучок был целиком затоплен, его вода от пожара, видимо, испарилась и крышка обгорела. По счастью, почти все сохранилось, хотя кое-что обуглилось.*

*Удалось спасти, хотя и не все (например, его личная библиотека по белоруссике сгорела), но затем возникал мучительный вопрос, куда все это девать, куда сдать на хранение? Ведь Нашинский* [Нашаніўскі?] *музей остался за рубежом, а что делают в Минске и делают ли что-либо в отношении охраны и истолкования национальных ценностей, мне было не известно: мои живые связи с Белоруссией все затерялись. Наконец я уже было решил в этом году обратиться в Белорусский комиссариат по просвещению, как вдруг попала на глаза упомянутая выше заметка.*

*Это мне и нужно"**.

Праз многа гадоў "гісторыю з куфэркам" удакладніць зводны брат Максіма Павел Адамавіч Багдановіч у лісце да Н. Ватацы ад 9 студзеня 1965 г.: *"Рукописей и автографов брата у меня нет**. В июле 1918 г. от Белорусской Рады в Ярославль приезжала комиссия для получения Максимова архива. Отец отказался это сделать. <...> Сундук с архивом брата я поставил в погреб на лёд, и наша семья покинула дом. Дом сгорел в последний день мятежа. Когда горел погреб, лёд растаял, сундук погрузился в воду, крышка и верхний слой обгорели. Вода смочила все рукописи. В таком виде сундук был нами извлечен"****.

Адам Багдановіч прывозіў дакументы ў Інбелкульт на працягу 1923 – 1924 гг. некалькі разоў, а калі пачалася актыўная падрыхтоўка выдання збору твораў, уключыўся ў працу па пошуку рукапісаў Максіма: ім былі сабраны ўспаміны яраслаўскіх сяброў паэта, зроблены копіі з артыкулаў сына, надрукаваных у яраслаўскай газеце "Голос", выяўлены і скапіраваны некаторыя біяграфічныя матэрыялы.

У гэты перыяд архіў М. Багдановіча папоўніўся ўспамінамі В. Ластоўскага, Х. Імшэнніка, новымі звесткамі ад З. Бядулі, А. Смоліча, копіямі з аўтографаў вершаў і двух лістоў, дасланых А. Луцкевічам з Вільні, сшыткам з аўтографамі 14 вершаў паэта пад агульным загалоўкам "Каханне і смерць. Нізка вершаў", які прывёз ад Р. Зямкевіча С. Некрашэвіч з паездкі ў Заходнюю Беларусь у 1926 г.

Багацце матэрыялаў дало падставы літаратурнай камісіі планаваць выданне трох тамоў: *"І-шы том – вершы паэта, ІІ-гі – яго проза бэлетрыстычнага, крытычнага і публіцыстычнага зьместу, ІІІ-ці – біографічны і крытычны матар'ял аб поэце"*****.

На працягу 1927 – 1928 гг. два тамы творчай спадчыны М. Багдановіча ўбачылі свет. У другім томе быў змешчаны **"Апіс рукапісаў М. Багдановіча і матар'ялаў да яго біографіі"**, зроблены В. Мачульскім. "Апіс..." дае агульную характарыстыку архіўнага збору і кароткае апісанне зместу дванаццаці папак. Не ўвайшлі ў апісанне дзве папкі з кнігамі і перыядычнымі выданнямі. Дзякуючы гэтаму дакументу мы маем унікальнае сведчанне аб страчанай архіўнай спадчыне паэта і з вялікім жалем можам ацаніць памеры гэтай страты.

Трэці запланаваны том не выйшаў, хоць матэрыялы для яго былі сабраны. Надыходзілі трагічныя 1930-я. Многія сябры літаратурнай камісіі, якія займаліся падрыхтоўкай выдан-

* Цытуецца па выданні "Шлях паэта". Складальнік Н. Б. Ватацы. – Мінск, 1975. – С. 127 – 128.

** П. А. Багдановіч у сваім архіве меў рукапісы брата. У лютым 1950 г. ён перадаў два вершы "Крыціку" і "Ракаўкі" з П. Верлена С. Шумаковічу, які апублікаваў іх у газеце "ЛіМ" 08.04.1950 г.

*** Цытуецца па выданні "Шлях паэта". С. 177.

**** Замоцін, І. Прадмова да выдання "Творы М. Багдановіча" / І. Замоцін. – Мінск, 1927. – Т. 1. – С. VII.





ня, былі абвінавачаны ў надуманых і да неверагоднасці недарэчных злачынствах: у 1930 г. арыштаваны Я. Дыла (спрычыніўся да збору матэрыялаў М. Багдановіча), М. Гарэцкі і У. Дубоўка (абодва займаліся разборкай і капіраваннем рукапісаў, пашкоджаных пажарам), А. Смоліч (адказны рэдактар выдання), В. Ластоўскі (неадменны сакратар АН БССР), у 1933 г. звольнены з Інстытута беларускай літаратуры і мастацтва як “класава-варожы элемент” адзін з самых актыўных удзельнікаў выдання, сакратар камісіі В. Мачульскі (у 1934 г. пакінуў Беларусь) і аўтар “Бібліяграфіі літаратуры аб М. Багдановічу” Я. Барычэўскі (12.09.1934 г. ён пайшоў з жыцця). Незайздросны лёс чакаў і многіх іншых, хто мог зрабіць для памяці паэта вялікія паслугі.

У канцы 1930-х гг. да архіўнага збору М. Багдановіча, што зберагаўся ў Інстытуце мовы, літаратуры і мастацтва АН БССР, звярнуўся малады вучоны Рыгор Жалязняк, які працаваў над кандыдацкай дысертацыяй **“Поэзия М. А. Богдановича”** (абараніў у 1940 г. у Ленінградскім універсітэце). Машынапіс дысертацыі з праўкамі яе аўтара захоўваецца ў Беларускім дзяржаўным архіве-музеі літаратуры і мастацтва ў фондзе Л. Бэндэ (Ф. 66. – Адз. зах. 1389, 1390, 1391). Асобнік названай дысертацыі захоўваецца ў Фундаментальнай бібліятэцы Санкт-Пецярбурскага ўніверсітэта. Менавіта гэтым асобнікам карысталася Н. Ватацы, якая ў канцы 1950-х пачала пошук невядомых аўтографаў і тэкстаў паэта.

Сёння дысертацыя Р. Жалезняка – адзіная крыніца таго часу, у якой зафіксавана некалькі тэкстаў М. Багдановіча ці іх фрагментаў, аўтографы якіх страчаны. Аўтар дысертацыі вельмі ўважліва вывучаў архіў паэта, прыклаў немалыя намаганні па расчытцы тэкстаў, якая не ўдалася яго папярэднікам – укладальнікам акадэмічнага двухтомніка. На кожны выпадак цытавання Р. Жалязняк робіць спасылку на нумар папкі і нумар аркуша. На адной са старонак на радкі, дзе даследчык каменціруе адзін з лістоў М. Багдановіча ў сувязі з датаваннем вершаў зборніка “Вянок”, спасылка аўтара ўразіла нечаканай інфармацыяй: *“Большинство писем Богдановича исчезло из его архива в Акад[емии] наук БССР. Письмо, на которое я ссылаюсь частично опубликовано в 1-м томе собр. соч. Богдановича, стр. 450”**. Дык вось – *“большасць лістоў знікла”*. Значыць, не ўсе страты можна звязаць з ваеннымі падзеямі. Тады хто забраў лісты з архіва М. Багдановіча і ці толькі лісты? Сёння мы павінны з выключнай увагай аднесціся да навуковай працы Р. Жалезняка, асабліва



**Хатнія рэчы сям’і Багдановічаў.** Апошняя чвэрць XIX ст.

ў той частцы, дзе прыводзяцца да гэтага часу не друкаваныя тэксты паэта. А на пытанні “хто?” і “ў якой колькасці маглі знікнуць дакументы з архіўных збораў АН БССР?” мы наўрад хутка знойдзем адказ.

У 1930-я гг. беларускае літаратуразнаўства да даследаванняў жыцця і творчасці М. Багдановіча звярталася эпізадычна. У пачатку 1930-х выйшлі невялікія артыкулы пад прозвішчамі Л. Бэндэ і М. Піятуховіча, у 1935 г. – артыкул “Літаратурная спадчына Максіма Багдановіча” А. Кучара (ЛіМ; 11.09.1935), у 1940 г. – артыкул Р. Жалезняка, які папярэднічаў абароне яго кандыдацкай дысертацыі. Але, акрамя Р. Жалезняка, да архіва паэта ні Л. Бэндэ, ні А. Кучар у сваіх артыкулах не апелявалі.

Нельга адзначыць вялікай цікавасці да гэтай тэмы і ў 1940-я гг.: некалькі артыкулаў Я. Казекі, Н. Перкіна, Я. Шарахоўскага. На гэтым спіс аўтараў амаль вычэрпваецца.

Новы этап у гісторыі багдановічазнаўства акрэсліўся ў другой палове 1950-х – 1960-я гг. У гэты перыяд актыўна працуюць у названай галіне літаратуразнаўства С. Майхровіч, С. Александровіч, Н. Кавалёў, А. Адамовіч, М. Барсток, Н. Ватацы, А. Бачыла; да творчасці М. Багдановіча звяртаюцца Я. Брыль, А. Лойка, М. Стральцоў, друкуюцца ўспаміны З. Верас, Д. Дзябольскага, Г. Валасовіч-Гразновай і інш.

Гэты час пазначаны і шматлікімі знаходкамі невядомых твораў паэта, дакументаў аб яго жыцці і дзейнасці, а таксама дакументаў Адама Ягоравіча і Марыі Апанасаўны, яго братоў, блізкіх сяброў і сваякоў. Найперш трэба ад-

* БДАМЛМ. – Ф. 66. – Адз. зах. 1390. – С. 32.





значыць вялікую пошукавую працу Н. Ватацы, Ю. Пшыркова і А. Бачылы, дзякуючы якім адбыліся многія знаходкі з архіўнай спадчыны паэта і яго сям'і.

Алесь Бачыла спрычыніўся і да стварэння архіўнага фонду сям'і Багдановічаў у Беларускім дзяржаўным архіве-музеі літаратуры і мастацтва ў канцы 1960-х гг. На пачатку снежня 1968 г. аўтар вядомага нарыса **"Дарогамі Максіма"**, які выйшаў асобнай кніжкай у 1971 г., перадаў Цэнтральнаму дзяржаўнаму архіву літаратуры і мастацтва БССР дасланы яму з Яраслаўля ліст наступнага зместу: *"Если литературный архив захочет приобрести альбом и другие материалы, о которых Вы упоминаете, то я согласна на это… После Николая Адамовича никаких архивов не осталось. Всё, что у него было, он в своё время передал Павлу Адамовичу. Что касается работ Павла Адамовича, то они, по мнению тов. Мазурова, методического характера не имеют… Фотокопия с картины Рафаэля в скором времени будет Вам выслана. С уважением А. И. Богданович"**. Другі ліст, напісаны А. Бачылу і датаваны па паштовым штэмпелі 18.10.1968 г., які трапіў у архіў на два дзясяткі гадоў пазней ужо з архівам А. Бачылы, мае наступныя радкі: *"Здоровье Павла Адамыча постепенно таяло, и мы все не думали и не ждали столь быстрой развязки, которая наступила 6 октября в четыре часа утра… Теперь о Вашей просьбе. Мать носит фамилию по П. Адамычу, Богданович Августа Ивановна. Что касается архива П. Адамыча, то мы не будем возражать, если им кто-то интересуется или кому нужен. Будем ждать Ваших рекомендаций по этому вопросу. Себе мы оставим немногие вещи на память… В одном из разговоров П. Адамыч просил меня помочь матери в разборе личных дел его и в том, что он хранил… Кузнецов"***.

Як бачым, ліст, названы мною другім, быў напісаны праз два тыдні пасля смерці П. А. Багдановіча – асноўнага захавальніка архіўнай спадчыны сям'і.

У кнізе А. Бачыла не называе канкрэтную дату наведвання Яраслаўля і сустрэчы з сям'ёй Багдановічаў. Але з нарыса зразумела, што пры жыцці Паўла Адамавіча гаворка пра перадачу сямейных рэліквій у Беларусь не вялася. *"Першае падарожжа па мясцінах звязаных з жыццём Максіма Багдановіча, падарыла мне шмат уражанняў. Асабліва сустрэча з яго братам Паўлам Адамавічам, які жыў у Яраслаўлі. І усё ж поўнасцю сваіх магчымасцяў выкарыстаць не ўдалося. Я меркаваў, што не толькі здолею распытаць у Паўла Адамавіча пра Максімава жыццё, але і пазнаёмлюся з некаторымі сямейнымі дакументамі. Я ведаў, што яны ёсць, нават бачыў, дзе яны ляжалі… Аднак Павел Адамавіч абмежаваўся тады толькі размовай…"**** Далей А. Бачыла зазначае, што другое яго наведванне Яраслаўля адбылося ў хуткім часе пасля смерці Паўла Адамавіча. Думаецца, што гэта было недзе ў сярэдзіне снежня 1968 г. Перад паездкай А. Бачыла, каб заручыцца згодай прадстаўляць архіў-музей, і перадасць яго кіраўніку ліст, названы мною ў самым пачатку. З яго і пачынаецца гісторыя архіўнага фонду сям'і Багдановічаў у Беларусі.

27 снежня 1968 г. Алесь Бачыла напісаў у архіў ад імя Аўгусты Іванаўны Багдановіч адпаведную заяву, згодна з якой перадавалася 96 унікальных дакументаў; 60 з іх складалі фотаздымкі з сямейнага альбома Багдановічаў. Дзякуючы А. Бачылу ў Беларусі тады з'явіўся і згаданы пісьменнікам у сваёй кнізе пакет, на якім было пазначана **"Дакументы Марылькі"**. Імі былі пасведчанні Санкт-Пецярбургскай гарадской паліцэйскай управы на права пражывання ва ўсіх гарадах Расійскай імперыі [на адваротным баку білета запіс свяшчэнніка Хмарына-Гарадзецкай царквы Мінскага павета (в. Сёмкаў Гарадок) Пашкевіча аб вянчанні 30 кастрычніка 1888 г. М. А. Мякоты з А. Я. Багдановічам]; фотакопія пасведчання М. А. Мякоты аб сканчэнні Мінскага трохкласнага жаночага вучылішча; газета "Гродненские губернские ведомости" за 29 студзеня 1893 г. з адзіным вядомым апавяданнем М. Мякоты-Багдановіч "Накануне Рождества".

26 чэрвеня 1969 г. А. Бачыла, зноў жа па даручэнні Аўгусты Іванаўны, перадае архіву літаратуры і мастацтва яшчэ адну частку дакументаў з сямейнага архіва Багдановічаў: лісты К. П. Пешкавай, фотаздымкі (усяго 50), гранкі ўспамінаў Л. Зайца з Віленскай газеты "Іскра" (у кнізе А. Бачылы ён абазначаны крыптанімам *З-ц*; імя аўтара ўспамінаў было забаронена), квіткі да грашовых пераводаў і інш.

20 верасня 1973 г. адбылося чарговае паступленне ў архіўны фонд Багдановічаў, на гэты раз ад Н. Ватацы. Вядомай падзвіжніцай былі падараваны копіі здымкаў М. Багдановіча, М. Мякоты-Багдановіч, Г. Какуевай.

На пачатку сакавіка 1977 г. прадстаўнікі Цэнтральнага дзяржаўнага архіва-музея літаратуры і мастацтва наведалі Яраслаўль. Адзіным спадчыннікам А. І. Багдановіч заставаўся яе сын Віктар Мікалаевіч Кузняцоў, да якога і быў скіраваны шлях. 2 сакавіка 1977 г. паміж ім і архівам-музеем было падпісана пагадненне аб перадачы





* Ліст захоўваецца ў справе фонда сям'і Багдановічаў у БДАМЛМ. – Ф. 153.

** БДАМЛМ. – Ф. 323. – Воп. 1. – Адз. зах. 198.

*** Бачыла, А. Дарогамі Максіма : (Жыццёвы і творчы шлях М. Багдановіча) / А. Бачыла. – Мінск, 1971.

ў архіўны фонд Багдановічаў яшчэ адной часткі ўнікальных дакументаў сям'і: фотаздымкі, завяшчанне А. Я. Багдановіча дзецям, лісты, дакументы да біяграфіі Л. А. Багдановіча і П. А. Багдановіча і інш. Усяго больш за 550 дакументаў. Тады ж былі набыты і дастаўлены ў Мінск прадметы сямейнага побыту Багдановічаў і асабістыя рэчы некаторых членаў сям'і, усяго 38 адзінак: мельхіёравае і фарфоравае блюды, металічная кававарка, гліняны хатні посуд, сталовыя і чайныя лыжкі, відэльцы, драўляная чорная скарбонка і іншыя прадметы, а таксама асабістыя рэчы А. Я. Багдановіча, братоў Льва і Паўла Багдановічаў.

Акрамя апісанага тут фонду сям'і Багдановічаў, дзе ёсць усяго адзін аўтограф М. Багдановіча – паштоўка да брата Льва (Ф. 153. – Воп. 2. – Адз. зах. 26), архіў-музей мае два аўтографы паэта: у фондзе Беларускага музея імя Луцкевіча – паштоўка ў "Нашу Ніву" за 1909 год (Ф. 3. – Воп. 1. – Адз. зах. 96), у фондзе Я. Раманоўскай – прыватная запіска (Ф. 394. – Воп. 1. – Адз. зах. 5), а таксама шматлікія дакументы ў розных фондах, якія расказваюць пра жыццё, дзейнасць і ўшанаванне памяці М. Багдановіча.

Вялікай надзеяй на шырокую хаду ў збіранні і вывучэнні спадчыны паэта стала стварэнне ў 1981 г. музея, які размясціўся ў Траецкім прадмесці ў Мінску. Сёння Літаратурны музей М. Багдановіча мае выдатныя здабыткі: прадметы, звязаныя з жыццём М. Багдановіча і яго блізкіх, творча-дакументальныя рэчы, а таксама шматлікія выданні і даследаванні, прысвечаныя паэту, яго атачэнню і часу. Усё гэта служыць развіццю багдановічазнаўства, з'яўляецца каштоўнай пярлінай скарбніцы паэта.

Гэтую скарбніцу выдатна дапаўняюць дакументы беларускіх архіваў і архіваў краін, дзе былі выяўлены дакументы М. Багдановіча. Акрамя Беларускага дзяржаўнага архіва-музея літаратуры і мастацтва, дакументы пра паэта і яго блізкіх захоўваюцца ў Нацыянальным гістарычным архіве Беларусі (пра Мякотаў – продкаў маці М. Багдановіча; пра А. Я. Багдановіча – бацьку паэта і яго продкаў – сялян вёскі Касарычы Бабруйскага павета Мінскай губерні; дакументы, звязаныя з гісторыяй дома ў Мінску, дзе нарадзіўся паэт; пра самога паэта, калі ён працаваў у Мінскім аддзеле Беларускага таварыства пацярпелым ад вайны і Мінскай губернскай харчовай камісіі), Нацыянальным гістарычным архіве ў г. Гродна (дакументы аб дзейнасці А. Я. Багдановіча), Нацыянальным архіве Рэспублікі Беларусь (Ахоўная грамата паўнамоцнага прадстаўніка БССР пры ўрадзе РСФСР, дасланая А. Я. Багдановічу для ажыццяўлення перавозкі ў Беларусь асабістага архіва сына, а таксама дакументы, якія адлюстроўваюць падзеі па ўшанаванні памяці паэта) і інш.

Вось толькі страчаны асабісты архіў М. Багдановіча не дае супакою. А што калі яго ўнікальныя папкі ўсё-такі недзе зберагаюцца і чакаюць свайго адкрыцця? І тады, як Я. Дыла ў далёкім 1923 г., мы зможам павіншаваць адзін аднаго са *"шчаслівым для беларускае культуры днём"*.

**Ганна ЗАПАРТЫКА,**
дырэктар Беларускага дзяржаўнага
архіва-музея літаратуры і мастацтва.

*Кола гадоў*

## КАЛЯНДАР на 2012 год

**910** гадоў таму нарадзілася Ефрасіння Полацкая (свецкае імя Прадслава; каля 1102 – 1167), князёўна, асветніца, ігумення Спаскага манастыра ў Полацку, беларуская святая

**485** гадоў таму нарадзіўся Канстанцін Васіль Астрожскі (1527 або 1526 – 1608), палітычны і культурны дзеяч Украіны, Беларусі, Вялікага Княства Літоўскага

**465** гадоў таму нарадзіўся Мацей Станіслаў Стрыйкоўскі (1547 – каля 1590), гісторык, паэт. Пісаў на польскай і лацінскай мовах

**435** гадоў таму нарадзіўся Мялецій Смятрыцкі (свецкае імя Максім Герасімавіч; 1577, па іншых звестках 1578 – 1633), беларускі і ўкраінскі пісьменнік-палеміст, вучоны, грамадска-палітычны і рэлігійны дзеяч

**415** гадоў таму нарадзіўся Афанасій Філіповіч (1597 або 1595 – 1648), пісьменнік-публіцыст, палітычны і царкоўны дзеяч

**370** гадоў таму нарадзіўся Тэадор Геранім Абуховіч (1642 або 1643 – 1707), пісьменнік-мемуарыст, дзяржаўны дзеяч Вялікага Княства Літоўскага

**250** гадоў таму нарадзіўся Мікола Вольскі (1762 – 1803), мысляр, гісторык, літаратар

**250** гадоў таму нарадзіўся Ян Рустэм (1762 – 1835), жывапісец, рысавальшчык, педагог

**240** гадоў таму нарадзілася Юзафата Жукоўская (1772 – 1845), актрыса

**215** гадоў таму заснавана Мінская губернская друкарня. Існавала да 1917 г.

**200** гадоў таму нарадзіўся Рамуальд Падбярэскі (Друцкі-Падбярэскі; 1812 ці 1813 – 1856), беларускі і польскі выдавец, публіцыст, фалькларыст

**200** гадоў таму нарадзіўся Вінцэнты (Вікенцій) Рэут (Газдава-Рэут; 1812 ? – пасля 1883), фалькларыст, пісьменнік

**195** гадоў таму нарадзіўся Антон Юзаф Глінскі (1817 – 1866), фалькларыст, пісьменнік

**180** гадоў таму нарадзіўся Міхаіл Дзмітрыеў (1832 – 1873), рускі і беларускі этнограф, фалькларыст, педагог

**175** гадоў таму нарадзіўся Вікенцій Сляндзінскі (1837 – 1909), мастак

**170** гадоў таму нарадзіўся Людамір Людвіг Шчарбовіч-Вечар (1842 – ?), педагог, публіцыст

*Заканчэнне на с. 18.*





Ала ПЕТРУШКЕВІЧ

# МАКСІМ БАГДАНОВІЧ І ГАРОДНЯ

“Славу гораду, як і зямлі, робяць славутыя людзі. У гэтым сэнсе Гародні пашэнціла – у ёй жыло нямала выдатных, славутых людзей і сярод іх – наш першы інтэлігент у літаратуры, тонкі і трагічны Максім Багдановіч” [1, с. 3] – гэтыя словы належаць В. Быкаву – знакамітаму пісьменніку, які доўгі час жыў у Гародні і таксама далучыўся да ўзвелічэння яе славы. Яго эсэ “Максім Багдановіч – наш апостал” дасканала раскрывае сутнасць таго, кім ёсць нашаніўскі творца для беларускай літаратуры. Сапраўды, першы інтэлігент у літаратуры, што быў узгадаваны ва ўрбанізаваным асяроддзі, у высокаадукаванай сям’і. Узгадаваны на найлепшых узорах сусветнай кніжнай класікі, удалечыні ад Айчыны.

Васіль Быкаў слушна даводзіць, што нацыянальныя творцы, якія непасрэдна спрычыніліся да тварэння айчыннай культуры, патрэбны найперш гэтай зямлі. Яны яе прарокі, яе апосталы: “Максім Багдановіч – апостал. І ён назаўжды. Але – пакуль будзе існаваць нацыя. Калі ж знікне нацыя, знікне і Багдановіч. Чужым нацыям ён не патрэбны. Чалавецтву ён патрэбны датуль, пакуль у ім ёсць мейсца нам, беларусам. Але не абы-якім беларусам – цывілізаваным. Багдановіч праз гады працягвае выхоўваць нас цывілізаванымі. Бо ён наш апостал, які звязвае нас з мінулым і пракладвае шлях у будучыню” [1, с. 3]. М. Багдановіч звязаў беларусаў не толькі з мінулым і будучым, але і з цывілізаваным светам, у якім у тыя часы нашаму краю месца не было. Далучыў нашу паэзію да паэзіі еўрапейскай, сусветнай, з чужой глебы перанёс, прывіў ёй новыя класічныя формы.

Гарадзенскіх вобразаў у творчасці М. Багдановіча няшмат, але яны яскрава высвечваюць тыя малюнкі, што з’яўляюцца вызначальнымі ў нашым горадзе. Найперш гэта Нёман. Стыхію вясновага абуджэння паэт перадае ў вершы **“Перад паводкай”**, дзе малюе не шырокую плынь Волгі, на якой вырас, а нашу раку. Памяць ягоная захавала з таго ранняга гарадзенскага дзяцінства вобраз магутнага Нёмана, што разрывае лядовыя аковы:

*І пад птушы крык і гоман,*
*Даўшы хвалям вольны ход,*
*Прыпадыме бацька Нёман*
*На хрыбце магутны лёд* [2, с. 73].

Гарадзенскі краязнаўца Аляксандр Госцеў сабраў у архівах усе магчымыя матэрыялы пра жыццё Багдановічаў у нашым горадзе, пра акружэнне Адама Ягоравіча, “для якога гады працы ў Гродна на ніве беларускай культуры былі бадай што самымі плённымі” [1, с. 57]. У артыкуле “Гародзенскае жыццё Максіма Багдановіча ў асяроддзі дарослых” краязнаўца разважае пра першы ў Беларусі паэтычны пераклад “Слова аб палку Ігаравым”: «Ці выпадковы выбар урыўка? Бо не аб Нямігі крывавых берагах тут ідзе гаворка. Значыць, не аб Менску, які паэт, безумоўна любіў, успамінаў ён у той момант. Не. Максім Багдановіч стварыў маленькі шэдэўр, заключны радок якога знянацку, з асаблівай вастрынёй выкрывае боль і нуду паэта па роднай старонцы: “*...І жалобна, сумна трубы / У Гародні граюць*”» [1, с. 57]. Гэта ўжо не проста ўрывак з артыкула, а мастацкая проза. І сапраўды, **“Песня пра князя Ізяслава Полацкага”** завяршаецца перажываннем бяды, што навісла над нашым старажытным горадам:

*Засмуцілася вясёласць,*
*Песні замаўкаюць,*
*І жалобна, сумна трубы*
*У Гародні граюць* [2, с. 236].

Менавіта ў “Гродзенскіх губернскіх ведамасцях” 29 снежня 1893 г. быў надрукаваны адзіны вядомы твор Марыі Багдановіч, маці паэта, у якім выявіліся парасткі цікавага таленту. Невядома, як бы ён развіваўся. Але жыццё маці было цалкам аддадзена дзецям. Ёй суджана было стаць Маці Вялікага Паэта. Галоўнае ў гэтым прачулым творы, што не ў апошнюю чаргу быў навеяны смутнымі ўспамінамі з яе сірочага маленства, як адзначыў літаратуразнаўца Мікола Трус, гэта “сюжэтная лінія, шчымлівая эмацыйная атмасфера, чаканне свята і цуду” [3, с. 13], якія мусяць адбыцца.

Пяру Зоські Верас, яшчэ адной слыннай гарадзенкі, належаць мемуары “Пяць месяцаў у Менску”. Апрача таго, яна напісала два мастацка-дакументальныя абразкі “З маіх успамінаў” і “У Карпілаўку”, у цэнтры якіх згадкі пра Максіма Багдановіча, і казку “Дзве варажбіткі”– алегарычны абразок прароцтва долі паэта. У першым з іх Зоська Верас згадвае пра прыезд у Мінск яе сяброўкі Марысі Бобрык. Максім прапанаваў разам правесці дзяўчыну на вакзал. “Мы з Марысяй успаміналі Гродна, нашы спэктаклі ў горадзе і на вёсцы, спацыры над Нёманам… Максім слухаў з цікавасцю і з сумам адзначыў, што ён з Гродна

*Звесткі пра аўтара змешчаны ў № 6.*





помніць адно – смерць сваёй Маці…" [1, с. 38]. Безумоўна, гэтая падзея не магла не адбіцца ў памяці маленькага хлопчыка, бо яна рэзка змяніла і яго жыццё, і жыццё ўсёй сям'і. Гэта была першая вялікая трагедыя ў жыцці Максіма Багдановіча.

Па дарозе ў Карпілаўку, маёнтак Ядвігіна Ш., дзе ў тым часе размяшчаўся дзіцячы прытулак, маладыя людзі ўбачылі страшнае відовішча: недалёка ад іх шляху гарэла вёска. "Слупы агню падымаліся аж да хмараў і рассыпаліся тысячамі іскраў…

– Які жудасны абраз! – прашаптала я…

– А колькі там гора людскога, колькі сьлёз, – адазваўся Максім. У гэтым сказе адбілася ўся чуткая душа Максіма…" [1, с. 39].



**Музей Максіма Багдановіча ў Гродне.**

У гэтым урыўку не проста дакументальных успамінаў, а цікавай мастацкай прозы аўтарка здолела некалькімі штрыхамі намаляваць і трагічна-велічную карціну пажару, і перадаць надзвычайна чулае стаўленне да чужой бяды М. Багдановіча.

У абразку "Дзве варажбіткі" Зоська Верас стварае вобразы чараўніц, якія прарочаць над калыскай немаўляці. Што да лёсу М. Багдановіча, то прароцтвы варажбітак споўніліся цалкам. І аптымістычнае, светлае, і змрочнае, песімістычнае:

"Будзеш геніяльны! Твае цудоўныя творы будуць захапляць людзей, палоніць людскія душы і жыць вечна…

Але якая цяжкая будзе яго доля. Сіроцтва, хваробы. Блізкія, самыя блізкія не зразумеюць імкненняў. Навокал абыякавасьць, ледзь не варожасьць… Бязупынныя хмары на Роднай Зямлі, і такая страшная самотная сьмерць…" [1, с. 39]. Нават варажбітка пранікаецца такім нешчаслівым наканаваннем і з глыбокім спачуваннем ставіцца да цяжкай долі паэта: "Дзьве спагадлівыя сьлязінкі ўпалі з вачэй сумнай варажбіткі на галоўку дзіцяці" [1, с. 39]. Гэта, зразумела, і аўтарская пазіцыя, бо адзін з галоўных матываў ва ўспамінах Зоські Верас – шчырая спагада да адзінокага, хворага паэта і імкненне гэтую адзіноту згладзіць.

Выбар паэтычнага псеўданіма заходнебеларускім паэтам Міхасём Васільком абумоўлены еднасцю з беларускай прыродай, сімвалам яе сціплай красы – кветкай сіняга васілька. Гэтаму спрыяла яшчэ і захопленасць паэзіяй М. Багдановіча, якому Міхась Васілёк прысвяціў верш "Памяці Максіма Багдановіча", дзе адлюстраваны вобраз таго далёкага краю, што стаў апошнім прытулкам для беларускага паэта.

Паэт са Слонімшчыны Анатоль Іверс яшчэ ў заходнебеларускім часе, у 1937 г., напісаў верш "Максім Багдановіч", у якім адлюстраваў уплыў творчасці паэта, яго асобы на сваё сталенне. Паэзія класіка ўспрымалася юным тады паэтам як вялікі скарб:

*Стала ўтульна ў нашай хаце.*
*На стале "Вянок" паэта –*
*вось і ўсё маё багацце,*
*наша хата ім сагрэта* [1, с. 50].

Прозу Янкі Брыля недарэмна называюць лірычнай. Яго аўтограф, які экспануецца ў музеі М. Багдановіча ў Гародні, насамрэч з'яўляецца сапраўдным вершам. Таму ўкладальніца зборніка да стагоддзя з дня нараджэння паэта Данута Бічэль і змясціла яго сярод вершаў, уклаўшы як верш:

*У гісторыі беларускай літаратуры*
*імя Максіма Багдановіча – адно*
*з найпрыгажэйшых і разам з тым адно*
*з найбольш трагічных* [1, с. 71].

Са скрухай разважаючы пра тое, колькі мог зрабіць паэт, калі б лёс быў больш літасцівым, народны пісьменнік усё ж заканчвае свой верш узнёслай, прасветленай інтанацыяй:

*Ён з намі – вечна малады і звонка,*
*сонечна родны.*
*Хай свеціцца яго імя!* [1, с. 71].

Загадку імя паэта разгадаў гарадзенскі творца Юрась Пацюпа. Яго эсэ "Імя" з нізкі "На вольную тэму" пачынаецца раскрыццём гэтага кода, шыфру. Сёння гэта на слыху, і хто толькі ні гаворыць пра значэнне імя паэта. А дваццаць гадоў таму, калі пісалася эсэ, тое ўспрымалася як адкрыццё: "Найвялікшы дадзены Богам – Максім Багдановіч. Менавіта так даслоўна пераклa-

даецца яго імя. Але ці ж мала на Беларусі Багдановічаў, ці ж мала Максімаў! А гэты – Максім Багдановіч" [1, с. 75].

З'яўленне зборніка трыялетаў "Зажураны камень" гарадзенскага паэта Юркі Голуба адбылося таксама дзякуючы поклічу Максіма Багдановіча. Сучасную літаратуру нельга ўявіць без уплыву на яе маладога нашаніўскага класіка.

Талент Анатоля Брусевіча фарміраваўся ў творчай суполцы, якою апекавалася Данута Бічэль, тагачасная дырэктарка музея Максіма Багдановіча. Яшчэ ў тыя раннія гады быў створаны верш "Першая зорка", у якім галоўны вобраз аднначасова паўстае ў некалькіх іпастасях: як сімвал паэтавага лёсу, як водгук тых Багдановічавых зорак, якіх мноства ў паэзіі класіка, як сімвал высокай нябеснай красы, як надзеі для тых, хто здольны жыць на зямлі, але глядзець у неба, бо там гояцца душэўныя раны і нараджаецца каханне:

*Першая зорка ліхтарчыкам цьмяным*
*грэе туман у падножжа зьмярканьня,*
*гоячы ў сэрцы глыбокія раны,*
*можа ў кагосьці, як ён закаханы,*
*я пра сябе загадаю жаданьне* [1, с. 78].

Многія вершы А. Брусевіча пабудаваны па схеме, калі спалучаюцца вобразы, матывы розных эстэтык. Да прыкладу, верш "Дзень нараджэння паэта" – яшчэ адна своеасаблівая разгадка таямніцы Максіма Багдановіча. Дэкадэнцкія матывы: распад, змрочнасць, бруд, чарнеча, безнадзейнасць – запаўняюць паэтычную прастору. Ні адной светлай ноты, ні светлай фарбы, ні светлага пачуцця:

*Мутнае вока зімовага неба*
*Плакала сьнегам.*

*Брудныя пальцы вуліцаў гораду*
*Стыглі ад холаду.*

*Дым з чорных комінаў знакам бясконцасьці*
*З жалем узносіўся.*

*Дрэвы стаялі, як духі ці прывіды,*
*Мёртвыя нібыта* [4, с. 24].

І як цуд, як светлы прамень, што прабіваецца са змрочнага зімовага неба, – прышэсце Богам дадзенага Паэта ў змярцвелы свет, каб сваёй прысутнасцю аднавіць тут красу. Апошняя страфа, вылучаная графічна, супрацьпастаўлена ўсім папярэднім. Рашучае "але" ў яе пачатку рэзка перакрэслівае безнадзейнасць, а эпітэт "цудоўная" падкрэслівае эстэтычна-ўзвышанае, што заключае галоўная падзея гэтага дня: "Але ўсё роўна цудоўная дата – / сьнежня дзевятага".

Асабліва шмат для вяртання паэта ў горад яго маленства зрабіла паэтка Д. Бічэль. Яна стваральніца музея М. Багдановіча, укладальніца зборніка "Я хацеў бы спаткацца з вамі", што выйшаў да 100-годдзя з дня нараджэння паэта. Аўтарка артыкулаў, эсэ. У адным з іх паэтка адзначыла: "Нібыта ніякага сьледу ў нашым сьвеце ён не пакінуў, і разам з тым – так сьветла, так шчасна думаць, што лёс ягоны суровы закінуў сюды, у наш гарадзенскі куток, вялікага паэта ў пачатку яго шляху. І сваім горкім сіроцтвам ачысьціў нашы душы, а сваім талентам злучыў нас з людствам" [1, с. 69]. Праз яе вершы М. Багдановіч вяртаецца да нас тым мілым хлопчыкам, што жыў тут стагоддзе таму, і Паэтам, які сёння і заўсёды слугуе Красе, Беларусі: *"зямельку адновіць"*, *"мову замовіць ад вуснаў злых"*. І ўсё ўзіраецца ў нашы вочы, у нашы душы:

*Глядзіць у вочы Максім Багдановіч*
*вачамі зоркі Венеры* [5, с. 10].

Вершы, асвечаныя зоркай Максіма, сабрала паэтка ў нізку "У тваім доме", што змешчана ў кнізе "Ты не самотны…". Тут і новыя, і ранейшыя, перапрацаваныя. У страфе-эпіграфе – проста, шчыра, кранальна – пра тое, што Паэт з намі:

*Ты не самотны. Ты з намі, Паэце наш мілы,*
*Бог цябе любіць* [5, с. 3].

А далей – пра тры парасткі-дрэўцы, што ўзышлі з насення кіпарысу, які расце ў далёкай Ялце на Максімавай магіле. Калісьці прывезеная ўнукам Дануты Янаўны, пасеяная ёю жменька зернейкаў дала толькі тры ўсходы. Чаму толькі тры?

*Растуць у гаршчочку малым*
*тры кіпарысы з зярнятак з крымскай магілы –*
*уваскрашоныя Лёва, Вадзім і Максім* [5, с. 9].

Многія вершы гэтай нізкі вызначаюцца святлом, чысцінёй і дасканаласцю свету дзяцінства: "Тэрцэты", "Максім Багдановіч", "Домік Максіма Багдановіча ў Гародні на Новым Свеце". І ласкавыя інтанацыі, і лёгкія рытмы, і вытанчаная рыфмоўка, і слоўцы, эмацыянальна афарбаваныя, з памяншальна-ласкальным адценнем – усё гэта і стварае непаўторнасць дзіцячага свету:

*Памятаюць бяссонныя зоркі:*
*тут катаўся на саначках з горкі*
*у пальтончыку, у мамінай муфце* [5, с. 12].

Перад намі, як жывы, паўстае гэтакі дарагі воблік маленькага хлопчыка Максімкі з ягонымі дзіцячымі і не зусім дзіцячымі клопатамі-гульнямі: "Плёў, бы пан павучок, павуціннe / трыялеты, тэрцэты, тэрцынне…"

Ці – "Домік Максіма Багдановіча…". Не дом, не дом-музей, а домік:

*Новы Свет даўно не новы…*
*Побач – сад стары кляновы*
*на Малой Садовай вулцы,*
*вулцы, згорбленай бабульцы,*
*наш амаль вясковы домік,*




*як забытых вершаў томік,*
*як снапок валошкаў польных…* [5, с. 14].

Карціна намалявана няяркімі, мяккімі фарбамі. Вобразныя параўнанні ўбіраюць у сябе класічныя Багдановічавы вобразы: забыты томік, сіні васілёк. Але абавязкова ў гэтую лёгкую, светлую мелодыю маленства ўплятаецца сур'ёзная, часам суровая, часам жорсткая, як само жыццё, нота:

*Пяць гадоў – і дзяцінства глынула*
*крыважэрная злая акула –*
*маладая Расея…*
*як скула* [5, с. 14].

Асаблівым болем перапоўнены верш "Максім Багдановіч". У гэтым болі – і развітанне (з Радзімай, з Гародняй, з мамай, з дзяцінствам), і хвароба, і холад адчужэння, і сум:

*Маленькі хлопчык, будучы паэт,*
*з Гародні едзе у няблізкі свет.*
*Сухоты. Холад. Зацвіце здалёк*
*Радзіма, як блакітны васілёк* [5, с. 13].

Высокае прызначэнне Паэзіі – ратаваць душы ад адзіноты, сіроцтва, наталяць смагу, прагу справядлівасці, сеяць дабро, ствараць красу і служыць ёй:

*Але Паэт, як добры чарадзей,*
*здалёк аддасць ёй жар сваіх грудзей*
*ды знічкай скоціцца ў прыморскі кут,*
*каб вечным болем ачышчаць свой люд…*

*Каб у радзіме адагрэтай той*
*ніхто не чуўся горкай сіратой* [5, с. 13].

"Максім і Людвіка" – Максім Багдановіч і Зоська Верас. У вершы ізноў тое ж перапляценне светлага, шчаслівага, дзіцячага, гарадзенскага, што звязала яго і яе, як кладачка над Гараднічанкай, што злучала іх берагі:

*Гародню ўспамінаюць добрай казкай.*
*Паміж Садовай і Гараднічанскай*
*крывая кладачка на Гарадніцы.*
*Яна дагэтуль кожнаму з іх сніцца.*

*Два беражкі злучаў масток праз Нёман –*
*яе жвіровы і ягоны стромы.*
*На тым мастку пагойдацца любілі…* [5, с. 15].

І жорсткі, суровы, халодны, ваенны Мінск. Тыя знакамітыя пяць месяцаў у Мінску, пра якія распавяла Зоська Верас. Іх сустрэчы, размовы, заўсёдная Максімава адзінота з прычыны ягонай хваробы і не толькі:

*Максім з Людвікай у ваенным Мінску.*
*Зіма суровая. Расстанне блізка.*
*Не даў ім Божа ні вясны, ні лета…* [5, с. 15].

А і папраўдзе. У такім жаданым Максімавым вяртанні ў Беларусь была толькі халодная позняя восень, суровая зіма і гэткая ж халодная ранняя вясна. Ні маёвай песні, ні лета. Вельмі кранальна гучыць тут паэтычная аплікацыя, даслоўна перасказанае кароценькае Максімава пасланне Людвіцы, якое напісаў ён да дзяўчыны ў час гульні: *"Але жывём мы, як чужыя людзі, / і ні да чога дадумацца не можна"*. Як чужыя, бо не чужыя ж. А вельмі блізкія, родныя, хай не кроўным радствам. Звязаныя найперш той справай, якой служылі: Беларусі, Паэзіі, Красе. І не ў апошнюю чаргу – казкай маленства ў Гародні.

Пра святы-сустрэчы ў Ракуцёўшчыне Д. Бічэль напісала некалькі вершаў. Для нізкі выбрала адзін. "У Ракуцёўшчыне". Перададзена атмасфера цеплыні, шчырасці, бо збліжае ўсіх М. Багдановіч, бо ўсе ідуць на сустрэчу з Паэзіяй, з ягонай краінай-браначкай. Паэтка перастварыла гэтае Максімава слова "браначка":

*Кліча зязюля госцейкаў зранку,*
*кліча на ўзгор'е краіну-забранку* [5, с. 22].

Краіна-забранка, забраны край. Бо як жа інач назваць гэтую зямлю, забытую небам? Хіба – пеклам:

*Птаху Максіме!*
*Твой конік, агністае крылле!*
*Божая воля стагоддзяў*
*у вас за спіною.*
*Вы ж падніміце мой смутак*
*з усёй даўніною…*
*Вырвіце з пекла,*
*якое тут людзі стварылі* [5, с. 27].

Вершы "Птаху Максіме!", "Басанож", "У сусвеце", "І табой забіваюць, Максіме" гучаць і як малітвы-звароты, і як споведзь. "Там, дзе ходзяць басанож" – гэты матыў з ранейшай лірыкі Д. Бічэль. Як непасрэдны дотык да жывой зямлі, як гаючы глыток з роднай крыніцы, як гармонія прыроднага і чалавечага. Гэта там, дзе дом, дзе доля, дзе каханне. Цяпер жа гэты вобраз напоўнены зусім іншым сэнсам: басанож – то пазбіваць да крыві ногі аб асцюкі і драты, то зраніць сэрца аб чэрствасць і здраду, то нечалавечым намаганнем на апошняй мяжы сабраць сілы, каб данесці ўсё ж светлай і чыстай ад усялякага бруду на высокі суд сваю душу:

*Я нарвала ў даліне лотаці.*
*Я сходзіла нашча да споведзі.*
*Мне захраснуў у сэрцы нож.*
*Паляцела, сабраўшы сілачкі,*
*на спатканне з душой Максімавай*
*у блакіт нябёс басанож* [5, с. 20].

І калі ранейшы кірунак хады басанож – да зямлі, да людзей, да зямнога чалавечага шчасця, хай імгненнага, недаўгавечнага, але гэткага жаданага, то цяпер – да нябеснага, светлага, вечнага:





*Заслужыла я смерць раптоўную.*
*Ціхай песняю малітоўнаю*
*расплацілася за спакой.*
*Дык прымайце душачку ўбогую,*
*маю душачку басаногую,*
*Божа мой і Паэце мой!* [5, с. 20].

І няхай час жыцця сям'і паэта ў нашым горадзе быў не надта працяглым (усяго пяць гадоў), няхай яго маленства, як пісаў літаратуразнаўца А. Пяткевіч, мільганула тут блакітным васільком, усё ж у памяці паэта Гародня жыла, і ягоная прысутнасць і сёння грэе душы тых гарадзенцаў, хто неабыякавы да найлепшых узораў нашага прыгожага пісьменства.


**Спіс літаратуры**

1. **Я хацеў бы спаткацца з вамі.** Да стагоддзя з дня нараджэння Максіма Багдановіча. – Ліда : Лідская друкарня, 1991. – 88 с.

2. **Багдановіч, М.** Поўны збор твораў : у 3 т. / М. Багдановіч. – Мінск : Навука і тэхніка, 1992. – Т. 1 : Вершы, паэмы, пераклады, наследаванні, чарнавыя накіды. – 752 с.

3. **Трус, М.** “Напярэдадні Раства” Марыі Багдановіч / М. Трус // Роднае слова. – 2010. – № 12. – С. 11 – 13.

4. **Брусевіч, А.** Падаю ў неба : лірыка / А. Брусевіч. – Гародня : Гарадзенскае гарадское аддзяленне Рэспубліканскага грамадскага аб'яднання “Таварыства беларускай школы”, 2006. – 51 с.

5. **Бічэль, Д.** “Ты не самотны…” / Д. Бічэль, А. Чобат. – Гродна : Гродз. абл. узбуйн. друкарня, 1997. – 80 с.


*Кола гадоў*

## КАЛЯНДАР на 2012 год

*Заканчэнне. Пачатак на с. 13.*

**165** гадоў таму нарадзілася Зоф'я Тшашчкоўская (дзявочае Манькоўская; 1847 – 1911), польская і беларуская пісьменніца, перакладчыца

**160** гадоў таму нарадзіўся Мікалай Марозік (псеўд. А. Шункевіч; 1852 – 1913), паэт-самавук, народны прапаведнік-мараліст

**150** гадоў таму пачала выдавацца першая беларускамоўная газета “Мужыцкая праўда”. Выйшла 7 нумароў

**130** гадоў таму нарадзіўся Іван Макей (1882 – 1955), народны казачнік

**125** гадоў таму нарадзіўся Язэп Мазуркевіч (1887 – 1937), празаік, крытык, краязнаўца

**125** гадоў таму нарадзіўся Янка Пазняк (1887 – 1939), публіцыст, палітычны і культурны дзеяч

**120** гадоў таму нарадзіўся Абрам Бразер (1892 – 1942), скульптар, жывапісец і графік, заслужаны дзеяч мастацтваў Беларусі

**115** гадоў таму нарадзіўся Уладыслаў Дзяржынскі (сапр. Чаржынскі; 1897 – 1974), крытык, літаратуразнаўца

**110** гадоў таму нарадзіўся Генрык Жарскі (1902 – 1937), празаік. Пісаў на беларускай, польскай і рускай мовах

**105** гадоў таму створана выдавецтва “Нашай Нівы”. Існавала да 1914 г.

**105** гадоў таму створана Першая беларуская трупа Ігната Буйніцкага, прафесійны беларускі тэатр. Існавала да 1913 г.

**100** гадоў таму створаны Беларускі навукова-літаратурны гурток студэнтаў Санкт-Пецярбургскага ўніверсітэта. Існаваў да 1914 г.

**100** гадоў таму створаны Мінскі гарадскі музей. Існаваў да 1915 г.

**100** гадоў таму нарадзіўся Сяргей Мурзо (1912 – 1937), паэт

**100** гадоў таму нарадзіўся Ян Субач (1912 – ?), паэт

**95** гадоў таму нарадзіўся Святаслаў Коўш (1917 – 1997), рэлігійны і грамадскі дзеяч беларускай эміграцыі, пісьменнік

**95** гадоў таму нарадзіўся Мікола Сурначоў (1917 – 1945), паэт

**90** гадоў таму створаны Інстытут беларускай культуры (Інбелкульт). Існаваў да 1928 г., ператвораны ў Акадэмію навук Беларусі

**85** гадоў таму створаны Беларускі вакальны квартэт. Працаваў спачатку пры БДТ-1, потым – пры Беларускім радыёцэнтры. Існаваў да 1965 г.

**85** гадоў таму заснаваны Нацыянальны архіў Рэспублікі Беларусь

**85** гадоў таму выйшаў у свет літаратурна-мастацкі часопіс “Узвышша”. Існаваў да 1931 г.

**85** гадоў таму створана “Усебеларускае аб'яднанне мастакоў”, творчая арганізацыя. Існавала да 1932 г.

**80** гадоў таму створана Беларуская дзяржаўная акадэмія музыкі (да 1992 г. мела назву Беларуская дзяржаўная кансерваторыя імя А. Луначарскага)

**80** гадоў таму створаны Нацыянальны акадэмічны драматычны тэатр імя М. Горкага

**75** гадоў таму заснаваны Ансамбль беларускай народнай песні і танца Беларускай філармоніі. Існаваў да 1941 г.

**75** гадоў таму заснавана Магілёўскае музычнае вучылішча імя М. Рымскага-Корсакава

**65** гадоў таму створаны Мінскі дзяржаўны мастацкі каледж імя А. К. Глебава

**60** гадоў таму створаны Нацыянальны акадэмічны народны хор Беларусі імя Г. Цітовіча

**55** гадоў таму створаны Інстытут мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі

**50** гадоў таму заснаваны Беларускі ліцэй мастацтва імя І. Ахрэмчыка

**40** гадоў таму заснавана выдавецтва “Мастацкая літаратура”

**35** гадоў таму заснаваны Музей старажытнай беларускай культуры Інстытута мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору НАН Беларусі. Адкрыты ў 1979 г.

**25** гадоў таму заснаваны Дзяржаўны музей гісторыі беларускай літаратуры

**25** гадоў таму створаны Мінскі тэатр сатыры і гумару “Хрыстафор”

**25** гадоў таму створаны Новы драматычны тэатр г. Мінска (да 2004 г. меў назву Мінскі драматычны тэатр “Дзе-Я?”)

**20** гадоў таму створана музычная капэла “Санорус” (раней мела назву Мінскі абласны камерны хор “Санорус”)

**20** гадоў таму выйшаў у свет часопіс “Тэатральная творчасць” (да 1995 г. меў назву “Тэатральная Беларусь”). Выдаваўся да 1998 г.

**15** гадоў таму заснаваны Музей сучаснага выяўленчага мастацтва. Адкрыты ў 1998 г.

*Паводле картатэкі БДАМЛМ.*





# АЎТОГРАФЫ МАКСІМА БАГДАНОВІЧА

Рукапісы Максіма Багдановіча – аўтографы твораў, лістоў, нататак, надпісаў і іншых матэрыялаў – каштоўная крыніца ведаў пра мастацкі свет паэта, дакументальна засведчаныя моманты яго жыццёвай і творчай біяграфіі. Побач з друкаванымі творамі аўтографы важкія як найбольш аўтарытэтныя крыніцы тэксту.

Неацэннымі па значнасці матэрыяламі карысталася ў свой час Літаратурная камісія Інстытута беларускай культуры, калі працавала над першым Поўным зборам твораў М. Багдановіча, які выйшаў з друку ў 1927 – 1928 гг. Гэта быў архіў Максіма, захаваны падчас пажару 1918 г. у Яраслаўлі бацькам паэта Адамам Ягоравічам Багдановічам і перададзены ім у Інбелкульт у 1923 г.

Пра багацце гэтага архіва сведчыць захаваны "Апіс рукапісаў М. Багдановіча і матар'ялаў да яго біографіі", зроблены сакратаром Інбелкульта В. Мачульскім. Ім і іншымі членамі Літаратурнай камісіі былі расчытаны і падрыхтаваны да друку ў акадэмічным выданні «…156 вершаў, 6 апавяданняў і 16 артыкулаў. Апроч таго, значная колькасць іх выкарыстана ва ўвагах (каментарыях) да 1-га тому як варыянты да вершаў, якія перадрукаваны з "Вянка" і розных перыядычных выданняў».

У дакладзе "Літаратурная Камісія Інбелкульту ў працэсе працы над зборам твораў М. Багдановіча" прафесар І. Замоцін, які яе ўзначальваў, адзначаў: «Агульны лік усіх вершаў, з якіх будзе складзены першы том сабрання твораў М. Багдановіча, будзе каля 300. Калі прыняць пад увагу, што да цяперашняга часу надрукавана было толькі каля 150 вершаў (95 в. у "Вянку" і каля 50 у розных выданнях), то, гэтакім чынам трэба сказаць, што лік вершаў для выдання Багдановіча працаю Камісіі падвоены».

Выдадзены на аснове рукапіснага архіва першы Поўны збор твораў М. Багдановіча стаў крыніцай для наступных выданняў твораў паэта. На жаль, архіў, які захоўваўся ў Інбелкульце, а пасля ў Акадэміі навук БССР, страчаны падчас Вялікай Айчыннай вайны.

Цяпер вядома невялікая колькасць рукапісаў М. Багдановіча, якія захоўваюцца ў архівах, музеях, кнігасховішчах Беларусі, а таксама блізкага і далёкага замежжа. Так, у Літаратурным музеі М. Багдановіча знаходзіцца восем аўтографаў паэта. Н. Ватацы, нястомная збіральніца спадчыны Максіма і стваральніца гісторыка-літаратурных артыкулаў, кніг і бібліяграфічнага даведніка пра паэта, перадала ў музей прывезеныя ёю ў 1964 г. з г. Горкага ад Н. Кунцэвіч, стрыечнай пляменніцы М. Багдановіча, рукапісны зборнік "Зеленя", аўтарскія прысвячэнні на асобным адбітку артыкула "Краса и сила" і дзвюх кнігах "Вянок".

Сёння зборнік **"Зеленя"** – найвялікшая каштоўнасць і гонар Літаратурнага музея М. Багдановіча. Ён уяўляе з сябе сшытак з паштовай паперы ў лінейку, прашыты скрэпкамі ад вучнёўскага сшытка. Старонкі не пранумараваны. Тэкст напісаны прыгожым, выразным почыркам, без выпраўленняў і памарак, чорным чарнілам.

Першая старонка рукапісу – тытульная з тэкстам *"Максим Богданович. Зеленя. Стихи. Перевод с белорусского автора. Ярославль. 1909 – 1913 гг."*. Пасля падзагалоўка справа тэкст: *"Переводы стихов – словно женщины: если красивы, то неверны; если верны, то некрасивы. Нем. писат. поговорка"*. Другая старонка без тэксту. На трэцяй старонцы ўверсе справа прысвячэнне *"Нюте"*. Чацвёртая старонка зноў без тэксту.

Пачынаючы з пятай старонкі ідуць 24 старонкі тэксту з 22 вершамі М. Багдановіча ва ўласных перакладах на рускую мову. Кожны верш пачынаецца з паловы старонкі; калі працягваецца на наступнай, запаўняе ўсю старонку. Толькі на 17-й старонцы верш напісаны ад пачатку старонкі.

Колькі слоў пра Нюту, Ганну Іванаўну Гапановіч, – стрыечную сястру Максіма. У той час калі М. Багдановіч падарыў Нюце "Зеленя", яна вучылася на Вышэйшых жаночых курсах у Маскве на аддзяленні матэматыкі і астраноміі. Мела выдатныя здольнасці ў гэтых дысцыплінах. Ёй прадказвалі вялікую навуковую будучыню. Прыгожая, абаяльная, удумлівая і разважлівая, гэта быў, па словах Н. Кунцэвіч, "…адзіны чалавек у нашай сям'і, з якім Адам Ягоравіч размаўляў як з роўняй, не павучаючы, з думкай якога па тэарэтычных пытаннях ён лічыўся". Таму і Максім, які таксама хацеў ведаць думку Нюты пра свае вершы, зрабіў для яе аўтапераклады: беларускай мовы яна не ведала.

У час Першай сусветнай вайны Нюта выйшла замуж за Яўгена Селіваноўскага, які ў хуткім часе быў прызваны ў войска і загінуў. Скончыць Вышэйшыя жаночыя курсы не ўдалося, бо ў гады разрухі было цяжка жыць, а на руках засталося дзіця. Нюта пераехала ў Ніжні Ноўгарад, працавала ў фатаграфіі Дзмітрыева і выхоўвала дачку Кацю. Памерла 24 мая 1941 г.

Ганна Іванаўна і яе дачка Кацярына Селіваноўская, а пасля іх нашчадкі праз усё жыццё за-






Максимъ Богдановичъ

Зеленя

стихи

Переводы стиховъ – словно женщины: если красивы, то не верны; если верны, то не красивы.

Нем. писат. поговорка.

Ярославль

**Тытульная старонка рукапіснага зборніка “Зеленя” Максіма Багдановіча.**

хоўвалі “Вянок” з дарчым надпісам *“Сестрице Нюте на память отъ любящаго ее автора. М. Богдановичъ. 22.III.1914 г.”* і рукапісны зборнік “Зеленя”.

Акрамя “Вянка”, падараванага Г. Гапановіч, у Літаратурным музеі М. Багдановіча захоўваецца яшчэ два зборнікі з аўтографамі-прысвячэннямі, падпісанымі аўтарам у адзін дзень – 22.III.1914 г.: *“Тете Магдалине на память отъ автора. М. Богдановичъ”*; *“Тете Маше отъ любящаго ее автора. М. Богдановичъ”*. Цётцы Магдаліне падпісаны таксама асобны адбітак артыкула “Краса и сила” з часопіса “Украинская жизнь” (1914, № 2): *“Старой тетке Магдалине любящий ее авторъ. М. Богдановичъ”*.

Адзін аўтограф-прысвячэнне сябру па яраслаўскай гімназіі на тытульнай старонцы “Вянка” захоўваецца ў аддзеле рэдкай кнігі Нацыянальнай бібліятэкі Рэспублікі Беларусь: *“Николаю Рафаиловичу Кокуеву отъ автора. М. Богдановичъ. Ярославль. 1914 г.”* Гэты аўтограф трапіў у бібліятэку да галоўнага бібліёграфа Н. Ватацы ў 1971 г. з Ленінграда ад Мікалая Іванавіча Лілеева, пляменніка гімназічных сяброў паэта Мікалая Рафаілавіча і Рафаіла Рафаілавіча Какуевых, сына іх сястры Ганны.

Мікалай Лілееў захоўваў таксама аўтограф М. Багдановіча на адвароце партрэтнага фотаздымка 1911 г.:

*Я вспоминаю дом старинный,*
*На тихой улице фасад,*
*И небольшой уютный сад,*
*И двор просторный и пустынный.*
*На нем кипели игры наши:*
*При общем шуме взмах руки*
*Вдруг брал “на вынос” городки,*
*И смех звучал при виде “каши”*
*и т. д. и т. д.*
*Конец остается за мной.*
*Не поминай лихом!*

*Ярославль. 24.VIII.1914 г.*

Фотакартка з аўтографам была падаравана М. Какуеву. З 1981 г. аўтограф захоўваецца ў Літаратурным музеі М. Багдановіча.

Музей захоўвае таксама фотаздымак М. Багдановіча 1909 г. з аўтографам:

*Я, нядужны, бязскрыдлы паэт,*
*Помню, раз пазабыў сваё горэ,*
*Бо ў той час атрымаў ваш прывет.*
*Я – нядужны, бязскрыдлы паэт:*
*Мо ня выкажэ вам трыолет,*
*Дык хоч гэты партрэт хай гаворэ,*
*Як нядужны, бязскрыдлы паэт*
*На гадзіну забыў сваё горэ.*

*З шчырым паважэньнем*
*М. Богдановіч.*
*Яраслаў. 3.II.1910 г.*

Фотаздымак быў дасланы М. Багдановічам Сяргею Палуяну. Да 1951 г. ён захоўваўся ў Уладзіміра Фёдаравіча Бахонкі, родзіча С. Палуяна, потым быў падараваны Літаратурнаму музею Я. Купалы, а ў 1991 г. падчас адкрыцця экспазіцыі ўрачыста перададзены ў Літаратурны музей М. Багдановіча.

Апошні з аўтографаў М. Багдановіча, які захоўваецца ў музеі, уяўляе з сябе два лісты паперы. Першы ў разгорнутым выглядзе мае памеры 17,5×44,0 *см*. Ён складзены ў чатыры разы і ўтварае такім чынам восем старонак. Усе восем маленькіх старонак запоўнены рукапісным тэкстам па 16 радкоў на кожнай старонцы. Другі ліст складзены, як і папярэдні, да памераў 17,5×11,0 *см*, утварае 16 старонак, з якіх рукапісам запоўнены толькі 5. Усе запісы зроблены простым алоўкам, напісаны вельмі дробна, са скарачэннямі, дрэнна бачныя, амаль нечытэльныя. Рукапіс без подпісу, прысвечаны ўзаемаадносінам паэта з крымскай сяброўкай Клавай, з якой ён сустрэўся ў Старым Крыме летам 1915 г. Рукапіс расчытваўся ў Навукова-даследчым інстытуце судовай медэкспертызы Міністэрства юстыцыі Рэспублікі Беларусь, аднак трэцяя частка тэксту не расчытана, цэласнага ўражання ён не стварае.

У Беларусі вядома яшчэ некалькі рукапісаў М. Багдановіча.

Тры аўтографы захоўваюцца ў рукапісным фондзе Інстытута мовы і літаратуры імя Якуба Коласа і Янкі Купалы НАН Беларусі:





– уласнаручны спіс вершаў, апавяданняў і артыкулаў, апублікаваных у рускім друку 1912 – 1914 гг. Адзін ліст;

– уласнаручны запіс афарызмаў і асобных моўных выразаў. Напісаны чорным чарнілам на трох лістах паперы ў лінейку (шэсць старонак), колькасць радкоў – 107;

– аўтограф эпіграмы, напісанай у форме трыялета "Николай Иваныч! Вы ли?.." (1916 г.). Напісаны алоўкам.

У Беларускім дзяржаўным архіве-музеі літаратуры і мастацтва ёсць тры аўтографы М. Багдановіча: запісачка, адрасаваная Зосьцы Верас падчас гульні ў "пошту" ў "Беларускай хатцы"; паштоўка, адрасаваная з Крыма ў рэдакцыю "Нашай Нівы" з замаўленнем падпіскі на два месяцы; ліст да брата Льва ад 20.III.1914 г. на адвароце бланка паштовага перавода ў Маскву.

У Літаратурным музеі Янкі Купалы захоўваецца аўтограф перакладу на рускую мову верша "Жніво": *"Из Я. Купалы Созревших хлебов золотые посевы…"* Верш напісаны чорным чарнілам. У аўтографе 16 радкоў.

Аўтограф перакладу верша "Жніво" Я. Купалы з невялікім адрозненнем у радках і подпісе захоўваецца ў Расійскім дзяржаўным архіве літаратуры і мастацтва ў Маскве разам з яшчэ трыма аўтографамі. Другі рукапіс – пераклад на рускую мову двух вершаў украінскага пісьменніка А. Крымскага: "Пальмы гордые и лавры…" і "Теплый гром. Цветет черешня…". Трэці аўтограф з РДАЛМ – паштовая картка з Яраслаўля ад 26.04.1912 г., адрасаваная Валерыю Брусаву. Акрамя таго, у архіве ёсць экзэмпляр "Вянка" з дарчым надпісам яраслаўскаму сябру: *"Николаю Сергеевичу Ашукину, чтобы не так скоро забыл, М. Богданович"*.

У аддзеле рукапісаў Расійскай дзяржаўнай бібліятэкі (Масква) захоўваецца ліст-віншаванне М. Багдановіча да вядомага рускага філолага Ф. Корша.

Большая частка вядомых аўтографаў М. Багдановіча захоўваецца ў аддзеле рукапісаў бібліятэкі Акадэміі навук Літвы:

– шэсць лістоў у рэдакцыю газеты "Наша Ніва";

– два лісты ў рэдакцыю альманаха "Маладая Беларусь";

– два лісты В. Ластоўскаму;

– шэсць арыгіналаў вершаў;

– дзевяць перакладаў вершаў П. Верлена;

– "P. S." – заканчэнне артыкула "Глыбы і слаі".

На захаванні ў Нацыянальным гістарычным архіве Беларусі знаходзяцца дакументы Мінскай губернскай харчовай камісіі і Мінскага аддзела Беларускага таварыства дапамогі пацярпелым ад вайны. Там таксама ёсць аўтографы М. Багдановіча, бо ў названай камісіі ў 1916 – 1917 гг. паэт працаваў сакратаром, рыхтаваў дакументы і падпісваўся (дзевяць аўтографаў), а для таварыства дапамогі пацярпелым ад вайны пісаў тэксты прашэнняў (два аўтографы).




**Тытульная старонка зборніка "Вянок" Максіма Багдановіча з дарчым надпісам Нюце Гапановіч.**

Беларускімі літаратуразнаўцамі зроблена вялікая праца па росшуку і даследаванню аўтографаў М. Багдановіча пры падрыхтоўцы збораў твораў паэта і каментарыяў да іх. Аднак спецыяльных прац, прысвечаных рукапіснай спадчыне класіка літаратуры, няма. Пошукі новых аўтографаў працягваюцца. Ёсць падставы меркаваць, што нямала іх захоўваецца ў дзяржаўных архівах і ў прыватных асоб, на паліцах бібліятэк і ў сховішчах музеяў.

**Спіс літаратуры**

1. **Мачульскі, В.** Апіс рукапісаў М. Багдановіча і матар'ялаў да яго біографіі / В. Мачульскі // Творы / М. Багдановіч. – Мінск : Выд. Інбелкульта, 1928. – Т. 2. – С. 385 – 400.

2. **Ватацы, Н.** Максім Багдановіч. Паказальнік твораў, аўтографаў і крытычнай літаратуры / Н. Ватацы. – Мінск, 1977.

3. **Ватацы, Н.** Шлях паэта. Зборнік успамінаў і біяграфічных матэрыялаў пра М. Багдановіча / Н. Ватацы. – Мінск, 1975.

4. **Смолкін, М.** З рукапіснай спадчыны Максіма Багдановіча / М. Смолкін // Полымя. – 1958. – № 3. – С. 175 – 182.

5. **Скалабан, В.** "…В это суровое и важное время" / В. Скалабан // Неман. – 1981. – № 12. – С. 141 – 149.

**Ніна ГАРЭЛІК,**
галоўны захавальнік фондаў
Літаратурнага музея Максіма Багдановіча.





*Суладнае гучанне ліры*

# "МАЁВАЯ ПЕСНЯ" МАКСІМА БАГДАНОВІЧА ГУЧЫЦЬ ПА-БАЛГАРСКУ І ПА-РУСКУ

У паэзіі Максіма Багдановіча – адной з самых велічных і трагічных асоб беларускай культуры – нас дзівяць новыя вобразы, якія нясуць адбітак патаемных пачуццяў, смутных жаданняў і самых інтымных перажыванняў. У ёй – усхваляваныя радкі, новая, геніяльная камбінацыя слоў, што заваёўваюць сэрцы красою, выключнае эмацыйнае багацце і ў той жа час адметнасць формы: пластычныя метафары, музычнасць рытму.

Перад загадкавымі радкамі песняра перакладчык ніякавее, не ведаючы, як перадаць іх чароўнасць. Ён мае справу з вельмі далікатным матэрыялам, які адлюстроўвае супярэчлівасць і няпростасць чалавечай душы. Складана перадаць сэнс паэтычнага паслання, асабліва калі паэт кажа пра глыбока асабістыя перажыванні, калі пачуцці яго ледзь акрэсленыя. Тым больш калі ўзнаўляецца паэзія такога творцы, як Максім Багдановіч, чый лёс загадкавы і ўнікальны, як унікальны і загадкавы яго талент геніяльнага паэта, найярчэйшага прадстаўніка духоўнага адраджэння беларускай нацыі.

Для ілюстрацыі прывядзем дзівосны верш "Маёвая песня" ("Па-над белым пухам вішняў…") М. Багдановіча і яго рускія і балгарскія пераклады:

*Па-над белым пухам вішняў,*
*Быццам сіні аганёк,*
*Б'ецца, ўецца шпаркі, лёгкі*
*Сінякрылы матылёк.*

*Навакол усё паветра*
*Ў струнах сонца залатых, –*
*Ён дрыжачымі крыламі*
*Звоніць ледзьве чутна ў іх.*

*І ліецца хваляй песня, –*
*Ціхі, ясны гімн вясне.*
*Ці не сэрца напявае,*
*Навявае яго мне?* [1, с. 32].

У рускім перакладзе Браніслава Спрынчана гэты верш гучыць так:

*По-над белым пухом вишен,*
*Словно яркий огонек,*
*Вьется, трепетный и легкий,*
*Синекрылый мотылек.*

*Воздух – свежий и прозрачный –*
*В струнах солнца золотых, –*
*Крылышками бьет по ним он,*
*Пробуждает звуки в них.*

*И волною льется песня*
*Величальная – весне.*
*Или это торжествует*
*Гимн цветению – во мне?* [4, с. 5].

Руская і беларуская (як і балгарская) мовы блізкароднасныя, і пераклад з іх, асабліва паэтычны, – выключна тонкая справа, што вымагае асаблівага мастацкага чуцця паэта і інтэрпрэтатара.

Можа быць, Б. Спрынчан хацеў пазбегнуць паўтарэння (не адчуўшы яго магію і значэнне ў рытміцы верша М. Багдановіча!) сіняга колеру ў другім і чацвёртым радках, яго агеньчык не *сіні*, як у арыгінале, а *яркий*. Хоць, цалкам нічога не губляючы ў рытміцы, ён мог бы захаваць колер агеньчыка.

Марына Наталіч у сваім перакладзе на рускую мову захоўвае красу паўтораў беларускага арыгінала:

*По-над белым пухом вишен,*
*Словно синий огонек,*
*Бьется, вьется быстрый, легкий*
*Синекрылый мотылек* [5, с. 26].

У другую і трэцюю строфы Б. Спрынчан уносіць даволі шмат ад сябе: у яго паветра і *свежае*, і *празрыстае*, а нагрувашчванне займеннікаў *им*, *он*, *их* робіць яго верш далёкім ад дасканаласці і віртуознасці, уласцівых вершу М. Багдановіча. Там, дзе ў арыгінале песня *ліецца*, нібы *"ціхі, ясны гімн вясне"*, у яго перакладзе чуецца песня *"величальная – весне"*. Пытанне М. Багдановіча *"Ці не сэрца напявае, / Навявае яго мне?"* набывае іншы сэнс: *"…торжествует / Гимн цветению – во мне?"*

Браніслаў Спрынчан застаецца верным уласнай паэтыцы і ў перакладзе. Яго ўрачыста-рамантычныя інтанацыі перафарбоўваюць голас М. Багдановіча, чаго нельга сказаць пра пераклад М. Наталіч:

*А вокруг прозрачный воздух*
*В струнах солнца золотых, –*
*Мотылек звенит чуть слышно,*
*Трепетно касаясь их.*

*И волною льется песня. –*
*Тихий, чистый гимн весне.*
*То ли сердце напевает,*
*Навевает его мне?* [5, с. 26].

Для параўнання прывядзем і два балгарскія пераклады. Першы з іх належыць Найдану Вылчаву:





*Сред разцъфналите вишни,*
*синьо пламъче почти,*
*хвърка, литва, пак се връща –*
*пеперудка вън лети.*

*Утрото огряват сякаш*
*златни няколко слънца,*
*под които миг не спират*
*двете трепкащи крилца.*

*И звъни и тиха песен –*
*светъл химн на пролетта.*
*Може би ми я нашепва*
*кръговратът на кръвта?* [7, с. 65 – 66].

І ў гэтым перакладзе ёсць нямала змен у лексіцы і вобразнасці, нават слова *сонца* М. Багдановіча пертварылася ў *"златни няколко слънца"* (*"залатыя некалькі сонцаў"*), але Н. Вылчаў імкнецца неяк балансаваць, кампенсаваць замены.

Ва ўсіх прыведзеных перакладах адчуваецца тэндэнцыя да вобразнай ускладненасці, якой няма ў арыгінале, таму што аўтар заўсёды ўстрымліваўся ад збыткоўнасці слоў.

А вось і пераклад Хрыста Папова:

*Над избухнал пух на вишни*
*синьо пламъче трепти –*
*лека, крехка, синекрила*
*пеперудата лети.*

*В слънчевите златни струни,*
*сплели цялото поле,*
*тя едва-едва дочуто*
*звънва с пърхащи криле.*

*И се лее тиха песен –*
*химн на пролетния ден.*
*Може би сърцето пее,*
*пее този химн за мен?* [2, с. 36].

Нельга не пацешыцца такой сапраўды добрай інтэрпрэтацыі! Як быццам М. Багдановіч сам перапісаў свой верш па-балгарску. Толькі да гэтага пераствэрэння можна аднесці эпіграф з П. Верлена: "Музыка перш за ўсё": *"Музыка паэзіі! / Але хто яе пачуе? – / Можа, толькі сам паэт"*.

У пытанні і яго адказе як быццам засяроджаная ідэйная задумка верша: гукі чароўнай музыкі, гукі паэзіі можа чуць толькі паэт. Толькі паэт можа ўспрыняць яе сваёй душой.

Браніслаў Спрынчан перакладае апошнія два радкі так: *"Вряд ли кто ее услышит. / Разве только сам поэт"*. Марына Наталіч інакш: *"Кто же, кто ее услышит? / Может, только сам поэт"*. Найдан Вылчаў: *"Тях единствено поетът / може би ги чува тук"*. Балгарскі паэт-перакладчык выкарыстаў замест мастацкага прыёму "пытанне – адказ" умоўнае *може би* (*быць можа*) і больш канкрэтнае *тук* (*тут*). Хрыста Папоў: *"Но навярно я долавяш / само ти, поете, ти"*.

І ў другой балгарскай інтэрпрэтацыі адсутнічае рытарычнае пытанне, але, выкарыстаўшы паўтор *"само ти, поете, ти"* (*"толькі ты, паэце, ты"*), перакладчык набліжаецца да задумы арыгінала, з аднаго боку, і да яго інтанацыйна-музычнага ладу – з іншага. Хоць яму варта было б, на наш погляд, захаваць прыём "пытанне – адказ" беларускага арыгінала. Да прыкладу: *"Но кой я чува? / Само ти, поете, ти"*.

Кожны з перакладчыкаў прыўнёс нешта сваё ў прачытанне арыгінала, кампенсуючы страты, выкліканыя неабходнасцю, але пры гэтым нельга забывацца, што галоўнае падчас узнаўлення – эмацыйная пераканальнасць. Мастацкія кампенсаванні, як бачым пры аналізе перакладаў, – рэч даволі падступная. Карыстацца гэтым прыёмам належыць вельмі асцярожна, умерана і толькі ў духу арыгінала.

Эпіграф да верша "Музыка перш за ўсё" з П. Верлена выконвае для чытача і перакладчыка накіравальную функцыю. З першага да апошняга радка, у кожным слове, у кожным знаку пунктуацыі гучыць Музыка.

Сучасныя музыказнаўцы вылучаюць *гучанне* як асноўны музычны феномен, што рэалізуецца ў спецыфічнай аркестравай інструментоўцы і ў манеры выканання і ўвасабляецца праз гармонію і танальнасць, а таксама меладычную шчыльнасць, рытміку і тэктоніку, якія і з'яўляюцца найвышэйшымі формамі арганізацыі гучання. У паэзіі гукавая сукупнасць верша спецыфічна рэалізуецца ў гукавой інструментоўцы (эўфанія складае толькі частку яе) і ў манеры выканання і, з іншага боку, структурна ўвасабляецца праз інтанацыю, рытм і рыфму ў вершаваныя і страфічныя формы.

Любімы паэтычны прыём М. Багдановіча – гукавыя паўторы. Л. Цімафееў у "Кароткім слоўніку літаратуразнаўчых тэрмінаў" вызначае іх як "паўтарэнне падобных гукавых спалучэнняў у словах, якія пісьменнік выкарыстоўвае ў вершы для надання большай выразнасці". Ён піша: "Такім паўтарэннем сугучча паэт як бы вылучае словы, што маюць асаблівае значэнне ў вершы, падкрэслівае іх сэнс, нарастанне інтанацый".

Прывядзем прыклад таго, як у агульнай сістэме гучання размяшчаюцца гукі ў паслядоўных гукарадах. Звернемся да першага чатырохрадкоўя. Возьмем тыя гукі, якія паўтараюцца ў пачатку або ў канцы слова і ва ўдарным складзе:

п – а – н – п – а – н
ы – ц – ц – і – і – н
ы – е – ц – ц – е – ц – ц – к – і – к – і
і – ы –ы – ы –
Балгарскі пераклад:
н – а – и – у – а – у – н – и – н – и
и – н – е – е – и–
л – е – к – а – к – е – а – е – а
е – е – а – е

Пры параўнанні паслядоўнасці паўтаральных гукаў у першай страфе арыгінала і балгарскім пе-





ракладзе бачым як супадзенне, так і несупадзенне: гук ***а*** паўтараецца 2 разы, а ў перакладзе – (5) разоў; ***н*** – 3 і адпаведна (4); ***і*** – 5 і (5); ***к*** – 2 і (2).

У перакладзе адсутнічае паўтарэнне гука ***п***, які ў арыгінале паўтараецца 2 разы, гук ***ы*** – 5 разоў, ***ц*** – 5, ***е*** – 2. Паўтараюцца ў перакладзе гукі ***у*** – (2) разы; ***е*** – (8).

Трэцяя страфа арыгінала:
і – і – ц – ц – а – а –
і – і – с – н – ы – ы – н – н
ц – і – н – с – э – ц – э – н
н – а – а – н

Балгарскі пераклад:
и – е – е – и – е – е
и – н – н – и – е
о – е – и – е – о – е – е
е – е – и – и – и – м – н – н – м – е

У гэтай страфе арыгінала паўтараюцца гукі: ***і*** – 5, у перакладзе – (6) разоў; ***н*** – 7 і (4). З паўтаральных гукаў у перакладзе адсутнічаюць беларускі гук ***ц***, ужываны 4 разы, ***а*** – 4, ***с*** – 2, ***ы*** – 2, ***э*** – 2. Замест іх у балгарскім варыянце сустракаем паўтораныя гукі: ***е*** – (12) разоў, ***о*** – (2), ***м*** – (2).

Абагульняючы вынікі праведзенага параўнання паслядоўнасці паўтаральных гукаў, можна сказаць, што:

1) алітарацыі (паўторы ў радку, фразе, страфе аднародных зычных гукаў) у М. Багдановіча і ў балгарскай інтэрпрэтацыі яго верша суправаджаюцца асанансамі (паўторам галосных гукаў);

2) у двух чатырохрадкоўях сустракаецца супадзенне паўтаральных зычных гукаў у арыгінале і перакладзе: ***н*** – 10, у перакладзе – (8); ***к*** – 2 і (2); супадзенне паўтаральных галосных гукаў: ***а*** – 2 і (5); ***і*** – 10 і (11);

3) замест паўтаральных зычных гукаў у арыгінале ***п*** – 2 разы, ***ц*** – 9, ***с*** – 2 і 11 у перакладзе паўтараецца толькі гук ***м*** – (2) разы; а замест паўтаральных галосных ***ы*** – 7, ***е*** – 2, ***а*** – 4 і ***э*** – 2 (усяго 15) у перакладзе паўтараюцца ***у*** – (2), ***е*** – (20), ***о*** – (2) разы (усяго 24);

4) найболей моцна задзейнічаныя ў гукавой арганізацыі арыгінальнага верша гукі ***ц***, ***н***, ***ы***, а ў перакладзе пераважае паўтор галосных гукаў ***е***, ***о***.

Мэтазгодна ўспомніць класіфікацыю гукавых паўтораў, зробленую Б. Ганчаровым у яго кнізе "Гукавая арганізацыя верша і праблема рыфмы". Гукавы паўтор:

1. Шматразовы паўтор якога-небудзь слова, што надае яму новыя інтанацыйныя адценні.

2. Гукапіс (гэты ўмоўны тэрмін выкарыстоўваецца для абазначэння паняцця, родавага ў дачыненні да алітарацыі і асанансу і тоеснага інструментоўцы). Як і Л. Цімафееў, Б. Ганчароў вызначае гукапіс як "падбор гукаў у вершаваным маўленні, які прыводзіць да пэўнага мастацкавыразнага эфекту".

3 Сугучча ўсярэдзіне радкоў ("унутраная рыфма").

4. Рыфма (гукавы паўтор кампазіцыйнага значэння, якое злучае два радкі і часта размешчаны ў іх канцы).

Даследчык разглядае верш у фанетычных адносінах як "арганічнае адзінства рытмічнай і інтанацыйна-сінтаксічнай структуры", настойліва акцэнтуючы ўвагу на важнасці інтанацыі і на тым, што гукавыя паўторы падпарадкаваныя ёй. Ён называе мноства прыкладаў суб'ектыўных гукавых значэнняў, падкрэсліваючы, што падвышаная гукавая напоўненасць і запаволенасць тэмпу верша прыводзяць да таго, што паўторы гукаў, непрыкметныя ў звычайным маўленні, становяцца адчувальныя.

Несумненна, гукавыя паўторы ствараюць апору для інтанацыйнага вылучэння найбольш эмацыйна афарбаваных слоў і, падкрэсліваючы семантыку слоў, выступаюць як бы ў ролі курсіву.

Многія даследчыкі сцвярджаюць, што інтанацыйная і паэтычная аркестроўка гукавой сістэмы ў пэўнай ступені заснаваная на паўтаральных спалучэннях гукаў. Яны могуць быць моцныя і слабыя, галасавыя і шумныя, звонкія і глухія, цвёрдыя і мяккія, высокія і нізкія; магчымыя прыдыханне, лабіялізацыя, асіміляцыя і інш.

Усе фаналагічныя тонкасці і нюансы пакінем на разгляд лінгвістаў, мовазнаўцаў. Да таго ж на наша перакананне, наўрад ці можна разгадаць музыку верша М. Багдановіча праз падлікі супадзенняў і несупадзенняў паўтарэнняў зычных і галосных гукаў арыгінала і балгарскага перакладу.

Праведзены намі супастаўляльны аналіз пераконвае ў тым, што колькасныя супадзенні ў перакладзе "сэнсавых адзінак" або дакладнае капіраванне гукарадоў – сістэма эўфаніі верша; паслядоўныя гукарады; анафары, эпіфары, стыкі і рандо, нават крыжаваная сістэма алітарацый і асанансаў (gemintio) – не прыводзяць перакладчыка да вызначанай мэты.

Толькі ўсе кампаненты разам, у агульным гучанні верша М. Багдановіча (у яго слыхавой стыхіі, дзе гукасэнсавая сувязь набывае асаблівую якасць, калі гукавыя вобразы слоў замяняюць візуальныя ўяўленні), аказваюць сваё адмысловае ўздзеянне і ствараюць магію гучання. Загадка музычнасці паэзіі М. Багдановіча хаваецца ў гукавой сукупнасці верша, рэалізаванай ва ўсёй інструментоўцы, у паслядоўнасці гукаў і іх спалучэнняў, звязанай з глыбінным светаўспрыманнем паэта і адчувальнай прысутнасцю ўсёабдымнага вобраза Музыкі.

Загадку паэзіі М. Багдановіча можна шукаць і ў яго паэтычнай манеры выканання, структурна ўвасобленай праз інтанацыю і рытм, гармонію і танальнасць, меладычную шчыльнасць, рытміку і тэктоніку – найвышэйшыя формы арганізацыі гучання.





Усе гэтыя катэгорыі гучання становяцца эстэтычным феноменам толькі тады, калі набываюць спецыфічную дадатковую, канататыўную значнасць паэтычнага радка. Гармонія паміж гучаннем і вобразам не вынік іх прамой і непасрэднай адпаведнасці. Эфект узнікае пры гарманічным іх суіснаванні ў больш шырокім кантэксце – радка або страфы ўсяго твора.

У балгарскім выкананні Х. Папова (нягледзячы на некаторыя пропускі) Музыка – таксама дзейная асоба, як і ў беларускім арыгінале: *"едва-едва дочуто звънва с пърхащи криле"* (*"ледзь-ледзь чутна звоніць пырхлівымі крыламі"*). Гукі музыкі… І ў магіі гукаў здзейснены заклік П. Верлена: праз ледзьледзь чутны звон, калі дакранаецца да залатых струн сонца пырхлівы, трапяткі, сінякрылы, нібы сіні агеньчык, матылёк, нараджаецца ціхі, ясны гімн вясне. Нараджаецца, нібы Венера з марской пены… І ўсё знікае. Нават думкі. Бо чароўныя гукі насычаюць усю прастору – і вакол, і ў душы – як паэта, так перакладчыка.

Як і ў беларускім арыгінале, у перакладзе Х. Папова гармонія паміж гучаннем і вобразам не з'яўляецца вынікам іх прамой адпаведнасці. Эфект узнікае пры гарманічным суіснаванні ў больш шырокім кантэксце (радок, некалькі радкоў, страфа), калі пашыраецца магчымасць выбару адпаведных гукавых спалучэнняў, а пераклад выконваецца паводле законаў гармоніі гукаў, калі аб'ядноўваюцца "гукі, якія любяць адзін аднаго" (Моцарт). Эпіграф "Музыка перш за ўсё" з П. Верлена выконвае накіравальную эстэтычную функцыю для перакладчыка. У ім, як і ў беларускім арыгінале, з першага да апошняга радка, у кожным слове, у кожным знаку пунктуацыі гучыць Музыка. Яна – галоўная дзейная асоба.

Разглядаючы перастварэнні паэтычнага твора, нялішне ўспомніць, што кожнае мастацтва мае два бакі – тэхнічны і творчы. Што тычыцца перакладу (асабліва паэтычнага!), то як від мастацтва ён мае тыя самыя два бакі – не толькі пераклад твора з адной мовы на іншую, але і пераклад з адной нацыянальнай культуры ў іншую.

Вось чаму ў паняцце *сэнс* уваходзіць не толькі слова як "сэнсавая адзінка", але і аўтарскае бачанне свету, выяўленае словам. А ў паняцце *матэрыя* – не толькі гукавая арганізацыя мовы, якую мы паспрабавалі прасачыць на невялікім матэрыяле, не толькі метрыка, рытміка і страфіка (на жаль, аб'ём даследавання не дазваляе паглыбіцца ў гэтым кірунку), але і нешта іншае, што складае таямнічасць паэзіі: слоўная і музычная стыхія. Уваходзіць сюды і спантаннасць паэтычнага слова, яго гучанне ў "сэнсагуках", "думкагуках", экспрэсіўнасць усёй сістэмы выразных сродкаў – усё тое, што завецца магіяй, цудам мастацкага слова.

Мастацтва паэтычнага слова, як і любое мастацтва, непаўторнае:

*Кто мог бы стать Рембо? Никто из нас,*
*И даже сам Рембо не мог бы лично*
*Опять родиться, стать вторично*
*И вновь создать уж созданное раз.*
*А переводчик – может!..*
*…Сверхтайное творится:*
*Сейчас неповторимость – повторится.*

Навела Мацвеева.

Непаўторнасць мастацкага слова геніяльнага беларускага паэта М. Багдановіча "паўтараецца" ў балгарскай інтэрпрэтацыі Х. Папова. Сапраўднае майстэрства мастацкага перастварэння паэзіі з адной мовы на іншую магчымае пры ўмове "суперажывання" (тэрмін А. Таркоўскага). Перакладчыку Х. Папову ўласцівыя поўнае ўваходжанне ў тэкст і падтэкст перакладанага твора, суперажыванне, пранікненне ў мастацкую сутнасць арыгінала да такой ступені, што ўжо немагчыма адрозніць, "дзе чыя кроў".

Мы цалкам згодныя з рускай паэткай Марынай Цвятаевай, якая лічыць, што паэзію можа перакладаць "толькі паэт". Але ў ходзе даследавання мы пераканаліся, што бываюць выключэнні з любых правіл. І да такіх выключэнняў у самым станоўчым сэнсе гэтага слова адносяцца пераклады Х. Папова. Ён публічна не выяўляў сябе паэтам, не выдаваў паэтычных зборнікаў, але сярод яго перастварэнняў ёсць сапраўдныя ўзоры віртуознага ўзнаўлення твораў М. Багдановіча.

Хрыста Папоў, несумнеўна, адораны ўнутраным чуццём, мастацкай інтуіцыяй, духоўным зрокам паэта. Яго майстэрства пераўвасаблення не трансфармацыя сэнсавых адзінак з тэксту арыгінала ў тэкст перакладу, а ўдумлівае прачытанне арыгінала і ўзнаўленне яго цэласнага мастацкага адзінства на балгарскім моўным матэрыяле. Яму дапамагала ўлюбёнасць у індывідуальны свет абранага паэта, не "сляпая" юнацкая, а ўлюбёнасць сур'ёзнага ўдумлівага інтэрпрэтатара, які можа суВымяраць свой дух з духам перакладанага паэта і праз глыбіню зацікаўленасці яго творчасцю, праз пранікненне ў слова спасцігаць і натхнёна перастварaць яго паэтычны свет. Толькі тады можна казаць пра тое, што пераклад – мастацкі!

*Пераклад з рускай мовы.*

**Спіс літаратуры**

1. **Багдановіч, М.** Вянок : Кніжка выбраных вершаў / М. Багдановіч. – [Вільня : Друкарня Марціна Кухты, 1913]. – Мінск : Маст. літ., 1981. – [Факс. выд.].
2. **Багданович, М.** Златни струни / М. Багданович. – София : Народна култура, 1984.
3. **Богданович, М.** Венок / М. Богданович. – Минск : Юнацтва, 1985.
4. **Богданович, М.** Узор василька : избранная лирика / М. Богданович. – Минск : Маст. літ., 1985.
5. **Вълчев, Н.** Белоруската моя тетрадка / Н. Вълчев. – Мінск : Беллітфонд, 2000.

**Роза СТАНКЕВІЧ,**
стажор кафедры беларускай літаратуры і культуры БДУ,
кандыдат філалагічных навук.





*Прапануем план-канспект*

# ЗВАРОТАК. СПОСАБЫ ВЫРАЖЭННЯ ЗВАРОТКА

## УРОК БЕЛАРУСКАЙ МОВЫ (VIII КЛАС)

**Мэта:** паглыбіць веды вучняў пра зваротак за кошт увагі да яго функцыянальнай характарыстыкі.

**Задачы:** садзейнічаць выпрацоўцы ўменняў вызначаць сказы са звароткамі, характарызаваць іх паводле спосабу выражэння, структуры, правільна інтанаваць і ставіць знакі прыпынку; з дапамогай зваротка выражаць сваё стаўленне да суразмоўцы, успрымаць паэтычны твор у тых адценнях і вобразах, якія ствараюцца асаблівасцямі звароткаў у мастацкім стылі; на прыкладзе твораў М. Багдановіча садзейнічаць выхаванню любові да Радзімы, яе гісторыі, культурнай спадчыны.

**Тып урока:** урок засваення новых ведаў.

**Абсталяванне:** табліцы; лісты з тэкстам; карткі з рознаўзроўневымі заданнямі; тэст; слайды.

### ХОД УРОКА

**I. Арганізацыйны момант.**

**II. Матывацыйны этап.**

**а) Матывацыя выхаваўчай тэмы.**

**Настаўнік.** Урок я хачу пачаць радкамі

Ты не згаснеш, *ясная заранačка*,  
Ты яшчэ асвеціш родны край.  
*Беларусь мая! Краіна-бранačка!*  
Устань, свабоды шлях сабе шукай!

Якім пачуццём прасякнуты гэтыя радкі?

Хто аўтар гэтых радкоў? (*М. Багдановіч.*)

Які юбілей гэтага паэта мы будзем адзначаць у гэтым годзе? (*120-годдзе з дня нараджэння.*)

І сёння на ўроку, вывучаючы новую тэму, мы будзем звяртацца да яго творчасці.

**б) Матывацыя адукацыйных задач.**

Звярніце, калі ласка, увагу на вылучаныя словы.

Ці з'яўляюцца яны членамі сказа? Якімі? Чаму?

Для чаго яны служаць? (*Называюць таго, да каго звернута выказванне.*)

Як яны называюцца? (*Зваротак.*)

• ***Аб'яўленне тэмы ўрока.***

**Настаўнік.** Тэма нашага ўрока "Зваротак. Спосабы выражэння зваротка. Неразвітыя і развітыя звароткі, інтанаванне, знакі прыпынку. Зваротак як сродак маўленчага этыкету".

Зараз, абапіраючыся на слова *зваротак*, вызначым задачы ўрока.

**З** – замацаваць вывучанае пра зваротак;

**В** – выпрацаваць уменне вызначаць зваротак у сказах;

**А** – актуалізаваць пунктуацыйныя навыкі;

**Р** – развіваць уменне знаходзіць сказы са звароткамі ў тэксце;

**О**

**Т** – тлумачыць, тварыць;

**А** – адрозніваць віды звароткаў;

**К** – карыстацца звароткамі ў вусным і пісьмовым маўленні.

• ***Актуалізацыя ведаў па тэме ўрока*** *(табліца "Інсерт"; гл. дадатак 1).*

*Кожны вучань атрымлівае табліцу "Інсерт", якую запаўняе ў адпаведнасці са сваімі ведамі на пачатак урока (гл. дадатак).*

Ці ёсць тыя, у каго ўсе "ведаю"? У каго большасць "сумняваюся"? Значыць, ёсць над чым працаваць. Спадзяюся, што ў канцы ўрока, калі мы зноў звернемся да гэтай табліцы, "сумняваюся" стане значна менш ці не будзе ўвогуле.

**III. Інфармацыйна-пошукавы этап.**

• ***Праца з тэкстам*** *(тэкст на кожнай парце).*

**Заданне.** Спішыце, расстаўляючы знакі прыпынку, назавіце звароткі.

Здароў марозны звонкі вечар  
Здароў скрыпучы мяккі снег  
Мяцель не вее, сціхнуў вецер,  
І волен лёгкіх санак бег.

**Заданне на 9 балаў.** Назавіце аўтара гэтых радкоў. Успомніце гэты верш поўнасцю. Ці ёсць яшчэ ў ім звароткі? Калі ёсць, то назавіце. Якая назва гэтага верша?

• ***Праверка, рэдагаванне, ацэнка.***

**Зімой**

Здароў, *марозны, звонкі вечар*!  
Здароў, *скрыпучы мяккі снег*!  
Мяцель не вее, сціхнуў вецер,  
І волен лёгкіх санак бег.  
Як мары, белыя бярозы  
Пад сінявой начной стаяць,  
У небе зоркі, ад марозу  
Пахаладзеўшыя, дрыжаць.  
Вільготны месяц студь на поле  
Празрысты, светлы стоўп спусціў  
І рызай срэбнаю раздолле  
Снягоў сінеючых пакрыў.  
Ўзрывайце ж іх санямі, *коні*!  
Звіні, *вясёлых бомаў медзь*!  
Вакол лятуць бары і гоні,  
Ў грудзях пачала кроў кіпець.

М. Багдановіч.

• ***Аналіз тэарэтычных звестак падручніка і запаўненне табліцы*** *(гл. дадатак 2).*



*Слабейшыя вучні запаўняюць табліцу з дапамогай падручніка (с. 187, 190 – 193). Мацнейшыя (ці тыя, хто прэтэндуе на высокую адзнаку) 5 хвілін чытаюць тэарэтычны матэрыял, потым загортваюць падручнікі і самастойна запаўняюць табліцу.*

• ***Праверка, рэдагаванне, ацэнка.***

**IV. Трэніровачна-карэкцыйны этап.**

• ***Практ. 272*** *(самастойна на адзнаку).*

*Або калектыўнае выкананне агульнага задання (на дошцы і ў сшытку).*

**Заданне.** Запісаць сказы пад дыктоўку, расставіць знакі прыпынку, вызначыць, чым выражаны зваротак.

1. Моцна кахаў я цябе, дарагая, але расстацца нам час.
2. Эх вы, дарогі жыцця, што там за вамі ўдалі?
3. Вось сімвал твой, забыты краю родны!
4. О ўтрапёны агонь, як ты хутка згараеш!

**Рэлаксацыя (хвіліна адпачынку).**

*Гучыць песня "Па-над белым пухам вішняў…", вучні слухаюць, заплюшчыўшы вочы, ці назіраюць за матылькамі на экране.*

Хто аўтар слоў гэтай песні? (*М. Багдановіч.*)

Якія яшчэ яго творы вы чыталі?

• ***Прагляд прэзентацыі пра М. Багдановіча.***

• ***Выкананне рознаўзроўневых заданняў*** *(карткі з заданнямі на кожнай парце).*

**І узровень.**

**Заданне.** Спішыце, расстаўце знакі прыпынку, укажыце, чым выражаны зваротак.

1. Цёплы вечар ціхі вецер свежы стог
   Улажылі спаць мяне вы на зямлі.
2. Беларусь твой народ дачакаецца
   Залацістага яснага дня.
3. Успамянем мой дружа ў багатай краіне
   Аб беднай далёкай сваёй старане.

**ІІ узровень.**

**Заданне.** Перабудуйце сказы, каб дзейнікі сталі звароткамі.

1. Маладая мая Беларусь займае пачэсны пасад між народамі.
2. Дзеці любяць кнігу, яна вучыць іх разумець жыццё, дае розум і сілу.
3. Ветрык свежы сказаў каханцы, які гэты свет салодкі.

**ІІІ узровень.**

**Заданне.** Перабудуйце сказы, увёўшы ў іх зваротак і простую мову.

1. Маці сказала сыну, што чалавек ніколі горшым не робіцца ад працы.
2. Журналіст задаў пытанне Ядвізе Паплаўскай і Аляксандру Ціхановічу пра іх творчыя планы.
3. На сустрэчы спыталі ў Івана Ціхана, ці будзе ён удзельнічаць у спаборніцтвах.

• ***Выбарачная праверка работ, ацэнка.***

• ***Арфаграфічная хвілінка.***

Запісаць у сшытак словы згодна з новай рэдакцыяй "Правіл беларускай арфаграфіі і пунктуацыі" (гл. дадатак 3).

• ***Практ. 280*** *(вусна).*

**Заданне.** Скласці сказы са звароткамі з выкарыстаннем прапанаваных сітуацый.

1. Спытайцеся ў маленькага дзіцяці, як яго завуць.
2. Удакладніце ў групы дзяцей на вуліцы, дзе знаходзіцца бібліятэка.
3. Запытайцеся ў мужчыны, як праехаць у цэнтр горада.
4. Папрасіце міліцыянера падказаць, як прайсці на вуліцу Францыска Скарыны.
5. Запрасіце настаўніка на ўрачыстае мерапрыемства.

**Творчае заданне.** Уявіце, што вы сустрэліся з Максімам Адамавічам Багдановічам.

Пра што вы ў яго спыталі б? Запішыце невялікі дыялог (5-6 рэплік) з выкарыстаннем зваротkaў.

*Выбарачная ацэнка складзеных дыялогаў.*

**V. Кантрольна-рэфлексійны этап.**

• **Праверачны тэст.**

**1.** Адзначце правільнае сцвярджэнне.

Зваротак – гэта…

а) …самастойная часціна мовы;
б) …службовая часціна мовы;
в) …словы ці спалучэнні слоў.

**2.** Адзначце сказ з развітым звароткам:

а) Пралятайце, гады, залатымі агнямі!
б) Па родных сцежках Беларусі з табой я, ночка, паплыву.
в) Добры дзень, мой родны горад!
г) Што з табою, хлопча?

**3.** Вызначце сказ, у якім зваротак трэба вылучыць дзвюма коскамі:

а) Давайце добрыя сябры пагутарым аб шчасці.
б) Добры дзень вам лясы і гоні.
в) Родны край у шчасці расцвітай.
г) Я па табе сумую мора.

**4.** Знайдзіце пунктуацыйную памылку:

а) Ну, галубе, бывай здаровы і шчаслівы.
б) Гэй, ты, сонца, гары ад зары да зары.
в) Цікава, ох, як цікава!
г) Ой ты, Юрачка, што ты не вучышся?

**5.** Вызначце сказ, у якім вылучанае слова з'яўляецца дзейнікам:

а) *Міхал* ідзі ў свае абходы.
б) Я *брат* адразу здагадаўся, што музыкантам ты нарадзіўся.
в) А *брат* маўчыць, нічога не гаворыць.
г) Тужыць *браток* не маем часу.

Адказы: 1-в, 2-в, 3-а, 4-б, 5-в.

*Пасля выканання задання вучні абменьваюцца работамі і ажыццяўляюць узаемакантроль.*

• ***Зварот да табліцы "Інсерт"*** *(гл. дадатак 1).*

**VI. Дамашняе заданне.**

МАКСІМ БАГДАНОВІЧ



**Дадатак 1.**

| Пытанне | + (“ведаю”) | | ? (“сумняваюся”) | | ! (“даведаўся”) | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 1. Што такое зваротак? | | | | | | |
| 2. Якімі часцінамі мовы можа выражацца зваротак? | | | | | | |
| 3. Віды звароткаў. | | | | | | |
| 4. Ці з'яўляецца зваротак членам сказа? | | | | | | |
| 5. Якімі знакамі прыпынку вылучаецца зваротак на пісьме? | | | | | | |
| 6. Як ставяцца знакі прыпынку, калі пры зваротку ёсць часціцы і выклічнікі? | | | | | | |

**Дадатак 2.**

| Было | Павінна быць |
|---|---|
| гляс**е** і гляс**э**, філ**е** | *гляс**э**, філ**е*** |
| тр**ыо**, Ток**іо** | *тр**ыа**, Ток**іа*** |
| камп'ют**эр**, шніц**эль** | *камп'ют**ар**, шніц**аль*** |
| ст**о**гадовы, ст**о**дзённы | *ст**а**гадовы, ст**а**дзённы* |
| дз**е**вяты, с**е**мнаццаць | *дз**я**вяты, с**я**мнаццаць* |
| кантра**стн**ы, бала**стн**ы | *кантра**сн**ы, бала**сн**ы* |
| фа**у**на, кло**у**н | *фа**ў**на, кло**ў**н* |

**Дадатак 3.**

| Лексіка-семантычная роля ў сказе | Спосаб выражэння | Віды зваротка | Месца ў сказе | Сродкі вылучэння | Часціцы і выклічнікі пры зваротку |
|---|---|---|---|---|---|
| Называе таго, да каго звяртаюцца | Назоўнік у Н. скл. або прыметнік ці дзеепрыметнік у значэнні назоўніка | Развітыя / неразвітыя, адзіночныя, аднародныя, з прыдаткам | У пачатку, у сярэдзіне, у канцы сказа | Коска. У пачатку сказа можа аддзяляцца клічнікам | Выклічнікі ад зваротка аддзяляюцца коскамі, часціца ***о*** коскай не адзяляецца |
| *Пралятайце, **гады**, залатымі агнямі.* | *Зашумі ты, **лес**, павясноваму! Ідзіце, **сінявокія**, на поле лён палоць.* | *Люблю цябе, **лес**, за шчодрасць. **Мая зямля**, надай мне сілы. Дзень добры вам, **лясы і гоні**!* | ***Сынок**, прынясі вады. Уставай, **Міхале**, адзявайся! Што з табою, **хлопча**?* | ***Друг мой юны, таварыш!** Тут мы ўсе ўзраслі.* | ***Эх**, луг шырокі! **О** мора, люблю я тваё сваволле!* |


**Спіс літаратуры**

1. **Багдановіч, М.** Шыпшына / М. Багдановіч. – Мінск : Юнацтва, 1991.

2. **Куліковіч, У.** Новае ў беларускай арфаграфіі / У. Куліковіч. – Мінск : “Новое знание”, 2009.

3. **Кулікоўская, Т. І.** Сказы са звароткамі, пабочнымі словамі і выклічнікамі. Словы-сказы (8 клас) / Т. І. Кулікоўская // Беларуская мова і літаратура. – 2009. – № 3.

4. **Сердзюкова, С. Р.** Тэставы кантроль па беларускай мове 7 – 9 класы / С. Р. Сердзюкова. – Мінск : Аверсэв, 2004.

5. **Хандрыка, С. В.** Беларуская народная культура на ўроках роднай мовы / С. В. Хандрыка. – Мазыр : Белы вецер, 2007.



**Ала ТРУХАН,**
настаўнік беларускай мовы і літаратуры першай кваліфікацыйнай катэгорыі САШ № 3 г. Ваўкавыска.


*З вопыту работы*

# ЖЫЦЦЁВЫ І ТВОРЧЫ ШЛЯХ МАКСІМА БАГДАНОВІЧА

## УРОК БЕЛАРУСКАЙ ЛІТАРАТУРЫ (IX КЛАС)

**Мэта:** знаёмства з асобай і творчай спадчынай паэта, вытокамі і адметнасцямі лірыкі, развіццё навыкаў маналагічных выказванняў, грамадзянскае выхаванне.

**Абсталяванне:** мультымедыйная прэзентацыя, выстава кніг, прысвечаных М. Багдановічу.

**Тып урока:** урок вывучэння новай тэмы.

**І. Уступнае слова настаўніка** (слайд 1).

Усяго 25 свечак адпалала на зямным бяседным стале М. Багдановіча. Калі ў маі 1917 года згасла апошняя, побач не было ні сваякоў, ні сяброў, і выпадковыя людзі паклалі ў камяністую крымскую зямлю высушанае туберкулёзам маладое цела, яны не здагадваліся нават, што хавалі аднаго з найвыдатнейшых беларускіх паэтаў, аднаго з самых любімых сыноў нацыі.

**ІІ. Паведамленне тэмы і мэты ўрока** (слайд 2).

*Настаўнік звяртае ўвагу на радкі з верша “С. Палуяну” М. Багдановіча, запісаныя на дошцы, і папярэджвае, што ў канцы ўрока вучням прапануецца выканаць творчае заданне на дапісванне трыялета аўтара з улікам іх бачання асобы паэта:*

Ты быў, як месяц, адзінокі:
Самотна жыў, самотна ўмёр.

**ІІІ. Вывучэнне новай тэмы.**

*Падрыхтаваныя выступленні вучняў суправаджаюцца паказам слайдаў з кароткімі звесткамі для канспектавання.*





**Настаўнік** (слайд 3). Максім Багдановіч – з'ява выключная не толькі ў беларускай, але і ў сусветнай літаратуры. Так склаліся абставіны, што разам з бацькам у няпоўных пяць гадоў ён пакінуў Беларусь. Потым Максім двойчы наведваў Радзіму. Гадаваўся будучы паэт, фарміраваўся яго талент удалечыні ад яе, на чужыне, фактычна ён не чуў, як гучыць жывое роднае слова. Паэт выдаў толькі адну прыжыццёвую кнігу "Вянок", а на дваццаць шостым годзе жыцця яго не стала. Памёр самотна ўдалечыні ад Беларусі. Жыве ў памяці народнай як прыклад, узор ахвярнага служэння Бацькаўшчыне.

**1-ы вучань** (слайд 4). Бацька Адам Ягоравіч нарадзіўся ў Халопенічах у год адмены прыгону. Прага да ведаў прымусіла яго кінуць прафесію кандытара і паступіць у Нясвіжскую настаўніцкую семінарыю. У 1882 г. ён скончыў семінарыю, працаваў настаўнікам у Мінску. На працягу ўсяго жыцця займаўся навуковай работай і ў савецкі час стаў вядомым этнографам. Вялікі ўплыў на маленькага паэта аказала маці Марыя Апанасаўна, якая скончыла Мінскае трохкласнае вучылішча, умела іграць на фісгармоніі, спрабавала пісаць апавяданні. Марыя Апанасаўна была мяккім і чулым чалавекам. Знешне і па характары сын быў падобны да маці (слайды 5, 6). Вялікі ўплыў на паэта аказалі сёстры бацькі Марыя і Магдалена. Магдалена часта спявала Максіму беларускія песні. Марыя Ягораўна была захавальніцай беларускіх святаў у сям'і, далучала да іх дзяцей.

**2-і вучань** (слайды 7 – 9). У 1892 г. сям'я пераязджае ў Гродна. Бацька быў вымушаны пакінуць працу па стане здароўя і ўладкаваўся ў Гродзенскі сялянскі банк памочнікам бухгалтара. Адам Ягоравіч успамінаў: "Умовы для выхавання дзяцей былі добрыя: у двары садок, вакол сады, палі, непадалёку лес, ды і Нёман. Дзеці ўвесь час на чыстым паветры, клімат мяккі". Сям'я Багдановічаў была сярэдняга дастатку, тым не менш дзеці мелі ўласны пакой. У сям'і было дзве памочніцы: кухарка і дзяўчына, якая дапамагала выхоўваць дзяцей (слайд 10). У кастрычніку 1896 г. памірае ад сухотаў ва ўзросце 27 гадоў Марыя Апанасаўна. Маленькі Максім цяжка перажывае смерць маці, якая як ніхто іншы разумела яго. "Маленькае падабенства маці", – напіша ва ўспамінах Адам Ягоравіч. Ён яе горача любіў. У доме зберагаліся яе ноты, і любімыя яе творы былі адначасна і любімымі творамі сына. Вобраз той, хто даў яму жыццё, вечна жыў у Максімавым сэрцы, як вобраз Радзімы. Ён і зачароўваў, і клікаў да сябе, наклаўшы адбітак на ўсё жыццё і творчасць паэта.

*Пад музыку чытаецца верш М. Багдановіча.*

Свечка бліскучая ззяе,
Каб расступілася мгла;
У яе агні – краса жывая,
Яна прыгожа і святла.
А побач матылёк дрыжыць ад болю,
Прыцягнуты з імглы агнём,
Ён рынуўся туды без волі
І смерць сваю спаткаў у ём.
Свяча гарыць. З яе ліецца
За кропляй кропля, як раса,
А матылёк ужо не б'ецца:
Табе ахвяра ён, краса!

**3-і вучань** (слайд 11, 12). У хуткім часе бацьку па службе пераводзяць у Ніжні Ноўгарад. "У Ніжнім працягваецца той жа лад жыцця, што і ў Гродне, – успамінаў Адам Ягоравіч. – Амаль кожны дзень браў дзяцей з сабой на прагулкі ў сады, летам на Волгу, бераг Акі, за горад, у гай. Вадзіў у карцінныя галерэі". Тут Адам Ягоравіч знаёміцца з Максімам Горкім, і з гэтага часу пачалося іх сяброўства. У 1901 г. сям'ю наведвае Вольга Сёмава, хросная маці, якой Максім паказвае свае першыя вершы. Паводле ўспамінаў, Максім чуў апавяданні пра старыну: беларускія казкі, песні з іх сумным матывам, поўным глыбокага пачуцця, тут жа – жывая беларуская прыказка, трапныя крылатыя словы. Усё пачыналася з самастойнага чытання беларускіх казак. Ён убачыў у гэтым спосаб навучыцца беларускай мове. І такое рашэнне было цалкам самастойным, гэта адзначаў і бацька, які ніколі не пісаў па-беларуску. Кнігі ў бібліятэцы бацькі сталі той крыніцай, што жывіла ўяўленні Максіма пра далёкую Радзіму. І яшчэ характар, пра які Адам Ягоравіч сказаў: "У працы быў настойлівы і ўпарты. Захоплены якойсьці мэтай, ён цвёрда і няўхільна імкнуўся да яе здзяйснення. З той жа ўпартасцю ставіўся і да вывучэння беларускай мовы, і да напісання вершаў на ёй". Максім Танк адзначаў: "Ёсць паэты, якія пішуць творы, каб потым з іх выдаць выбранае, але ёсць і паэты, што пішуць толькі выбранае. Да такіх і належыць Максім Багдановіч".

*Чытаецца верш "Ялта, Максім, кіпарысы" Я. Сіпакова.*

**4-ы вучань** (слайд 13). У час вучобы ў Ніжагародскай мужчынскай гімназіі Максім Багдановіч многа чытае, займаецца самаадукацыяй, вывучае гуманітарныя навукі. Ужо тады "беларусіка" становіцца ў цэнтры яго ўвагі. Максім вёў самотнае, ціхае жыццё, быў шчыра захоплены літаратурай і навукай. Заўсёды хадзіў з кнігамі пад пахай, задумлівы, здавалася, адарваны ад усяго свету. Ён зблізіўся з настаўнікам Кабанавым, беларусам па паходжанні, вёў доўгія гутаркі з ім пра гісторыю Беларусі, яе мінулае. У 1906 г. хросная выпісвае Максіму першую беларускамоўную газету "Наша Доля", потым – "Нашу Ніву", усяляк заахвочваючы яго жаданне пісаць вершы. "Ясна помню яго радасць у твары і вочы, што ззялі жывым агеньчыкам, калі ён, уварваўшыся ў мой пакой, паказваў надрукаваныя свае вершы, – засведчыць у дзённіку бацька. – Тут гаварыла свядомасць, што падрыхтаваныя працы былі не бязмэтныя,

што ён, адарваны ад радзімы, загаварыў пра свае пачуцці на яе мове, хоць бы і не зусім чыстай, але гэта выправіць час, а пакуль ёсць куды прытуліцца і даць выхад накопленым пачуццям і дрыготкім марам пра далёкую і таямнічую Радзіму: гукнуць здалёк – і пачуць сугучны водгук".

*Пад музыку чытаецца верш "Я хацеў бы спаткацца з Вамі на вуліцы..." М. Багдановіча.*

**5-ы вучань** (слайды 14, 15). У 1908 г. з пераездам сям'і Багдановіч працягвае вучобу ў Яраслаўскай гімназіі. Як успамінаюць гімназісты, сціплага, выхаванага, таварыскага, Багдановіча адразу палюбіў клас. Ён уразіў усіх веданнем літаратуры, у пытаннях якой ён быў на галаву вышэйшы за ўсіх медалістаў. На адных занятках Максім зрабіў даклад пра беларускую паэзію, пазнаёміў з развіццём беларускай літаратуры, творамі Янкі Купалы, Якуба Коласа, упершыню прачытаў некалькі сваіх вершаў на беларускай мове. Вялікую колькасць паэтаў ведаў на памяць. Памяць у яго была рэдкасная, прачытаўшы два-тры разы вялікі верш, ён ужо добра яго запамінаў. Яраслаўскі перыяд – гэта ўжо час актыўнай творчасці паэта, узвышэння яго і як мастака слова, і як крытыка, гісторыка літаратуры. У 1910 – 1912 гг., ужо будучы хворым, Багдановіч вёў актыўную літаратурна-крытычную, перакладчыцкую дзейнасць. Ён быў адным з першых перакладчыкаў Пушкіна. Светлае, цёплае ўражанне ствараюць яго пераклады з Верлена. Французскую мову паэт ведаў нядрэнна, ды і латынь дапамагала. Чымсьці пераклады з Верлена нагадваюць уласныя вершы Багдановіча. Ён хацеў даказаць і бліскуча даказаў, што беларуская мова прыдатная для перадачы самых тонкіх, складаных пачуццяў.

*Гучыць песня "Па-над белым пухам вішняў..." на словы М. Багдановіча.*

**6-ы вучань** (слайд 16). Да 1910 г. аўтарытэт Багдановіча як знаўцы Беларусі, яе гісторыі, культуры, этнаграфіі ўжо настолькі ўсталяваўся, што ў адказ на просьбу прафесара А. Шахматава параіць яму чалавека для спецыяльных заняткаў па беларусазнаўстве ў Пецярбургскім універсітэце рэдакцыя "Нашай Нівы" без ваганняў назвала свайго маладога карэспандэнта з Яраслаўля. Але ў Пецярбург Максіму забараніў ехаць бацька, спасылаючыся на цяжкую хваробу сына, па яго ж слове паэт паступіў у Яраслаўскі юрыдычны ліцэй (слайд 17).

*Чытаецца ўрывак з паэмы "Дзе голуб купаўся" У. Скарынкіна.*

Узлессі, паплавы,
Лугі ля Яраслаўля
Ўдыхаюць пахі шчаўя
І маладой травы.
Хвалюе вецер плёсы
Яшчэ зялёных ніў.
Дождж спаласкаў нябёсы,
Пяшчотна падсініў.
Над паркам гарадскім
Хмурынкі белы вехаць...
– У Вільню трэба ехаць! –
Нібы адсек Максім.
А бацька зноў: – Дарога
У Белебей прамей.
Ты вераб'я старога
Паслухай, зразумей.
Пагодлівы, кумысны
І ўтульны гарадок
Быў для цябе карысны
З маленства, галубок.
А што ў далёкай Вільні
Цябе чакае? Шум,
Нібы на лесапільні,
Бруд, мітусня і тлум.
Дарэмна ўсё! Максіму
Шляхі не выбірай.
– Хоць родны край – не рай,
Я еду на Радзіму!
З вытокаў роднай мовы
Я там зраблю глыток.
Нашэпчуць мне дубровы
Там не адзін радок...

Вацлаў Ластоўскі адзначаў: "Пры першай сустрэчы з ім мяне ўразілі яго вочы з даволі праніклівым поглядам, але калі ён, гаворачы, захапляўся, вочы яго глядзелі ўнутр, быццам былі звернуты ў мозг. Максім Багдановіч прыехаў у Вільню ўжо як актыўны і свядомы працаўнік беларускага адраджэння, глыбей сягаючы думкай у будучыню нашага народа. Гэтыя думкі аб адраджэнні былі галоўнай тэмай нашых бясед" (слайды 18, 19).

У рэдакцыі газеты "Наша Ніва" паэт знаёміцца з братамі Луцэвічамі. Тады ён і пабачыў калекцыю, сабраную Іванам Луцэвічам. Асабліва ўражанне на яго зрабілі рукапісы старасвецкіх кніг і дакументаў, а таксама слуцкія паясы, якія сталі крыніцай натхнення на новыя творы (слайд 20).

*Гучыць песня "Слуцкія ткачыхі" на словы М. Багдановіча.*

**7-ы вучань** (слайд 21). Падчас наведвання Радзімы з'яўляецца і яшчэ адзін шэдэўр паэзіі Багдановіча. Падставай стала каханне Максіма да Ані Какуевай, сястры аднакласніка па Яраслаўскай гімназіі. Але цётка дзяўчыны была супраць адносін з хворым на сухоты паэтам. Сумуючы па ёй, ён стварыў поўны пяшчоты раманс.

*Гучыць раманс "Зорка Венера" на словы М. Багдановіча.*

"Найбольш дасканалы паэт, на дзіва тонкі, які ўмее ткаць тканіну самай вытанчанай паэтычнай формы", – адзначыў крытык У. Рагоўскі. Працу над кніжкай вершаў Багдановіч пачаў адразу пасля вяртання ў Яраслаўль. На вокладцы падрыхтаванага рукапісу стаяла назва "Кніжка выбраных твораў". З-за фінансавых праблем выданне яе затрым-





лівалася. І ўбачыла яна свет не такой, як хацеў аўтар. Вацлаў Ластоўскі даў ёй назву "Вянок". Вянок абрамляе прозвішча аўтара і назву на тытульнай старонцы, дзе змешчана і выява лебедзя, які ўвасобіў фамільны герб княгіні Магдалены, што падтрымлівала рэдакцыю сродкамі. На наступнай старонцы В. Ластоўскі зрабіў прысвячэнне: "Вянок на магілу С. Палуяну". Максім Багдановіч назвай і прысвячэннем быў задаволены, непрыманне выклікалі змены, унесеныя ў структуру зборніка. Але непрыемныя ўражанні, што яго волю парушылі, хутка прайшлі. Да апошніх дзён жыцця паэт даражыў адзінай выдадзенай кнігай (слайд 22).

**8-ы вучань** (слайд 23). Як згадвае Зоська Верас, у верасні 1916 г. у сталоўцы "Беларускай хаткі" з'явіўся А. Смоліч з лістом у руцэ: "У хуткім часе ў Мінск прыедзе Максім Багдановіч… піша, што хоча пажыць… у сваім родным горадзе, дыхнуць паветрам Бацькаўшчыны, пачуць жывую беларускую мову. Просіць паклапаціцца аб працы для яго". Сардэчны, сціплы, просты, Максім адразу заваяваў агульную сімпатыю. Ужо ў канцы вечара здавалася, што ён даўно паміж імі, што ўсім блізкі і дарагі. Тым больш трывожыла яго бледнасць і бліскучыя ад гарачкі вочы. Праз пару дзён выявілася, што ён вельмі мала дбае пра сваё здароўе. «Найчасцей забываўся прыняць лякарства, не прыносіў іх з сабой. Адразу ў той вечар здзівіла нас просьба Багдановіча не класці яму ў гарбату цукар. На пытанне, ці не любіць салодкага, адказаў: "Не ў тым справа… Але з цукрам не п'ю". Дарма стараліся пераканаць, што гэта не здарова, што цукар яму неабходны. Раз нехта… цішком перамяніў шклянку, і гарбата аказалася салодкай. Як жа ж ён разгневаўся, разнерваваўся. Праз пару дзён пасля гэтага ён прызнаўся: "Я вельмі перажываю тое, што я бяссільны дапамагчы тым, хто цяпер, падчас вайны, церпіць голад, асабліва шкадую дзяцей… Калі я адмаўляю таго, што люблю, мне здаецца, што я раблю нейкую ахвяру, і гэта хоць крыху пацяшае…" "Выбачайце, – кажу, – але фактычна ваша ахвяра нічога дзецям не дае". "А гэта пабачым…" – неяк загадкава адказаў. І сапраўды, праз нейкія тры месяцы пабачылі. Багдановіч працаваў у магістраце ў аддзеле харчавання. Там працаўнікам апрача платы выдавалі "паёк", пераважна цукар. Увечары, калі ўсе сабраліся і дзівіліся, чаму няма Багдановіча, ён прыйшоў позна і прынёс на плячах больш як паўпуда цукру. Аддаў яго мне (я была сакратаркай "Камітэта дапамогі ахвярам вайны") і кажа: "Гэта для дзяцей уцекачоў"».

*Гучыць верш "Ялта-1917" Я. Янішчыц.*

Чысты погляд васілька
Ціха журыцца радзіме.
Роднае поле радка
Ці не з табою, Максіме?
Чую, як мора шуміць.
Хваля тугі не адніме.
Хочацца верыць і жыць
Ці не табе, Максіме?
Белай самоты сцяна,
Дай яму лёту і сілы!
Ці не з журбы Лесуна
У Лебедзя гордыя крылы…
Скруха душу апячэ,
А ці ўзніме нягода.
Гэта спяшаецца Чэсць
У абарону народа.
Смерць, ты цікуеш дарма,
Белых галінак кіпенне.
Смерці Паэта няма –
Ёсць нараджэнне!
Песняй абвостраны слых,
Чуеш, Максім? – не ўмірае!
Гэта з табой. І для ўсіх
Зорка Венера світае.

**Настаўнік.** Ён знаходзіўся ў цэнтры жыцця беларускай інтэлігенцыі, да канца аддадзены свайму народу. Але паэт цяжка хворы. Гэта бачаць яго сябры і калегі і стараюцца дапамагчы. Вясной 1917 г. Багдановіч едзе ў Ялту, каб паправіць здароўе. У чаканні сустрэчы з бацькам ён піша: "Здравствуй, старый воробей. Молодому воробью плохо. Из кровати уж не встаю – ослаб окончательно" (слайд 24). 25 мая яго не стала. Гаспадыня кватэры, якую ён здымаў, расказвала бацьку паэта, што за некалькі дзён да смерці Максім папрасіў суніц, з'еў і пасля больш нічога не еў. У руцэ яго знайшлі скамечаны аркуш паперы, на якім быў апошні верш:

Ў краіне светлай, дзе я ўміраю,
У белым доме ля сіняй бухты,
Я не самотны, я кнігу маю
З друкарні пана Марціна Кухты.

**IV. Абагульненне.**

1. Прапануецца суаднесці з тэмай урока радкі А. Вярцінскага: "Жыццё даецца, каб жыццё тварыць".

*Гучыць спакойная музыка.*

2. Творчае заданне на дапісванне радкоў верша "С. Палуяну" М. Багдановіча пажадана выканаць у класе, папярэдне ўзгадаўшы жанравыя асаблівасці трыялета. Пры недахопе часу заданне пакідаецца на дом і прыводзіцца асацыятыўны шэраг да імені М. Багдановіча (слайд 25).

**Спіс літаратуры**

1. **Навуменка, І.** Вывучэнне творчасці Максіма Багдановіча ў школе / І. Навуменка, Т. Мароз. – Мінск : Беларус. навука, 2001.
2. **Есіс, Я.** Жыццё і творчасць М. Багдановіча / Я. Есіс // Беларуская мова і літаратура. – 2010. – № 3.
3. **Грынько, С.** Супрацоўніцтва "музей – школа" / С. Грынько // Беларуская мова і літаратура. – 2008. – № 6.

**Святлана ТОМАШАВА,**
настаўнік беларускай мовы і літаратуры
Мішневіцкай САШ.





*Мая Радзіма – Беларусь*

# ХТО МЫ ТАКІЯ? ШТО МЫ ЗА НАРОД?

## ЛІТАРАТУРНАЯ ВЕЧАРЫНА, ПРЫСВЕЧАНАЯ 120-ГОДДЗЮ З ДНЯ НАРАДЖЭННЯ МАКСІМА БАГДАНОВІЧА

**Мэта:** стварыць умовы для далучэння вучняў да культурнай спадчыны беларускага народа праз знаёмства з жыццём і творчасцю паэта Максіма Багдановіча.

**Абсталяванне:** мультымедыйная прэзентацыя; кніжная выстава "Вянок Максіма Багдановіча", на якой прадстаўлены творы і літаратура пра жыццёвы і творчы шлях паэта.

*Ціха гучыць беларуская народная музыка. Сціхае. Гучыць раманс "Зорка Венера" на словы М. Багдановіча.*

*На экране з'яўляецца партрэт М. Багдановіча.*

**Вядучы.** Так, сапраўды, 9 снежня 1891 г. узышла над зямлёю зорка Максіма Багдановіча.

*У час гутаркі на экране з'яўляюцца партрэты бацькоў М. Багдановіча, партрэт М. Багдановіча.*

Бацька паэта – вядомы беларускі этнограф, фалькларыст і мовазнаўца Адам Ягоравіч Багдановіч у 1891 г. працаваў загадчыкам і настаўнікам Мінскага гарадскога пачатковага вучылішча. У кватэры пры вучылішчы (цяпер на гэтым месцы дом № 25 па вул. Багдановіча) і нарадзіўся будучы паэт. Маці паэта – Марыя Апанасаўна Мякота скончыла Мінскае Аляксандраўскае вучылішча і некалькі курсаў жаночай настаўніцкай школы ў Пецярбургу. Яна аўтар апавядання "Напярэдадні каляд", змешчанага ў газеце "Гродненские губернские ведомости" (1893, № 102). У ліпені 1892 г. сям'я Багдановічаў пераехала з Мінска ў Гродна, дзе і прайшлі дзіцячыя гады будучага паэта.

Калі Максіму было 5 гадоў, ад сухотаў памерла яго маці, і ў сярэдзіне лістапада 1896 г. Адам Ягоравіч з дзецьмі пераехаў у Ніжні Ноўгарад. Сяброўскія і сваяцкія адносіны Адама Ягоравіча з Максімам Горкім, а таксама багатае культурнае асяроддзе горада спрыялі фарміраванню поглядаў і густаў Максіма, абуджэнню ў ім цягі да мастацкай творчасці. Прыблізна ў 10-11 гадоў ён паспрабаваў пісаць на беларускай мове, якой авалодаў самастойна, абапіраючыся на беларускія выданні бацькавай бібліятэкі. Дзесьці з вясны 1909 г. у Максіма пачаў развівацца ў лёгкіх туберкулёзны працэс.

Важнай падзеяй у жыцці паэта стала паездка ў Беларусь пасля заканчэння Яраслаўскай гімназіі летам 1911 г. Ён быў запрошаны супрацоўнікамі рэдакцыі газеты "Наша Ніва" братамі Луцкевічамі. Паводле некаторых звестак у гэты час было створана 16 вершаў і 2 паэмы, якія пазней склалі паэтычныя цыклы "Старая Беларусь", "Места" і "Мадонны".

У верасні 1916 г. Максім Багдановіч пераехаў у Мінск, дзе ўладкаваўся на працу ў Губернскую земскую ўправу сакратаром харчовага камітэта. Браў самы актыўны ўдзел у рабоце Беларускага таварыства дапамогі пацярпелым ад вайны. У лютым 1917 г. здароўе М. Багдановіча рэзка пагоршылася, і сябры адправілі яго на лячэнне ў Ялту. Там паэт неўзабаве і памёр (пахаваны на гарадскіх могілках).

Кароткім быў жыццёвы шлях Максіма Багдановіча, яшчэ карацейшым – творчы. Але творчасць яго напоўнена вобразамі, што сталі сімваламі роднага краю, склалі такое арыгінальнае супольства, з якім асацыіруюцца і вобраз паэта, і яго лёс…

Сваім ідэалам Максім Багдановіч абраў непакорнага і гордага Страціма-лебедзя.

*Пад музычнае суправаджэнне гучыць верш "Страцім-лебедзь" М. Багдановіча.*

Нягледзячы на тое, што яму давялося скончыць жыццёвы і творчы шлях на самым узлёце, Максім Багдановіч дзякуючы сваёй геніяльнай адоранасці за такі кароткі час здолеў здзейсніць найвялікшы творчы подзвіг – стаць яшчэ адной зоркай на небасхіле нацыянальнай паэзіі побач з Янкам Купалам і Якубам Коласам, аказацца ў цэнтры літаратурна-грамадскага руху Беларусі пачатку XX стагоддзя, выступіць крытыкам і гісторыкам роднай літаратуры, выдатным перакладчыкам і празаікам.

**1-ы вядучы** (*звяртаючыся да слухачоў*). Хто вы такія? Што вы за народ? Так пытаюцца ў нас, простых людзей. Але мы і самі не ведаем.

**2-і вядучы.** Так у 1915 г. пачынае свой ліст да простых людзей Максім Багдановіч.

**1-ы вядучы.** Вакол усе кажуць: я – паляк, я – ліцвін… А мы нават імя свайго народа забыліся. Вось і адказваем: я – праваслаўны, я – каталік. Але ж гэта названне нашай веры, а не нашага народа.

**2-і вядучы.** Мы завемся беларусамі, і старонка наша завецца Беларусь. Ёсць паміж нас і праваслаўныя, ёсць і каталікі, але народ з нас адзін, бо ва ўсіх адна гаворка, адны звычаі, адны песні, адна вопратка, адзін лад жыцця.

*Гучыць беларуская народная песня.*

Беларусы! Мы – вялікі народ, шырока раскінуліся мы і спрадвеку жывём тут. Гэта наш край, наша старонка.

**1-ы вядучы.** Вершы Максіма Багдановіча прасякнуты любоўю, пяшчотай да роднага краю.

*На экране з'яўляюцца карціны беларускіх краявідаў. Гучаць урыўкі з вершаў М. Багдановіча.*

**1-ы чытальнік.**

На цёмнай гладзі сонных луж балота,
За снег нябёснай вышыні бялей,





Закрасавалі чашачкі лілей
Між пачарнеўшых каранёў чарота.
Ў круг плесня, бруд, – разводзіць гніль спякота,
А краскі ўсё ж не робяцца гразней…

**2-і чытальнік.**

Добрай ночы, зара-зараніца!
Ўжо імгла над зямлёю лажыцца,
Чорнай рызай усё пакрывае,
Пылам зор небасхіл абсявае.
Цішыня агартае мне душу.
Вецярок прыдарожную грушу
Ледзьве чутна варуша-калыша,
Міла бомы смяюцца у цішы.
Ціха срэбрам грукае крыніца.
Добрай ночы, зара-зараніца!

**3-і чытальнік.**

А за сцяной смяецца поле,
Зіяе неба з-за акна, –
І думкі мкнуцца мімаволі
Туды, дзе расцвіла вясна;
Дзе блішча збожжа ў яснай далі,
Сінеюць міла васількі,
Халодным срэбрам зззяюць хвалі
Між гор ліючайся ракі,
Цямнее край зубчаты бора…

**1-ы вядучы.**

Але не толькі прыгажосць роднага краю хвалявала паэта, яго сэрца было напоўнена любоўю і павагай да людзей, якія тут жывуць, і яно, сэрца, сціскалася ад болю за іх лёс.

*Гучыць песня "Слуцкія ткачыхі".*

**1-ы чытальнік.**

Краю мой родны! Як выкляты Богам –
Столькі ты зносіш нядолі.
Хмары, балоты… Над збожжам убогім
Вецер гуляе на волі.

Поруч раскідаліcь родныя вёскі.
Жалем сціскаюцца грудзі! –
Бедныя хаткі, таполі, бярозкі,
Ўсюды панурыя людзі.

Шмат што зрабілі іх чорныя рукі,
Вынеслі моцныя спіны;
Шмат іх прымусілі выцерпець мукі
Пушчы, разлогі, нізіны.

Кінь толькі вокам да гэтага люду –
Сціснецца сэрца ад болю:
Столькі пабачыш ты гора усюды,
Столькі нуды без патолі.

Песня пяе, як удовіна,
Янку, каханне згубіла;
Там, дзе панура схілілась каліна,
Беднага хлопца магіла.
Ў гутарках-казках аб шчасці, аб згодзе
Сэрца навін не пачуе.
Сцісла гора дыханне ў народзе,
Гора усюды пануе.

Хваляй шырокай разлілась, як мора,
Родны наш край затапіла…
Брацця! Ці зможам грамадскае гора?!
Брацця! Ці хваце нам сілы?!

**2-і вядучы.** Калісьці ў нас была свая дзяржава, скрозь чутно было нашу беларускую гаворку. На ёй пісалі законы, кнігі, разбіралі справы па судах, вучылі ў школах дзяцей, праўлялі набажэнствы ў цэрквах ды касцёлах.

**2-і чытальнік.**

Душой стаміўшыся ў жыццёвых цяжкіх бурах,
Свой век канчаю я у манастырскіх мурах
І пільна летапіс другі ўжо год пішу:
Старанна літары малыя вываджу
І спісваю усё ад слова і да слова
З даўнейшых граматак пра долю Магілёва.
І добрыя яго, і кепскія дзяла
Апавядаю тут. Так рупная пчала
Умее ў соты мёд збіраць і з горкіх кветак,
І бачанаму мной – я годны сведак.
Хай тыя ведаюць, што з'явяцца па нас,
Ўсю праўду пра жыццё у наш і пройшлы час,
Пра войтаў, лаўнікаў, і райцаў, і паспольства,
Пра розных каралёў, і бітвы, і пасольства,
Што тут чынілася ў даўнія гады,
Што думалі, чаго жадалі мы тады,
За што змагаліся, як баранілі веру, –
Хай зведаюць усе патомкі праз паперу!
Яно забудзецца, умрэ, з вадой сплыве, –
І вось у спомінах устане, ажыве,
Калі знайдуць маё няхітрае пісанне
Пра гэтае жыццё, надзеі, спраўаванне…

І людзі зведаюць аб прадзедах сваіх,
Аб горы, радасцях і аб прыгодах іх,
Каму маліліся, чаго яны шукалі.

**2-і чытальнік.**

Чытайма, браткі, кніжкі і газеты, пісаныя ў нашай беларускай гаворцы. Не пакінем свае гаворкі, сваіх песняў, сваіх звычаяў – свайго кроўнага, спрадвечнага, беларускага. Не адрачэмся, не забудзем, не кінем на глум; будзема шанаваць, бараніць, дзецям сваім тое запаведаць.

**1-ы вядучы.**

Тое, аб чым марыў Максім Багдановіч, здзейснілася ў нашы дні, калі Беларусь набыла свой статус незалежнай дзяржавы.

*Гучыць запіс песні "Люблю свой край, старонку гэту".*

**Наталля СЕРЖАН,**
бібліятэкар Мінскай дзяржаўнай
гімназіі-каледжа мастацтваў.

*Аўтар ахвярue ганарар на развіццё часопіса.*





*Гасцёўня*

# *"І ЗАСТАЎСЯ ТЫ Ў НАШЫХ ДУШАХ…"*

## СЦЭНАРЫЙ ПАЭТЫЧНА-МУЗЫЧНАЙ ГАСЦЁЎНІ

*У чытальнай зале аформлена кніжная выстава "Нязгаснай зоркай ты ў небе Радзімы навекі", дзе прадстаўлены кнігі, артыкулы з газет і часопісаў пра жыццёвы і творчы шлях М. Багдановіча, а таксама творы паэта розных гадоў выдання. Каля партрэта М. Багдановіча цытата: "Хто мы такія? Толькі падарожныя, – папутнікі сярод нябёс. Нашто ж на зямлі сваркі і звадкі, боль і горыч, калі ўсе мы разам ляцім да зор?" – і томік выбраных твораў паэта з серыі "Беларускі кнігазбор". Кампазіцыю ўпрыгожвае букет кветак.*

У кожнай літаратуры ёсць паэты і пісьменнікі, якімі ганарацца нашчадкі. У беларускай літаратуры такімі былі Янка Купала, Якуб Колас і Максім Багдановіч. Размова сёння пойдзе пра аднаго з іх – выдатнага беларускага паэта Максіма Багдановіча з нагоды яго 120-гадовага юбілею (*слайд 1*).

*Гучыць песня "Страцім-лебедзь" у выкананні Э. Акуліна.*

Кароткі быў жыццёвы век паэта. Ён вымяраецца 25 гадамі. Многія літаратары ў такім ўзросце толькі пачынаюць тварыць. Ён жа – закончыў. І можа, таму, што прадчуваў блізкую развязку, спяшаўся, працаваў, не шкадуючы сябе: абы паспець сказаць тое, што хвалявала яго сэрца і што не магло не выліцца ў творы.

Таму наш сённяшні паэтычна-музычны вечар "І застаўся ты ў нашых душах…" (*слайд 2*) прысвечаны менавіта яму – Максіму Багдановічу як сапраўды незвычайнай асобе, як генію зямлі беларускай.

…І застаўся ты ў нашых душах,
Хоць навекі знік у палях,
Вечна светлы і вечна дужы,
Вечна юны, як наша зямля.

Няхай гэтыя радкі Уладзіміра Караткевіча, звернутыя да Максіма Багдановіча, служаць эпіграфам да нашай вечарыны, а мы згадаем пра жыццё таленавітага паэта і пачнём распутваць клубок гэтага высокага і ў той жа час складанага лёсу з пачатку пачаткаў – сям'і (*слайд 3*).

Вось перад намі фатаграфія чалавека з удумлівымі вачыма, тонкім інтэлігентным тварам. Адам Ягоравіч Багдановіч, бацька паэта, – сын былога прыгоннага з Халопеніч Барысаўскага павета. Выключныя здольнасці і сялянская працавітасць дазволілі яму скончыць Нясвіжскую семінарыю – так званы "мужыцкі ўніверсітэт" – і стаць у далейшым сур'ёзным вучоным-этнографам, гісторыкам, эканамістам. Ці ж не ад яго передаліся Максіму гэтая ўдумлівасць, глыбокая цікавасць да гісторыі і культуры Беларусі?

Маці – Марыі Апанасаўне з роду Мякотаў – удалося скончыць настаўніцкія курсы ў Пецярбургу. Гэта была натура надзвычай жывая, уражлівая і сардэчная. Гэтымі якасцямі надзяліла яна Максіма, пра якога бацька пазней пісаў так: "Некрыўдлівы і мяккі, летуценны, з пяшчотным, амаль жаноцкім сэрцам". Але душэўная мяккасць сына арганічна спалучалася з мужчынскай цвёрдасцю, напорыстасцю характара (*слайд 4*).

Напачатку маладая сям'я Багдановічаў жыла ў Мінску на вуліцы Аляксандраўскай, у так званым доме Карказовіча, дзе яны займалі адзін пакой на другім паверсе будынка. У астатніх памяшканнях месцілася прыходскае вучылішча, у якім выкладаў Адам Ягоравіч (*слайд 5*).

Першы сын, Вадзім, нарадзіўся ў Адама Ягоравіча і Марыі Апанасаўны ў 1890 г. А ў наступным 1891 г. 9 снежня Марыя зноў нарадзіла хлопчыка, Максіма, хоць у сям'і чакалі дзяўчынку (*слайд 6*).

У Мінску сям'я Багдановічаў пражыла непрацяглы час. У Адама Ягоравіча адкрыўся крываток з горла, і па рэкамендацыі лекара ён мусіў развітацца з выкладчыцкай дзейнасцю. Бацька Максіма ўладкаваўся на працу ў Гродзенскі сялянскі пазямельны банк і летам 1892 г. разам з сям'ёй пераехаў з Мінска ў горад над Нёманам. Тут Марыя нарадзіла ў 1893 г. трэцяга сына Льва. Бязмежным было шчасце бацькоў, якія не маглі нарадавацца на сыноў (*слайд 7*). Усю сваю любоў, пяшчоту, увесь вольны час Марыя Апанасаўна цалкам прысвячала дзецям, аддаючы вялікую ўвагу іх выхаванню. Яна выхоўвала Вадзіма, Максіма і Лёву па сістэме моднага на той час нямецкага педагога Фрыдрыха Фрэбеля, які распрацаваў сістэму дыдактычных і рухомых гульняў, лічачы іх асновай выхавання і навучання дзяцей дашкольнага ўзросту. Маці ўвесь час прыдумляла сынам усё новыя і новыя гульні, сама аддаючыся гэтым забавам з непадробным захапленнем. Марыя давярала дзяцей толькі мужу (*слайд 8*).

Марыя Апанасаўна да таго ж мела і літаратурны талент. Яскравым сведчаннем таму з'яўляецца яе апавяданне "Накануне Рождества", надрукаванае ў газеце "Гродненские губернские ведомости" напрыканцы 1893 г. Адам Ягоравіч





лічыў, што пры іншых умовах з Марыі магла б сфарміравацца даволі добрая пісьменніца і што менавіта ў спадчыну ад маці Максім атрымаў літаратурны талент.

Маючы трох сыноў, Марыя Багдановіч марыла пра дачушку. У 1896 г. яе мара спраўдзілася, яна нарадзіла дачку. Дзяўчынку назвалі Нінай. Але шчасце Марыі Апанасаўны і Адама Ягоравіча было нядоўгім. Чацвёртыя роды вельмі моцна падарвалі здароўе Марыі, і з кожным днём яна адчувала сябе ўсё горш і горш. Дыягназ лекараў, пастаўлены праз месяц пасля нараджэння Ніны, быў жорсткі – хуткацечныя сухоты. Хвароба на той час не вылечвалася, і ніякіх надзей на тое, што Марыя ачуняе, не было.

4 кастрычніка 1896 г. Марыя Апанасаўна памерла. Асірацела вялікая сям'я. Адам Ягоравіч страціў любую жонку, сваю мілую Марыльку, а дзеці – самага блізкага і дарагога чалавека – маці. Марыю Апанасаўну пахавалі на гродзенскіх гарадскіх праваслаўных могілках недалёка ад царквы Святой Марфы. Сваякоў у Гродне Багдановічы не мелі, даглядаць магілу Марыі не было каму, і месца яе апошняга прытулку было страчана. Толькі ў канцы XX ст. яго адшукалі аматары творчасці Максіма Багдановіча. У 1992 г. на магіле Марыі Багдановіч быў усталяваны помнік работы вядомага гродзенскага скульптара У. Панцялеева і архітэктара А. Капцюга.

Даглядаць дзяцей пасля смерці маці стала сястра Адама Ягоравіча – Марыя Ягораўна Багдановіч (*слайд 9*). Яна была ласкавая, добрая да дзяцей. Максім яе вельмі любіў, і гэтае пачуццё засталося ў яго на ўсё жыццё. Адам Ягоравіч не мог больш жыць у горадзе, дзе кожная вуліца, кожны будынак нагадвалі яму пра любую жонку. Ён перавёўся на працу ў Ніжні Ноўгарад (*слайд 10*).

У горадзе на Волзе сям'я Багдановічаў зблізілася з Максімам Горкім праз Аляксандру Паўлаўну Волжыну – родную сястру жонкі Аляксея Максімавіча, з якой у пачатку 1899 г. ажаніўся Адам Ягоравіч Багдановіч (*слайд 11*). Аднак яна памерла пры родах, а іх маленькі сын Аляксандр гадаваўся ў сям'і Горкага і памёр у Крыме ў чатырохгадовым узросце.

Пазней Адам Ягоравіч Багдановіч звязаў сваё жыццё з сястрой першай жонкі – Аляксандрай Апанасаўнай Мякотай (*слайд 12*), і ў іх нарадзілася пяцёра сыноў (Павел, Мікалай, Аляксей, Вячаслаў і Раман).

Трэба адзначыць, што ў сям'і Багдановічаў размаўлялі па-руску, але лад жыцця, звычкі, густы, настрой думак у сваёй аснове былі беларускія. Тут дзеці чулі беларускія казкі, песні, прымаўкі. Бацька аддаваў шмат увагі сваім сынам, ён абуджаў у дзяцей цікавасць да прыроды, знаёміў з жыццём народа, з помнікамі культуры, прывіў ім любоў да літаратуры. Па кнігах і тагачасных выданнях вывучаў Максім мову свайго народа. І, відавочна, гэтыя абставіны паспрыялі таму, што ўжо ў дзесяцігадовым узросце Максім пачаў спрабаваць пісаць мастацкія творы па-беларуску.

З 1902 да 1907 гг. Максім Багдановіч вучыўся ў Ніжагародскай мужчынскай гімназіі (*слайд 13*). Ён актыўна наведваў розныя мітынгі і маніфестацыі, у выніку чаго атрымаў у атэстаце адзнаку "нядобранадзейнага вучня". У гэты ж час Багдановіч вывучае беларускую мову і літаратуру, знаёміцца з матэрыяламі беларускіх газет "Наша доля", "Наша Ніва", якія істотна паўплывалі на фарміраванне яго светапогляду. І ў далейшым, у сваёй творчай дзейнасці, Максім Багдановіч аддаваў перавагу беларускай мове.

1907 г. лічыцца пачаткам літаратурнай дзейнасці Максіма Багдановіча. Яго першым значным мастацкім творам было беларускамоўнае лірычнае апавяданне "Музыка", якое адразу ж надрукавала "Наша Ніва". Максіму на той час споўнілася толькі 16 гадоў.

У 1908 г. сям'я Багдановічаў пераехала ў Яраслаўль (*слайд 14*), куды быў пераведзены па службе Адам Ягоравіч. Максім паступіў у шосты клас Яраслаўскай гімназіі (*слайд 15*). Максімам Кніжнікам называлі Максіма Багдановіча бацька і сябры-гімназісты (*слайд 16*). Хто і дзе ні сустракаў бы яго, Максім заўсёды быў з кнігай. Кнігі ляжалі стосамі ў яго на стале, ён прыносіў іх і з гімназічнай, і з ліцэйскай бібліятэк, і ад знаёмых, і з рэдакцый – адусюль, дзе толькі можна было іх даставаць. Працавітасць Максіма Багдановіча здзіўляла ўсіх.

У гэты перыяд юнак сутыкнуўся і з цяжкімі выпрабаваннямі. У 1908 г. ад туберкулёзу лёгкіх памёр старэйшы брат Максіма – Вадзім (*слайд 17*). А вясной 1909 г. захварэў на туберкулёз і Максім. Бацька адвёз яго ў Крым на лячэнне, што добра паўплывала на стан яго здароўя, ён захапіўся паўднёвым краем, з'явілася новае кола знаёмых.

Пачынаючы з 1909 г. творы Максіма Багдановіча не сыходзілі са старонак газеты "Наша Ніва" (*слайд 18*). Сярод іх верш "Краю мой родны! Як выкляты богам…", у якім выразна прагучала тэма сацыяльнага прыгнёту і нацыянальнага адраджэння беларусаў (*слайд 19*).

*Гучыць песня "Краю мой родны! Як выкляты богам…" у выкананні ансамбля "Песняры".*

1911 год стаў у значнай меры пераломным у жыцці Максіма Багдановіча. Пасля заканчэння вучобы ў гімназіі ён наведаў Вільню, дзе пазнаёміўся са славутымі дзеячамі беларускага нацыянальна-вызваленчага руху братамі Луцкевічамі, беларускім пісьменнікам, гісторыкам, філолагам, літаратуразнаўцам Вацлавам





Ластоўскім, выдаўцом, мовазнаўцам і літаратуразнаўцам Браніславам Эпімахам-Шыпілам (*слайд 20*). Па запрашэнні братоў Луцкевічаў Максім Багдановіч амаль усё лета жыў у фальварку Ракуцёўшчына каля Маладзечна. Да гэтага часу ён меў толькі кніжнае ўяўленне пра Беларусь, але тут, у 20-гадовым узросце, змог зблізку ўбачыць беларускую прыроду, жыццё і побыт беларусаў.

Атрымаўшы атэстат сталасці, Максім Багдановіч меў намер паступіць у Пецярбургскі ўніверсітэт на філалагічны факультэт, але з-за адсутнасці сродкаў, а таксама з-за таго, што вільготны клімат сталіцы не падыходзіў для чалавека са слабым здароўем, не здолеў здзейсніць свой намер і, вярнуўшыся з Беларусі ў Яраслаўль, паступіў у Дзямідаўскі юрыдычны ліцэй (*слайд 21*). Пры гэтым Максім вельмі настойліва займаўся самаадукацыяй. Яго веды ў галіне гісторыі, літаратуры, культуры народаў славянскага свету мелі энцыклапедычны характар, шмат увагі аддаваў замежным мовам: вывучаў грэчаскую, лацінскую, італьянскую, польскую, французскую і нямецкую. Ліцэйскі перыяд быў плённым у паэтычнай дзейнасці. У гэты час ён напісаў найлепшыя творы.

Сустрэча з Бацькаўшчынай дала новы штуршок паэзіі Максіма Багдановіча, натхніла на стварэнне шэдэўраў, якія навечна ўвайшлі ў залаты фонд нацыянальнай літаратуры. Вынікам творчай працы ў Беларусі з'явіўся цыкл вершаў "Старая Беларусь". Адзін з вершаў гэтага цыкла – "Слуцкія ткачыхі" – асабліва кранае задушэўным лірызмам (*слайд 22*).

*Гучыць песня "Слуцкія ткачыхі" ў выкананні ансамбля "Песняры".*

Выдадзены ў 1913 г. зборнік паэзіі "Вянок" стаў адной з вяршынь беларускай лірыкі (*слайд 23*). А ўся творчасць паэта – новым словам, новым якасным крокам у развіцці і ўзвышэнні беларускай мовы, філасофскага і мастацкага асэнсавання рэчаіснасці. У ёй – чалавечы і грамадзянскі подзвіг змагара за нацыянальнае адраджэнне, аднаго з найлепшых сыноў Беларусі.

Восенню 1916 г., скончыўшы ў Яраслаўлі юрыдычны ліцэй, Максім Багдановіч пераехаў у Мінск (*слайд 24*). Тут ён працаваў сакратаром харчовага камітэта Мінскай губернскай управы, адначасова займаўся справамі бежанцаў у Беларускім таварыстве дапамогі пацярпелым ад вайны, удзельнічаў у рабоце гурткоў моладзі. Багдановіч жыў на адной кватэры з літаратарам Змітраком Бядулем, які пазней пакінуў шмат успамінаў пра паэта.

У Максіма Багдановіча было шмат творчых планаў, ён хацеў выдаць шэраг паэтычных зборнікаў. Але здзейсніць гэтыя намеры не змог. У канцы лютага 1917 г. з-за абвастрэння хваробы пакінуў Мінск і зноў накіраваўся ў Крым. Сябрам удалося сабраць грошы на лячэнне паэта. Сярод рэчаў, якімі ён даражыў, было маленькае люстэрка ў металічнай аправе, што засталося яму ў памяць ад маці. Перад ад'ездам сястра Бядулі нечакана выпусціла з рук люстэрка, яно разбілася. Бледнасць заліла твар Багдановіча, і ён прашаптаў: "Усё, цяпер усё". Усе кінуліся яго супакойваць, угаворваць, і толькі на вакзале, расчулены цеплынёй праводзінаў, ён забыўся на гэты выпадак.

Блізілася трагічная развязка. Паэт пра гэта ведаў і яшчэ больш настойліва працаваў: думкі і пачуцці, якімі ён жыў, так і прасіліся на паперу.

Ужо пара дадому збірацца, –
Вечар позны, а час не стаіць.
Ах, калі б ты магла здагадацца,
Як не хочацца мне ўхадзіць.
Там, на вуліцы, ні сівер, ні бура,
Там адно толькі – мрок, самата.
Але як я маркотна, панура
Да свайго пацягнуся кута.
Думкі нудныя зноў закружацца,
Сэрца чулае зноў забаліць…
Ах, калі б ты магла здагадацца,
Як не хочацца мне ўхадзіць.

Багдановіч паміраў мужна і з годнасцю: без нараканняў і скаргаў (*слайд 25*). На яго стале застаўся неадпраўлены ліст да бацькі: "Добры дзень, стары верабей… Маладому вераб'ю дрэнна…" За свой кароткі век Багдановіч зведаў шмат гора і пакутаў (*слайд 26*). Горка было яму ведаць, што яго чакае. Столькі яшчэ засталося нязробленым, ненапісаным, непражытым. Пра хуткую смерць ён ведаў, але не страціў мужнасці, не змаладушнічаў. Пра смерць ён гаворыць у вершах проста і натуральна, як пра жыццё, каханне, без адчаю і жаху.

25 мая 1917 г. у 25-гадовым узросце Максім Багдановіч памірае ў поўнай адзіноце. Памінальную службу адправілі ў саборы Аляксандра Неўскага. Пахаваны ў Ялце на гарадскіх могілках. На магіле паставілі белы крыж.

К нам сумна вестка пры ляцела:
Памёр "пясняр чыстай красы",
Душой чысцейшы ад расы.
Жалобу Беларусь адзела…
Так рана ён пакінуў нас.
Як промень нам бліснуў і згас…
Жыў гдзесь, як згнаннік,
адзінока…
Судзьба табе і не дала
Спачыць ля роднага сяла;
І хоць спачыў ад нас далёка
Ў чужым краю, ў чужой зямлі,
Там думкі нашы паплылі…
І не забудзем ця ніколі,





Хаця зышоў ты нам з вачэй.
Твой мілы верш, як той ручэй,
Улетку, звоніць нам у полі.
З краіны сумнай забыцця!
Не жалься, што "паэтам стаўся
У нашай беднай старане", –
Цяпер яна ўжо не у сне:
Свабодны промень паказаўся.
І будзе цябе ўспамінаць,
Як сына дарагога маць.

Янка Быліна.

У 1924 г. на яго магіле быў усталяваны помнік з чатырма радкамі з верша паэта "Паміж пяскоў Егіпецкай зямлі…". 20-я гады мінулага стагоддзя былі эпохай атэізму, таму стары крыж на ялцінскай магіле быў знішчаны, а на ягоным месцы з'явіўся помнік з вапняку з чырвонай зоркай, які і стаяў там да 2003 г., калі на магіле паэта быў усталяваны помнік скульптараў – бацькі, сына Льва і Сяргея Гумілеўскіх (*слайд 27*).

Усяго дзесяць гадоў доўжылася дзейнасць таленавітага сына беларускай зямлі. Але творам, якія ён паспеў падарыць народу, выпаў зайздросны лёс: да яго неўміручых радкоў усё з большай сілай цягнуцца шчырыя сэрцы людскія. Імя паэта стала адным з самых дарагіх у памяці ўдзячных нашчадкаў.

*Чытаецца верш "Ялта, Максім, кіпарысы" Я. Сіпакова.*

Творчасць Максіма Багдановіча – гэта цэлае жыццё. У зборніку "Вянок" выявіліся мары, спадзяванні паэта, пачуцці, шчырыя прызнанні ў любові да роднай зямлі. І пра што ні пісаў бы Максім – пра лёс Радзімы і народа, пра родную прыроду, каханне, – творы яго гучаць свежа, хвалююча, надзвычай прыгожа.

Роля і значэнне Максіма Багдановіча ў развіцці беларускага прыгожага пісьменства, у нацыянальным і духоўным адраджэнні беларусаў высока ацэнена нашчадкамі. Літаратурныя музеі ў Мінску, Гродне і Яраслаўлі (*слайд 28*); помнікі і мемарыяльныя дошкі ў гарадах Беларусі, Расіі і Украіны. Памяць Багдановіча шануецца, у яго гонар названы вуліцы, школы і бібліятэкі многіх гарадоў Беларусі.

Пра жыццё і творчасць Максіма Багдановіча зняты тры кінафільмы і адзін відэафільм, яго лёсу прысвечаны поп-опера Ігара Паліводы "Максім" і аперэта "Зорка Венера" Юрыя Семянякі. Многія вершы паэта пакладзены на музыку. Асобна трэба адзначыць праграму "Вянок" ансамбля "Песняры", поўнасцю складзеную з песень на вершы Максіма Багдановіча, музыку да яе напісалі Уладзімір Мулявін і Ігар Лучанок (*слайд 29*).

Вобраз паэта ўвасоблены і ў шматлікіх мастацкіх творах – карцінах, скульптурах, графіцы. А калі пішуць карціны, музыку, складаюць вершы ў гонар Максіма Багдановіча, значыць яго творчасць кранае душы людзей, а складаны лёс "бяскрыдлатага" паэта служыць для многіх прыкладам самаадданага служэння Радзіме і народу. У сэрцы кожнага беларуса жыве часцінка Багдановічавай бязмернай любові да роднай зямлі, яе маляўнічай прыроды. Таму і сёння мы зноў і зноў звяртаемся да асобы паэта, каб аддаць даніну памяці яго таленту і жыццёваму подзвігу. А самае галоўнае для творцы – гэта памяць нашчадкаў.

У задуме лес. Маўчаць бары.
Прыціхлі ў сёлах хаты –
Пяюць пра "Зорку" песняры,
"Ад родных ніў…" –
дзяўчаты.
Цябе няма – пакінуў нас,
А песні ўслед лунаюць.
І васількі ў жытнёвы час
Твае нам расцвітаюць.
Не здзейсніў мар, аб чым ты
сніў.
У свет куе зязюля:
Далёка ў Ялце ты спачыў,
А ў нас – твая матуля.
Дзе кіпарыс, дзе неба ціш,
Дзе мора шум прыбою,
З "Венерай"-зоркай ціха
спіш,
З "Вянком" пад галавою.
Штогод вяночак над табой
Сплятаюць ў небе гусі,
Калі ляцяць у вырай свой
З Радзімай Белай Русі.

Апанас Цыхун.
Максіму Багдановічу.

Усе, хто асабіста ведаў Максіма Багдановіча, успамінаюць яго як вельмі прыгожага, высокага маладога чалавека з правільнымі рысамі твару, з буйной хваляй каштанавых валасоў, з адухоўленымі то цёплымі, то задуменнымі вачыма. Такім ён застаўся назаўсёды, хоць, кажуць, ніводны з фотаздымкаў, што дайшлі да нас, нават і блізка не перадае жывой абаяльнасці паэта. Ды незвычайнае хараство жыве ў яго цудоўных творах, будзіць "светлыя згадкі", дае нам мужнасць і мудрасць.

Ён нёс свой крыж цярпліва, без ныцця.
Як самабытны, непаўторны творца,
Хоць рана згасла полымя жыцця,
Ды ўсё гарэць, не згаснуць яго зорцы.

*Гучыць песня "Зорка Максіма" ў выкананні Э. Акуліна.*

Падрыхтавала **Галіна АСТАПОВІЧ,**
галоўны бібліятэкар
аддзела абслугоўвання інфармацыі
Цэнтральнай бібліятэкі г. Шчучына.

*Аўтар ахвяруе ганарар на развіццё часопіса.*





Рубрыку вядзе
Зоя ПАДЛІПСКАЯ

# "ТВАЕ ПЕСНІ ЖЫВУЦЬ НА ЗЯМЛІ…"



Браніслаў Іосіфавіч Ермашкевіч – паэт, сябра Саюза пісьменнікаў Беларусі, намеснік старшыні Гродзенскага абласнога аддзялення ГА "СПБ". Лаўрэат прэміі Гродзенскага абласнога выканаўчага камітэта імя А. І. Дубко "За творчыя дасягненні ў галіне культуры і мастацтва" ў намінацыі "Пісьменнік года – 2008". Узнагароджаны Ганаровай граматай Гродзенскага аблвыканкама за значныя дасягненні ў галіне літаратурнатворчай і грамадскай дзейнасці. Жыве ў г. Гродна.

З Браніславам Іосіфавічам мне пашчасціла пазнаёміцца на II з'ездзе Саюза пісьменнікаў Беларусі. Ён адзін з тых людзей, ад сустрэчы з якімі становіцца хораша і светла на душы. Здзівіла і ўсцешыла рознабаковасць асобы паэта, яго багаты духоўны свет і ні з чым не параўнальны клопат і хваляванне за сваё, крэўнае, беларускае.

Магчыма, гэта ідзе яшчэ з дзяцінства, з роднага хутарочка Зялёнка, што на Барысаўшчыне, дзе 16 жніўня 1937 г. нарадзіўся паэт. А можа, з нялёгкіх вайсковых дарог? Бо будучы афіцэрам, пасля заканчэння з адзнакай Чарапавецкага ваеннага вучылішча сувязі (1961), Б. Ермашкевічу давялося служыць як у розных мясцінах былога СССР, так і за мяжой. Галоўнае, што не страцілася за гэтыя гады пачуццё еднасці з роднай зямлёй.

У 1977 г. Б. Ермашкевіч скончыў Усесаюзны юрыдычны завочны інстытут. Вярнуўся ў Беларусь у 1980 г., працаваў настаўнікам у Путрышкаўскай СШ Гродзенскага раёна.

Аўтар паэтычных зборнікаў "Надзённае" (2001), "Навучанне зямлёй" (2004), "Зямлі маёй нераўнавага" (2007).

Браніслаў ЕРМАШКЕВІЧ

### ЖУРБА ПА МАКСІМУ

У вечнасць шлях, пракладзены
з Місхора,
Хтосьць выпрастаў у ніцую струну.
Апёк агнём, душу распяў у горы
І кінуў у дубовую труну.

Сумуе па табе наш край шырокі,
Напятай цішынёй абсяг гудзе.
Дык дзе ж былі гаючыя вытокі,
Калі агонь дасяг тваіх грудзей?

Твой голас хуткакрылы і высокі
Над родным Прынямоннем летуцеў.
Прабіўся праз пярэстыя аблокі
І ў незваротны вырай адляцеў.

Усё табой пражытае затое
Запала нам у сэрца назаўжды:
У назве вуліцы – імя святое,
І ў назве дома, дзе калісьці жыў.

### ВАСІЛЬКІ
### МАКСІМУ БАГДАНОВІЧУ

На нязвыклай зямлі і чужой,
Гэткай цёплай, ды сэрцу нялюбай,
Ты спакой свой заўчасна знайшоў,
Пераможаны сілаю грубай.

У вачах тваіх промень пагас
Назаўжды дваццаць пятага мая.
І вясновай парой кожны раз
Без цябе нас твой дом сустракае.

Разышліся ад слёз берагі –
Хвалі Нёмана ўзносяць малітвы.
Наш Максім, наш зямляк дарагі,
З тваім імем навекі мы зліты.

Твае песні жывуць на зямлі,
У далёкім лунаюць Сусвеце.
Паглядзі – васількі расцвілі,
Мы прынеслі табе іх, Паэце.







# ЛІТАРАТУРА І ЧАС

*Літаратурны партрэт*

## *“МАЯ ЗЯМЛЯ – АДНА ЗАГАДКА”*

### ТВОРЧЫЯ ВАНДРОЎКІ ПАЭТА ГЕНАДЗЯ ПАШКОВА

*І што б ні рабіў я,*
*ды зноў*
*у сэрцы пульсуе адзінае:*
*аснова*
*усіх асноў –*
*Жанчына,*
*Зямля,*
*Радзіма.*

Генадзь Пашкоў – творца, якога паэзія-берагіня адорвала цудатворным уменнем слухаць зямлю, што з глыбінных нетраў нашэптвала ўлюбёнасць да гаючай празрыстай *кроплі кляновіку*, да *гравюр дарог*, да *медунічных вятроў*, да *журавінавага вострава*…

Зямное прыцяжэнне – бадай, адна з вызначальных катэгорый паэтавага мыслення, паэтавай споведзі. Думаецца, і сёння яму прымроіцца той сіні палон пад жаўруковым званочкам, калі, шукаючы бацьку на сенажаці, згубіў сцежку і заблытаўся ў сінім разліве заквітнелага лёну. Мо быў у льняной сіняй кветцы-зорцы зямны, нейкі чароўны магнетызм? Бо лён ды кужаль – існасць душы-апраткі беларуса-гаспадара, беларуса-вандроўніка. І ці не адтуль, з першага падарожжа – з калыхання блакітнага мора льняных кветак, – і пачалося спасціжэнне зямнога паўшэпту, які чуецца яму ля Чашнікаў, дзе нарадзіўся; ля Смаргоні, дзе вырас; на Палессі, дзе вандраваў не адну сотню кіламетраў; чуецца і далёка за даляглядам – у далонях усяго свету. (Менавіта так – “У далонях свету” – называецца новая паэтычная кніга Г. Пашкова, якая адрасуецца сярэдняму і старэйшаму школьнаму ўзросту.)

На радзіме ўсё – паэзія. Нарадзіўся Генадзь Пятровіч Пашкоў 23 сакавіка 1948 г. у вёсцы Малыя Ліпавічы Чашніцкага раёна на Віцебшчыне ў сям’і служачых. Хутка, на пачатку пяцідзясятых, сям’я пераехала на сталае жыхарства на Гродзеншчыну, таму дзяцінства, а пасля і ўсё юнацтва адзвінелі на смаргонскай зямлі (на сутыку з Вілейшчынай і Мядзельшчынай), на зялёным, у арабінавым абрамленні хутарку паблізу вёскі Войстам. Генадзь Пашкоў выходзіў у свет менавіта з той хаткі, вакол якой заўсёды летам шумела, як мора, жыта, раслі ясень і гнуткія рабінкі. Бацьку Г. Пашкова, Пятра Трафімавіча, скрышыла вайна, ён цяжка хварэў і найчасцей ляжаў па шпіталях. Маці, Марыі Харытонаўне, выпаў цяжкі лёс: за вайну страціла дваіх малых дзетак, у трыццаць з нечым гадоў стала ўдавой і адна падымала, ставіла на крыло траіх дзяцей. Выхоўвала іх сумленнымі, чулымі да чужога болю людзьмі.

Цяга да вандровак і сёння вярэдзіць душу паэта, і калі надараюцца падарожжы, ён пачувае сябе найбольш шчаслівым чалавекам. Гэта не раз вырывала з цёплага прытулку ды кідала ў дарогі, поўныя неўладкаванасці, нечаканых, а то і небяспечных прыгод. Найбольш запомніліся тры падарожжы-экспедыцыі на вёслах па Гарыні і Прыпяці: не проста дарога ў Прыроду, а найперш дарога да чалавечых сэрцаў, пра што паэт напісаў у лірычна-дакументальнай кнізе прозы “Палескія вандроўнікі” ды ў вершах, якія разышліся па шматлікіх зборніках.

У 1966 г. Генадзь Пашкоў стаў студэнтам Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта. Першыя вершы паэта ўбачылі свет у калектыўным зборніку “Узлёт” (1967) маладых універсітэцкіх паэтаў. Студэнцкія гады былі вясёлыя: з паездкай на цаліну, з цікавай практыкай у газетах, на радыё. Тады ўпершыню сутыкнуўся з бюракратыяй, з яе вечным імкненнем навязаць журналісту, як і пра што трэба пісаць. У 1971 г. скончыў факультэт журналістыкі. Член СП СССР з 1977 г. Працаваў на Беларускім радыё. З 1972 г. – у рэдакцыі часопіса “Полымя”; пазней – намеснік галоўнага рэдактара часопіса “Тэатральная Беларусь”. З 1989 г. – інструктар, кансультант гуманітарнага аддзела ЦК КПБ. Рэдагаваў недзяржаўную “Цэнтральную газету”. З 1996 да 2008 г. Г. Пашкоў –

галоўны рэдактар выдавецтва "Беларуская энцыклапедыя", на рахунку якога некалькі соцень фундаментальных энцыклапедычных і даведачных выданняў, якія разлічаны на дзесяцігоддзі і не паддаюцца хутказменнай кан'юнктуры часу. У кнігавыданні як галоўны рэдактар намагаўся зрабіць усё магчымае, каб праца беларускіх энцыклапедыстаў увекавечыла багаты інтэлектуальны набытак беларускага народа. Генадзь Пашкоў – паэт, публіцыст, член-карэспандэнт Міжнароднай славянскай акадэміі навук, адукацыі і мастацтва. Для яго як шматграннай асобы аднолькава блізкія і паэзія, і публіцыстыка, і кнігавыданне. З 2009 г. – першы сакратар Саюза пісьменнікаў Беларусі.

На творчым рахунку паэта каля двух дзясяткаў зборнікаў вершаў, публіцыстыкі, кніг для дзяцей, перакладной паэзіі. Генадзь Пашкоў – аўтар паэтычных кніг "Кляновік" (1975), "Дыстанцыя небяспекі" (1979), "Красный жаворонок" (Масква, 1977), "Гравюры дарог" (1981), "Зямлю слухаю" (1983), "Маналог на кастрышчы" (1986), "Крокі" (1988), "Люблю, спадзяюся, жыву…" (1990), "Журавінавы востраў" (1998), "Тваім святлом благаславёны" (2006), "Маё лета" (2011), "У далонях свету" (2011). Напісаў кнігу мастацкіх нарысаў пра новабудоўлі "Будзень як свята" (1977), лірычна-дакументальны дзённік "Палескія вандроўнікі" (1998). Выйшлі зборнікі паэзіі для дзяцей "Дзяўчынка з блакітным мячыкам" (1986), "Пціч" (1991), "Зорнае поле" (1999). Пераклаў кнігу рускага паэта Юрыя Воранава "Масты памяці" (1991). Адзін з аўтараў дакументальнага фільма "Я зямлю люблю так…". У 1998 г. стаў лаўрэатам Дзяржаўнай прэміі Рэспублікі Беларусь.

Маладога аўтара яшчэ ў сямідзясятыя гады захапляла непаўторная прыгажосць роднай прыроды, ён адчуваў усхваляванасць за *"цішыню, што дрыжыць павуцінкай"*, здзіўленне ад васілька, які *"над галавой бязвоблачным гайдаўся небам"* і *"мільярдам сонечных расінак сінее ў жыце"*. Першая кніга "Кляновік" (1975) акрэсліла вызначальны вобраз паэтавага мыслення – вобраз зямлі. Невытлумачальнае зямное прыцяжэнне акрыляла яго думку, умацоўвала пачуццё вернасці і адказнасці. І як трэба было па-сапраўднаму адчуваць жывое-роднае, каб так упэўнена, нават напорыста, праграмна сцвердзіць сваю жыццёвую заручанасць з *"зямлёй маёй, зялёнаю расінкай"*. Паэт беражліва збіраў шматфарбныя колеры і шматгалосыя гукі зямлі, бо ў ёй – зямлі – існае і крэўнае, плоцевае і ўзвышанае, трывушчае і спадчыннае. Таму Г. Пашкоў адначасова і спавядальна, і ўрачыста прызнаецца ў непарушнай знітаванасці з зямлёй-маці (верш "Зямля…"):

*Да кожнай тканачкі*
*я твой.*
*Твой боль – мой боль,*
*сухмень ці лівень.*
*Прашу цябе, зямля,*
*дазволь*
*быць каласком*
*у роднай ніве* [1, с. 3].

Схільнасць да лірычна-маляўнічага жывапісу, ахутаная асаблівай сыноўняй, грамадзянска-гаспадарскай заклапочанасцю за лёс зямлі, *"зялёнай расінкі"*, – апазнавальны знак мастацкага почырку Г. Пашкова. Так, у свой час паэтка Т. Бондар заўважыла, што "сочачы за падборкамі вершаў, якія друкуе Генадзь Пашкоў, не перастаеш любавацца сакавітымі, вельмі маляўнічымі краявідамі роднай зямлі, што нібыта ўпершыню адкрывае для цябе паэт" [2, с. 5].

Генадзю Пашкову ўласціва неўтаймаваная прага спазнання маладой нястрымнай плыні жыцця, яго ўнутранай дынамікі. Таму вершы пра замілаванне прыроднымі звабамі набываюць суровыя фарбы прадчування нейкай небяспекі, якую вяшчуе *"чырвоны жаваранак маладой трывогі"*. Трывога за захаванне зялёнай планеты – скразны матыў творчых набыткаў паэта. Так, паэма "Дыстанцыя небяспекі" скіроўвае на глыбокі роздум над лёсам непаўторна мілых гожых краявідаў:

*Штурвал не выпадзе*
*з рукі.*
*І хай надзей*
*парваны ніці –*
*трох сэрцаў*
*б'юцца жаўрукі*
*над чалавецтвам*
*у зеніце* [1, с. 175].

Неспакой за кожную травінку і за жаўрукову песню, за азёрную, мурожную цішыню і за гучны самотны рык сахатага ў дрымотным пушчанскім свеце прапускаецца праз *"маладое жаўруковае"* сэрца і набліжаецца да максімы паэта: *"Я доўга жыў, / і колькі буду жыць, / і дзе б ні жыў, / мой кут, лясны, ажынавы, / травінай кожнай буду даражыць…"* (верш "Бацькаўшчына") [1, с. 12].

Любоў да ўсяго жывога, да спадчыны, што дасталася ад дзядоў і бацькоў, элегія *жураўлінай пары* і *страчанай ракі* перарастаюць у Г. Пашкова ў тэму радзімы з яе *"шчасцем світальных дарог"*. Роднае Палессе, Сібір, рэспублікі Сярэдняй Азіі, старажытная зямля Італіі, далёкі Афрыканскі кантынент, малавядомая беларусу сонечная карэйская зямля – каардынаты далёка не ўсіх паэтычных дарог Г. Пашкова. Увогуле ж, з так званага падарожнага цыкла самыя ўдалыя, кранальныя – непасрэдныя ўражанні пабачанага-пачутага, абавязкова падмацаваныя роздумам (вершы

"Бацька Дняпро…", "Рэчка Княгінька", "Прыпяць", "Бераг", "Кедры над Прыпяццю", "Украінская песня", "Хорціца", "Ціхі акіян", "Жоўтае мора", "Дарога ў Сахары", "Партрэт Скарыны ў Падуі" і інш.).

Мастацкае слова асабліва праменіць шчырасцю і адкрытасцю душэўнага выяўлення, калі паэт вяртаецца да пачатку пачаткаў: да палескага гаркавага багуновага дурману, да салаўінай вёскі Войстам – адкуль і бярэ зёлкавыя словы. Вандроўная душа лірычнага героя ашчадна захоўвае свае карані на бацькоўскай зямлі, у *спёчна-малінавым куце*, багатым на найлепшыя казкі і песні. Тут ён гатовы ўкленчыць, пакланіцца нізка хлебадару і салаўю. Крэўная знітаванасць з вясковым светам (вершы "Млее спелае лета…", "Дарога дадому", "Сасна на выспе", "Снег юнацтва", "Сцежка юнацтва" і інш.) становіцца ягоным жыццёвым вопытам, эстэтычнай аздобай душы, узважанай асэнсаванасцю пракаветнай жытнёва-непадкупнай хатняй асновы (*"Калі ёсць сцяжыначка да раю – / гэта тая, / што вядзе дамоў"* [1, с. 24, 25]). Трывожна, шчымліва вяртае паэт чытача да парога роднага дому, да вясковага свету як святыні, дзе *"з кожным разам меней каміноў"*, дзе *"вокны цеплынёй нябёсаў / ружавеюць пад напевам вос, / быццам перакрэсленыя лёсы, / дошкамі забітыя наўскос"* [1, с. 25]. Аўтарскае светаразуменне жывіцца з прачула ўсвядомленага хатняга магнетызму, з улюбёнасці ў гэтую святыню (верш "Млее спелае лета…"):

*Вечны вандроўнік душою,*
*тут берагу карані.*
*Гукі зямныя і краскі…*
*Спёчна-малінавы кут…*
*Самыя лепшыя казкі,*
*песні найлепшыя – тут* [1, с. 37].

Паэтава апантанасць вясковай стыхіяй раствараецца ў ягонай арганічнай прылучанасці да прыроднага. Сама нерушавая прырода як адухоўленая псіхалагічная з'ява стала крыніцай жывапіснай метафорыкі паэтавага мыслення (верш "Снег юнацтва"): *"Вясна ў бярэзніку цадзіла / у вёдры / месячны блакіт"* [1, с. 38]. Таму пачуццё невымернай глыбіні жыццядайна-зямнога нясе *"сяло – бярвяная дзяржава"*. Бацькаўшчына і зямля – святое, радаводнае. Паэт вуснамі лірычнага героя выказвае сваю заручанасць з зямлёй, бярэ яе боль, прагне перамагчы гравітацыю зялёнай Зямлі (верш "Сасна на выспе"):

*І з гэтай зямлёю*
*навекі заручаны я*
*сцяблінамі жытнімі,*
*найтрывалейшымі нервамі* [1, с. 22].

Імкненне да зямных першавытокаў – не аўтарская дэкларацыя, а перш за ўсё жыццёвае крэда. *Зямля* – пракаветны адухоўлены знак, знак радаводнай памяці ў паэтавым мысленні. Вобраз Зямлі адметны неардынарным адчуваннем светласці жыцця, напоўнены свяшчэннай жыццядайнасцю. Зямное сягае ў нябеснае, лучыцца з ім на дзіва гарманічна: *"Зямля і неба… / Красамоўней / няма маўчання…"* [1, с. 38], – прачула скажа аўтар у вершы, "Снег юнацтва". Па-сапраўднаму пранікнёна ўслухоўваючыся ў подых Зямлі-карміцелькі, паэт чуе кожным нервам галасы мінулага і адвечнага. Гэта тыя галасы, якія чуйная душа памнажае на боль і смутак за *"радзімай зямлі перасолены войнамі лёс"*, за *"горкі / твой боль у сэрцы / скрозь слязу"*. Генадзь Пашкоў эмацыянальна глыбока і шматгранна ўвасобіў у паэтычным каларыце Зямлі і матчыну далонь, і зялёную расінку, і сіняе святло васілька, і лісцвяныя завеі, і подых ветру, і золата зыркіх прысад, і сябе – зямнога атожылка. Вобраз Зямлі знаходзіць індывідуальна-аўтарскае вырашэнне, нясе ў сабе вялікі сэнс абагульнення, бо, на думку творцы, *"кветкі на Зямлі / і ёсць / параненыя душы / чалавечыя"*. Неспазнавальная найвялікшая тайна Зямлі, боль за кожную яе тканку – лейтматыў усіх паэтычных кніг Г. Пашкова. Данінай сыноўняй удзячнасці першародна-зямным спадчынным вытокам служаць усхваляваныя радкі з верша "Маналог на кастрышчы":

*Мы на кастры,*
*мы на агні знішчальным.*
*І ўсіх вуглёў*
*пад травяным пластом*
*ступнёю чуем*
*жар папераджальны,*
*пакуль Зямля*
*не ўспыхнула кастром.*
*І праз Сусвет,*
*сузор'ямі што блішча,*
*палёў сабраўшы горыч і дарог,*
*на тым нязгасным*
*вусцішным кастрышчы*
*вядзём*
*зямны*
*пра вечнасць*
*маналог* [1, с. 40].

Згаданы верш – своеасаблівы зачын да шырокай гаворкі пра дзень учарашні і заўтрашні, пра ўзнясенне чалавека над паўсядзённасцю. Ведучы маналог пра вечнасць зямлі, Г. Пашкоў спасцігае ўласную радаслоўную: свой род, народ, ганарыцца якімі мае годнае права.

Утульна пачуваецца ён у кожным куточку роднай Беларусі. Тое ж Палессе палюбіў пасвойму, вельмі асабіста. Гэты чароўны мацярык, як яго называе паэт, запаланіў душу непаўторнай прыгажосцю і той багатай і асабліва дарагой для беларускай нацыі гісторыяй, якая і сёння быццам шуміць у вершалінах магутных асіл-

каў-дубоў на берагах Прыпяці. Ну і, вядома, незвычайны лёс людзей, што жывуць і жылі тут спрадвеку. Так, у вершы “Прыпяць” лірычны герой узнёсла прамовіць: *“Мая любоў / і лёс мой / Прыпяць, / калыска песень і дуброў”* [1, с. 103]. Да максімальнай душэўнай узрушанасці падлеткаў вядзе паэма “Легенда Прыпяці” (паводле аўтарскага вызначэння жанру – паляўнічае апавяданне) – узор творчага выкарыстання традыцый народнага героічнага эпасу, элементаў паганскай міфалогіі. Роспачны крык над Прыпяццю птушак-крыжанак (у якіх пераўвасобіліся душы трох дачок егера) адгукаецца і сёння пакутным рэхам заблукалай душы няшчаснага чалавека. Паданне ажывае *“пад трывожны крык птушыны”*, цеплячы спадзеў на чалавечую спагаду і літасць да жывой прыроды. Паэтызаваны прыродны свет – у духу фальклорнай традыцыі: *“Купае пушча іх расой. / Насыпле ў прыгаршчы / маліны. / Таемнай моваю лясной / апавядае ім / быліны”* [1, с. 182]. Разам з тым прасочваецца індывідуальна-аўтарскае выкарыстанне народнапесенных прыёмаў: воклічных зваротаў, памяншальна-ласкальных слоў (*“О, рэчка, рэчанька, вярні… / або дай крылы нам, / галубка”* [1, с. 184]), пераўвасаблення (дзяўчаты-крыжанкі), вобразна-псіхалагічнага паралелізму. Стрымана-мінорны тон легенды, поўнай суму і роздуму, надае твору напружана-ўсхваляваны настрой.

Паэзія для Г. Пашкова – адзін са спосабаў самавызначэння. З пяшчотнай любоўю і асцярогай вывяраючы кожнае слова, радок, думку, ён, разам з тым, грамадзянін з пэўнай жыццёвай пазіцыяй, для якога боль народа, Радзімы – уласны боль. Таму ў ягонай паэзіі арганічна спалучаецца-пераплятаецца і тонкая, вельмі чыстая лірычнасць, і грамадзянскасць. Святое разуменне Радзімы для паэта – гэта найперш невычэрпная любоў да роднай Беларусі, глыбокі філасофскі роздум пра яе лёс (верш “Жыву адзіным запаветам”):

*Радзіма!*
*Дзе пачатак?*
*Дзе выток,*
*адкуль цякуць любві зямной крыніцы?*
*Навек удзячны я за той глыток.*
*За той агонь,*
*што дорыш па іскрынцы.*
. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .
*Радзіма ўвайшла ў мяне*
*святлом,*
*вялікім,*
*бессмяротным запаветам* [1, с. 28].

Радзіма для паэта – гэта і вечна юная Прыпяць, якая коціць салаўіную песню і чысты блакіт, і рэчка Княгінька ля Заслаўя, што пырскае зорнай вадой, апавядаючы *з-пад сівых туманоў думу вешчых курганоў*, і густая мова беларусаў, багатая на дабрыню, і, урэшце, боязь *“старцам стаць душою”* (верш “Не дай мне, Божа…”). Як сказаў адзін наш цудоўны паэт, без чалавечнасці няма і вечнасці. Згодна з уласнымі эстэтычнымі сімпатыямі, творца асэнсоўвае, *“адкуль жа драпежнасць / духоўная ў нас?!”*. Паэт імкнецца дайсці да пэўных высноў аналітычным шляхам. Ягоная муза жывіцца пераважна з прывязанасці да існага зямнога цяпла, да гаючага загадкавага краю, да жывога-роднаснага, да заўтрашняга дня… У паэзіі Г. Пашкоў хутчэй лірык, чым прамоўца. Ён абуральна выступае супраць рознага кшталту прыстасаванцаў. Так, публіцыстычная паэзія патрабуе сталасці светапогляду і выразнасці ідэй. Жаданне не толькі, а можа, і не столькі вынесці прысуд, колькі заглыбіцца ў псіхалогію асобы – задача літаратуры ўвогуле. Не выключэнне і публіцыстычная паэзія, якая вымушае найбольш востра ўсвядоміць сучаснасць. Публіцыстычны радок Г. Пашкова не набыў ні ваяўнічай наступальнасці, ні празмернай дыпламатычнасці. Паэт адчувае нерв часу, і для яго непрымальны разбуральны пачатак і ў прыродным, і ў людскім свеце. Для лірычнага героя Г. Пашкова чужародны той разлік, які мяжуе са звычайнай мяшчанскай заспакоенасцю (верш “Не ўсіх падкупілі далярам”).

Сапраўды, проста сузіральнае замілаванне ўсім, што ёсць на зямлі, не ўласціва мысленню лірычнага героя паэта. Гэтае замілаванне памножанае на адкрытую несупакоенасць. Герой паэзіі Г. Пашкова і задзірыста-напорысты (верш “Высакагор’е”): (*“Мне страшна: / я толькі пясчына. / Ці хопіць выстаяць сілы?.. / Бі, камняпад, балесна: / іду на высакагор’е!”* [1, с. 16]), і асабліва абачліва-спавядальны ў спазнанні няўдач зманнага поспеху (верш “Не перапішаш лёс на чыставік…”):

*Мой лёс – мой чарнавік,*
*дзе ўсё відно,*
*дзе ўсё баліць,*
*шчыміць*
*і дакарае…* [1, с. 137].

Колькі ні было б адпушчана пражыць паэту, ён не стамляецца слухаць і любіць сваю Жанчыну. З нейкай унутранай, прыхаванай трывогай і непадробным лірызмам напісаны радкі, дзе паэтава душа далікатна кранаецца прыгожага пачуцця. Ягоны духоўны свет тчэцца то з апаленых, трапяткіх у палоне вуснаў, то з вясновага палу вачэй, то са слядоў каханай, якія шукае між розных траў. Прыгожа-ўзнёсла, панавіта вяшчуюць лагода і юначая сарамяжлівасць у гэтых самых страшных і самых салодкіх пакутах. І толькі таямнічы даверлівы шэпт перадае ўсю непасрэднасць неўтаймаванага пачуцця, калі паэт называе сваю адзіную *салодка-дзіўнай згубаю* (верш “Назвала халодным і ціхім”), *“чараціўкай тонкаю,*

*ветравой сасонкаю, крамяной журавінкаю, праменнаю расінкаю, русяваю Купалінкай, пралескай на праталінках, белаю лябёдкаю, малінаю салодкаю, самотнаю вярбінкаю, жытнёвай васілінкаю, асцінай каласовай, дачкою верасовай, мёдагалосай пчолкай, квяцінай ружы колкай, мяцеліцай юрліваю, журавіцай журліваю, калінай на марозе, ручайкай у дарозе, на цэлы свет адзіную, як шчасце гэта, дзіўную…"* [1, с. 55].

Любоў да роднай зямлі, жаданне глыбей спазнаць свой край, яго таемную прыроду – першаснова для Г. Пашкова. З прызнанняў самога ж паэта, ён, як Антэй, датыкаючыся да зямлі, набывае моц, дабрыню і чысціню. Не адно лета, а тры гады запар у час адпачынку вандраваў з сябрамі-аднадумцамі па цудоўным палескім кутку – вынікам стаў лірычна-дакументальны дзённік "Палескія вандроўнікі" (1998). У аснову кнігі пакладзены ўражанні ад плавання на вёслах па рэках Прыпяці і Гарыні. Самі ж падарожнікі назвалі свой маршрут "Дарогай Караткевіча". Бо задумка падарожжа па Прыпяцкім Палессі нарадзілася спакваля пасля згадкі суседа Г. Пашкова па лысагорскім лецішчы пра трывалы і адметны плыт, на якім калісьці вандраваў сам Уладзімір Караткевіч. Плаванне "прыпяцкіх рабінзонаў" і сталася своеасаблівым працягам падарожжа пісьменніка. Г. Пашкоў старанна занатаваў усё пабачанае падчас трох памятных вандровак па *"самай лепшай"* зямлі, што знайшло выяўленне ў трох раздзелах кнігі – "Прыпяцкая неруш", "Вяртанне", "Святло Прыгарыння". Гэта своеасаблівы аповед пра непаўторную маляўнічую палескую прыроду, пра людзей багатага лёсу, адкуль чэрпае паэт сілу і веру. Веру ў тое, што для іх – хлебадараў – будуць блаславёнымі тыя чатыры стыхіі, якія нараджаюць хлеб – сонца, вада, зямля і агонь.

У "Палескіх вандроўніках" *"галоўнае дзіва"* – людзі, або, як скажа сам паэт, *"тут сам народ / легенды варты, – / як несмяротны корань наш!"* [3, с. 103]. Гэта найперш звычайныя вяскоўцы-сяляне, рыбакі, паромшчыкі, што апавядалі пра гісторыю, паходжанне назваў тамтэйшых мясцін, а таксама пра сябе, свае нягоды і не такое ўжо і зайздроснае, адваяванае пад сонцам месца працаўніка. То людзі-дыяменты палескай зямлі (галасістая Марыя Лешчанка з вёскі Перароў, спакутаваная цётка Рома, Рома Юльянаўна Лігорская са Славінска, майстравітая брынёўская Паўліна Мікалаеўна Жураўлевіч і інш.). Далятаюць галасы маладосці дзяцей "ворагаў народа", іх пакручастага лёсу, па якім так несправядліва прайшлася гісторыя. Перад чытачом вымалёўваецца абагульнены вобраз беларускай жанчыны-маці, чыя самая паказальная грамата – спрацаваныя рукі. Як пачуваюцца гэтыя малапрыкметныя ў жыцці людзі праз віхуру імклівых гадоў, пасля беспаканага разрабавання, сярод бязладнага сёння – набалелы роздум Пашкова-дакументаліста.

Жыццёвая філасофія *"двухжыльных"* палешукоў раскашуе і ў галубіцкіх дыванах, і ў столінскім старадаўнім парку (закладзеным у 1855 г. Марыяй Радзівіл), і ў маляўнічых абдымках палескай прыроды. Вялікі сэнс і вялікую загадку нясе хараство палескай адысеі. Душа лірычнага героя акрыляецца не ад экзатычнай маляўнічасці, а менавіта ад нерушавасці пабачаных краявідаў:

*Што анёлава калыска,*
*Дзе аглух*
*савіны крык,*
*У дубах павіснуў*
*нізка*
*Срэбрачысты маладзік* [3, с. 128].

Дарожная дзея – жыццё ў іншым вымярэнні. У "Палескіх вандроўніках" аўтар адначасова і лірык, і дакументаліст. Неспатольная прага вандровак вярэдзіць душу Г. Пашкова і, разам з тым, цепліць надзею прайсці найперш па рацэ маленства (з-пад Нарачы), бо гэтай зямлі-карміцельцы ён шмат чым абавязаны. У адзіным душэўным парыве зліваюцца паэт і грамадзянін, які шчыра любіць найперш сваю легендарную зямлю і яе насельнікаў, даражыць Бацькаўшчынай і для каго няма на свеце і быць не можа лепшай зямлі (верш "Зорны павой"):

*Я пажыў даволі ў гэтым свеце.*
*І яшчэ,*
*дасць Божа,*
*пажыву.*
*Адпускаю птушкаю на вецер*
*з ціхім смуткам светлую душу.*
. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .
*У сутонні, водарам налітым,*
*прыпыню, здарожаны, хаду.*
*І да траваў хмельна-варажбітных*
*У шчаслівай стоме прыпаду…* [1, с. 97].

І ўсё ж Генадзю Пашкову блізкія душэўны аптымізм, жыццесцвярджальны пафас, часам – палемічная задзірыстасць. Ягоная паэзія – найперш ад роднай зямлі – *"то дарунак ад Зямлі і неба, / то – бальзам для цела і душы"*…

**Спіс літаратуры**

1. **Пашкоў, Г.** У далонях свету : вершы, паэмы : для сярэд. і ст. шк. узросту / Г. Пашкоў. – Мінск : Маст. літ., 2011. – 191 с.
2. **Бондар, Т.** "Толькі б мне спявалася аб родным…" / Т. Бондар // ЛіМ. – 1981. – 7 жн.
3. **Пашкоў, Г.** Палескія вандроўнікі : лірычна-дакументальны дзённік / Г. Пашкоў. – Мінск : Полымя, 1998. – 208 с.

**Аліна САБУЦЬ,**
дацэнт кафедры беларускай літаратуры
Гродзенскага дзяржаўнага ўніверсітэта
імя Янкі Купалы.

*Пошукі і знаходкі*

# ЗАМУЖАМ ЗА “АНТЫСАВЕЦКІМ АГІТАТАРАМ”

## ШТРЫХІ ДА ЖЫЦЦЯПІСУ ГАННЫ БРЭСКАЙ



“Ганна Брэская – адна з цікавейшых паэтак Полаччыны першай паловы ХХ стагодзьдзя” [2, с. 2], – напісана ў анатацыі да яе кнігі “Настурцыі” (2000). І адна з самых загадкавых – хочацца дадаць. Бо перад намі той выпадак, калі вяртанне творчай спадчыны адбылося хутчэй за вяртанне біяграфіі аўтара. Вершы, хай сабе ў невялікай колькасці, былі сабраныя ў асобнае выданне, а вось што датычыць жыццяпісу Г. Брэскай, дык тут нават укладальнік і рэдактар кнігі Алесь Аркуш шчыра дае зразумець, што ў напісанай ім прадмове не прэтэндуе на аб’ектыўную ісціну ў асвятленні жыццёвага шляху паэткі, а кіруецца хутчэй здагадкамі і гіпотэзамі: “Ганна Брэская вяртаецца. Легендай. А там, дзе легенда, там шмат розных чутак, вэрсій і інтэрпрэтацый” [2, с. 3].

Версіі выказваліся розныя і пра год, і пра месца нараджэння паэткі, і пра паходжанне, і пра адукацыю, і пра асабістае жыццё – маецца на ўвазе найперш легенда пра яе раман з маладым Петрусём Броўкам [2, с. 4 – 5], якому яна ў 1927 г. прысвяціла верш “Шчасьце горн…”. Часам прозвішча паэткі друкавалі з памылкай: *Брэсцкая*. Магчыма, такая акалічнасць і дала даследчыкам нагоду думаць, што яны маюць справу з псеўданімам [8, с. 5]. Але ж не. Брэская – прозвішча па мужу, а муж паэткі, як высветлілася, быў вядомым у колах полацкай інтэлігенцыі чалавекам, асуджаным у 1928 г. за “контррэвалюцыйную прапаганду”. “Справа Сімакова – Брэскага” № 20978-П (захоўваецца ў архіве УКДБ Віцебскай вобласці), сярод іншага, стала і каштоўнай крыніцай звестак, якімі цяпер можна дапоўніць і ўдакладніць інфармацыю, знойдзеную пра паэтку раней у архіўным фондзе “Маладняка” ў Беларускім дзяржаўным архіве-музеі літаратуры і мастацтва [6, с. 203 – 207]. І вось як выглядае жыццёвая і творчая біяграфія Ганны Брэскай на дадзены момант.

Ганна Яфрэмаўна Аўсеенка (дзявочае прозвішча паэткі) нарадзілася ў 1901 г. (паводле іншых звестак, у 1902) у маёнтку Зелькі Валынецкага раёна Полацкай акругі (цяпер вёска ў Верхнядзвінскім раёне) у сялянскай сям’і. Згаданы маёнтак месціўся ўсяго за 7 кіламетраў ад Дзісны, і, верагодней за ўсё, пачатковую адукацыю будучая паэтка атрымлівала менавіта ў гэтым горадзе. Тут яна распачала і прафесійную дзейнасць: у 18 гадоў Ганна ўжо служыла ў Дзісенскім павятовым аддзеле народнай адукацыі. Там працаваў агульны аддзел інфармацыі, куды ў верасні 1920 г. прыбыў новы загадчык – педагог і мастак, выпускнік віленскіх беларускіх курсаў Сямён Максімавіч Брэскі (1898 – ?) [5, с. 295]. Паміж маладымі людзьмі ўзнікла каханне, і калі Сямён у 1921 г. паехаў настаўнічаць у вёску Арэхаўна Каменскай воласці Лепельскага павета, дык узяў з сабой і Ганну. Праз год С. Брэскі зноў памяняў месца працы, паступіўшы інспектарам у Дрысенскі павятовы аддзел адукацыі. Тут, у Дрысе (цяпер – Верхнядзвінск), Сямён і Ганна зарэгістравалі шлюб; Ганна перайшла на мужава прозвішча. Як сведчаць дакументы, у кастрычніку 1922 г. Ганна Брэская ўдзельнічала ў Полацкай павятовай канферэнцыі РКП(б), лічылася тады членам партыі [5, с. 295], хоць праз некалькі гадоў, запаўняючы анкеты “Маладняка”, пісала сябе беспартыйнай [4, арк. 29, 36, 54].

На думку полацкай даследчыцы Надзеі Жук, менавіта актыўнасць Ганны магла абумовіць хуткі пераезд Брэскіх у Полацк у 1923 г. пасля некалькіх месяцаў жыцця ў вёсцы Росіца (цяпер Верхнядзвінскі раён). Сям’я атрымала жыллё ў былой кватэры Дзівалоўскіх па адрасе Верхні замак, д. 3 (побач з Сафійскім саборам). Маючы незакончаную мастацкую адукацыю (пачатковы клас пры Акадэміі мастацтваў у Санкт-Пецярбургу), Сямён Брэскі пачаў працаваць у Першай савецкай школе – выкладаць графіку і ручную

працу [5, с. 295]. Ганна ж засяродзілася на літаратурнай творчасці. У сакавіку 1925 г. яна была залічана ў Полацкую філію "Маладняка", пачала дасылаць творы ў перыядычныя выданні. Яе першая выяўленая публікацыя – верш "Дзед! Ямчэй нам грай на дудцы!..", змешчаны ў часопісе "Беларуская работніца і сялянка" (1925, № 4).

Друкавалася Ганна Брэская тады яшчэ мала і, напэўна, пісала пераважна ў стол. Заснавальнік і тагачасны кіраўнік Полацкай філіі "Маладняка" Алесь Дудар 11 мая 1925 г. даў паэтцы наступную характарыстыку: "Брэская Ганна. Беспартыйная. Жонка аднаго настаўніка. Піша даволі добрыя вершы па-беларуску. Але над ёю будзе яшчэ шмат працы ў сэнсе ўмацаваньня ідэолёгіі, а таксама тэхнікі" [4, арк. 54]. Што ж бянтэжыла Алеся Дудара ў плане "ідэолёгіі" – прыкладна дае зразумець верш "Сава", напісаны ў тым самым 1925 г., дзе лірычная гераіня перадае свой неспакойны стан, параўноўваючы сябе з беспрытульнаю савою. І ўсё ж паэтка здолела "ўпісацца" ў шэрагі Полацкай філіі, наведвала яе сходы і пасяджэнні [4, арк. 9, 21], на адным з якіх (27 кастрычніка 1925 г.), напрыклад, прачытала верш "Францішку Скарыне", напісаны з нагоды 400-гадовага юбілею беларускага кнігадрукавання.

У самым пачатку 1926 г. у Ганны і Сямёна нарадзіўся сын, якога назвалі Максімам – відаць, у гонар Сямёнавага бацькі. А крыху раней Брэскія пазнаёміліся з рускім паэтам Аляксандрам Сімаковым (1896 – 1938), які ў той час жыў у Полацку. На Ганну Брэскую А. Сімакоў зрабіў уражанне вельмі добрага і сумленнага чалавека. Паважліва ставіўся да яго і Сямён Брэскі, хутка ён пасябраваў з А. Сімаковым на грунце агульных поглядаў на мастацтва і паэзію і нават пачаў маляваць яго партрэт. Мастак пазнаёміў паэта з большасцю творчай інтэлігенцыі Полацка.

11 – 21 сакавіка 1926 г. А. Сімакоў напісаў паэму пад назвай "Третья" і адрасаваў яе Сямёну Брэскаму. Той быў настолькі крануты творам, што, у сваю чаргу, перапісаў яго ў сшытак з пазнакай "Посвящается Бресскому Максиму" [5, с. 295]. Паэма сапраўды робіць моцнае ўражанне эмацыйным накалам і грамадзянскай смеласцю. Яна ўяўляе з сябе лірычны маналог-роздум пра лёс Расіі, якая апынулася пад крывавай уладай бальшавікоў. У другой частцы паэмы А. Сімакоў звяртаецца непасрэдна да "друга", "живописца" Сямёна Брэскага, заклікаючы і яго да змагання (але мірнага, мастацкага) з гвалтам і несправядлівасцю: "Подумай друг – не время ль, не пора ли, / Остановить зарвавшуюся мразь… // Всему предел… Давай же, живописец, / Объявим бой… Поэт уже готов. / Меня зовут скелеты многих тысяч, / Меня зовут скелеты городов" [цыт. паводле: 5, с. 296]. Магчыма, што сяброўства вялікарускага патрыёта Аляксандра Сімакова і працаўніка на ніве беларусізацыі Сямёна Брэскага адбылося ў тым ліку і на глебе агульнага расчаравання палітыкай савецкай улады.

Разам з А. Сімаковым С. Брэскі пачаў чытаць паэму ў сяброўскіх кампаніях; яны абмяркоўвалі перспектыву публікацыі твора ў Рызе, бо на тэрыторыі Беларускай ССР гэта ажыццявіць, безумоўна, было немагчыма. Часткова дзякуючы Сямёну Брэскаму паэма распаўсюджвалася ў рукапісах, набыўшы папулярнасць у колах "правай" полацкай інтэлігенцыі. Непасрэдна ў поле зроку камуністычных улад яна тады яшчэ не патрапіла, таму А. Сімакоў працягваў жыць у Полацку, выступаць з публічнымі чытаннямі твораў і, мала таго, здзяйсняць розныя скандальныя ўчынкі. Пакуль нічога не пагражала і сям'і Брэскіх: Сямён працаваў спачатку настаўнікам выяўленчага мастацтва ў школах №№ 1, 2, 9, а потым сумяшчаў выкладчыцкую працу з пасадай загадчыка Полацкага краязнаўчага музея, куды быў прызначаны 26 снежня 1926 г. [5, с. 296]. Ганна гадавала сына і пісала вершы, публікуючы іх у полацкіх літаратурных альманахах "Наддзьвіньне" (1926) і "Росквіт" (1927), газеце "Чырвоная Полаччына" (былы "Полоцкий пахарь"), мінскім часопісе "Маладняк". Талент Г. Брэскай заўважыў Максім Гарэцкі, які ў манаграфіі «"Маладняк" за пяць гадоў (1923 – 1928)» згадаў яе сярод паэтаў, якім уласціва "найбольш асабістая лірыка" [3, с. 37].

Сапраўды, у многіх вершах паэтка адлюстроўвае асабісты душэўны стан (нярэдка – у лучнасці са станам прыроды), прычым ва ўсіх яго праявах: часам гэта радасць і захопленасць, а часам сум і журба. Крытык Макар Шалай паспяшаўся абвінаваціць аўтарку ва ўпадніцтве: «Істоту іх [вершаў Г. Брэскай] тэматыкі ня можам нічым ляпей перадаць, як маленькім эпіграфам аднаго з расейскіх рамансаў: "Отцвели и поблекли розы, и мне нечего больше желать", ці "Догорай, догорай, моя лучинушка, догорю с тобой и я". Хочацца даць Брэскай маленькую параду: не станавецеся на калені перад Есеніным, асабліва зараз, калі ваш талент яшчэ толькі пачынае фармавацца» [9, с. 70]. Аднак насамрэч для Г. Брэскай (як, між іншым, і для С. Ясеніна) сум не з'яўляецца нейкім пастаянным станам, ён можа знікнуць, калі лірычная гераіня здолее перачакаць яго (*"І калі часам – / пуста і нудна, / я маўчу, пакуль згоіцца боль"*) ці пераключыць увагу на прыгажосць навакольнай прыроды (*"Паглядзі, як у небе высокім / Зоры золатам кросны снуюць"*) альбо твораў мастацтва (*"…а песьня*

*звонам сталі / пяшчотных струн кранула перабор. / І дзесьці сум згубіўся і растаяў, / як тае лёд пад промянем вясной"*). А ў вершы "Настурцыі" (1927) – адным з найлепшых у спадчыне паэткі – сцвярджэнне прыгожага як універсальнай эстэтычнай катэгорыі і адначасова як жыццёвай каштоўнасці набывае асаблівую афарыстычнасць: *"Калі жыць і ня бачыць прыгожага, / Лепш прыгожа й раптоўна згарэць"* [2, с. 17].

На думку Алеся Аркуша, «Ганне Брэскай, паэтцы з відавочнай арыентацыяй на эстэтыку "чыстай красы", больш падыходзіла быць у шэрагах сяброў "Узвышша"» [1, с. 271], чым у "Маладняку". Аднак "Узвышша" адрознівалася сваім "акадэмізмам" і прыём у гэтую суполку быў строга абмежаваны. А вось у "Беларускую Літаратурна-Мастацкую Камуну", як ні дзіўна, улетку 1927 г. запрашалі, бо адзін з яе актывістаў Янка Відук (Скрыган) лічыў Ганну Брэскую "с а м а с т о й н а й у літаратурным сэнсе", хоць і адзначаў, што "настрой яе ня наш" [7, с. 116].

У канцы 1927 г. АДПУ ўжо ведала пра існаванне антысавецкіх твораў Аляксандра Сімакова, удзел у распаўсюдзе якіх браў Сямён Брэскі. 8 лютага 1928 г. ён быў выкліканы на допыт і, як сведчаць матэрыялы следства, адразу ж звольнены з музея і школы. 10 лютага дапыталі А. Сімакова, а 14-га абодвух сяброў арыштавалі. Па справе таксама праходзілі 18 сведкаў: сябры, паэты, рэдактар "Чырвонай Полаччыны" Сцяпан Сямашка.

Неўзабаве пасля арышту мужа Ганна Брэская апублікавала ў "Чырвонай Полаччыне" (1928, 17 сак.) верш "Сады цьвітуць…", у якім лірычная гераіня выказвала жаданне знайсці сабе новага каханага: *"Сады шумяць! / цьвітуць сады… / свабодная, свабодна ты, / пакуль сады яшчэ цьвітуць, / сабе каханага найду. / Пайду па сьцежках – / травы мяць / і буду, буду цалаваць"* [6, с. 208]. Новы каханы ў вобразе "маладога камсамольца Янкі" прысутнічае і ў вершы "Прымітыў" (1929).

Потым на два гады паэтка змоўкла, але ў 1931-м з'явілася ў друку зноў – з новай для яе лірычнай гераіняй, фабрычнай работніцай: *"Я стаю ля станка, / ўсё мацнее рука. / Шэпчуць пасы машын: / ты жыві, ты пішы…"* Змрочнае мінулае прыгадваць гераіні непрыемна: *"…Я адна… / Муж ў піўной, / муж з другой. / У калысцы галодны дзіцёнак. / А на сэрцы – / Тупы боль…"* [2, с. 23].

А муж паэткі Сямён Брэскі тым часам адбываў высылку ва Усходняй Сібіры. Спачатку, у 1928 – 1930 гг., ён жыў у горадзе Керанску, потым – у Новасібірску, дзе працаваў выкладчыкам у Першамайскай школе і мастаком у клубе металістаў. У лістападзе 1934 г. С. Брэскі атрымаў дакумент аб вызваленні і выехаў на цэнтральны руднік Цісульскага раёна, дзе да жніўня 1935 г. выкладаў у школе чарцёжную справу. У 1936 г. пераехаў у горад Сяміпалацінск Казахскай АССР. Там 15 сакавіка 1936 г. ён быў ізноў арыштаваны – гэтым разам па абвінавачванні ў шпіянажы [5, с. 299]. Дакладных звестак пра далейшы лёс С. Брэскага пакуль не выяўлена. Але, улічваючы тое, што ягоны сябар Аляксандр Сімакоў быў паўторна арыштаваны 10 лістапада 1937 г. па такім самым абвінавачванні і пазней расстраляны, можна меркаваць, што і лёс Сямёна Брэскага склаўся найгоршым чынам. І паэт, і мастак былі пасмяротна рэабілітаваныя 12 снежня 1989 г.

Як сведчаць паказанні С. Брэскага 1936 г., яго жонка Ганна па-ранейшаму працягвала жыць у Полацку, але сувязь з мужам парвала [5, с. 299]; у следчай справе яна згадваецца як "пралетарскі пісьменнік Савецкай Беларусі" – і тым не менш ніводнай яе публікацыі ні за 1932 – 1936 гг., ні пазнейшага часу пакуль не выяўлена. Біяграфія паэткі, якая цікава заявіла пра сябе ў 1920-я гг., па-ранейшаму хавае ў сабе шмат загадак і белых плям. Што ж з ёй, жонкай "ворага народа", сталася далей? *"…Разбудзіў нас фабрычны гудок. / Я стаю ля станка, ўсё мацнее рука…"* Можа, гэтыя радкі з верша "Хочацца жыць" (1931) – адзін з ключоў да разгадкі?..

**Спіс літаратуры**

1. **Аркуш, А.** Ганна Брэская : новыя факты з біяграфіі паэткі / А. Аркуш // Белорусская литература и мировой процесс : Междунар. науч. сб. / отв. ред. А. А. Гугнин. – Новополоцк : УО "ПГУ", 2005. – Вып. 1.
2. **Брэская, Г.** Настурцыі : Першая кніга паэзіі / Г. Брэская. – Полацак, 2000.
3. **Гарэцкі, М.** "Маладняк" за пяць гадоў (1923 – 1928) / М. Гарэцкі. – Менск : БДВ, 1928.
4. **Дакументы Полацкай філіі "Маладняка"** // БДАМЛМ. – Ф. 225. – Воп. 1. – Адз. зах. 13.
5. **Жук, Н. В.** Семен Бресский – педагог, художник, первый заведующий краеведческим музеем в Полоцке / Н. В. Жук // Віцебскія старажытнасці : мат. навук. канф., прысв. 50-годдзю знаходкі берасцяной граматы ў Віцебску і 150-годдзю з дня нараджэння А. Р. Брадоўскага. Віцебск, 22 – 23 кастр. 2009 г. – Мінск : Медысонт, 2010.
6. **Жыбуль, В.** Расквітацца з жаночай нядоляй : Новыя факты з біяграфіі Ганны Брэскай / В. Жыбуль // Дзеяслоў. – 2005. – № 4 (17).
7. **Жыбуль, В.** Футурыстычная мара беларусаў / В. Жыбуль // Arche. – 2008. – № 9.
8. **Маракоў, Л.** Невядомая Ганна Брэская / Л. Маракоў // Голас Радзімы. – 1999. – 14 кастр.
9. **Шалай, М.** Паэты і пісьменьнікі Полаччыны / М. Шалай // Росквіт. – 1928. – № 2.

**Віктар ЖЫБУЛЬ,**
вядучы навуковы супрацоўнік
Беларускага дзяржаўнага архіва-музея
літаратуры і мастацтва.

Ганна БРЭСКАЯ

**САВА**

Крычы, крычы сава…
У ночку чорнай восені,
Ты енкам жудасьці
Наводзіш страх.
Ня маеш ты ў жыцьці
Прытульнасьці –
Ты мне сястра.

Ізноў сканае дзень,
Заціхне ўсё наўкол…
Ахрыпшым голасам
Ты абуджаеш страх.
У чорнай цемені
Ты бачыш шмат агнёў –
Ты мне сястра.

Полацак, 1925 г.

**ЗІМОВАЕ**

Сані скрыпам прарэзалі сьнежную бель…
Эх, зьвініце ліхія бубёны!..
Вецер посьвістам сьмелым у сіняй імгле
Песьціць стан завірухі шалёнай.
Вецер стары буян горы-гурбы мяце,
Узьнімае пуховыя хвалі…
Я хачу сёньня зьнішчыць мінуўшчыны сьцень,
Расквітацца з жаночай нядоляй.
Захаваўся ў глыбокіх сьнягох небасхіл,
А мне сьняцца ружовыя далі…
Што зіма? Калі ў сэрцы цьвітуць васількі,
Калі чарамі ноч захапляе?!
Мутна-белая ноч на мярэжнай канве
Парассыпала срэбную россып…
Ну чаго так галосяць палозьзі саней,
Калі сэрца ад шчасьця зайшлося?..

[1926]

**НАСТУРЦЫІ**

**І.**

У лахмоцьцях лістоў вецер туліцца,
Плача вуліца гулам калёс.
А на вогнішчы сочных настурцый
Паразьлёгся брадзяга мароз.

І ня шкода. Няхай упіваецца
Недацьвёўшай апошняй красой.
Лепш загінуць пунсоваю раніцай,
Чым па кроплі губляць жыцьцё.

Я ня знаю, чаго плача вуліца,
Што так вецер мінорам зьвініць.

…Было лета. Цьвілі настурцыі,
Ды завялі ў імглістую стынь.

І мароз галаву сівалосую
На гарачых пялёстках пагрэў.

Калі жыць і ня бачыць прыгожага,
Лепш прыгожа й раптоўна згарэць.

**ІІ.**

А сягоньня ізноў
Чэрвень чары разьліў
І настурцый кусты разгарэліся.
Мне здавалася сном
Гэта дзіўная быль,
Новым дням захацелася верыць мне.

На пялёсткі ў крыві
Чэрвень чары разьліў,
Каб ізноў запылаць, зарумяніцца.
Каб даць поўную цьвецьь
І прыгожа згарэць
У вабнімках пунсовае раніцы.

[1927]

**НАД ВАЗЁРАМІ**

Чуць хістаюцца сінія асокі,
Над вазёрамі дымная муць.
Паглядзі, як у небе высокім
Зоры золатам кросны снуюць.

А у далях сівыя асіны
Нячуваным акордам зьвіняць,
Б'юцца вёслы ў вадзе цёмна-сіняй,
Месяц бераг ласкава абняў.

Туманы шэры змрок разасланлі…
Змоўкла ўсё, нават вецер сьціх…
Ціха к берагу човен прычаліў,
Золак раніцы ўсход асьвяціў…

[1927]

**САДЫ ЦЬВІТУЦЬ…**

Сады цьвітуць…
цьвітуць сады!..
мне у вачох зялёны дым,
зялёна-сінім паясом
вясна зьвязала гушч лясоў
і нейкім дзівам яе чар
лягла зялёная парча.

Сады шумяць!
цьвітуць сады…
свабодная, свабодна ты,
пакуль сады яшчэ цьвітуць
сабе каханага найду.
Пайду па сьцежках –
травы мяць
і буду, буду цалаваць.

Закруціць зноўку
вір жыцьця,
а думы віхрам праляцяць,
раськінуць слоў –
мядовы цьвец,
што будуць яблыньню
шумець.

г. Полацак, 1928 г.



# МОВЫ РЫСЫ НЕПАЎТОРНЫЯ



## НАЗВЫ БРАТАВАЙ У БЕЛАРУСКАЙ ДЫЯЛЕКТНАЙ МОВЕ

Да ліку дастаткова блізкіх някроўных родзічаў у беларусаў адносіцца братавая – жонка брата.

У сучасных беларускіх гаворках літаратурная форма ***бра́тавая*** пашырана ў асноўным на поўначы і паўночным захадзе краіны, г. зн. на беларуска-руска-латышска-літоўскім памежжы (гл. карту): *Мы бая́ліся, ду́малі з бра́таваю ні патра́фім* (в. Мілейкі Шаркаўшчынскага р-на; Хрэстаматыя, с. 10); *У адно́й ха́ці з бра́тавай жылі́ й ла́дзілі* (в. Судзілавічы Ушацкага р-на; Панюціч, с. 52); *Мы з бра́тавай і не по́мніцца, як ба́чыліся* (в. Беразіно Докшыцкага р-на); *Пае́хала бра́тавая* (в. Саланое Вілейскага р-на); *Бра́тавая мая́ ідзе́* (в. Вялікія Нястанавічы Лагойскага р-на); *Прыхо́дзіла да мяне́ бра́тава* (в. Дакудава Лідскага р-на; СПЗБ, т. 1, с. 213). Вядомы тэрмін ***бра́тавая*** і беларускім гаворкам на тэрыторыі Латвіі і Літвы: *Натапі́лі вуглём пе́чку, і ён умёр, а бра́таву атхваці́лі* (в. Індра Краслаўскага р-на); *Мая́ бра́тава рабі́ла пэ́пці – та́пачкі* (в. Старыя Трокі Тракайскага р-на; СПЗБ, т. 1, с. 213). Акцэнтны варыянт субстантываванага прыметніка ***братава́я*** ўжываецца ў вусным вясковым маўленні пераважна на беларуска-польскім памежжы, у наваколлях Мінска, а таксама спарадычна на Магілёўшчыне, Гомельшчыне і Брэстчыне (гл. карту): *Гэ́та пашла́ мая́ братава́я* (в. Альхоўка Навагрудскага р-на); *З на́мі жыве́ братава́я, у яе́ хло́пчык у шко́лу хо́дзіць* (в. Нагарадавічы Дзятлаўскага р-на; Сцяшковіч-72, с. 57); *Братава́я з Ручаёўкі і пагавары́ць, і пагамані́ць, і парагата́ць була́* (в. Ручаёўка Лоеўскага р-на; Янкова, с. 55); *Братава́я і заловіца в чы́стум по́лі жы́то жа́лі* (з песні; в. Галік Івацэвіцкага р-на; Хрэстаматыя, с. 294). Акрамя таго, у паасобных беларускіх гаворках сустракаецца акцэнтны варыянт ***брато́вая***, у тым ліку і на тэрыторыі Літвы (гл. карту): *Мая́ брато́ва ўжо́ заўсёды так ко́рміць сваю́ каро́ву Кра́ску, што яна́ хваста́ баі́цца* (в. Гальшаны Ашмянскага р-на; Сцяшковіч-83, с. 63); *Брат пае́хыў ды бацько́ў брато́вы* (в. Сохава Мсціслаўскага р-на; Бялькевіч, с. 91); *Брато́ва – жо́нка бра́та* (в. Гемзы Шальчынінскага р-на; СПЗБ, т. 1, с. 213).

Суфіксальны варыянт ***браці́ха*** (фанет. ***браты́ха***, ***браті́ха***, ***братэ́ха***) шырока выкарыстоўваецца найперш у гаворках поўдня Беларусі да ракі Днепр, на ўсход ад якой гэты тэрмін роднасці і сваяцтва ў дыялекталагічнай літаратуры не адзначаецца (гл. карту): *Браці́ха – дак е́та бра́тава жо́нка* (в. Гарадзец Рагачоўскага раёна); *Брато́ў нема́шака, дык атку́ль браці́хам буць?* (в. Холмеч Рэчыцкага р-на; МДСГ, т. 3, с. 196); *На́ша браці́ха там рабо́тае* (в. Дзяражычы Лоеўскага р-на; Янкова, с. 56); *От ужэ́ пов'езло́ моє́й браці́хі: такі́ дола́дны, самові́ты ў ее́ чолове́к* (в. Падварак Лельчыцкага р-на; Кучук-Малюк, с. 13); *Ме́сяцы тры пажыла́ дармо́, а по́тым браці́ха выгнала мяне́* (в. Рудня Чэрвеньскага р-на; Гілевіч, с. 20); *У браці́хі такі́ до́бры хло́пчык* (в. Кліны Бялыніцкага р-на; Яўневіч, с. 13); *Пашо́ў к мае́й браці́се* (в. Вайцяхоў Глускага р-на; Янкоўскі, т. 1, с. 43); *Мая́ браці́ха ро́біць пры тарго́ўлі* (в. Жораўкі Пухавіцкага р-на; МММГ, т. 1, с. 23); *На́ша браці́ха ве́льмі сварлі́вая* (в. Малое Малешава Жыткавіцкага р-на; ТС, т. 1, с. 81); *У мяне́ до́брая браці́ха, хадзіла з браці́хай па я́гады* (в. Ражкі Свіслацкага р-на; Сцяшковіч-72, с. 57); *Браці́ха – бра́това жо́нка* (в. Смаляніца Пружанскага р-на; СПЗБ, т. 1, с. 215); *Була́ в мэнэ́ вчо́ра браты́ха* (в. Дарапеевічы Маларыцкага р-на); *Моя́ братэ́ха вэ́льмэ хоро́ша* (в. Шэбрын Брэсцкага р-на; ДСБ, с. 24). Карыстаюцца гэтым тэрмінам і беларусы Беласточчыны (Польшча): *Пэрэговоры́ласе з браті́хою за ку́ры* (в. Курашэва Чыжэўскай гміны; СПЗБ, т. 1, с. 215). Акрамя таго, у вусным маўленні беларусаў занатаваны і два акцэнтныя варыянты гэтай назвы ***бра́ціха*** і ***браціха́***. Варыянт ***бра́ціха*** з націскам на першым

*Гэтым артыкулам завяршаецца цыкл публікацый **Паўла Міхайлава** пад рубрыкай "Род блізкі і далёкі". Разгледжаны наступныя назвы роднасці і сваяцтва ў беларускіх гаворках: бацька, маці, сын, дачка (1997); мужык, жонка, брат, сястра, дзед, баба, унукі (1998); дзядзька, цётка, пляменнік, пляменніца (1999); кумы і хрэснікі, айчым і мачаха, пасынак і падчарка (2000); гадаванцы (2001); блізняты (2002); пазашлюбныя дзеці, аднагодкі і равеснікі (2003); агульныя найменні роднасці і сваяцтва, вяселле і маладыя (2005); сям'я, зяць, нявестка (2007); цесць, цешча (2008); свёкар, свякроў, сваты (2009); дзевер, залоўка, швагер (2010).*

складзе слова выкарыстоўваецца на паўночны захад ад Мінска на беларуска-літоўскім пагранiччы і спарадычна на Гомельшчыне. Акцэнтная форма ***брацiха́*** з флексійным націскам утварае кампактны арэал на паўднёва-ўсходняй Міншчыне (Пухавіцкі, Смалявіцкі і Бярэзінскі раёны; гл. карту).

**Карта.** Назвы братавай у беларускай дыялектнай мове.




Пераважна на поўначы Віцебшчыны ў значэнні ‘жонка брата’ пашыраны словаўтваральны варыянт ***брато́ўка*** (гл. карту): *Брато́ўка ка мне прышла́* (в. Мішневічы Шумілінскага р-на; СПЗБ, т. 1, с. 214). Карыстаюцца гэтым тэрмінам і беларусы, што жывуць на сумежнай тэрыторыі Літвы: *Брато́ўка яна́ мая́* (в. Талейкі Швянчонскага р-на; СПЗБ, т. 1, с. 214); *Як прыду́ са шко́лы, то брато́ўка рабо́таць застаўля́ла* (в. Рудня Чэрвеньскага р-на; Гілевіч, с. 20).

Форма ***братаву́ха*** зафіксавана толькі ў асобных гаворках Гродзеншчыны, Міншчыны і Гомельшчыны (гл. карту): *Братаву́ха мая́ ве́льмі до́брая папа́лася, у мяне́ брат до́бры і братаву́ха* (в. Мітраполь Навагрудскага р-на; Сцяшковіч-83, с. 63); *Адны́ братаву́хі засталі́ся – Да́ніха і Але́шча; Да́ніха штонядзе́лю ў Сто́ўпцы, то барана́ прада́сць, то аве́чку, зо́лато ме́ла, а Але́шча дурно́ю і паме́рла, гро́шай ні зна́ла* (в. Савоні Стаўбцоўскага р-на; МММГ, т. 2, с. 28); *Братаву́ха бурча́ла на мяне́* (в. Азяраны Рагачоўскага р-на; СПЗБ, т. 1, с. 213).

У маўленні жыхароў Гродзеншчыны ў значэнні ‘братавая’ выкарыстоўваецца дэмінутыўная форма ***братаве́нка***: *Братаве́нка, брато́чак, а ко́лькі на́шай жызні!* (в. Вехатніца Ваўкавыскага р-на; Сцяшковіч-72, с. 57).

На ўсходзе краіны (беларуска-руска-балтыйскае пагранічча) у гэтым значэнні ўжываецца старажытны славянскі тэрмін ***ятро́ўка***, які вядомы і беларусам Літвы і Латвіі: *Ятро́ўка была́ гуля́шчая* (в. Лісна Верхнядзвінскага р-на); *Калі́ пайшлі́ за ро́дных брато́ў, то яны́ ятро́ўкі* (в. Мачаск Бярэзінскага р-на); *Залвіца – не сястрыца, ятро́ўка – не мату́ля* (прыказка; в. Солы Смаргонскага р-на); *Ятро́ўка папіла́ траву́, я́зва была́ ў яе́, і вы́лечылася* (в. Навікі Лудзенскага р-на); *Ятро́ўка прыхо́дзіцца жо́нка майго́ бра́та мае́й жо́нцы* (в. Гемзы Шальчынінскага р-на; СПЗБ, т. 5, с. 560 – 561). На Рагачоўшчыне ў гэтым значэнні занатаваны словаўтваральны варыянт ***ятро́віца***: *Ятро́віцу заву́, каб памагла́* (в. Азяраны Рагачоўскага р-на; СПЗБ, т. 5, с. 560).

Такім чынам, усе найменні братавай, што выкарыстоўваюцца ў беларускай дыялектнай мове, – славянскага паходжання.

### Скарачэнні

**Бялькевіч** – Бялькевіч І. Краёвы слоўнік усходняй Магілёўшчыны. – Мінск, 1970; **Гілевіч** – Гілевіч Ніна. Дыялектны слоўнік. – Мінск, 2005; **ДСБ** – Дыялектны слоўнік Брэстчыны. – Мінск, 1989; **Кучук-Малюк** – Кучук І., Малюк А. Палескі слоўнік: Лельчыцкі раён. – Мазыр, 2000; **МДСГ** – Матэрыялы для дыялектнага слоўніка Гомельшчыны // Беларуская мова і мовазнаўства: міжвузаўскі зборнік. – Мінск, 1975 – 1982. – Вып. 3 – 10; **МММГ** – Матэрыялы для слоўніка мінска-маладзечанскіх гаворак. – Мінск, 1970 – 1977. – Вып. 1 – 3; **Панюціч** – Панюціч К. Лексіка народных гаворак. – Мінск, 1976; **СПЗБ** – Слоўнік беларускіх гаворак паўночна-заходняй Беларусі і яе пагранічча. – Мінск, 1979 – 1986. – Т. 1 – 5; **Сцяшковіч-72** – Сцяшковіч Т. Матэрыялы да слоўніка Гродзенскай вобласці. – Мінск, 1972; **Сцяшковіч-83** – Слоўнік Гродзенскай вобласці. – Мінск, 1983; **ТС** – Тураўскі слоўнік. – Мінск, 1982 – 1987. – Т. 1 – 5; **Хрэстаматыя** – Хрэстаматыя па беларускай дыялекталогіі. – Мінск, 1962; **Янкова** – Янкова Т. Дыялектны слоўнік Лоеўшчыны. – Мінск, 1982; **Янкоўскі** – Янкоўскі Ф. Дыялектны слоўнік. – Мінск, 1959 – 1970. – Вып. 1 – 3; **Яўневіч** – Яўневіч М. З лексікі вёскі Кліны // Матэрыялы для слоўніка народна-дыялектнай мовы. – Мінск, 1960. – С. 7 – 64.

**Павел МІХАЙЛАЎ,**
кандыдат філалагічных навук.

*Праблемы перакладу*

# РАЗВІЦЦЁ ФРАНЦУЗСКА-БЕЛАРУСКАГА ПРАЗАІЧНАГА ПЕРАКЛАДУ Ў ДАВАЕННЫ ПЕРЫЯД

У артыкуле аналізуюцца тэндэнцыі развіцця перакладу на беларускую мову франкамоўнай мастацкай прозы ў даваенны перыяд. Адзначаецца, што развіццё французска-беларускага празаічнага перакладу залежала галоўным чынам ад палітычнай сітуацыі ў краіне і характарызавалася нераўнамернасцю росту якасных (максімум у 1926 – 1933 гг.) і колькасных (максімум у 1937 – 1938 гг.) паказчыкаў. Дэманструюцца значныя змены ў суадносінах перакладу з арыгінала і перакладу праз пасрэдніцтва рускай мовы: гады вострай канкурэнцыі абедзвюх формаў (1926 – 1933 гг.) саступаюць месца часу татальнага панавання непрамога перакладу (другі квартал 1936 г. – першая палова 1941 г.). Робіцца таксама выснова, што слабая прадстаўленасць прамога перакладу ў 1920 – 1941 гг. абумоўлівае невысокі патэнцыял даваенных беларускіх перакладаў французскай прозы для супастаўляльна-перакладазнаўчых даследаванняў.

**Ключавыя словы:** *мастацкі пераклад, франкамоўная проза, беларускі пераклад, даваенны перыяд, якасць перакладу, французскі арыгінал, прамы пераклад, непрамы пераклад.*

The article deals with the trends in the evolution of translating the French-language prose into Belorussian before the Second World War. It is pointed out that the development of the French-Belorussian literary translation depended mainly on political situation in the country and was characterized by an uneven growth of qualitative (the maximum in 1926 – 1933) and quantitative (the maximum in 1937 – 1938) indices. Important changes in the ratio of direct translations to indirect ones are revealed: the stiff competition between both forms (1926 – 1933) gave place to the complete preponderance of the indirect translation (from the second quarter of 1936 to the first half of 1941). It is also concluded that the little spread of the direct translations in 1920 – 1941 causes a low potential of the interwar French-Belorussian prose translations for contrastive translation studies.

На працягу XX і ў першае дзесяцігоддзе XXI ст. зроблена вялікая праца па перадачы на беларускую мову твораў французскай літаратуры. Не выклікае сумнення культурная значнасць дадзеных літаратурных набыткаў. Перад беларускім пераклада- і літаратуразнаўствам паўстае задача асэнсавання назапашанага вопыту перакладной рэцэпцыі франкамоўнай мастацкай літаратуры, бо акрамя артыкула Б. Міцкевіча [1] няма больш-менш значных прац, дзе аналізаваліся б мастацкія пераклады з французскай мовы на беларускую ў гістарычным аспекце.

Вывучэнне лексічных, граматычных, стылістычных пытанняў французска-беларускага перакладу павінна быць падрыхтавана папярэднім выяўленнем, сістэматызацыяй і перыядызацыяй перакладзеных тэкстаў. Неабходна дакладна вызначыць: што, кім, калі, дзе і як (непасрэдна з арыгінала, з дапамогай падрадкоўніка ці праз пасрэдніцтва трэцяй мовы) перакладалася. Асаблівую важнасць мае апошні аспект, бо пераклады на беларускую мову часта рабіліся не прама з французскага аўтэнтыка, а праз рускі пераклад, прычым не заўсёды гэта адкрыта прызнавалася беларускімі перакладчыкамі. Даследаванне прынцыпаў, спосабаў і асаблівасцей перадачы розных лексічных, граматычных і стылістычных феноменаў павінна весціся на базе параўнальнага аналізу арыгінальных французскіх тэкстаў і прамых беларускіх перакладаў.

Мэта дадзенага артыкула – выяўленне тэндэнцый развіцця перакладу франкамоўнай мастацкай прозы на беларускую мову ў даваенны перыяд і ацэнка патэнцыялу беларускіх перакладаў французскай прозы гэтага часу для супастаўляльна-перакладазнаўчых даследаванняў.

Пераклады франкамоўнай мастацкай прозы на беларускую мову з'явіліся толькі пасля Кастрычніцкай рэвалюцыі – пазней за пераклады французскай паэзіі: яшчэ да 1913 г. 22 санеты П. Верлена загучалі па-беларуску ў перадачы М. Багдановіча (праўда, толькі два з іх былі надрукаваны да рэвалюцыі), ёсць звесткі пра незахаваныя пераклады французскіх вершаў, выкананыя ў XIX ст. А. Абуховічам.

Першым французскім празаічным творам, апублікаваным у перакладзе на беларускую мову, была аповесць "У Сурацкай кавярні" Б. дэ Сен-П'ера (Вольны сцяг, 1920, № 1, с. 7 – 9). Перакладчыца (А. Рэзэнбэрг) карысталася не арыгінальным французскім тэкстам, а рускім перакладам. Пра гэта сведчыць яе заўвага, што аповесць узятая са зборніка Л. Талстога.

У наступныя гады (1921 – 1924) пераклады французскай прозы ў Беларусі не друкаваліся (не толькі асобнымі выданнямі, але і ў перыёдыцы). Паводле звестак Н. Ватацы [2, с. 142], у той час Дзяржаўнае выдавецтва БССР наогул не выпусціла на беларускай мове ніводнай перакладной мастацкай кнігі. Прычыны гэтага трэба бачыць у цяжкім сацыяльна-эканамічным, палітычным і культурным становішчы Савецкай Беларусі, зруйнаванай доўгімі гадамі бесперапынных ваенных дзеянняў. Толькі першае (сакавік 1924 г.) і другое (снежань 1926 г.) узбуйненні БССР, наданне беларусізацыі статусу афіцыйнай дзяржаўнай палітыкі (ліпень 1924 г.), інтэнсіўнае развіццё асветы і паступовае аднаўленне разбуранай народнай гаспадаркі стварылі неабходныя ўмовы для пашырэння выдавецкай дзейнасці ў Савецкай Беларусі. Першая перакладная французская кніга ("Нябожчыкі Каму-

ны" А. Арну ў перакладзе С. Музыкі) з'явілася ў 1925 г. у Клімавічах – на землях, далучаных да Савецкай Беларусі паводле першага ўзбуйнення БССР. Як паказвае супастаўляльны аналіз беларускага і рускага тэкстаў, пераклад быў зроблены з рускай мовы.

Першыя пераклады французскай прозы, выкананыя непасрэдна з арыгінала, з'явіліся ў Заходняй Беларусі. У снежні 1926 г. – студзені 1927 г. віленская газета "Сялянская ніва" надрукавала апавяданні "Сакрэт дзядзькі Карніля" А. Дадэ (перакладчык схаваўся за крыптанімам *Я. Ц.*), "Вярнуўся" Г. дэ Мапасана і "Паводка" Э. Заля (абедзве навелы ў перакладзе *Л. М.*). Названыя творы былі сабраны разам і выпушчаны практычна без змен у 1927 г. у Вільні асобнай кнігай (выданне таварыства "Пагоня"). На гэтую падзею адгукнуўся віленскі грамадска-культурны і літаратурна-мастацкі часопіс "Родныя гоні" (1927, № 3): у рубрыцы "Кнігапіс" адзначалася высокая якасць перакладу Я. Ц., у той час як пераклады Л. М. былі рэзка раскрытыкаваны. Безапеляцыйна сцвярджалася, у прыватнасці, што Л. М. слаба ведае беларускую мову. Такая ацэнка падаецца надта катэгарычнай і тлумачыцца, як можна меркаваць, адкрытай канфрантацыяй паміж часопісам "Родныя гоні" і газетай "Сялянская ніва". Пераклады Л. М. сапраўды ў пэўнай ступені саступаюць перакладу Я. Ц., але абвінавачванні Л. М. у дрэнным валоданні беларускай мовай не маюць пад сабой дастатковага грунту. Некаторыя (даволі рэдкія) русізмы, ужытыя перакладчыкам, абумоўлены, відавочна, неўнармаванасцю беларускай літаратурнай мовы 1920-х гг., незавершанасцю працэсу яе кадыфікацыі. Хутчэй можна казаць пра недасканалае валоданне Л. М. французскай мовай, што часам і прыводзіла да зацямнення сэнсу напісанага. Возьмем, напрыклад, урывак з апавядання Мапасана: *Ля хаты шырокі як хустка і абгароджаны сад, з катораға выглядалі агуркі, цыбуля, капуста, пятрушка, алені ліст.* З'яўленне ў беларускім тэксце не зусім зразумелага выразу *шырокі як хустка* тлумачыцца нераспазнаваннем фразеалагічнага характару французскага кампаратыўнага звароту *large comme un mouchoir* 'вельмі малы' і, як вынік гэтага, літаральным спосабам яго перадачы. (Параўн. з перакладам С. Мурашкі 1987 г.: *Да ганка прыткнуўся маленькі, з лапік, агарод, дзе расце цыбуля, некалькі качаноў капусты, пятрушка і цьмянец. Жываплот адгароджвае яго ад дарогі* [3, с. 222].) Нягледзячы на пэўныя хібы, пераклады Л. М. і Я. Ц. унеслі бясспрэчны ўклад у развіццё беларускай культуры, яны захоўваюць сваю літаратурную каштоўнасць і сёння.

Можна меркаваць, што пераклад навелы "Сакрэт дзядзькі Карніля" не стаў аб'ектам крытыкі з боку часопіса "Родныя гоні" не толькі дзякуючы свайму аб'ектыўна высокаму ўзроўню, але і таму, што Я. Ц. супрацоўнічаў з гэтым перыядычным выданнем. У чацвёртым выпуску "Родных гоней" змешчана перакладзеная ім навела "Козачка пана Сэгэна" А. Дадэ. У беларускім тэксце прапушчаны звароты да паэта Грэнгуара ў пачатку і канцы твора, але казачная фабула пакінута цалкам. У рубрыцы "Свая пошта" рэдакцыя часопіса пісала да Я. Ц.: "Прысланыя пераклады добрыя, надрукуем у дальшых кніжках". Але ў наступных двух нумарах (апошніх, якія паспелі выйсці) пераклады Я. Ц. апублікаваны не былі.

У часопісах і газетах Савецкай Беларусі ў 1927 – 1928 гг. шырока друкаваліся ў перакладзе на беларускую мову творы і ўрыўкі з твораў вядомага французскага пісьменніка-камуніста Анры Барбюса. Асаблівай папулярнасцю карысталіся апавяданні са зборніка "Faits divers" ("Падзеі"). Пераважная большасць перакладаў зроблена з рускай мовы і характарызуецца нізкай якасцю. Трэба адзначыць дрэннае веданне перакладчыкамі (прозвішчы якіх, дарэчы, не называюцца – хутчэй за ўсё, гэта былі штатныя супрацоўнікі рэдакцый) як беларускай, так і рускай моў, а таксама фармальна-механічны, нятворчы характар іх дзейнасці. У якасці кур'ёзу можна згадаць, напрыклад, што апавяданне "La contagion" ("Пошасць") атрымала ў беларускім перакладзе (Беларускі піянер, 1928, № 17, с. 13 – 14) загаловак "Сусветная паветрыя". Гэта тлумачыцца, відавочна, неадэкватным успрыманнем рускай назвы твора "Моровое поветрие" ў перакладзе Л. Валынскага, змешваннем паронімаў *моровой* і *мировой*. У хуткім часе паўстала пытанне пра выпуск кнігі "Faits divers" на беларускай мове асобным выданнем. У часопісе "Полымя" (1928, № 7) паведамлялася, што зборнік у перакладзе Ю. Зэмеля (пад назвай "Розныя здарэнні") ужо здадзены ў друк [4, с. 206]. Кніга выйшла ў Беларускім дзяржаўным выдавецтве, але ў 1929 г. і ў перакладзе не Ю. Зэмеля, а Н. Белякоўскай. Магчыма, выдавецтва адмовілася ад друкавання перакладу Ю. Зэмеля з прычыны яго нізкай якасці. Нагадаем, што іншы пераклад Ю. Зэмеля (раман "Адзіная справядлівая вайна" І. Бехера) трапіў пад агонь крытыкі Кузьмы Чорнага, які ў артыкуле "Небеларуская мова ў беларускай літаратуры" дакараў перакладчыка за няўважлівае стаўленне да мовы, ужыванне вялікай колькасці небеларускіх слоў і выразаў [5, с. 178].

Даследчык Б. Міцкевіч выказаў меркаванне, што пераклад Н. Белякоўскай ажыццёўлены непасрэдна з арыгінала, з французскага выдання 1928 г., бо беларуская назва кнігі – літаральны пераклад французскай, у той час як рускі пера-

клад зборніка названы інакш – “Правдивые повести” [1, с. 185]. Аднак супастаўляльны аналіз французскага аўтэнтыка, рускага перакладу С. Парнок 1929 г. і беларускага перакладу Н. Белякоўскай паказвае, што беларуская перакладчыца карысталася французскім і рускім тэкстамі прыкладна ў аднолькавай ступені. У беларускім перакладзе выяўляюцца шматлікія тэкстуальныя супадзенні з рускай версіяй, якія выходзяць за рамкі заканамерных адпаведнасцей паміж арыгінальным французскім і перакладнымі тэкстамі. Возьмем, напрыклад, сказ з апавядання “Адзін забойца? Не, не адзін, а тысячы”: *Le mot argotique zigouiller employé par le commandant Mathis, est comme une façon de pirouette verbale pour éviter de montrer exactement l'opération de boucherie qu'il racontait* [6, p. 73]. Беларускі пераклад: *Спецыфічнае слова “чыкнуць”, ужытае маёрам Матысам, з'яўляецца слоўным піруэтам, за якім хаваецца сапраўднае імя тае дзікае аперацыі, аб якой ён апавядаў* [7, с. 66]. Рускі пераклад: *Специфическое словцо “чикнуть”, употребленное командиром Матисом, является своего рода словесным пируэтом, пущенным в ход во избежание точного обозначения той зверской операции, о которой он рассказывал* [цыт. па перавыданні: 8, с. 39 – 40].

Неабгрунтаванае адмаўленне Н. Белякоўскай ад рэгулярнай адпаведнасці *argotique – жаргонны, аргатычны* абумоўлена, відавочна, сляпым капіраваннем рускага тэксту. Запазычаны і іншыя (далёка не бясспрэчныя) рашэнні С. Парнок: *zigouiller – чикнуть – чыкнуць, comme une façon de pirouette verbale – своего рода словесным пируэтом – слоўным піруэтам, l'opération de boucherie – той зверской операции – тае дзікае аперацыі.* Але часам Н. Белякоўская выпраўляе недакладнасці рускага перакладу. У прыведзеным сказе гэта адэкватная перадача слова *commandant* як *маёр*, а не *камандзір*; іншы прыклад з таго ж апавядання: *à une toute autre espèce d'hommes* [6, p. 72] – *к совсем особой породе людей* [8, с. 39] – *да зусім іншае пароды людзей* [7, с. 65]. Часцей, аднак, змены, якія ўносіць Н. Белякоўская, вядуць да зніжэння ступені сэнсавай і стылістычнай адпаведнасці.

Выпуск на беларускай мове “Розных фактаў” не застаўся незаўважаны ў літаратурным асяроддзі. У водгуку на гэтую кнігу А. Мардвілка і В. Маракоў, высока ацэньваючы сам твор А. Барбюса, адзначалі слабае знаёмства перакладчыцы з беларускай мовай, перагружанасць перакладу русізмамі, ужыванне неўласцівых беларускай мове дзеепрыметнікаў і недастатковую працу стыльрэдактара. Як станоўчы момант у перакладзе заўважалася наяўнасць прыгожых і вобразных стылістычных зваротаў [9, с. 158]. Такую ацэнку можна прызнаць у цэлым справядлівай. Тым не менш трэба падкрэсліць, што праца Н. Белякоўскай вызначаецца больш высокім узроўнем, чым зробленыя праз пасрэдніцтва рускай мовы газетныя і часопісныя пераклады.

У 1931 г. у Беларускім дзяржаўным выдавецтве выйшаў яшчэ адзін буйны твор А. Барбюса – кніга “Расія”. Пераклад з французскага арыгінала 1930 г. зрабіў К. Даўкша, вядомы таксама як перакладчык з нямецкай мовы. Варта заўважыць, што і сёння няма ні ўкраінскага, ні поўнага рускага перакладу гэтага твора (на рускай мове ў часопісе “Иностранная литература” ў 1967 г. апублікаваны толькі апошні з васямнаццаці раздзелаў кнігі). Гэта сведчыць як пра самастойны характар працы перакладчыка, так і пра пэўную ініцыятыўнасць у тагачаснай дзейнасці Беларускага дзяржаўнага выдавецтва.

Кніга “Расія” А. Барбюса не лёгкі аб'ект для перакладу. У гэтым творы французскі пісьменнік, апісваючы нацыянальна-спецыфічныя рэаліі Савецкай краіны, для кампенсацыі лексічнай безэквівалентнасці ўжывае французскія словы і выразы, якія толькі прыблізна перадаюць змест савецкіх культурна-маркіраваных адзінак. Таму перад беларускім перакладчыкам стаяла задача дакладна вызначыць, якія прадметы, з'явы, паняцці савецкай рэчаіснасці меў на ўвазе А. Барбюс, і адэкватна перадаць іх сродкамі беларускай мовы. К. Даўкша ў цэлым паспяхова справіўся з гэтымі праблемамі. Пераклад вызначаецца добрай беларускай мовай. Часам, аднак, літаральнасць перадачы французскіх выразаў вядзе да парушэння нармальнай сінтаксічнай спалучальнасці беларускіх слоў і зацямнення сэнсу напісанага. Нягледзячы на пэўныя хібы, якасць перакладу кнігі “Расія” трэба прызнаць для таго часу даволі высокай. Выданне твора “Расія” А. Барбюса – значнае дасягненне ў сферы беларускага мастацкага перакладу, якое, побач з перакладамі А. Мардвілкі з англійскай, Л. Цвяткова, А. Бабарэкі, П. Бузука, К. Даўкшы і А. Дыліса з нямецкай мовы, сведчыць пра хуткае развіццё ў Савецкай Беларусі празаічнага перакладу з заходнееўрапейскіх моў у другой палове 20-х – пачатку 30-х гг., пра разуменне найлепшымі перакладчыцкімі кадрамі неабходнасці не апасродкаванага, а прамога перакладу літаратурных твораў.

У гэтую ж лінію ўпісваецца выпушчаны ў 1933 г. Дзяржаўным выдавецтвам Беларусі раман “У Па-дэ-Кале наймаюць рабочых” І. Поль. Пераклад з французскага арыгінала (гэта адзначана на тытульнай старонцы кнігі) выкананы В. Мінкевіч і Е. Кармалітавай. Ён характарызуецца добрай беларускай мовай.

Апошнім творам, які выйшаў на беларускай мове ў прамым перакладзе з французскай

у тыя гады, стала камедыя “Жаніцьба Фігаро” П. А. дэ Бамаршэ (пачатак 1936 г.). Пераклад зроблены вядомым беларускім пісьменнікам Алесем Дударом. Пераклады А. Дудара з французскай (яшчэ былі апублікаваны ў яго перакладзе вершы “Зорка” А. Мюсэ і “Белая кукарда” П. Ж. Беранжэ), з нямецкай і іншых моў – маладаследаваная старонка творчасці пісьменніка.

*Заканчэнне будзе.*

**Спіс літаратуры**


1. **Мицкевич, Б. П.** Французская литература в белорусских изданиях и переводах / Б. П. Мицкевич // Учен. зап. Сер. филол. / Белорус. гос. ун-т им. В. И. Ленина. – Минск, 1956. – Вып. 27. – С. 181 – 199.
2. **Ватацы, Н.** Літаратура народаў СССР у перакладах на беларускую мову : (Бібліяграфічны агляд за 1932 – 1935 гг.) / Н. Ватацы // Полымя рэвалюцыі. – 1936. – Кн. 7. – С. 140 – 153.
3. **Мапасан, Г. дэ.** Вяртанне / Г. дэ Мапасан; пер. з франц. С. Мурашка // Навелы / Г. дэ Мапасан; [уклад. і камент. С. Шупы]. – Мінск, 1987. – С. 221 – 228.
4. **Хроніка беларускае культуры** // Полымя. – 1928. – № 7. – С. 206 – 219.
5. **Чорны, К.** Небеларуская мова ў беларускай літаратуры / К. Чорны // Узвышша. – 1928. – № 5. – С. 173 – 183.
6. **Barbusse, H.** Faits divers / H. Barbusse. – Paris : Ernest Flammarion, [1928]. – 283 p.
7. **Барбюс, А.** Розныя факты / А. Барбюс; пер. з франц. мовы Н. Белякоўскай. – Менск : Беларус. дзярж. выд-ва, 1929. – 204 с.
8. **Барбюс, А.** Собрание сочинений / А. Барбюс. – Изд. 2-е. – М.; Л. : Гос. изд-во, 1930. – Т. 3 : Правдивые повести / пер. с фр. С. Я. Парнок. – 191 с.
9. **Армак, В.** [Рэцэнзія] / В. Армак // Полымя. – 1930. – Кн. 3. – С. 157 – 158. – Рэц. на кн. : Барбюс, А. Розныя факты / А. Барбюс; пер. з франц. Н. Белякоўскай. – Менск : Беларус. дзярж. выд-ва, 1929. – 204 с.
10. **Маракоў, Л.** Рэпрэсаваныя літаратары, навукоўцы, работнікі асветы, грамадскія і культурныя дзеячы Беларусі, 1794 – 1991 : энцыкл. давед. : [у 10 т.] / Л. Маракоў. – Мінск : [ATHENÆUM], 2003 – 2007.
11. **Мішчанчук, М. І.** Лявонны Юрка / М. І. Мішчанчук // Энцыклапедыя літаратуры і мастацтва Беларусі : у 5 т. – Мінск, 1986. – Т. 3. – С. 322 – 323.
12. **Руска-беларускі слоўнік** / Акад. навук БССР, Ін-т літ., мастацтва і мовы; пад рэд. А. Александровіча. – Менск : Выд-ва Акад. навук БССР, 1937. – XVI, 496 с.


**Павел ЛАМАКА,**
аспірант кафедры агульнага і рускага
мовазнаўства Беларускага дзяржаўнага
педагагічнага ўніверсітэта імя Максіма Танка.

*Артыкул паступіў у рэдакцыю 15.08.2011.*

## КАЛЯНДАР ПАМЯТНЫХ ДАТАЎ І ЮБІЛЕЙНЫХ ДЗЁН на 2012 год

ЛЮТЫ

**2 лютага** – 110 гадоў з дня нараджэння Станіслава Грынкевіча (1902 – 1945), публіцыста, грамадска-палітычнага і культурнага дзеяча

**3 лютага** – 100 гадоў з дня нараджэння Яўхіма Кохана (1912 – 1993), паэта. З 1977 г. жыў у Расіі

**4 лютага** – 125 гадоў з дня нараджэння Фабіяна Шантыра (1887 – 1920), публіцыста, празаіка, паэта, перакладчыка, грамадскага дзеяча. Пісаў на беларускай, рускай і польскай мовах

**10 лютага** – 130 гадоў з дня нараджэння Франца Умястоўскага (1882 – 1940), празаіка, паэта, публіцыста

70 гадоў з дня нараджэння Алега Чыркуна, кампазітара

**11 лютага** – 205 гадоў з дня нараджэння Напалеона Орды (1807 – 1883), піяніста, кампазітара, педагога, музычнага пісьменніка, мастака

60 гадоў з дня нараджэння Людмілы Паўлікавай (дзявочае Хейдарава), паэткі

**12 лютага** – 110 гадоў з дня нараджэння Васіля Лапіна (1902 – 1991), беларускага і расійскага спевака, заслужанага артыста Беларусі

90 гадоў з дня нараджэння Васіля Палійчука (1922 – 2002), скульптара

80 гадоў з дня нараджэння Івана Яшкіна, мовазнаўцы

75 гадоў з дня нараджэння Алеся Наўроцкага, паэта, празаіка

70 гадоў з дня нараджэння Генадзя Буралкіна, скульптара, графіка

**13 лютага** – 110 гадоў з дня нараджэння Сымона Хурсіка (1902 – 1972), празаіка, перакладчыка

100 гадоў з дня нараджэння Уладзіміра Карпава (1912 – 1977), літаратуразнаўцы, крытыка, празаіка

100 гадоў з дня нараджэння Ганны Панкрат (1912 – 1995), актрысы, заслужанай артысткі Беларусі

**14 лютага** – 120 гадоў з дня нараджэння Уладзіміра Пірадава (1892 – 1954), дырыжора, педагога, народнага артыста Казахстана і Украіны. У 1948 – 1950 гг. – галоўны дырыжор і мастацкі кіраўнік Дзяржаўнага тэатра оперы і балета Беларусі

105 гадоў з дня нараджэння Алеся (Пятра) Звонака (1907 – 1996), паэта, драматурга, перакладчыка, тэатразнаўцы

75 гадоў з дня нараджэння Міхася Стральцова (1937 – 1987), празаіка, паэта, перакладчыка, крытыка

**15 лютага** – 110 гадоў з дня нараджэння Ханона Шмелькіна (1902 – 1977), цымбаліста, заслужанага артыста Беларусі

100 гадоў з дня нараджэння Навума Перкіна (1912 – 1976), літаратуразнаўцы і крытыка, празаіка

90 гадоў з дня нараджэння Паўла Чабаненкі, дырыжора, педагога, заслужанага артыста Беларусі

80 гадоў з дня нараджэння Аляксандра Салаўёва (1932 – 1986), рускамоўнага паэта

80 гадоў з дня нараджэння Мікалая Якавенкі (1932 – 2006), скульптара

75 гадоў з дня нараджэння Валянціна Рабкевіча (1937 – 1995), паэта, перакладчыка, мовазнаўцы

**16 лютага** – 110 гадоў з дня нараджэння Рыгора Мурашкі (1902 – 1944), празаіка, крытыка

*Заканчэнне на с. 76.*

*Малады даследчык прапануе*

# СТРУКТУРНА-СЕМАНТЫЧНАЯ ХАРАКТАРЫСТЫКА СЛОВАЎТВАРАЛЬНЫХ ГНЁЗДАЎ ПОЛІСЕМАНТЫЧНЫХ НАЗОЎНІКАЎ

## ЛЕКСІКА-СЕМАНТЫЧНАЯ ГРУПА "РАСЛІНЫ"

У артыкуле ўпершыню ажыццёўлена спроба комплекснага аналізу СГ з мнагазначнымі назоўнікамі-вяршынямі ЛСГ "Расліны" ў беларускай мове з мэтай выяўлення дэрывацыйна-семантычнай структуры словаўтваральнага гнязда; прасочаны механізм семантычнай пераемнасці на ўсіх ступенях дэрывацыі дадзеных СГ; вызначаны семантычныя сувязі дэрыватаў усіх указаных СГ з кожнай з вяршынь. У ходзе аналізу пацвярджаецца тэзіс аб тым, што ў рамках словаўтваральных гнёздаў полісемантычных назоўнікаў, якія ўваходзяць у ЛСГ "Расліны", існуе сувязь іх членаў з кожнай з вяршынь на семным узроўні і праяўляюцца асаблівасці механізму семаўтварэння, у прыватнасці – семантычная пераемнасць дэрыватаў ад вяршыннага слова, актуалізацыя або рэдуцыраванне яго асобных ЛСВ у семантычнай структуры вытворных слоў.

**Ключавыя словы:** *структурна-семантычная характарыстыка, словаўтваральнае гняздо, полісемант, лексіка-семантычная група, дэрывацыя, вытворнае слова.*

In this article there is the first attempt of the complex analysis of the semantic group with the polysemantic noun-tops of the lexico-semantic group "Plants" in the Belarusian language in order to reveal the derived-semantic structure of the derivational nest is made; the mechanism of semantic succession at all levels of the derivation of the given semantic groups is retraced; the semantic links of the derivates of all the mentioned semantic groups with every top are established. In the course of the analysis the following thesis is corroborated: within the scope of the derivation nests of polysemantic nouns included in the lexico-semantic group "Plants", there is a coherence of their members and every top at the level of seme and the peculiarities of the mechanism of seme-formation reveal, in particular – semantic succession if the derivates from the top-word, actualization or reduction its separate lexico-semantic variant in the semantic structure of the derivative words.

У сучаснай лінгвістыцы адносіны *чалавек – расліны* даследаваліся неаднаразова. Тым не менш, нягледзячы на пільную ўвагу да лексікі, што адлюстроўвае фітасферу як частку жыцця чалавека, шэраг праблем у яе вывучэнні застаецца. Сярод іх сутнасць, характар, фарміраванне семантыкі адпаведных лексічных адзінак у рамках словаўтваральнага гнязда, разгляд механізму семантычнай пераемнасці, які адлюстроўвае моўную карціну свету носьбітаў мовы.

Мэта дадзенага даследавання – вылучэнне структурна-семантычных асаблівасцей словаўтваральных гнёздаў (СГ) назоўнікаў-полісемантаў лексіка-семантычнай групы (ЛСГ) "Расліны" ў беларускай мове, а таксама выяўленне спецыфікі рэалізацыі семантычнай структуры лексемы – вяршыні гнязда на розных узроўнях дэрывацыі.

За аснову пры адборы полісемантычных назоўнікаў ЛСГ "Расліны", а таксама пры фарміраванні СГ мы ўзялі "Тлумачальны слоўнік беларускай мовы" [4].

Намі былі прааналізаваны 153 словаўтваральныя гнёзды з вяршынямі – полісемантычнымі назоўнікамі, якія ўваходзяць у ЛСГ "Расліны". У выніку аналізу дадзеных СГ мы прыйшлі да высновы, што вытворныя ў СГ са шматзначным базавым словам існуюць на шасці ўзроўнях дэрывацыі. З пункту гледжання структуры сярод прааналізаваных СГ ЛСГ "Расліны" мы вылучылі наступныя тыпы:

- патэнцыйныя (тып "гняздо-слова") – 17 СГ;
- двухслоўныя (роўныя словаўтваральнай пары; СП) – 38 СГ;
- ланцужковыя (роўныя словаўтваральнаму ланцужку; СЛ) – 13 СГ;
- веерныя (уяўляюць адну СП, у якую могуць уваходзіць ад двух да шасці кадэрыватаў) – 34 СГ, пераважаюць двухчленныя СП;
- дрэвападобныя (маюць разгалінаваную структуру з некалькіх СЛ і СП) – 51 СГ.

Намі былі выяўлены 72 СГ з адной СП (сюды ўвайшлі двухслоўныя і веерныя СГ) і 64 СГ з некалькімі СП (дрэвападобныя і ланцужковыя СГ). Відавочна, што шматзначнасць назоўнікаў – вяршынь СГ ЛСГ "Расліны" абумовіла ўзнікненне СГ са складанай, разгалінаванай структурай.

У сінтагматычным плане даследаваныя СГ можна ахарактарызаваць па колькасці кампанентаў у складзе СЛ – як бінарныя, так і палінарныя. Так, СГ, якія складаюць СЛ, маюць два або тры кампаненты. Часцей за ўсё сустракаюцца СЛ з двух кампанентаў (74%), СГ, арганізаваных як палінарныя словаўтваральныя ланцужкі, мала (26%). Такім чынам, асаблівасцю СГ з полісемантычным назоўнікам-вяршыняй ЛСГ "Расліны" можна лічыць больш значную прадстаўленасць у іх бінарных словаўтваральных ланцужкоў, чым палінарных. У склад СЛ ва ўсіх разгледжаных выпадках увайшлі адносныя прыметнікі, якія размяшчаюцца на другім узроўні дэрывацыі і ўтвараюцца з дапамогай прадуктыўных суфіксальных фармантаў *-ав-, -ов-, -ев-, -н-* (*размарын → размарынавы, пачулі → пачулевы, алыча → алычовы, дыня → дынны* і г. д.). Такія вытворныя словы звычайна дэманструюць высокую словаўтваральную актыўнасць на на-

**Табліца 1.** Вытворныя ў складзе СГ ЛСГ "Расліны".

| Часціна мовы | 1-ы ўзровень дэрывацыі | 2-і ўзровень дэрывацыі | 3-і ўзровень дэрывацыі | 4-ы ўзровень дэрывацыі | 5-ы ўзровень дэрывацыі | 6-ы ўзровень дэрывацыі | Усяго |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Назоўнікі | 251 | 103 | 4 | 1 | 2 | 2 | 363 |
| Прыметнікі | 191 | 47 | 1 | 0 | 2 | 0 | 241 |
| Дзеясловы | 11 | 7 | 6 | 4 | 0 | 0 | 28 |
| Прыслоўі | 1 | 1 | 0 | 0 | 0 | 0 | 2 |

**Табліца 2.** Тыпы словаўтваральных значэнняў (СЗ) вытворных назоўнікаў СГ ЛСГ "Расліны".

| Тып словаўтваральнага значэння | 1-ы ўзровень дэрывацыі | 2-і ўзровень дэрывацыі | 3-і ўзровень дэрывацыі | 4-ы ўзровень дэрывацыі | 5-ы ўзровень дэрывацыі | 6-ы ўзровень дэрывацыі | Усяго |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Мутацыйнае | 119 | 82 | 2 | 0 | 0 | 0 | 203 |
| Мадыфікацыйнае | 53 | 16 | 1 | 0 | 0 | 0 | 70 |
| Транспазіцыйнае | 0 | 5 | 0 | 1 | 2 | 2 | 10 |
| Злучальнае | 39 | 0 | 0 | 0 | 0 | 0 | 39 |
| Змешаны тып | 40 | 0 | 0 | 0 | 0 | 0 | 40 |

ступных узроўнях дэрывацыі: яны, у сваю чаргу, з'яўляюцца ўтваральнымі для субстантыўных вытворных. Ва ўсіх вызначаных намі выпадках лексемы, што знаходзяцца на другім узроўні дэрывацыі, утвараюцца шляхам субстантывацыі і абазначаюць класы або віды раслін: *міртавы → міртавыя, эбенавы → эбенавыя* і г. д. Дадзеныя субстантывы выкарыстоўваюцца ў навуковым або ў размоўным стылях і часцей за ўсё вылучаюцца нулявой словаўтваральнай актыўнасцю: звычайна яны апошнія ў СЛ.

Аналіз цікавых для нас СГ у парадыгматычным аспекце паказаў, што ў склад СГ можа ўваходзіць ад 1 да 10 СП, размешчаных на розных узроўнях словаўтварэння:

• 82% – гэта СГ, якія складаюцца з 1-2 СП (*абрыкос, ажына, алыча, агурок, капуста, мірабель, саксаул, імбір, кардамон* і г. д.);

• 12% – гэта СГ, якія складаюцца з 3-4 СП (*куст, лаўр, асіна, бяроза, сандал, хвоя, жыта, каноплі, мак, хмель, арэх* і г. д.);

• 6% – гэта СГ, якія складаюцца з 5 – 10 СП (*дрэва, дуб, чай, бавоўна, грыб, збожжа, лён, бульба, бурак*; самую вялікую колькасць СП мае полісемант *дрэва*).

Найбольшая колькасць вытворных знаходзіцца на першым (454) і другім (158) узроўнях дэрывацыі. На трэцім узроўні словаўтваральная актыўнасць істотна зніжаецца (11), чацвёрты ўзровень прадстаўлены 5 вытворнымі, пяты – 4 вытворнымі, шосты – 2 вытворнымі словамі. Размеркаванне вытворных у разгледжаных СГ на розных узроўнях дэрывацыі ў адпаведнасці з іх часцінамоўнай структурай адлюстравана ў табліцы 1.

Колькасная характарыстыка часцінамоўнага складу аналізаваных гнёздаў сведчыць, што ў іх структуры самы шматлікі субстантыўны блок, г. зн. словаўтваральны патэнцыял назоўнікаў-полісемантаў, якія ўваходзяць у ЛСГ "Расліны", на ўсіх узроўнях дэрывацыі перш за ўсё рэалізуецца ў кірунку субстантыўных вытворных.

На чатырох узроўнях дэрывацыі прадстаўлены ад'ектыўны блок. Дзеясловы ўтвараюцца на першых чатырох узроўнях дэрывацыі (асабліва актыўна – на першым), прыслоўі – на першым і другім.

Кампаненты субстантыўнага блока ў структуры даследаваных парадыгмаў па характары словаўтваральных значэнняў, што рэалізуюцца ў іх, з'яўляюцца сінтаксічнымі і лексічнымі дэрыватамі (гл. табліцу 2).

Сярод вытворных з мутацыйным словаўтваральным значэннем найбольш актыўна ўтвараюцца назоўнікі з дапамогай аманімічнага суфікса *-нік-*, якія абазначаюць 'сукупнасць раслін' (31; *асіна → асіннік*), 'асоба' (1; *грыб → грыбнік*), 'посуд' (3; *салат → салатнік*); субстантывацыі са значэннямі 'від расліны' (29; *бярозавы → бярозавыя, букавы → букавыя*), 'памяшканне' (1; *бульбяная*); *-ств-* (10; *вінаградар → вінаградарства*); *-ішч-* (13; *бульбяны → бульбянішча*); універбацыі – суфікс *-к-* (11; *анісаўка, цярноўка*). Менш актыўна мутацыя выражаецца ў вытворных з фармантамі *-няк-* (6; *грабняк, вішняк*), *-ніц-* (3; *салатніца*), *-шчык-* (3; *чайханшчык*), *-оўнік-* (3; *бавоўнік*) і г. д. Усе гэтыя фарманты найбольш прадуктыўныя на першым узроўні дэрывацыі.

Цікава, што вытворныя назоўнікі са значэннем асобы (nomen agentis) галоўным чынам утвараюцца складанасуфіксальным спосабам (змешаны тып СЗ), прычым найбольш прадуктыўны ў дадзеным выпадку нулявы суфіксальны фармант (12; *чаявод, бавоўнароб, тытунявод, хмелявод*). Такія дэрываты характарызуюцца высокай словаўтваральнай актыўнасцю і ў некаторых выпадках могуць фарміраваць уласную СП.

Значэнне неадушаўлёнага вытворцы дзеяння (nomen pacientis) у асноўным выражаюць назоўнікі, пабудаваныя шляхам чыстага складання (10; *лёнакамбайн, бавоўнасушылка*), складання з суфіксацыяй (16; *каноплецерабілка, лёнатрапалка*). Значэнне працэсуальнасці адзначана ў складаных (19; *лёнаўборка, збожжапастаўка*) і складанасуфіксальных (11; *чаяпіцце, буракасеянне*) дэрыватах.

Таксама ў субстантыўным блоку мы выявілі вялікую колькасць вытворных са злучальным СЗ. Яны ўтвараюцца шляхам чыстага складання і абазначаюць 'від расліны' (7; *хмеляграб, лаўравішня* і г. д.), 'памяшканне' (5; *бульбасховішча, лёнакамбінат* і г. д.), 'рэчыва' (3; *лёнавалакно, лёнатраста*) і інш. Акрамя таго, сюды ўваходзяць і складанасуфіксальныя ўтварэнні (чыстае складанне ідзе ў спалучэнні з мутацыйным, якое ўносіць суфікс).

Сярод вытворных з мадыфікацыйным СЗ найбольш актыўна ўтвараюцца назоўнікі з наступнымі значэннямі:

• суб'ектыўна-ацэначнае (33): *рэпка, гарбузік, бурачок, ельнічак, жытцо, жыцейка*;

• 'адзінкавасць' (23): *пярчынка, цыбуліна, грушына, ранетка*;

• стылістычная мадыфікацыя (5): *кава, бярэзіна, імберац, збажына*;

• 'асоба жаночага полу' (5): *чаеўніца, лёнацерабільшчыца, кукурузаводка*;

• 'сукупнасць' (2): *кустоўе, дуб'ё.*

У асноўным вытворныя з мадыфікацыйным СЗ суб'ектыўнай ацэнкі ўтвараюцца на першым узроўні дэрывацыі, далей іх колькасць з кожным дэрывацыйным крокам памяншаецца – такія вытворныя маюць нізкі словаўтваральны патэнцыял. Адзначым, аднак, што некаторыя з дадзеных вытворных з суб'ектыўнай ацэнкай з'яўляюцца адлюстраванымі полісемантамі, якія адсылаюць да ўсіх ЛСВ назоўніка-вяршыні.

Дэрываты з мадыфікацыйным СЗ, якія абазначаюць адзінкавыя аб'екты або іх сукупнасць, таксама прадстаўлены на першым узроўні дэрывацыі і адлюстроўваюць моўную апазіцыю "адзінкавасць / множнасць". Вытворныя словы, што называюць асоб жаночага полу, з'яўляюцца на другім, радзей – трэцім узроўнях дэрывацыі і ў пяці разгледжаных выпадках фарміруюць уласную словаўтваральную парадыгму вытворных намінацый ад лексем, якія абазначаюць асоб мужчынскага полу (*кукурузавод → кукурузаводка, льноцерабільшчык → льноцерабільшчыца* і г. д.). Такія вытворныя маюць нізкую словаўтваральную актыўнасць і звычайна з'яўляюцца завяршальным звяном словаўтваральнага ланцужка.

Назоўнікі з транспазіцыйным СЗ прадстаўлены слаба, паколькі гаворка ідзе пра адыменныя СГ. Тым не менш найбольш актыўна транспазіты ўтвараюцца з дапамогай суфіксаў *-асць-* (5; *адубеласць, дубаватасць*) і *-нн-* (5; *адраўненне, адзервяненне*). Цікава, што практычна ва ўсіх адзначаных намі выпадках nomina actionis выступаюць выключна як сінтаксічныя дэрываты (маюць толькі працэсуальнае або якаснае значэнне).

У ад'ектыўным блоку, другім па колькасці ў даследаваных СГ, мы вызначылі не толькі ўласна прыметнікі, але і нешматлікія дзеепрыметныя ўтварэнні (3), якія пры ад'ектывацыі набываюць статус асобнай лексемы. Усе вытворныя ад'ектыўнага блока – лексічныя дэрываты. Найбольш актыўна прыметнікі ўтвараюцца з дапамогай прадуктыўных агульнаадносных інварыянтных суфіксаў *-ав- / -ев- / -ов-* (126) і *-н-* (61), яны выражаюць агульнае значэнне 'прымета, якая мае дачыненне да таго, што названа ўтваральным словам'. Гэтыя фарманты часта далучаюцца да адной і той жа ўтваральнай асновы. Словаўтваральнае значэнне шырокіх недыферэнцаваных адносін, уласцівае такім вытворным, пашырыла іх магчымасці набываць усе адценні значэнняў зыходнага слова [часцей за ўсё вытворныя ад'ектыўнага блока адлюстроўваюць усе лексіка-семантычныя варыянты (ЛСВ) вяршыні-полісеманта].

Акрамя таго, некаторая частка прыметнікаў утвараецца шляхам чыстага складання (11) і складанасуфіксальным спосабам (9). Такія ад'ектыўныя вытворныя таксама рэалізуюць агульнае значэнне аднесенасці да прадмета, які названы ўтваральным словам, з канкрэтызаваным значэннем у другім кампаненце складанага ўтварэння. Канкрэтызацыя абмяжоўвае пашырэнне семантыкі зыходнага слова: усе адзначаныя намі дэрываты са злучальным СЗ (або ў спалучэнні з мутацыяй) – монасеманты, якія звычайна належаць да першага значэння вяршыні СГ.

Дзеяслоўны блок, трэці па колькасці ў даследаваных СГ, уяўляе набор вытворных, утвораных рознымі спосабамі. Найбольш рэгулярна ўтвараюцца постфіксальныя дзеясловы (12). Што датычыцца суфіксальных вытворных, то іх у даследаваных СГ зафіксавана 11. Прэфіксальна-суфіксальных утварэнняў адзначана 2. Постфіксальныя, прэфіксальна-постфіксальныя і суфіксальна-постфіксальныя дэрываты адзінкавыя.

У працэсе аналізу лексем мы ўлічвалі трыванне дадзеных дэрыватаў. Практычна ўсе адсубстантыўныя дзеясловы, якія ўтвараюцца на першым (12), другім (1) і трэцім (2) узроўнях дэрывацыі шляхам суфіксацыі і канфіксацыі, адносяцца да аднатрывальных і з'яўляюцца дзеясловамі незакончанага трывання. Большасць дадзеных дэрыватаў маюць прэфіксальныя вы-

**Табліца 3.** Семантычная характарыстыка дэрыватаў СГ ЛСГ "Расліны".

| Семантычная характарыстыка дэрыватаў | 1-ы ўзровень дэрывацыі | 2-і ўзровень дэрывацыі | 3-і ўзровень дэрывацыі | 4-ы ўзровень дэрывацыі | 5-ы ўзровень дэрывацыі | 6-ы ўзровень дэрывацыі | Усяго |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Полісеманты | 196 | 7 | 0 | 0 | 0 | 0 | 203 |
| Монасеманты, якія накіроўваюць да першага значэння ўтваральнага | 155 | 96 | 10 | 5 | 5 | 2 | 273 |
| Монасеманты, якія накіроўваюць да другога значэння ўтваральнага | 83 | 45 | 1 | 0 | 0 | 0 | 129 |
| Монасеманты, якія накіроўваюць да трэцяга значэння ўтваральнага | 20 | 7 | 1 | 0 | 0 | 0 | 28 |

творныя. Пры гэтым падчас далучэння прыстаўкі ўтвараюцца дзеясловы закончанага трывання, што спрыяе выкарыстанню зыходнага дзеяслова ў значэнні незакончанага трывання і часам можа прыводзіць да ўтварэння трывальнай пары [3, с. 592]. Большая частка прэфіксальных вытворных – гэта дэрываты, якія абазначаюць стан (*адубець, адзеравянець, здзеравянець*).

Адвербіяльны блок нешматлікі, складаецца з двух адсубстантыўных прыслоўяў (*дубам, дубка*). Абодва дэрываты ўтвораны ад назоўніка *дуб* шляхам адвербіялізацыі, яны выражаюць агульнае значэнне 'акалічнаснай прыметы ў адносінах да таго, што названа ўтваральным словам' і сумяшчаюць у сваім значэнні ўласцівае ўтваральнаму назоўніку значэнне прадметнасці са значэннем прыслоўя як часціны мовы [1, с. 345].

Асаблівасцю разгледжаных СГ дадзенай ЛСГ з'яўляецца тое, што вяршыня кожнага з паказаных гнёздаў – полісемантычны назоўнік. Нашай задачай было прасачыць механізмы семаўтварэння пры фарміраванні семантыкі вытворных у СГ з улікам усіх ЛСВ базавых слоў. Вынік аналізу рэалізацыі семантыкі ўтваральнага слова ў працэсе з'яўлення вытворнага адлюстраваны ў табліцы 3.

З табліцы 3 вынікае, што ў большасці выпадкаў назіраецца паралельная праекцыя асобных ЛСВ утваральнага на значэнне вытворнага: з агульнай колькасці разгледжаных дэрыватаў 68% вытворных лексем з'яўляюцца монасемантамі, і толькі ў 32% выпадкаў адзначана полісемія.

Полісеманты прадстаўлены адноснымі прыметнікамі (92%) і назоўнікамі з мадыфікацыйным суб'ектыўна-ацэначным значэннем (8%). Ад'ектыўныя дэрываты найбольш актыўна ўтвараюцца на першым узроўні дэрывацыі, мадыфікаты – на першым і другім узроўнях. Нягледзячы на адлюстраваную лексічную шматзначнасць, такія назоўнікі маюць даволі нізкі словаўтваральны патэнцыял і не даюць вытворных на іншых дэрывацыйных узроўнях. Што датычыцца прыметнікаў, то іх вытворныя, як правіла, губляюць адзін з ЛСВ утваральнага (*дубяны → дубянець, анісавы → анісаўка*) за кошт канкрэтызацыі значэння з дапамогай фарманта і становяцца монасемантамі. Акрамя таго, у шматлікіх выпадках назіраецца з'яўленне новых ЛСВ за кошт фразеалагічнага нарашчэння – "семантычнага кампанента, што адсутнічае ў значэнні ўтваральнай асновы ці словаўтваральнага фарманта" [2, с. 11].

Найбольш монасемантаў, якія адсылаюць да першага значэння вяршыні (43%). Яны маюць дастаткова высокі словаўтваральны патэнцыял, асабліва на першых двух узроўнях словаўтварэння, і характарызуюцца самай высокай словаўтваральнай актыўнасцю – існуюць на ўсіх узроўнях дэрывацыі. Менавіта ў дадзенай групе дэрыватаў намі былі адзначаны выпадкі множнай матывацыі (8), унутрыгнездавой аманіміі (5) і полікарэлятыўнасці – накіраванасці рознымі значэннямі да розных утваральных (1). Монасеманты, якія накіроўваюць да другога значэння ўтваральнага, прадстаўлены на першых трох узроўнях дэрывацыі. Асаблівасцю дадзенай групы лексем можна назваць наяўнасць дзеясловаў (64% ад агульнай колькасці) і прыслоўяў (50%). Адметная рыса монасемантаў, якія накіроўваюць да трэцяга ЛСВ вяршыні СГ, – метафарычнасць іх значэння: дадзеныя лексемы характарызуюцца цеснымі ўзаемаадносінамі з утваральнымі, якія абумоўлены гіпера-гіперанімічнай і гіпера-гіпанімічнай сувяззю.

Такім чынам, вытворныя полісемантычных назоўнікаў ЛСГ "Расліны" асвойваюць семантыку вяршыні ў розным аб'ёме. Менш за палову (32%) вытворных СГ фарміруюць сваю семантыку, базуюцца на двух-трох ЛСВ вяршыні і характарызуюцца адлюстраванай або частковай полісеміяй. Большая частка вытворных СГ (68%) асвойвае адно значэнне вяршыні (ЛСВ1) або фарміруе сінкрэтычнае значэнне з адценняў ЛСВ1 і ЛСВ2 (што сведчыць пра іх блізкасць).

Наш аналіз структуры і семантыкі СГ назоўнікаў-полісемантаў, якія належаць да ЛСГ "Расліны", дазваляе зрабіць наступныя высновы.

1. Невытворныя полісемантычныя назоўнікі ЛСГ "Расліны" фарміруюць СГ рознай структу-

ры і складанасці. Аднак сярод іх дамінуюць дрэвападобныя СГ (33,3%), што звязана са шматзначнасцю вяршынь СГ. У сінтагматычным плане прааналізаваныя СГ характарызуюцца большай прадстаўленасцю бінарных словаўтваральных ланцужкоў (84%), чым палінарных (26%). Аналіз адсубстантыўных СГ у парадыгматычным аспекце паказаў, што ў склад СГ можа ўваходзіць ад 1 да 10 СП, размешчаных на розных узроўнях словаўтварэння.

2. Вялікую ролю пры семаўтварэнні вытворных слоў адыгрывае спосаб словаўтварэння, словаўтваральнае значэнне і часцінамоўная прыналежнасць дэрыватаў названых СГ. Назоўнікі-полісеманты ЛСГ "Расліны" маюць значны словаўтваральны патэнцыял у галіне субстантыўнага словаўтварэння (57%), менш рэгулярнае ўтварэнне ад'ектыўных (38%) і дзеяслоўных (4%), зусім нерэгулярнае – утварэнне адвербіяльных (1%) лексем.

3. Семантычны аб'ём вяршынь-полісемантаў у пераважнай большасці выпадкаў цалкам уключаны ў фарміраванне значэнняў усіх вытворных – членаў СГ на розных узроўнях дэрывацыі. Часцей за ўсё гэтыя значэнні адлюстроўваюць праекцыі ЛСВ1 кожнай з вяршынь, сцвярджаючы тым самым яго галоўную ролю ў эпідыгме. Акрамя таго, даследаванне вытворных СГ ЛСГ "Расліны" выявіла агульныя заканамернасці іх семантычнага развіцця ў залежнасці ад узроўню дэрывацыі. Па меры паглыблення гнязда памяншаецца аб'ём лексічнага значэння, павялічваецца аб'ём граматычнага значэння, памяншаецца разнастайнасць тыпаў семнай сувязі вытворных і ўтваральных. Семантыка вяршынь засвойваецца вытворнымі ў розным аб'ёме. Менш за палову (32%) вытворных СГ фарміруюць семантыку, базуюцца на двух-трох ЛСВ вяршыні і характарызуюцца адлюстраванай або частковай полісеміяй. Большая частка вытворных СГ (68%) засвойвае адно значэнне вяршыні (ЛСВ1) або фарміруе сінкрэтычнае значэнне з адценняў ЛСВ1 і ЛСВ2 (што паказвае на іх блізкасць).

**Спіс літаратуры**


1. **Беларуская граматыка** : у 2 ч. – Мінск : Навука і тэхніка, 1985. – Ч. 1.
2. **Грошева, Т. Н.** Словообразовательные гнезда "бедный", "богатый" в современном русском языке : семантический аспект : автореф. дис. … канд. филол. наук : 21.02.01 / Т. Н. Грошева, Вятск. гос. гуман. ун-т. – Киров, 2009.
3. **Русская грамматика** : в 2 т. – М. : Наука, 1980. – Т. 1.
4. **Тлумачальны слоўнік беларускай мовы** : у 5 т. – Мінск : БелСЭ, 1977 – 1984.



**Ірына ХАХЛОВА,**
аспірантка кафедры рускай мовы
філалагічнага факультэта БДУ.


*Артыкул паступіў у рэдакцыю 18.04.2011.*

*Малады даследчык прапануе*

# БЕЛАРУСКІЯ І АНГЛІЙСКІЯ ФРАЗЕАЛАГІЗМЫ СА ЗНАЧЭННЕМ 'ПЕРАМЯШЧЭННЕ Ў ПРАСТОРЫ'

## ПАРАЎНАЛЬНА-СУПАСТАЎЛЯЛЬНЫ АСПЕКТ


Артыкул прысвечаны параўнальна-супастаўляльнаму аналізу беларускіх і англійскіх фразеалагізмаў са значэннем 'перамяшчэнне ў прасторы'. Выяўлены агульныя характарыстыкі перамяшчэння: яно ацэньваецца моўцам, з'яўляецца антрапацэнтрычным і адносным, успрымаецца зрокава, адлюстроўвае інстынкты чалавека, дэманструе беларускія і англійскія сацыякультурныя ўстаноўкі, існуе непарыўна з часам і прасторай. Ідэаэтнічная асаблівасць вербалізацыі кінетычных прасторавых адносін у англійскай лінгвакультуры – напрамак руху, які дазваляе максімальна хутка пераадолець пэўную адлегласць да аб'екта. У якасці вобразнай асновы беларускіх фразеалагізмаў выступаюць феномены фальклору, што прыводзіць да міфалагізацыі і сакралізацыі кінетычных прасторавых адносін у беларускай лінгвакультуры.



**Ключавыя словы**: *кінетыка, ідыёма, лінгвакультура, антрапацэнтрызм, фальклор, міфалагізацыя, сакралізацыя.*



The article is devoted to the comparative analysis of Belarusian and English idioms with the meaning 'movement in space'. The general characteristics of the movement are: it is anthropocentric and relative, evaluated and visually perceived by the speaker, inseparably connected with time and space, reflects the innate instincts of man and represents Belarusian and English socio-cultural traditions. The British idioethnic feature of kinetic spatial relations is the direction of movement that allows a person to cover a certain distance quickly. The imaginative basis of the Belarusian idioms are folklore and pagan phenomena which leads to mythologization and sacralization of kinetic spatial relations in the Belarusian linguaculture.


Прастора – адна з форм існавання матэрыі, катэгорыя культуры, фрагмент карціны свету. Прасторавыя адносіны бываюць кінетычнымі (перамяшчэнне), статычнымі (лакалізацыя) і тапалагічнымі (геаметрыя). Перамяшчэнне аб'екта ў прасторы як адзін з тыпаў кінетычных прасторавых адносін знаходзіць сваё адлюстраванне на розных моўных узроўнях, адным

з якіх выступае фразеалагічны. Фразеалагічныя сродкі са значэннем ‘перамяшчэнне ў прасторы’ аналізаваліся ў працах Ю. Архангельскай, А. Баранава, Д. Дабравольскага, Н. Сабуравай, Г. Саўчук (руская мова), П. Рэдзіна (украінская мова), А. Аксамітава (беларуская мова). У супастаўляльным аспекце фразеалагічныя адзінкі (ФА) са значэннем ‘перамяшчэнне аб’екта’ вывучаліся М. Ігнацьевай (руская і англійская мовы), І. Нікіцінай (англійская, руская і татарская мовы) і інш.

Беларускія другасныя сродкі намінацыі кінетычных прасторавых адносін у супастаўленні з іншымі мовамі пакуль не станавіліся прадметам аналізу лінгвістаў. Таму ўяўляецца актуальным даследаваць беларускія і англійскія фразеалагізмы з гэтым значэннем у параўнальна-супастаўляльным аспекце, што дасць магчымасць выявіць суадносіны ўніверсальнага і ідэаэтнічнага ва ўспрыманні перамяшчэння беларусамі і англічанамі.

Перамяшчэнне аб’екта – рух, звязаны з пераадоленнем межаў пэўнай прасторы. Яго можна апісаць пры дапамозе наступнага набору канцэптуальных паказчыкаў: удзельнікі руху, рух, фазавасць, сродак, асяроддзе, характар, інтэнсіўнасць ці хуткасць, траекторыя, напрамак, пачатковы і канчатковы пункты перамяшчэння [2, с. 4; 12, с. 57]. Метадам суцэльнай выбаркі з беларускіх і англійскіх фразеалагічных слоўнікаў [1; 3; 4; 6; 7; 8; 9] было вылучана 406 беларускіх і 476 англійскіх фразеалагізмаў са значэннем ‘перамяшчэнне ў прасторы’. Параўнальна-супастаўляльны аналіз іх семантыкі дазволіў выявіць агульнае і ідэаэтнічнае ў рэпрэзентацыі кожнага канцэптуальнага паказчыка перамяшчэння.

**Суб’ект і аб’ект перамяшчэння.** У беларускай і англійскай фразеасістэмах асноўны суб’ект і аб’ект перамяшчэння – чалавек (95% ФА). Толькі 5% беларускіх і англійскіх ФА спалучаюцца з такімі суб’ектамі, як жывёлы (бел. *таўчы мак* ‘мітусіцца ў паветры плоймай, клубком; пра рух камароў, мошак’, англ. *run her file* ‘бегаць, блытаючы сляды; пра зайца’), механізмы (англ. *to go like a dream* ‘хутка ехаць; пра машыны’), маса ці паток (бел. *як з вядра*, англ. *rain cats and dogs* ‘ліць як з вядра’). Гэта пацвярджае гіпотэзу пра антрапацэнтрычнасць перамяшчэння ў беларускай і англійскай лінгвакультурах.

**Фазавасць перамяшчэння.** Пад фазавасцю маецца на ўвазе пачатак, працяг і канец працэсу перамяшчэння (2 групы):

• **пачатак перамяшчэння – канец перамяшчэння.** У гэтай групе назіраецца значная колькасная перавага ФА са значэннем ‘прыпынак перамяшчэння’ (61 бел. і 60 англ. ФА) над ФА са значэннем ‘пачатак перамяшчэння’ (5 бел. і 10 англ. ФА). Прыпынак руху можа быць выкліканы моцнымі эмоцыямі, стрэсам (бел. *як укопаны*, англ. *as if rooted to the spot* ‘як укопаны’), прыманнем гарызантальнага становішча цела з-за падзення (бел. *з капытоў далоў*, англ. *come a cropper* ‘зваліцца з каня ўніз галавой’), вычарпальнасцю рэсурсаў арганізма (бел. *на нагах не трымацца*, англ. *be ready to drop* ‘валіцца з ног’);

• **прыход, прыезд, з’яўленне – адыход, ад’езд, знікненне.** У падгрупе “прыход, прыезд, з’яўленне” 53 беларускія і 56 англійскіх фразеалагізмаў. Аналіз іх семантыкі паказвае, што ў абедзвюх лінгвакультурах з’яўленне ці прыход без папярэджання ці запрашэння непажаданы і ўспрымаецца моўцам адмоўна: бел. *нялёгкая гоніць каго*, англ. *darken someone's door(s)* ‘з’яўляцца без запрашэння’. У беларускай мове негатыўная канатацыя падобных ФА ўзмацняецца адмоўнымі фальклорнымі вобразамі, звязанымі са смерцю, хваробай, беднасцю: бел. ***ліха** нясе каго*, ***нялёгкая** гоніць каго*, ***нячыстая** гоніць* (*прыгнала*) *каго*, ***нячысцік** нясе каго*, ***халера** прынесла каго.* У англійскіх ФА гэтай падгрупы адмоўная канатацыя ўзнікае за кошт колеравай сімволікі: англ. *darken somebody's door* з дзеясловам *darken* ‘зацямняць, рабіць цёмным’.

У падгрупе “адыход, ад’езд, знікненне” 71 беларуская і 95 англійскіх ФА; яна значна перавышае падгрупу “прыход, прыезд, з’яўленне”. Такая колькасная асіметрыя, на наш погляд, звязана з імкненнем любой жывой істоты пазбегнуць небяспекі (інстынкт самазахавання): бел. *даваць махні-драла*, англ. *take to one's heels* ‘уцячы’.

**Сродак перамяшчэння.** Беларускія і англійскія ФА гэтай групы рэпрэзентуюць перамяшчэнне пешшу без выкарыстання транспарту: бел. *на сваіх дваіх*, англ. *on Shank's pony / mare* ‘пешшу’. Аднак у англійскай фразеасістэме ёсць ФА са значэннем ‘перамяшчэнне на механічных транспартных сродках’ (англ. *go for a spin* ‘пракаціцца, пакатацца на аўтамабілі, радзей на матацыкле’, *thumb a lift* ‘пад’язджаць на спадарожнай машыне’).

**Асяроддзе перамяшчэння** (3 бел. і 4 англ. ФА). Паколькі асноўны суб’ект перамяшчэння – чалавек, то найбольш прыдатным асяроддзем для яго пражывання і перамяшчэння выступае зямная паверхня. Як правіла, сема ‘перамяшчэнне па зямной паверхні’ ўжо ўключана ў семантыку большасці ФА, таму ў дадзеную групу былі аднесены толькі тыя ФА, якія актуалізуюць іншыя тыпы асяроддзя, нетыповыя для чалавека (вада, паветра): бел. *плавае як сякера*, англ. *swim like a cork* ‘плаваць як рыба’, *hit the silk* ‘скакаць з парашутам’.

**Характар перамяшчэння.** Тут маецца на ўвазе лёгкасць або цяжкасць, грацыёзнасць або нязграбнасць руху. У беларускай і англійскай фразеасістэмах знаходзяць адлюстраванне перамяшчэнне ў стане алкагольнага ап'янення (бел. *ісці на вушах*, англ. *under the influence* 'пад газам'), нязграбны рух (бел. *хадзіць як качка*, англ. *move like a bull in a china shop* 'нязграбна рухацца'). У англійскім фразеалагічным фондзе эксплікуецца перамяшчэнне, звязанае з пэўнымі цяжкасцямі: англ. *elbow one's way* 'працiскацца, працуючы локцямі', *worm one's way* 'прабірацца з цяжкасцю паўзком'.

**Хуткасць перамяшчэння (інтэнсіўнасць).** Названая група – адна з самых рэпрэзентатыўных, яна дэманструе важнасць гэтага параметра для чалавека. Тут назіраецца колькасная перавага ФА са значэннем 'хуткае перамяшчэнне аб'екта' (52 бел. і 110 англ. ФА) над ФА са значэннем 'павольнае перамяшчэнне аб'екта' (30 бел. і 30 англ. ФА). Хуткае перамяшчэнне аб'екта мае нейтральную або станоўчую канатацыю: бел. *ляцець на крылах*, англ. *fly on the wings* 'вельмі хутка і з вялікай радасцю бегчы, ехаць куды-небудзь'. Павольнае перамяшчэнне аб'екта, наадварот, успрымаецца негатыўна, паколькі выклікана стомленасцю, лянотай, адсутнасцю прычын для спешкі: бел. *ледзь* (*ледзьве*) *стаяць* (*трымацца*) *на нагах*, англ. *hardly stand on one's feet* 'ледзь трымацца на нагах', бел. *не гарыць у каго*, англ. *there's no big rush* 'няма прычын для спешкі'.

Аднолькавая хуткасць перамяшчэння – 6 беларускіх і 8 англійскіх ФА (бел. *нага ў нагу*, англ. *in step*), што сведчыць пра адлюстраванне ў фразеалогіі не нарматыўных характарыстык пэўнага фрагмента рэчаіснасці, а тых, што набліжаюцца да свайго максімуму або мінімуму.

**Напрамак перамяшчэння.** Былі выяўлены наступныя тыпы перамяшчэння: 1) аблатыўнае (*адкуль?*) – перамяшчэнне ад арыенціру (8 бел. і 7 англ. ФА): бел. *з-за кратаў*, англ. *from behind bars* 'з турмы'; 2) алатыўнае (*куды?*) – перамяшчэнне да арыенціру (54 бел. і 47 англ. ФА): бел. *за свет*, англ. *to the middle of nowhere* 'за трыдзевяць зямель'; 3) транслатыўнае (*адкуль куды?*) – перамяшчэнне ад арыенціру да іншага арыенціру (14 бел. і 17 англ. ФА): бел. *туды і сюды*, англ. *to and from* 'туды і сюды'.

Зыходны пункт перамяшчэння адлюстраваны нязначна ў параўнанні з фінішам перамяшчэння, што ўзгадняецца з выказанай Т. Майсак гіпотэзай пра асіметрыю пачатковага і канчатковага пунктаў руху: канчатковы пункт руху камунікатыўна больш значны, чым пачатковы [5]. Гэтая асіметрыя вынікае з прыроды чалавека, бо яго асноўныя органы ўспрымання накіраваны наперад: ён рухаецца туды, куды глядзіць.

Пачатковы і канчатковы пункты перамяшчэння могуць быць шматвектарныя (бел. *з усіх бакоў*, англ. *from all quarters* 'з усіх бакоў', бел. *на ўсе чатыры* <*бакі*>, англ. *every which way* 'ва ўсіх кірунках, у розныя бакі') і адлюстроўваць, напрыклад, турэмнае зняволенне (бел. *за краты*, англ. *behind bars* 'у турму'), фізіялагічныя працэсы арганізма чалавека (бел. *пайсці на двор*, англ. *go to the outhouse*). У групе "напрамак перамяшчэння" вылучаецца падгрупа беларускіх і англійскіх фразеалагізмаў, у значэнні якіх побач з семай 'напрамак руху' актуалізуецца сема 'адсылка аб'екта для вызвалення асабістай прасторы моўцы'. Такія адзінкі ўжываюцца з прэдыкатамі ў загадным ладзе і не могуць сустракацца аўтарэферэнтна ў апісальным кантэксце: бел. *ідзі да д'ябла*, англ. *go to hell* (**Ён хадзіў да д'ябла*, англ. **He went to hell*).

Аднак у англійскай фразеасістэме актуалізуецца кірунак, які дазваляе максімальна хутка пераадолець некаторую адлегласць да аб'екта: *across lots* 'напрасткі', *as the crow flies* 'па прамой лініі', *cut corners* 'зрэзаць вугал, пайсці найкарацейшым шляхам'.

У беларускай фразеасістэме былі выяўлены 2 ФА, якія не маюць англійскіх фразеалагічных адпаведнікаў, выступаюць як лакуны і адлюстроўваюць беларускія нацыянальна-культурныя асаблівасці вербалізацыі напрамку перамяшчэння: *вылятаць у вырай* 'пакідаць бацькоўскі дом, ісці ў сям'ю мужа' і *пайсці на сяло* 'выправіцца хадзіць без усякай патрэбы з адной хаты ў іншую, каб хутчэй і непрыкметна ішоў час'.

Аналіз семантыкі беларускіх і англійскіх фразеалагізмаў са значэннем 'перамяшчэнне ў прасторы' паказаў, што перамяшчэнне:

1) мае складаную структуру: суб'ект ці аб'ект перамяшчаюцца ў прасторы з аднаго пункта ў іншы з пэўнай хуткасцю і манерай у пэўным асяроддзі пры дапамозе пэўнага сродку перамяшчэння ў пэўным кірунку. Перамяшчэнне можа мець пачатак і канец. Хуткасць і фазавасць – найбольш значныя характарыстыкі перамяшчэння;

2) ацэньваецца моўцам: пры вербалізацыі кінетычных прасторавых адносін актуалізуецца не намінатыўная функцыя ФА (дэнататыўна-сігніфікатыўны аспект значэння), а кваліфікацыйная (канататыўны аспект значэння);

3) з'яўляецца антрапацэнтрычным і адносным;

4) успрымаецца зрокава;

**Табліца.** Канцэптуальныя паказчыкі перамяшчэння ў беларускай і англійскай фразеасістэмах.

| Назва групы | Беларускія ФА | Колькасць (%) | Англійскія ФА | Колькасць (%) |
|---|---|---|---|---|
| 1. Пачатак перамяшчэння – канец перамяшчэння (фазавасць) | *знімацца з якара, па конях – на прыколе, кідаць якар, як укопаны, стоп машына* | 66 (16,2%) | *get under way, hit the road* ‘пачаць рухацца’ – *be at a standstill* ‘не рухацца з месца’, *fall all one's length* ‘упасці’ | 70 (14,7%) |
| 2. Сродак перамяшчэння | *на сваіх дваіх; на перакладных; дзе бокам, дзе скокам* | 25 (6,1%) | *go on Shank's pony / mare* ‘пешшу’, *in the saddle* ‘ехаць на кані’ | 28 (5,9%) |
| 3. Асяроддзе перамяшчэння | *плавае як сякера, мясіць гразь* (ісці па гразкай дарозе), *плаваць як трэска* | 3 (0,7%) | *swim like a cork* ‘плаваць як трэска’, *hit the silk* ‘скакаць з парашутам’ | 4 (0,8%) |
| 4. Характар перамяшчэння | *хадзіць як на кандыбах, вадзіць казу* | 30 (7,4%) | *go in Indian file* ‘ісці адзін за адным’, *dot and carry* ‘ісці кульгаючы’ | 12 (2,5%) |
| 5. Хуткасць перамяшчэння (інтэнсіўнасць) | *аж пыл курыць, на зламанне карку – маслёнку везці, з нагі на нагу* | 82 (20,2%) | *at the top of one's speed* ‘вельмі хутка’ – *at a snail's pace* ‘як чарапаха’ | 140 (29,4%) |
| 6. Напрамак перамяшчэння | *з канца ў канец, з краю ў край, з кута ў кут, да купы, за бугор, за мяжу* | 76 (18,7%) | *to make a bee-line* ‘ісці па прамой’, *the wrong way round, to the middle of nowhere* ‘за трыдзевяць зямель’ | 71 (14,9%) |
| 7. Прыход, прыезд, з'яўленне – адыход, ад'езд, знікненне | *як Пілір з канапель, нялёгкая гоніць – даваць драла, зматваць вудачкі* | 124 (30,5%) | *come into view, appear on the scene* ‘з'явіцца, прыйсці’ – *make oneself scarce* ‘знікнуць’, *pack one's bags* ‘з'ехаць’ | 151 (31,7%) |
| | Агульная колькасць беларускіх ФА мікраполя перамяшчэння | 406 (100%) | Агульная колькасць англійскіх ФА мікраполя перамяшчэння | 476 (100%) |

5) адлюстроўвае прыроджаныя інстынкты чалавека (прамахаджэнне і інстынкт самазахавання);

6) існуе непарыўна з часам і прасторай;

7) рэпрэзентуе беларускія і англійскія сацыякультурныя ўстаноўкі.

Наяўнасць падобных рыс у рэпрэзентацыі кінетычных прасторавых адносін у беларускай і англійскай фразеасістэмах падкрэслівае ўніверсальнасць і ўсеагульнасць механізмаў успрымання і адлюстравання рэчаіснасці.

Беларускія ідэаэтнічныя асаблівасці ўспрымання кінетычных прасторавых адносін вызначаюцца шырокім выкарыстаннем у якасці вобразнай асновы ФА міфалагічных персанажаў (*чорт, ліха* і інш.), прадстаўнікоў флоры і фаўны (*сарна, крумкач*), сіл і з'яў прыроды (*месяц, гром*), што сведчыць пра міфалагізацыю і сакралізацыю перамяшчэння ў беларускай лінгвакультуры. Нацыянальна-спецыфічныя асаблівасці ўспрымання і вербалізацыі кінетычных прасторавых уяўленняў англічан праяўляюцца ў актыўным выкарыстанні марской тэрміналогіі як вобразнай асновы ФА (*cast an anchor* ‘кідаць якар’, *weigh anchor* ‘зняцца з якара’) і наяўнасці тыпу перамяшчэння, звязанага з невыкананнем грашовых абавязкаў: англ. *a moon light flit* ‘з'езд з кватэры без аплаты’, *to beat one's way* ‘ехаць зайцам у таварным цягніку’, *to thumb a lift* ‘перамяшчацца на спадарожных машынах, падарожнічаць аўтастопам’ (колькасныя дадзеныя гл. у табліцы).

**Спіс літаратуры**

1. **Аксамітаў, А. С.** Фразеалагічны слоўнік мовы твораў Я. Коласа / А. С. Аксамітаў. – Мінск : Навука і тэхніка, 1993.
2. **Голубкова, Е. Е.** Категория движения в современном английском языке и способы ее модификации : автореф. дис. … д-ра филол. наук : 10.02.04 / Е. Е. Голубкова; Моск. гос. лингвист. ун-т. – М., 2002.
3. **Кунин, А. В.** Большой англо-русский фразеологический словарь / А. В. Кунин. – М. : Рус. яз., 2005.
4. **Лепешаў, І. Я.** Слоўнік фразеалагізмаў : у 2 т. / І. Я. Лепешаў. – Мінск : БелЭн, 2008.
5. **Майсак, Т. А.** Семантика и статика глагола *идти* на фоне других глаголов движения / Т. А. Майсак, Е. В. Рахилина // Логический анализ языка. Языки динамического мира. – Дубна, 1999. – С. 53 – 66.
6. **Янкоўскі, Ф. М.** Беларускія прыказкі, прымаўкі, фразеалагізмы / Ф. М. Янкоўскі. – Мінск : Беларус. навука, 2004.
7. **Cowie, A. P.** Oxford Dictionary of Current Idiomatic English : Phrase, Clause and Sentence Idioms / A. P. Cowie, I. R. Vacin. – Oxford Univ. Press, 1983.
8. **Daphne, M. G.** The Penguin Dictionary of English Idioms / M.G. Daphne, D. Hinds-Howell. – London : Penguin Books, 2001.
9. **Freeman, W. A.** Concise Dictionary of English Idioms / W. A. Freeman. – London : Hodder and Stoughton, 1982.
10. **Longman English Dictionary of Contemporary English.** – London : Longman, 1995.
11. **Sinclair, J.** Cobuild Dictionary of Idioms / J. Sinclair. – London : Collins Publishers, 1995.
12. **Talmy, L.** Lexicalization Patters : structure in Lexical Forms / L. Talmy // Language Typology and Semantic Description. – Vol. III : grammatical categories and the Lexicon. – Cambridge, 1985. – P. 57 – 149.

**Вольга АРЦЁМАВА,**
аспірантка кафедры беларускай мовы і літаратуры
Мінскага дзяржаўнага лінгвістычнага ўніверсітэта.

*Артыкул паступіў у рэдакцыю 12.09.2011.*

*З архіваў часу*

# БЕЛАРУСІЗАЦЫЯ ПРАВААХОЎНЫХ ОРГАНАЎ У 1920-я гг.

Артыкул прысвечаны беларусізацыі праваахоўных органаў Савецкай Беларусі ў 1920-я гг. – афіцыйнай палітыцы нацыянальна-дзяржаўнага і нацыянальна-культурнага будаўніцтва, якая праводзілася ў БССР у 1924 – 1929 гг. і мела для беларускай нацыі лёсавызначальны характар. Стрыжнем гэтай палітыкі было ўвядзенне беларускай мовы ва ўсе сферы грамадскага жыцця і ў першую чаргу – у дзейнасць дзяржаўнага і партыйнага апаратаў. Аўтар падкрэслівае асаблівую важнасць увядзення беларускай мовы ў справаводства праваахоўных органаў – дзяржаўных структур, якія сцвярджалі вяршэнства закона. Прапанаваныя архіўныя матэрыялы спрыяюць вызначэнню характару, маштабаў і вынікаў беларусізацыі ў органах міліцыі БССР. У артыкуле адлюстраваны праблемныя пытанні, звязаныя з укараненнем беларускай мовы ў справаводства судоў, пракуратуры і міліцыі. У навуковы зварот уведзены невядомыя раней архіўныя дакументы, якія раскрываюць працэс беларусізацыі ва Упраўленні міліцыі і крымінальнага вышуку НКУС БССР.

**Ключавыя словы:** *беларусізацыя праваахоўных органаў, беларусізацыя міліцыі, беларусізацыя апарата НКУС, карэнізацыя кадраў, нацыянальная палітыка, юрыдычная тэрміналогія, контрбеларусізацыя*.

The article is devoted to the Belarusization of law enforcement authorities of Soviet Belarus in the 1920th. It's pointed out that Belarusization which was the official policy of national-state and national-cultural development, conducted in 1924 – 1929, had determined the character of Belarusian nation. The core of this policy was an introduction of the Belarusian language into the sphere of public life and first of all into activities of the republican state and party bodies. The author emphasizes the special importance in the context of nation-building process of the introduction of the Belarusian language in the office work of law enforcement agencies – state structures, which assert the rule of law and whose activities cover all areas of social life. The presented archival materials and historical documents contribute to defining the nature, extent and results of Belarusization in law enforcement structures, in particular, the militia of the BSSR. The article reflects the problematic issues associated with the implanting of the Belarusian language in the office work of the courts, prosecutors' offices and the militia. The scientific turnover was filled by the unknown archived documents, revealing the Belarusization process in the administration of militia and criminal investigation of NKVD.

У 1924 – 1929 гг. у Савецкай Беларусі праводзілася беларусізацыя – афіцыйная палітыка нацыянальна-дзяржаўнага і нацыянальна-культурнага будаўніцтва, пачатак якой паклала пастанова II сесіі ЦВК БССР "Аб практычных мерапрыемствах па правядзенню нацыянальнай палітыкі" (15.07.1924). Стрыжань гэтай палітыкі, якая мела лёсавызначальны характар для беларускай нацыі, – планамернае ўвядзенне ва ўсе сферы грамадскага жыцця беларускай мовы як мовы карэннага насельніцтва БССР, да якога належала 80% жыхароў рэспублікі [1, с. 217]. Важным напрамкам была таксама карэнізацыя кадраў – камплектаванне асобамі беларускай нацыянальнасці адказных пасад у партыйных і савецкіх органах, наркаматах і ведамствах.

Беларусізацыя пачалася ў складаных умовах існавання беларускага грамадства, якое ў 1918 – 1921 гг. зазнала рабаўніцкую палітыку "ваеннага камунізму" з харчразвёрсткай пасля спусташэнняў Першай сусветнай вайны і іншаземных інтэрвенцый, а таксама тэрытарыяльныя страты пасля Рыжскай мірнай дамовы. Да таго ж значная частка беларускага насельніцтва была "інфіцыравана" вялікадзяржаўным шавінізмам і нацыянальным нігілізмам.

Тым не менш, нягледзячы на ўсе адзначаныя складанасці, а галоўнае – дзякуючы падтрымцы партыйнага кіраўніцтва БССР (вядомы на той час дэвіз – "Уся КП(б)Б павінна гаварыць на беларускай мове" [1, с. 218]) і стварэнню камісій па ажыццяўленні нацыянальнай палітыкі пры ЦВК БССР і выканкамах акруг – удалося шырока разгарнуць працу па беларусізацыі. На тэрыторыі БССР былі прызнаны раўнапраўнымі чатыры мовы: беларуская, польская, руская і яўрэйская, але II сесія ЦВК БССР канстатавала, што "беларуская мова выбіраецца як мова пераважная для зносін паміж дзяржаўнымі, прафесійнымі і грамадскімі ўстановамі і арганізацыямі" [1, с. 218].

У наркаматах і ведамствах спецыяльна распрацоўваліся праграмы і ствараліся курсы па беларусазнаўстве, на якіх, акрамя вывучэння беларускай мовы, даваліся і веды па беларускай літаратуры, гісторыі і геаграфіі Беларусі. Мэтай такіх курсаў была падрыхтоўка спецыялістаў, здольных весці справаводства на беларускай мове.

Асаблівую важнасць мела ўкараненне беларускай мовы ў справаводства праваахоўных органаў – дзяржаўных структур, якія сцвярджаюць вяршэнства закона і дзейнасць якіх ахоплівае ўсе сферы грамадскага жыцця.

Курсы па беларусазнаўстве дзейнічалі ў судовых органах, пракуратуры, міліцыі. Напрыклад, праграма для супрацоўнікаў Управы міліцыі і крымінальнага вышуку НКУС БССР на 1926/27 г. складалася з наступных раздзелаў:

А. БЕЛАРУСКАЯ МОВА*

1. **Фонэтыка.** Азбука, гукі і літара. Зычныя і галосныя. Склад і націск. Гукі: У, І, дз, дж. Гукі зацьвердзелыя. Аканьне. Падвойныя літары і канчаткі.

2. **Часьціны мовы.** Імя назоўнае. Род, лік, склон. Скланеньне іменьняў назоўных мужчынскага роду, жаночага і ніякага.

Імя прыметнае. Скланеньне іменьняў прыметных. Ступені прыраўнаньня.

* Тут і далей дакументы друкуюцца з захаваннем правапісу і пунктуацыі арыгіналаў.

Імя лічэбнае. Іменьні лічэбныя лічныя і парадкавыя. Скланеньне іменьняў лічэбных.

Займя. Паддзел займеньняў. Скланеньне займеньняў.

Дзеяслоў. Асобы, часы, лік, род і спражэньне. Спражэньне дзеясловаў. Лады. Станы.

Аддзеяслоўныя часьціны мовы: аддзеяслоўнае імя назоўнае, аддзеяслоўнае імя прыметнае, аддзеяслоўнае прыслоўе.

Прыслоўе. Паддзел прыслоўяў.

Прыймя. Злучнік і Выклічнік.

3. **Сынтакс.** Сказ. Дапасаваньне і кіраваньне. Сказ просты і складаны.

Знакі прыпынку.

4. **Практыкаваньні.**

Б. ЛІТАРАТУРА

Вусная народная паэзія /каротка/.

Старая літаратура /каротка/.

Новая літаратура /каротка/.

Навейшая літаратура. Нашаніўская пара. Якуб Колас. Янка Купала.

Пралетарскія пісьменьнікі: Цішка Гартны, Міхась Чарот, Маладняк.

В. ГІСТОРЫЯ БЕЛАРУСІ

Дадзяржаўны лад славян: а/ тэрыторыя, б/ быт, в/ рэлігія, г/ заняткі, д/ плямёны, е/ кіраўніцтва.

Дзяржаўны лад славян: а/ плямёны, утварыўшыя Беларусь, б/ Полаччына, в/ Самастойнасьць Беларусі, г/ гандаль, д/ асьвета, е/ рэлігія.

Інкорпарацыя Беларусі ў склад Літвы і ўтварэньне Літоўска-Беларускай дзяржавы. Разьвіцьцё Беларускай культуры і панаваньне яе над літоўскай.

Уваход Літоўска-Беларускай дзяржавы ў склад Польшчы. Люблінская вунія. Берасьцейская вунія. Змаганьне беларускай культуры з польскай. Брацтвы. Сацыяльны ўціск. Казацтва.

Паддзел Польшчы і ўваход Беларусі ў склад Расейскай Імперыі. Адносіны расейскага ўраду да Беларусі. Асьвета на Беларусі. Сялянскае пытаньне. Паўстаньне 1830 – 1831 гг. Русіфікацыя Беларусі.

Сялянская рэформа 1861 г. Паўстаньне 1863 г. Узмацненьне русіфікацыі краю. Беларускі рух. Разьвітак рабочага руху і Зубатоўшчына. Рэвалюцыя 1905 г. на Беларусі. Міжрэвалюцыйныя часы /1905 – 1917/. Нашаніўская пара. Лютаўская рэвалюцыя.

Савецкая Беларусь. Вялікі Кастрычнік на Беларусі. Нямецкая і Польская акупацыя. Партызаншчына. Утварэньне Савецкай Беларусі. Эканамічнае і культурнае будаўніцтва. Нацыянальнае пытаньне.

Г. ГЕОГРАФІЯ

Карта паўкуляў з адміністрацыйна-палітычнага боку.

Месца Беларусі на карце паўкуляў.

Этнографічная Беларусь.

Савецкая Беларусь, яе адміністрацыйны паддзел.

Прырода Беларусі: паверхня, рэкі, вазёры, глеба, клімат, расьлінасьць, жывёла.

Насельніцтва.

Гарады.

Фабрычна-заводзкая прамысловасьць.

Сельская гаспадарка.

Д. КУЛЬТУРНЫЯ ЎСТАНОВЫ БЕЛАРУСІ

Інстытут Беларускай культуры.

Вышэйшыя навучальныя ўстановы.

Дзяржаўны музэй і музэі мясцовыя.

Інстытуты – розныя.

Ахова помнікаў старажытнасьці і яе значэньне [2].

Праграма была разлічана на 6 месяцаў з заняткамі па 2 разы на тыдзень, працягласцю па 1,5 гадзіны кожны. Як адзначалася ў тлумачальнай запісцы да праграмы, "пры праходжэньні беларускай мовы галоўная ўвага зьвяртаецца на практычны яе бок, што дасягаецца дыктоўкамі, перакладамі, чытаньнямі, пісьмовымі працамі. …Культурныя ўстановы Беларусі ў праграму ўводзяцца для таго, каб міліцэйска-вышукны склад азнаёміўся з імі і мог сьвядома" дапамагаць у гэтай справе [3].

Пасля заканчэння такога навучання для праверкі ўзроўню валодання службоўцамі беларускай мовай у наркаматах ствараліся спецыяльныя камісіі, якія прымалі ў супрацоўнікаў адпаведныя іспыты з выстаўленнем адзнак.

Прывядзём прыклад такой камісіі, якая 7, 8 і 12 мая 1926 г. пад старшынствам інспектара Галоўпалітасветы праводзіла праверку ведаў беларускай мовы ва Управе міліцыі і крымінальнага вышуку НКУС і Мінскай акруговай міліцыі. Сябрамі камісіі былі: начальнік аддзела Управы міліцыі і крымінальнага вышуку НКУС, памочнік начальніка Мінскай акруговай міліцыі, прадстаўнік мясцкама, выкладчыкі беларускай мовы. Як сведчыць акт камісіі, "праверцы падпадалі ўсе супрацоўнікі, акрамя паставых міліцыянераў. Праверка вытваралась па наступнай праграме: пісьмовая і вусная праца, пры чым усе супрацоўнікі для пісьмовай працы былі падзелены на канцылярыстых і надворных, першым было дадзена тры тэмы: загад, заява і адносіна, другім – таксама тры: пратакол, акт і пастанова, з якіх патрэбна было напісаць на адну тэму, па ўласнаму абраньню. Вусныя пытаньні заключалісь у чытаньні беларускага тэксту, перакладу расейскага тэксту на беларускі й граматыцы – фанэтыка і морфолёгія, пры чым больш увагі зьвярталась на практычны бок, чым на навуковы" [4]. Паводле нацыянальнага складу экзаменаваныя супрацоўнікі размеркаваліся наступным чынам: беларусаў – 71, яўрэяў – 21, рускіх – 8, палякаў – 4, латышоў – 1.

На практычны бок звярталася ўвага і пры выкладанні беларускай мовы ў школе міліцыі імя Фрунзэ* з гадавым курсам навучання, дзе ў 1920-я гг. рыхтавалі малодшы склад міліцыі. Якой была праграма, відаць з "плана працы па прахаджэнью беларускай мовы" ў гэтай школе і з тлумачэння выкладчыка:

«Патрэбнасьць ізучэньня беларускай мовы на Беларусі. Беларуская мова й яе разьвіцьця ў зьвязку з гістарычным жыцьцям нацыі. Погляд на разьвіцьце мовы. Мовы й говар. Сем'і моў. Сям'я моў славянскіх. Час злажэньня нацыі й мовы. Палітычны лёс Беларусі на працягу яе гістарычнага жыцьця. Агульнасьць і розьніца ў мовах беларускай, маскоўскай і польскай. Распаўсюджанасьць беларускай мовы. Значэньне беларускай мовы ў жыцьці беларускай народнасьці. Фанэтычныя й этымолёгічныя асаблівасьці беларускай мовы. Гукі й літары. Дзяленьне гукаў на галосныя, зычныя й паўгалосныя. Асаблівасьці гукаў галосных, зычных і паўгалосных ад падобных у маскоўскай мове. Дыфтонгі і афрыкаты. Галосныя цьвердыя й мяккія (т. і з зычнымі). Зычныя звонкія й глухія. Азбука – кірыліца або гражданка й лацінка. Вялікія й малыя літары. Правіла карыстаньня гукамі *дз*, *дж*, *й*, *ў*, *і*. Падвойныя літары і падвойныя гукі. Склад і націск. Зычныя зацьвярдзеўшыя *р*, *ж*, *ч*, *ш* й галосныя пасьля іх.

Гукі *о*, *э*, *ё* й мейсца іх у словах.

Гук *е* й склады *не*, *без*, *цераз* і *перад*. Правапіс іх.

Нявыразныя зычныя.

Мяккія зычныя: *з*, *с*, *ц*, *дз*.

Прадмет

Паняцьце аб прадмеце й імені назоўным.

Дзяленьне прадметаў па спосабу іх распазнаваньня.

Прадметы ажыўлёныя й неажыўлёныя.

Лік прадметаў. Род. Лікі адзіночны, множны. Ужываньне прадметаў у адным якім-небудзь ліку. Рады мужчынскі, жаноцкі й ніякі. Парадак аднясеньня таго ці іншага прадмета да рода. Склоны й скланеньня.

Прымета

Прымета як адзнака прадмета. Адноснасьць прыметы да прадмета. Род і лік прыметы ў зьвязку з родам і лікам прадмета. Розьніца ў скланеньні прадмета й прыметы.

Дзеяньне

Паняцьце аб дзеяньні. Распазнаваньне дзеяньня па пытаньнях адносных да яго. Правапіс канчаткаў *е*, *а* ў дзеяньнях.

Лічэбнік

Лічэбнік – імя лічэбнае – імя лічбаў. Віды лічэбнікаў. Правопіс канчаткаў лічэбнікаў. Простыя й складовыя лічэбнікі. Іх правопіс.

Займя

Слова – замена йменяў – назоўнага, прыметнага, лічэбнага. Падзел займеньняў. Правопіс. Узоры скланеньняў займеньняў.

Прыйменьне і прыстаўка

Іх правопіс. Прыйменьні: *ад*, *над*, *пад*, *пра*. Корань і канчатак. Парадак пабудаваньня слова. Словы простыя й складныя. Сувязь складных слоў.

Сказ

Азнаямленьне са сказам. Яго часьціны. Галоўныя часьціны сказу. Дзейнік і сказьнік. Даданыя часьціны сказу. Знакі прыпынку паміж часьцінамі сказу й асобнымі сказамі.

Тлумачэньне да пляну
па ізучэньню беларускай мовы

Дзякуючы спэцыяльнаму заданьню пазнаёміць аўдыторыю з тэхнікай карыстаньня правіламі чытаньня і пісьма па беларускі і незначнаму ліку гадзін адведзенаму для гэтай мэты, мне прышлося пабудаваць плян праходзімага навучальнага прадмета не сыстэматычна, а прапэдэўтычна, г. з. што ў часе заняткаў па мове яна не будзе асьветляцца ўсебакова, а будуць высьветлены толькі самыя значныя яе асаблівасьці, як з этымолёгічнага так і сынтаксычнага боку. У часе заняткаў будзе зьвернена значная ўвага на практычную працу, як з боку чытаньня так і пісьма» [5].

Пры залічэнні ў школу міліцыі імя Фрунзэ курсанты давалі падпіску на беларускай мове:

"Я, ніжападпісаны… даю гэтую падпіску ў тым, што ўступаючы ў шэрагі міліцыі буду стаяць на варце рэвалюцыйнага парадку і абараняць інтарэсы працоўнага клясу і селянскае беднаты.

Састая на службе ў Савецкае Рабоча Селянскае Міліцыі павінен:

1. Праслужыць у Міліцыі па сканчаньні школы міліцыі ня меней двух гадоў.

2. Безупрэчна выконваць усе загады і распараджэньні сваіх Начальнікаў, як прадстаўнікоў Савецкае Улады.

3. Захоўваць строгую дысцыпліну і парадак.

4. Няўхільна сачыць за выкананьнем дэкрэтаў грамадзянамі, Пастаноў і Распараджэній Рабоча-Сялянскае Улады.

5. Бязьлітасна душыць усе выступленьні супроць Савецкае Улады.

6. Быць чэсным, цьвярозым, выканаўчым і уважлівым з усімі, а ў асаблівасьці з гарадской і селянскай беднатой, як на службе, так і па за службай.

7. У выпадку небясьпечнасьці пагражаючай Савецкай Уладзе ад знадворных непрыяцеляў прыду на дапамогу Чырвонай Арміі.

8. За невыкананьне з маяго боку хаця-бы аднаго з пералічаных пунктаў законаў і дэкрэтаў Рабоча-Сялянскае Улады, Я як асоба сьпецыяльна пастаўляны

* Міліцэйская школа пры Управе міліцыі і крымінальнага вышуку НКУС БССР – менавіта такая назва была засведчана на чатырохмоўным штампе дадзенай установы. Але часта ў тэкстах службовай перапіскі ўжывалася назва "школа міліцыі імя Фрунзэ", якая таксама была засведчана і на штампе ўваходных дакументаў гэтай школы.

дзеля аховы рэвалюцыйнага парадку і пільнаваньня ўсіх гэтых законаў і дэкрэтаў падлягаю кары.

У чым уласнаручна падпісваюсе” [6].

Згодна з рэзалюцыяй ІІ сесіі ЦВК БССР беларусізацыю апаратаў ЦВК, Саўнаркама, Наркамасветы і Наркамземляробства планавалася завяршыць за адзін год, а наркаматаў унутраных спраў, юстыцыі, сацыяльнага забеспячэння, пошты і тэлеграфа – за два [1, с. 218].

Са справаздачных дакументаў НКУС БССР вынікае, што Управа міліцыі і крымінальнага вышуку наркамата “цалкам перайшла на беларускую мову з 1 красавіка 1925 г.” за выключэннем “вялізных інструкцый, якія прызначаны да рукаводніцтва раённага апарату міліцыі”, а ўпраўленні акруговых міліцый “перайшлі на 75 – 80% на беларускую мову” [7]. Як адзначалася далей, “найгорш справа абстаіць з раённым апаратам. Плыўкасьць асабовага складу, перагружанасьць работай, асаблівасьці надворнай работы, адсутнічаньне сродкаў на аплату выкладчыкаў стварае ўмовы, пры якіх беларусізацыя ідзе слаба. Пры гэтакіх умовах той процэнт (25 – 30%), які маецца ў беларусізацыі раёнаў, належыць лічыць здавальняючым” [7].

Паводле дакументаў НКЮ БССР, да 1 кастрычніка 1926 г. справаводства большасці судовых устаноў рэспублікі таксама было пераведзена на беларускую мову. Па акругах гэтыя колькасныя паказчыкі выглядалі наступным чынам: “па Менскай – з 14 участкаў нарсуда справаводства пераведзена ў 10; па Барысаўскай – з 10 у 8; па Магілёўскай – з 11 у 9; па Калінінскай – з 10 у 6; па Віцебскай – з 15 у 10; па Аршанскай – з 11 у 7; па Полацкай – з 10 у 6; па Бабруйскай – з 13 у 11; па Слуцкай – з 7 у 5; па Мазырскай – з 11 у 8” [8].

Дэтальны аналіз архіўных спраў, якія захоўваюцца ў Нацыянальным архіве Рэспублікі Беларусь (ф. 35, воп. 1; ф. 34, воп. 1; ф. 99, воп. 2; ф. 750, воп. 1), дазваляе зрабіць выснову, што падобныя рапартаванні пра пераход на беларускую мову да запланаваных тэрмінаў адпаведна рэзалюцыі ІІ сесіі ЦВК БССР не належным чынам адлюстроўвалі рэчаіснасць.

24 жніўня 1926 г. адбылася нарада кіраўнікоў НКУС БССР, на якой другім пытаннем разглядаўся стан беларусізацыі ў наркамаце. Пратакол нарады сведчыць, што па міліцыі ў раёнах на беларускай мове вялася толькі дробная перапіска, “апарат крымінальнага вышуку за выключэннем дазнанняў вядзецца на беларускай мове”, таксама канстатавалася, што інструктары Адміністрацыйнай управы наркамата не валодаюць беларускай мовай, а Управа камунальнай гаспадаркі наогул перайшла на беларускую мову на 10%. Цікава выглядае пастанова нарады: “З 25-га жніўня перайсці на 100% у разгаворе на беларускую мову, а таксама і па пісьму” [9].

Падобная танальнасць і ў афіцыйным лісце Віцебскага акруговага суда ад 14 студзеня 1926 г., адрасаваным усім народным суддзям Віцебскай, Полацкай і Аршанскай акруг: “Супрацоўнікі і кіраўнікі ўстаноў мелі поўную магчымасьць даволі падрыхтавацца ў веданьні мовы [беларускай], як у гутарковых занятках, так і асобна. Далейшага адтэрмінаньня ня будзе, усе ўстановы ў поўным аб’ёме будуць пераведзены канчаткова і няўзваротна на гэту мову з 1 чэрвеня 1926 г.” [10].

Падсумоўваючы справаздачы акруговых судоў у 1926 г., накіраваныя ў НКЮ БССР, можна зрабіць выснову, што пратаколы судовых пасяджэнняў, прыгаворы і рашэнні ў народных судах рэспублікі пісаліся часткова на беларускай, часткова – на рускай мове, але прапорцыя гэтага двухмоўя ў судах была розная: у адных судовых установах пераважаў беларускі тэкст дакументаў, у другіх – рускі. Што тычыцца гутарковай мовы, то тут паказальная вытрымка са справаздачы Магілёўскага акруговага суда ад 19 кастрычніка 1926 г.: “Прыём прасіцеляў вядзецца на расейскай і беларускай мовах, у залежнасці ад таго, якой мовай уладаюць прасіцялі” [11].

У дадатак прывядзём вытрымкі з вынікаў праверкі беларусізацыі ў НКЮ і падпарадкаваных яму ўстановах у 1931 г.: “справаводства Наркамату і яму падпарадкаваных устаноў, Мясцкому і ячэйкі цалкам пераведзена на беларускую мову”, “сходы і афіцыяльныя выступленьні ў пераважнай большасьці вядуцца на беларускай мове”, “пры здавальняючым аўладаньні бел. мовай пераважнай часткі супрацоўнікаў у ўстановах пры размовах паміж значнай часткай супрацоўнікаў ужываецца пераважна мова расейская, а таму і сама беларусізацыя носіць некалькі фармальны характар”, “у паасобных частках апарату мае мейсца прамае парушэньне прынцыпаў нацыянальнай палітыкі ураду і партыі і падпарадкаваньне сутнасьці справы чыста фармальным меркаваньнем, а менавіта у Транспартнай Пракуратуры і Лінейным судзе з прычыны неабходнасьці адсылкі матар’ялаў у Маскву на расейскай мове і самыя судовыя працэсы вядуцца ў межах БССР выключна на расейскай мове” [12].

Нягледзячы на адзначаныя недахопы, праваахоўныя органы БССР у выніку праведзеных мерапрыемстваў былі ў значнай ступені беларусізаваны. Гэтаму таксама паспрыяла навуковатэрміналагічная камісія Народнага камісарыята асветы, якая займалася распрацоўкай беларускай тэрміналогіі ў розных галінах навукі і падрыхтоўкай да друку адпаведных слоўнікаў. «Паводле дадзеных каталога Нацыянальнай бібліятэкі, за 1920 – 1930 гг. выйшлі тры слоўнікі юрыдычнай тэрміналогіі. Адзін з іх пад назвай “Тэрміналогія права” – дзясяты выпуск серыі “Беларуская наву-

ковая тэрміналогія”. Укладаннем слоўніка юрыдычнай лексікі пераважна займаўся супрацоўнік Інбелкульта Мікалай Гуткоўскі» [13, с. 83].

Падкрэслім, што ўзровень беларусізаванасці праваахоўных органаў у 20-я гг. мінулага стагоддзя застаўся неператўзыдзеным і сёння, у тым ліку і ў параўнанні з другой хваляй беларусізацыі першай паловы 1990-х гг.

Фактычна ўся службовая дакументацыя, дарэчы, і сакрэтная, ва ўстановах НКЮ і Управе міліцыі і крымінальнага вышуку НКУС у другой палове 1920-х гг. вялася на беларускай мове. Супрацоўнікі міліцыі як у цэнтры, так і на месцах пры правядзенні неабходных аператыўна-следчых дзеянняў карысталіся бланкамі дакументаў на беларускай мове (“Пратакол обшуку і выемкі”, “Пратакол допыту сьведкі” і інш.), якія запаўнялі таксама па-беларуску.

Варта падкрэсліць, што Наркаматам унутраных спраў кіравалі прыхільнікі беларусізацыі, вядомыя нацыянальныя дзеячы Дзмітрый Чарнушэвіч (сакавік – жнівень 1924 г.), Алесь Хацкевіч (1925 – 1926) і Алесь Сташэўскі (1926 – 1928). Дарэчы, Д. Чарнушэвіч і А. Хацкевіч у свой час узначальвалі беларусізацыю ў краіне, бо стаялі на чале Нацыянальнай камісіі пры ЦВК БССР.

На беларускай мове выходзілі і спецыялізаваныя часопісы, у прыватнасці выданні Народнага камісарыята юстыцыі БССР – “Рэвалюцыйная законнасьць” і “Весьці”, дзе друкаваліся артыкулы пра стан злачыннасці ў БССР з падрабязным статыстычным аналізам, даваўся агляд найважнейшых актаў савецкага заканадаўства, уздымаліся праблемныя пытанні грамадзянскага, крымінальнага і працэсуальнага права. Напрыклад, 29 сакавіка 1928 г. у “Рэвалюцыйную законнасьць” даслаў артыкул, прысвечаны зменам у крымінальна-працэсуальным кодэксе, разам з лістом да рэдакцыі, напісаным па-беларуску, інспектар крымінальнага вышуку Адміністрацыйнага ўпраўлення НКУС БССР В. Уласаў [14].

Газета “Савецкая Беларусь” (орган ЦВК БССР) у другой палове 1920-х выходзіла з укладышам “Чырвоная варта”, прысвечаным беларускай міліцэйскай дывізіі, дзе даволі шырока асвятлялася і беларусізацыя ў вайсковых падраздзяленнях. Прывядзём вытрымкі з нататкі аднаго чырвонаармейца ў нумары ад 21 чэрвеня 1925 г.: “У нашым эскадроне сувязі N коннага корпусу чырвонаармейцы складаюцца амаль з адных беларусаў (каля 80 проц.). Большасьць з Барысаўскай і Бабруйскай акругі.

Спачатку палітасьветная работа сярод чырвонаармейцаў праводзілася на расейскай мове. З цягам часу выявілася, што многія чырвонаармейцы, асабліва Барысаўскай акругі, маюць жаданьне вучыцца па-беларуску. Гэта прымусіла наш палітсклад выбраць беларусаў і арганізаваць беларускую групу.

…У палітычных адносінах чырвонаармейцы беларускай групы лічацца перадавымі. Работа магла-б яшчэ больш пашырацца, але ёсьць перашкоды: 1) чырвонаармейцы ў вочы ня бачылі, будучы ў часьці, беларускіх газэт, 2) няма падручнікаў для правядзеньня палітгадзіны на беларускай мове, 3) ёсьць падрыў з боку малодшага камскладу, напрыклад: ня прымаюць заяў на беларускай мове й сьмяюцца над гэтай мовай” [15].

Пачатая на мяжы 1920 – 1930-х гг. барацьба з “нацдэмакратызмам”, якая фактычна згарнула палітыку беларусізацыі, адбілася і на стане беларусізацыі ў праваахоўных органах. У 1930-я гг. у службовым справаводстве міліцыі ўжо цалкам пераважала руская мова. У гэтым кантэксце цікава прывесці вытрымку з загада Паўнамоцнага прадстаўніцтва АДПУ па БССР ад 14 ліпеня 1932 г. аб выкананні распараджэнняў па камплектаванні начскладу рабоча-сялянскай міліцыі: «…заполнение послужных списков, анкет и автобиографий производится на белорусском, а зачастую на смешанном языке, в то время, как личные дела начсостава РК милиции должны оформляться исключительно на русском языке» [16].

Варта таксама ўзгадаць, што ў 1927 г. на беларускай мове выйшла першая кніга па гісторыі беларускай міліцыі – “Кароткі нарыс гісторыі міліцыі Беларусі. 1917 – 1927” (пад агульнай рэдакцыяй і з прадмовай наркама ўнутраных спраў А. Сташэўскага). Заўважым, што наступнае падобнае выданне, “Очерки истории милиции Белорусской ССР. 1917 – 1987” пад рэдакцыяй В. Піскарова, убачыла свет толькі ў 1987 г. на рускай мове.

### Спіс літаратуры


1. **Гісторыя Беларусі** : у 6 т. / рэдкал. : М. Касцюк (гал. рэд.) [і інш.]. – Мінск : Экаперспектыва, 2007. – Т. 5.
2. **НАРБ.** – Ф. 35. – Воп. 1. – Спр. 537. – Арк. 19 – 19 адв.
3. **НАРБ.** – Ф. 35. – Воп. 1. – Спр. 537. – Арк. 20.
4. **НАРБ.** – Ф. 35. – Воп. 1. – Спр. 537. – Арк. 4.
5. **НАРБ.** – Ф. 37. – Воп. 3. – Спр. 17. – Арк. 233 – 235.
6. **НАРБ.** – Ф. 37. – Воп. 3. – Спр. 33. – Арк. 10.
7. **НАРБ.** – Ф. 35. – Воп. 1. – Спр. 537. – Арк. 15.
8. **НАРБ.** – Ф. 99. – Воп. 2. – Спр. 494. – Арк. 10.
9. **НАРБ.** – Ф. 34. – Воп. 1. – Спр. 470. – Арк. 113 – 113 адв.
10. **НАРБ.** – Ф. 99. – Воп. 2. – Спр. 494. – Арк. 2.
11. **НАРБ.** – Ф. 99. – Воп. 2. – Спр. 494. – Арк. 59, 59 адв.
12. **НАРБ.** – Ф. 99. – Воп. 2. – Спр. 737. – Арк. 20, 21.
13. **Кулеш, Г. І.** Слоўнікі беларускай юрыдычнай тэрміналогіі 1920 – 1930-х / Г. І. Кулеш // Беларускае слова : гісторыя і сучаснасць : зб. арт. – Мінск : Права і эканоміка, 2010.
14. **НАРБ.** – Ф. 750. – Воп. 1. – Спр. 508. – Арк. 44.
15. **Бабкоўскі, І.** Беларусізацыя ў нашай часьці / І. Бабкоўскі // Савецкая Беларусь. – 1925. – 21 чэрв. – С. 3.
16. **Архіў МУС РБ.** – Ф. 50. – Воп. 5. – Спр. 1. – Арк. 199.



**Юрый КУР’ЯНОВІЧ,**
аспірант Беларускага дзяржаўнага
педагагічнага ўніверсітэта імя Максіма Танка.


*Артыкул паступіў у рэдакцыю 28.06.2011.*



# КАЛІ ЗАКОНЧЫЎСЯ ЎРОК

*Размова пра істотнае*

## *“ЛЮБІЦЬ І ШАНАВАЦЬ РОДНАЕ СЛОВА…”*
### ІНТЭРВ’Ю З ВОЛЬГАЙ КУЗЬМІЧ



***Вольга Аляксандраўна Кузьміч*** – заслужаны работнік народнай адукацыі Беларускай ССР, выдатнік адукацыі (1991). Закончыла Беларускі дзяржаўны ўніверсітэт (1967). Працавала ў агульнаадукацыйных установах Беларусі і г. Мінска. Старшыня пастаяннай камісіі Мінгарсавета па адукацыі і выхаванні (1992 – 1996). Загадчык кафедры беларускай мовы Беларускага дзяржаўнага тэхналагічнага ўніверсітэта (1996 – 2011). Займае пасаду дацэнта кафедры беларускай мовы БДТУ. Аўтар шэрагу вучэбных дапаможнікаў па беларускай мове. Даследуе пытанні тэорыі і методыкі выкладання мовы, практычнай і функцыянальнай стылістыкі. Займаецца распрацоўкай новых падыходаў да выхавання студэнцкай моладзі.

**– Вольга Аляксандраўна, сёння Вы вядомы, аўтарытэтны чалавек у рэспубліцы на ніве беларускай педагогікі. Скажыце, калі ласка, адкуль вытокі Вашай цікавасці да беларускай мовы?**

– Дзякуй за добрыя словы! Але што тычыцца цікавасці, то я не згодна з такой фармулёўкай. Якая можа быць цікавасць? Гэта ж наша родная мова. Іншай мовы, акрамя беларускай, я з маленства і не чула: на маёй малой радзіме, сінявокай Ушаччыне, усе гаварылі і зараз гавораць па-беларуску. А маленькая вёсачка Мосар, дзе я расла (не тая вёска Мосар, што на Глыбоччыне), – увасабленне цудоўнай беларускай гаворкі, такіх шчырых, мяккіх, я б сказала, смачных слоў. Я рада, што не страчана сувязь з маімі землякамі і нават з настаўнікамі. Дзякуй Богу, што ёсць магчымасць іх наведаць. Менавіта яны вучылі мяне ў Мосарскай сярэдняй школе. Гэта Вольга Маркіянаўна Клопава і Марыя Васільеўна Плігаўка, выкладчыкі беларускай і рускай моў, шчырыя і сардэчныя людзі, сапраўдныя педагогі. Сустрэчы з імі – гэта хвіліны шчасця, незвычайнай радасці, натхнення. Таму адна з экскурсій па Беларусі са студэнтамі БДТУ была прысвечана наведванню Ушаччыны, мясцін партызанскай і баявой славы (мемарыяльны комплекс “Прарыў”, музей партызанскай славы ў г. Ушачы, музей В. Быкава), а для Мосарскай школы прэзентавалі бібліятэчку кніг, літаратурныя альманахі з творамі студэнтаў і выкладчыкаў БДТУ. Адбылася цёплая і сардэчная сустрэча студэнтаў з вучнямі Мосарскай школы, выкладчыкамі, ветэранамі Вялікай Айчыннай вайны, працаўнікамі тылу. А дырэктарам школы Уладзімірам Уладзіміравічам Фокіным была наладжана экскурсія па школьным музеі і захапляльнае краязнаўчае падарожжа па ваколіцах вёскі Мосар. Пачуццё малой радзімы ніколі не знікае з памяці, мне нават сны сняцца з сюжэтамі маленства і юнацтва.

На жаль, даўно памерлі мае бацькі, якія вучылі мяне, як трэба любіць і шанаваць роднае слова, паважаць людзей. Мой бацька, Алесь Антонавіч Карабань, выдатнік адукацыі, у свой час быў дырэктарам Ушацкай, а затым і Мосарскай школы. Сярод яго вучняў – народны артыст Беларусі Генадзь Гарбук, народны паэт Беларусі Рыгор Барадулін, паэтка Еўдакія Лось. Калі бацька выступаў на настаўніцкіх канферэнцыях, людзі прыходзілі, каб паслухаць, як ён прыгожа гаворыць па-беларуску. Ён мог гадзінамі чытаць на памяць Якуба Коласа (яго асабліва любіў), Петруся Броўку і іншых паэтаў. Дарэчы, Пятрусь Броўка, па словах бацькі, быў нам раднёй. Пачатак маёй педагагічнай дзейнасці звязаны з Маладолецкай школай, якой паэт дапамагаў усё жыццё. Ён часта прыязджаў на малую радзіму, у вёску Пуцілкавічы, і тады пасярод вуліцы расстаўлялі сталы з сялянскімі



**Сядзіць злева Алесь Антонавіч Карабань, за ім стаіць Ефрасіння Міхайлаўна Карабань.** 1946 г.

прысмакамі, а гасцямі былі землякі паэта. У цэнтры ўвагі, безумоўна, быў Пятрусь Броўка, вельмі просты і ў той жа час дасціпны чалавек, з непаўторным пачуццём гумару.

Ад маці мне дасталіся такія чалавечыя якасці, як павага да чалавека і дабрыня. Кожнага, хто заходзіў у хату, запрашалі да стала падсілкавацца (смачнóе заўсёды было). Асабліва мае землякі любілі частаваць рыбай, бо бацька быў заўзятым рыбаловам. Наша хата стаяла на беразе возера, а рыбка лавілася заўсёды добра. Дзверы ў нашу хату заўсёды былі адчыненыя, а калі нікога і не было ў хаце, то зачыняліся толькі на клямку.

Працавітасці вучыла мяне бабуля, як і жыццю ў цэлым. На ўсе выпадкі ў яе былі ў запасе трапныя фразеалагізмы. Чамусьці магічна дзейнічаў выраз “Пакуль жаніцца, загаіцца”, як бы апраўдваючы маю падлеткавую ляноту, яна казала: “Абы ўмела танчыць, а работаць гора навучыць”.

У час вайны, калі бацькі былі ў партызанах, на долю бабулі Хрысціны выпала ратаваць траіх унукаў. На жаль, у жывых застаўся толькі брат, адна сястрычка памерла ад голаду і хвароб, а другая, двухгадовая Валечка, была зажыва спалена разам з жыхарамі вёскі Бабовішчы на Ушаччыне. Бабуля з маім братам уцалелі выпадкова: на той момант адлучыліся ў суседнюю вёску. Бацька часта плакаў, прыгаворваючы: “Нелюдзі, за што дзяцей ды ў агонь?..” Калі пачалася блакада, маці трапіла ў палон, яе везлі ў Асвенцым. Разам з сяброўкай яна саскочыла з цягніка каля Жабінкі на Брэстчыне, працавала колькі часу ў гаспадара, а затым пешшу ішла да Ушачаў, не ведаючы, ці ёсць хто жывы. Бацька ў час вайны быў рэдактарам падпольнай газеты “Прымежны калгаснік”, якая ў змаганні адыграла вельмі важную ролю.

Сёння, калі ўжо няма ў жывых нікога з маіх родных, разумею, што ўсё ў жыцці: і родная мова ў душы, і выбар прафесіі, працавітасць, любоў да чалавека – ад іх, маіх самых дарагіх людзей. Дарэчы, педагагічныя здольнасці ў маёй сям’і перадаліся і маім дзецям, спадкаемцам роду Карабанёў. Мой родны дзядзька, Карабань Іван Антонавіч, да пенсіі працаваў у БДУ на кафедры рускай мовы. З роду Карабанёў таксама і загадчык аддзела адукацыі г. Ушачы Людміла Рыгораўна Карабань. Кіруе сумленна і плённа: вучні Ушацкага раёна неаднаразова перамагалі на рэспубліканскіх алімпіядах. Я ганаруся роднымі для мяне людзьмі, іх стаўленнем да прафесійных абавязкаў і глыбокім патрыятызмам. Таму беларуская мова для мяне – гэта не праява цікавасці, а ўнутранае ўсведамленне, хто ты на гэтай зямлі і чым ты ёй абавязаны.

**– Якія этапы, падзеі Вы маглі б вылучыць у сваёй насычанай працоўнай біяграфіі?**

– Я вылучыла б тры асноўныя этапы.

Праца настаўніцай роднай мовы ў школах г. Мінска, апошняе месца – СШ № 140 Фрунзенскага раёна. Як мне казалі, настаўніцай я была “ад Бога”. Гэта праўда: за мной ішлі і мяне любілі. Для мяне не існавала так званых “трудновоспитуемых” дзяцей, яны ўсе былі для мяне найперш людзі, а ўмовы іх жыцця сапраўды былі цяжкімі. Але ім таксама хацелася, каб іх любілі, каб з імі лічыліся. Згадваю такі эпізод: хлопчык Саша, якому ўсе ставілі двойкі, у час правядзення літаратурнай віктарыны правільна назваў аўтара твораў (гэта быў Васіль Быкаў). Дай, думаю, пастаўлю яму пяцёрку для заахвочвання. Калі вечарам ішла ў краму, убачыла натоўп жанчын, а ў цэнтры – маці гэтага хлопчыка. “Ляксандраўна, – крычыць, – паслухайце, што зрабіў Сашка. Ён жа свой дзённік, у якім стаіць Ваша пяцёрка, урачыста прыбіў цвікамі да дывана і цэлы дзень вадзіў суседзяў і сяброў, каб тыя палюбаваліся на яго адзнаку”. Так яму хацелася хаця б адзін дзень адчуць сябе паважаным чалавекам.

Другі хлопчык (сёння працуе таксістам), пасля заканчэння адкрытага ўрока, які я праводзіла для педагогаў краіны, падышоў да мяне з кавалачкам мядовых сотаў у цэлафанавым пакеце і відэльцам са сталоўкі. Разрэзаў соты і кажа: “Адну палавінку Вам, а другую – майму сябру. Я ж бачу, як Вы стаміліся”. Такіх прыкладаў мноства, але ж колькі чалавечнасці ў гэтых падлеткаў, адрынутых грамадствам і сям’ёй. Трэба ўмець абуджаць у іх душах найлепшыя пачуцці, скіроўваць на правільны шлях.

Вопыт маёй працы неаднаразова дэманстраваўся на ўсю краіну: і тэлеперадачы, і адкрытыя ўрокі для настаўнікаў Беларусі, і нават для адказных работнікаў ЦК КПСС, і дэлегацый замежных краін. Менавіта школа № 140 Фрунзенскага раёна дала мне высокую дасканаласць у выкананні прафесійных абавязкаў. Па сёння я ўдзячна былому дырэктару школы Святлане Сямёнаўне Рыжкоўскай – цудоўнаму педагогу, адказнаму адміністратару і сумленнаму чалавеку. Яна ўласным прыкладам вучыла мяне працаваць творча. Наступныя дырэктары – Уладзімір Пятровіч Кляшняк, Любоў Фёдараўна Шаўніна – стваралі належныя ўмовы для творчай працы і пашырэння майго вопыту. У гэтай школе я атрымала ганаровы знак “Выдатнік адукацыі”, адміністрацыя школы прадставіла маю кандыдатуру да ўзнагароджання ганаровым званнем “Заслужаны работнік адукацыі Беларускай ССР”. Калектыў школы даў рэкамендацыю ў дэпутаты Мінгарсавета, і я ў ліку першых была абрана дэпутатам, а затым – старшынёй Пастаяннай камісіі па адукацыі і выхаванні.

Адпаведна другі этап – праца на пасадзе старшыні Пастаяннай камісіі па адукацыі і выхаванні. Гэта быў самы яркі і шчаслівы перыяд у маім жыцці. Дзякуючы намаганням камісіі па адукацыі ў Мінску было створана больш як 100 беларускіх школ, ліцэяў і гімназій. Быў незвычайны пад’ём, жаданне рабіць нацыянальную адукацыю высакаякаснай. Адкрываліся школы не толькі на беларускай мове, але і на польскай, літоўскай, планавалася адкрыццё яўрэйскай школы, адпаведна працавалі і рускамоўныя школы.

Вынікі навучання па-беларуску былі ашаламляльныя: маніторынг выявіў, што нават матэматыка, фізіка, хімія на беларускай мове засвойваліся лепш, чым па-руску. Кіраўнікі беларускіх школ, як ні дзіўна, у большасці сваёй былі рускімі па нацыянальнасці. Аднак якія школы яны стварылі! Абавязковым было вывучэнне некалькіх замежных моў, арганізоўваліся разнастайныя гурткі для развіцця творчых здольнасцей вучняў, адкрывалі школьныя музеі, што спрыяла выхаванню сапраўднага патрыятызму. Праз мову закладваліся асновы адданасці роднай зямлі, выхоўвалася жаданне не толькі любіць родны край, але і верна служыць яму.

Трэці этап – праца ў Беларускім дзяржаўным тэхналагічным універсітэце ў якасці загадчыка кафедры беларускай мовы. Мне не сорамна за сваю працу. Выхаванне высокай прафесійнай адказнасці, грамадзянскасці і патрыятызму на аснове агульначалавечых каштоўнасцей, культурных і духоўных традыцый беларускага народа і ідэалогіі беларускай дзяржавы – асноўная задача кафедры беларускай мовы. А сама мова для выканання такой задачы мае неацэннае значэнне.

**– Беларуская мова як прадмет выкладання ў БДТУ. Для многіх такая канстатацыя можа падасца нечаканай, таму што філолагі тут не рыхтуюцца. Як беларусістыка трымаецца ў традыцыйнай alma mater спецыялістаў-тэхнолагаў? Якія з асноўных дасягненняў кафедры апошняга часу Вы маглі б назваць?**

– Заўсёды на пачатку заняткаў я кажу студэнтам, што іх задача як будучых прафесіяналаў не толькі спрыяць развіццю эканомікі нашай краіны, але і быць носьбітамі культуры народа, яго гісторыі, нацыянальных традыцый. Рэспубліка Беларусь сёння ў цэнтры ўвагі не толькі еўрапейскіх краін, а хто ж, калі не будучыя спецыялісты, будзе пашыраць яе аўтарытэт у свеце? “Кожны народ мае чым ганарыцца”, – кажу я. А вось вы, наша моладзь, што можаце расказаць пра славутых людзей Бацькаўшчыны? Возьмем, напрыклад, асобу Максіма Багдановіча, імя якога ўганаравана ЮНЕСКА. За што яму такая слава? Дзе ён, дарэчы, нарадзіўся? Дык вось, за апошнія тры гады па адказах, а дакладней, па іх адсутнасці, можна зрабіць сумную выснову: пра класіка беларускай літаратуры не ведаюць нічога, у тым ліку і мінскія школьнікі не могуць назваць месца нараджэння паэта. Балюча. Менавіта маладым неабходна ўмацоўваць аўтарытэт краіны ў свеце. Сённяшні студэнт павінен быць гарманічна развітой асобай, таму калектыў кафедры для дасягнення навучальных і выхаваўчых мэт выкладанне мовы скіроўвае на агульнае развіццё лінгвакультуразнаўчай кампетэнцыі. З улікам гэтага падрыхтаваны шэраг падручнікаў і вучэбных дапаможнікаў новага пакалення. Назаву толькі некалькі падрыхтаваных мной дапаможнікаў: “Практычная і функцыянальная стылістыка беларускай мовы. Практыкум” з грыфам Міністэрства адукацыі (у суаўтарстве з В. В. Шахаб, 2004); “Практычная і функцыянальная стылістыка беларускай мовы. Вучэбны дапаможнік” з грыфам Міністэрства адукацыі (у суаўтарстве з В. В. Шахаб, 2008); “Сучасная беларуская мова. Практыкум” з грыфам ВМА БДТУ (у суаўтарстве з Р. В. Міксюк, 2010).

З пашырэннем цікавасці да Беларусі, развіццём этнатурызму ўзрастае і роля мовы як магутнага сродку выхавання сапраўднага патрыятызму, які грунтуецца найперш на ўсведамленні рэгіянальнай адметнасці. У той жа час мова выступае як сродак яднання нацыі, змяшчае духоўны і культурны вопыт народа. З гэтай мэтай створана студэнцкае аб’яднанне “Пошук”, у склад якога ўваходзяць гурткі рознай тэматычнай накіраванасці (“Памяць”, “Спадчына”, “Мая Радзіма – Беларусь”, “Пазнай свой край”, “Патрыёт”, “Крыніца”, “Вытокі”). Вынікам працы з таленавітай моладдзю з’яўляецца яе ўдзел у рэспубліканскіх і міжнародных конкурсах, канферэнцыях, выставах, акцы-

ях (прадстаўляліся навуковыя і творчыя працы, даследаванні, радаводы, праекты, прэзентацыі).

За 2006 – 2011 гг. студэнцкім аб'яднаннем падрыхтавана 216 работ для ўдзелу ў навуковых і творчых конкурсах. З іх 90 адзначаны катэгорыямі, дыпломамі, граматамі, спецыяльнымі прызамі, падзякамі і каштоўнымі падарункамі. Вышэйшай адзнакай працы выкладчыкаў і загадчыка кафедры з'яўляюцца перамогі іх студэнтаў, адзначаныя дыпломамі Спецыяльнага фонду Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь па сацыяльнай падтрымцы адораных навучэнцаў (15 студэнтаў). Праведзена 35 навуковых канферэнцый ("Жыву ў Беларусі і тым ганаруся", "Зямлі бацькоўскай прыцягненне", "Народ пранясе цябе, родная мова, святлом незгасальным у сэрцы сваім", "Вайна вачыма маладых"), 18 універсітэцкіх выстаў ("Нашы таленты – роднай Беларусі", "Маці і Радзіма адзіныя", "Вечна жыві і квітней, Беларусь", "Да маці з любоўю"), 35 экскурсій і падарожжаў па Беларусі ("Мінск – Хатынь – Курган Славы", "Мінск – Нацыянальная бібліятэка", "Мінск – Ушачы – Прарыў", "Мінск – Ракаў – Івянец – Дзяржынава"). Вынікі працы студэнцкага творчага аб'яднання "Пошук" неаднаразова дэманстраваліся на выставах розных узроўняў і адзначаны Міністэрствам адукацыі Рэспублікі Беларусь: БДТУ за апошнія шэсць гадоў адзначаўся дыпломамі І ступені. Пяць студэнтаў творчага аб'яднання "Пошук" пры кафедры беларускай мовы адзначаны Мінскім гарадскім выканаўчым камітэтам за актыўны ўдзел у навуковым, грамадскім і культурным жыцці г. Мінска.

**– Вядома, што дзякуючы Вашым намаганням кафедра беларускай мовы займае пазіцыю лідара сярод падраздзяленняў БДТУ ў справе ідэалагічнай, выхаваўчай працы. Падзяліцеся, калі ласка, сакрэтам: у чым зарука такога поспеху і прызнання?**

– Мы лідары не толькі ў структурах БДТУ, але і ў маштабах краіны. Як згадвалася раней, кафедра з гонарам прадстаўляла ўніверсітэт на самых разнастайных конкурсах, акцыях, выставах. Мы ніколі не сутыкаліся з супрацьдзеяннем, калі дэманстравалі арыгінальныя беларускія матэрыялы на міжнародных, рэспубліканскіх і ўніверсітэцкіх выставах. Адзначу праект "Халакост: памяць і перасцярога", які набыў міжнародны розгалас і быў высока адзначаны пасольствам Дзяржавы Ізраіль у Беларусі. А навуковая праца "Асаблівасці беларускага вяселля" студэнткі Ганны Казлоўскай адзначаны Дыпломам І ступені сярод студэнцкіх прац краін СНД.

Мы выяраем сваю працу адпаведна асноўным палажэнням Кодэкса аб адукацыі Рэспублікі Беларусь. Кафедра забяспечвае правядзенне вучэбнай, метадычнай, навуковай, ідэалагічнай і выхаваўчай працы на высокім навукова-метадычным узроўні, які адпавядае найноўшым дасягненням у лінгвадыдактыцы, літаратуразнаўстве і культуралогіі.

Высокую планку працы задае сённяшні міжнародны статус БДТУ. Наш універсітэт першым сярод ВНУ Рэспублікі Беларусь атрымаў сертыфікат адпаведнасці сістэмы менеджменту якасці патрабаванням DIN EN ISO 9001-2008 у нямецкай сістэме сертыфікацыі і сертыфікат адпаведнасці сістэмы менеджменту якасці патрабаванням СТБ ISO 9001-2009 у беларускай сістэме сертыфікацыі.

Гэта плён працы розных пакаленняў, мудрай палітыкі рэктара БДТУ прафесара Івана Міхайлавіча Жарскага, які асабістым прыкладам паказвае ўзор служэння дзяржаве, навуцы. Менавіта такім людзям адрасаваны словы класіка сусветнай літаратуры Адама Міцкевіча: "Наш самы высокі набытак – Айчына, навука, сумленне!" Кафедра беларускай мовы ўваходзіць у склад факультэта выдавецкай справы і паліграфіі БДТУ. Мы заўсёды знаходзім падтрымку з боку дэкана факультэта Пятра Уладзіміравіча Шалімы. На такіх людзях трымаецца наша дзяржава і ганарыцца імі. Таму кафедра беларускай мовы разумее сваю адказнасць перад універсітэтам, яго кіраўніцтвам і краінай.

**– Хто сёння поруч з Вамі? На каго абапіраецеся? Што плануеце?**

– Поруч са мной тыя, хто неабыякава ставіцца да лёсу краіны: студэнты, выкладчыкі, аднадумцы, родныя мне людзі. У рэчышчы дзяржаўных адукацыйна-выхаваўчых падыходаў будзе развівацца і кафедра беларускай мовы, кіраўніком якой цяпер з'яўляецеся Вы, Мікалай Валянцінавіч, кандыдат філалагічных навук, дацэнт, вядомы ў краіне літаратуразнаўца.

**– Дзякуй. Ваш погляд на перспектывы развіцця кафедры і лёс беларускай мовы ў нефілалагічным універсітэцкім асяроддзі?**

– Лёс мовы залежыць ад палітыкі дзяржавы ў моўным пытанні. У той жа час трэба разумець, што тэхнічная адукацыя без роднай мовы – гэта праца на шкоду сваёй дзяржаве і на карысць іншым. Каб не было так, як казаў некалі Янка Купала: "Не шукай ты шчасця-долі на чужым, далёкім полі". Таму будзем спадзявацца на мудрасць дзяржаўных кіраўнікоў, іх разуменне ролі роднай мовы ва ўмацаванні суверэнітэту нашай краіны і яе аўтарытэту ў свеце. Мова – гэта магутны сродак яднання нацыі, захавання яе менталітэту, а самае галоўнае – выхавання патрыятызму. У мове мудрасць нацыі, яе душа і светабачанне.

**– Вялікі дзякуй Вам за цікавы расповед! Здароўя Вам, ладу ў сям'і і на працы, удзячных студэнтаў!**

Гутарку вёў **Мікола ТРУС.**

*Адрасы педагагічнага майстэрства*

# СЛОВА ПРА НАСТАЎНІКА



Шмат гадоў аддала педагагічнай працы Алена Мікалаеўна Копач. За яе плячыма больш за тры дзесяцігоддзі напружанай і плённай працы на ніве адукацыі. Ужо многа гадоў Алена Мікалаеўна працуе ў політэхнічнай гімназіі № 6 г. Мінска (цяпер гімназія № 6).

Яе вучні ніколі не застаюцца без увагі настаўніка. Тут ідзе гаворка не толькі пра выдатныя і цікавыя ўрокі, што надоўга застаюцца ў памяці, але і пра пазаўрочную дзейнасць, якой Алена Мікалаеўна надае вялікае значэнне. Так, разам з калегамі і вучнямі былі праведзены ўнікальныя каляндарна-тэматычныя раённыя і гарадскія мерапрыемствы: “Напісанае застаецца” (прысвечанае Ф. Скарыну), “Уваходзіны”, “Каляды”, “Незгасанае святло Адама Міцкевіча”.

На ўроках Алена Мікалаеўна аддае шмат увагі развіццю інтэлектуальнага патэнцыялу вучняў. Яе заняткі арыентаваны на стварэнне сітуацыі псіхалагічнага камфорту, што ўрэшце і дае высокія вынікі паступлення ў ВНУ. Аўтарская сістэма падрыхтоўкі да тэсціравання аб’ядноўвае і выкарыстанне інавацыйных тэхналогій, і традыцыйны падыход. Многія вучні Алены Мікалаеўны атрымліваюць высокія балы на цэнтралізаваным тэсціраванні па беларускай мове (у 2009 г. некалькі вучняў атрымалі 100 балаў).

Алена Мікалаеўна шмат гадоў супрацоўнічае з Навукова-метадычным цэнтрам вучэбнай кнігі і сродкаў навучання (цяпер у складзе Нацыянальнага інстытута адукацыі), неаднаразова з’яўлялася рэцэнзентам метадычных выданняў, такіх як “Прыкладныя рознаўзроўневыя заданні па беларускай літаратуры” С. Цыбульскай, вучэбных дапаможнікаў “Рознаўзроўневыя заданні. Беларуская літаратура. 4 – 5 класы” Т. Логінавай, Т. Мароз, “Беларуская мова. 7 клас. Заданні для тэматычнага кантролю” В. Пашук і інш.

Настаўнік актыўна дзеліцца вопытам з маладымі калегамі гімназіі, раёна, горада. Рэгулярна чытае лекцыі, праводзіць семінары для настаўнікаў Мінскага гарадскога інстытута развіцця адукацыі і Акадэміі паслядыпломнай адукацыі па актуальных пытаннях сучаснай педагогікі. На базе яе ўрокаў праводзяцца метадычныя семінары для настаўнікаў рэспублікі. Штогод Алена Мікалаеўна разам з вучнямі ўдзельнічае ў раённых і гарадскіх алімпіядах, працуе ў медальнай камісіі раёна.

Ініцыятыва, энергія і жаданне працаваць дазволілі дасягнуць высокіх вынікаў. Алена Мікалаеўна разам са Святланай Цыбульскай выдалі метадычны дапаможнік “Беларуская мова для паступаючых у тэхнікумы, каледжы, вучылішчы” (кніга перавыдавалася шэсць разоў) і “Рыхтуемся да пераказу па беларускай мове: Дапаможнік для паступаючых у вышэйшыя навучальныя ўстановы”. Матэрыялы дапаможнікаў дапамаглі не аднаму пакаленню вучняў падрыхтавацца да ўступнага экзамену па беларускай мове.

У асобе Алены Мікалаеўны гарманічна спалучаюцца сумленнасць, дабрыня і прафесіяналізм, таму і не дзіўна, што да настаўніка хінуцца не толькі вучні, але і калегі, якія заўсёды могуць разлічваць на дапамогу і падтрымку. Асабіста для мяне Алена Мікалаеўна стала прыкладам таго, якім павінен быць настаўнік: адказным, патрабавальным да сябе і вучняў, разважлівым і адкрытым да дыялогу.

Сёння, азіраючыся назад, магу з упэўненасцю сказаць, што калі б не падтрымка Алены Мікалаеўны, то не атрымаўся б з мяне настаўнік. Менавіта яна ўмела знаходзіць словы, якія былі гаючай крыніцай дабрыні і чалавечнасці.

Праца Алены Мікалаеўны не раз была заўважана на розных узроўнях (ад гімназіі да горада). Так, у 2006 г. яе прафесіяналізм і дасягненні ў педагагічнай дзейнасці адзначаны прэміяй Мінгарвыканкама.

Хочацца пажадаць шаноўнай Алене Мікалаеўне здароўя і выказаць удзячнасць за прафесіяналізм і любоў да школы.

**Фёдар ДРАБЕНЯ,**
кандыдат філалагічных навук,
дацэнт кафедры замежнай журналістыкі і літаратуры
Інстытута журналістыкі БДУ.

*Каляндар народных святаў*

# ЗІМОВАЯ КАЛЯДНАЯ КАЗКА

## СЦЭНАРЫЙ ТЭАТРАЛІЗАВАНАГА ПРАДСТАЎЛЕННЯ

*Трэба ведаць – сэрца просіць,*
*Як дзядам, бацькам жылося,*
*Як сахой даўней аралі,*
*Як смычком зямлю бярлялі,*
*Як з сявенькі збожжа зерні*
*Рассявалі чорнай жменяй…*
*Трэба ведаць… Што зазналі…*
*Трэба ведаць… І пра тое,*
*Апраналі што? І якое?*
*Трэба ведаць.*

Пятрусь Броўка.

**Дзейныя асобы:** калядоўшчыкі, Гаспадар, Гаспадыня, Каза, Цыган, Цыганка, Мядзведзь, Кабыла, Музыка, Баба Яга, Яшчар.

*Частка залы ці сцэна прыбраны пад беларускую хату. На пачэсным куце, пад абразамі, стаіць "каляда" – рэшата з сенам, на версе якога гаршок з кашай-куццёй.*

**1-ы калядоўшчык** (*стукаючы ў дзверы*). Ой, ці дома гаспадар? Ці дома гаспадыня?

**Гаспадар.** Дома, дома, сталы дубовыя накрываем, гасцей дарагіх чакаем.

**Гаспадыня.** Праходзьце, госцейкі доўгачаканыя, калядкамі званыя!

*Шырока адчыняюцца дзверы, заходзяць усе калядоўшчыкі. Яны нясуць упрыгожаную зорку.*

**2-і калядоўшчык** (*кланяецца гаспадарам*). Добры вечар, шчодры вечар, добрым людзям на ўвесь вечар!

**3-і калядоўшчык.** Добры вечар таму, хто ў гэтым даму!

**4-ы калядоўшчык.** Нам не хочацца чакаць, загадайце калядаваць.

**Гаспадар і Гаспадыня** (*разам*). Просім! Просім! Калі ласка, пачынайце!

**5-ы калядоўшчык.** Мы вашага двара не абмінаем, са святым Раством велічаем!

**1-ы калядоўшчык.** Бачым, агні гарацць, сталы стаяць пазасціланыя.

**2-і калядоўшчык.** Сталы пазасціланыя, а на іх пірагі павыпяканыя.

**3-і калядоўшчык.** І хоць вы адсеяліся даўно, але дазвольце і нам пшанічку пасеяць.

**Калядоўшчыкі** (*разам*). Сеем, сеем, пасяваем, шчасця, радасці жадаем!

(*Адзін з калядоўшчыкаў сее пшаніцу, шчодра сыпле на стол, на печ, на падлогу.*)

**4-ы калядоўшчык** (*гучна*). А цяпер – калядная, пачынальная, для гаспадыні велічальная!

(*Спяваюць.*)

**Калядоўшчыкі** (*разам*).

Ішла Каляда калядуючы,
А за ёй моладзь жартуючы.
Цётка Наста на ляду
Рассыпала "каляду".
Цётачка, не гуляйце,
Вы "калядку" падбірайце,
Маладосць успамінайце,
Як спявалі, як гулялі,
Як зімой калядавалі.

**5-ы калядоўшчык.** А яшчэ з дарогі дальняй гаспадару велічальную! (*Спяваюць.*)

**Калядоўшчыкі** (*разам*).

Едуць, едуць Калядкі,
Вязуць бліны й аладкі –
Святы вечар!
На сівенькім канёчку,
Маляваным вазочку –
Святы вечар!
Гаспадар нас прывячае,
Усе вароты адчыняе –
Святы вечар!
Будзе радасць вам за гэта:
Ураджай і добра лета –
Святы вечар!

**Гаспадар і Гаспадыня** (*разам*). Дзякуй, дзякуй за словы добрыя! За пажаданні прыемныя!

**Цыганка.** Ой, вы слаўныя ды харошыя, як медныя грошы, ці вытрываюць вашы масніцы, ці не лопнуць, каб нам добра паскакаць, яшчэ й моцна тупнуць?

**Гаспадар і Гаспадыня** (*разам*). Скачыце, і старых, і маладых павесяліце.

**1-ы калядоўшчык** (*гучна*).

Эх, Калядка, разыдзіся,
Па ўсіх вуглах разбяжыся!

(*Усе танцуюць польку-трасуху, якая, бы мяцеліца, кружыць у вясёлай віхуры па хаце.*)

(*Тым часам Цыган ужо прадае гаспадару кабылу.*)

**Цыган** (*гучна*). Купі, гаспадар, кабылу, паўсвету пройдзеш, а такой не знойдзеш. Купі!

(*Кабыла, стаміўшыся з дарогі, падае пасярод хаты.*)

**Цыган.** А-я-яй! Вось дык дзіва, у цябе, гаспадар, прапала кабыла, праз гэту чэсць давай рублёў з шэсць, ды, каб устала, дай ёй шматок сала, а каб з хаты на сваіх пайшла, дай, гаспадарок, мяшок аўса.

**Гаспадар.** Ты, як бачу, мастак карункі плясці, мне ж за аўсом далёка ісці. Але на вось грошы, каб заўсёды быў шлях твой харошы.

**Гаспадыня.** Вось і разабраліся, нібы на кірмашы. Людзі добрыя, госці чаканыя, адкуль вы да нас завіталі?

**2-і калядоўшчык.** А мы людзі не простыя, мы з далёкага краю, з шэрай Казою лета здабываем.

**3-і калядоўшчык.** Ад зімы да лета ідзём, усім шчасце, здароўе і радасць нясём.

**4-ы калядоўшчык** (*гучна*). Гэй, Козачка, шэрая, пакажыся, павярніся, добрым людзям пакланіся!

**Гаспадар.** А няхай яна паскача, усіх нас павесяліць!

(*Пад вясёлую музыку ўбягае Каза. Яна весела скача, бадаецца і брыкаецца. Усе пачынаюць вадзіць карагод, спяваюць песню.*)

**Калядоўчыкі** (*разам*).
Го-го-го, Каза,
Каза шэрая,
Дзе Каза ходзіць,
Там жыта родзіць,
Дзе Каза рогам –
Там жыта стогам.
Дзе Каза нагою –
Там жыта капою.
Дзе Каза хвастом –
Там жыта кустом.

(*Каза паважна ходзіць у сярэдзіне карагода. Раптам яна валіцца на падлогу, нібы памірае.*)

**Гаспадар.** Ой, людзі добрыя, што ж гэта робіцца, то Кабыла валіцца на бок, то Каза падае?

**5-ы калядоўшчык.** А што ж гэта будзе? Без яе і сонейка да нас не завітае, вясна-красна не прыйдзе, ураджаю добрага не будзе (*плача*).

**Цыганка.** А я ведаю, гаспадарок, што Козачцы трэба: каўбаскі з віток ды бохан хлеба.

**1-ы калядоўшчык.** А яшчэ, каб упрыгожыць ёй рожкі, начапі, гаспадынька, на іх па піражку.

**2-і калядоўшчык.** А яшчэ будзе Каза сытай, як паесць добра жыта. І каб хутчэй падымалася, трэба, каб мёдам пачаставалася.

(*Гаспадыня частуе Казу, тая, крышку паеўшы, весела ўскоквае.*)

(*Усе спяваюць.*)

**Калядоўшчыкі** (*разам*).
Ой, Калядачкі, бліны-ладачкі,
Ой-ля-лёшанькі, ой-ля-ля!
Калядкі блізка, каўбаскі нізка.
А Калядачкі набліжаюцца,
Ой-ля-лёшанькі, ой-ля-ля!
А каўбасачкі падніжаюцца,
Ой-ля-лёшанькі, ой-ля-ля!
Такіх святачак ды з дзясятачак,
Ой-ля-лёшанькі, ой-ля-ля!

**Гаспадар.** Дзякуй, госці дарагія, з вамі і мы памаладзелі. Але штосьці музыкі не чуваць, хіба музыкі за цёплай печчу задрамалі.

**Музыка.** Ды тут мы, паважаны гаспадар, зараз пацешым вас мелодыяй вясёлай.

**Цыган.** Ай-яй-яй! А людцы добрыя, а мы ж Міхайлу замарозілі, у двары прывязаўшы. Ай-я-яй!

**Гаспадар.** Які гэта Міхайла замёрз у нашым двары?

**Цыганка.** У цёмным бары мы мядзведзя сустрэлі, да вас прывялі.

(*Цыган пад музыку вядзе Мядзведзя, той рыкае, усе палохаюцца.*)

**Цыган.** Ну, хопіць, Міхайла, палохаць усіх, лепш прывітайся з людзьмі. (*Мядзведзь вітаецца паклонам.*)

**Цыган.** Міша, а ці не пакажаш ты нам, як п'яны дзядзька дамоў валачэцца?

(*Мядзведзь, хістаючыся, ходзіць па крузе.*)

**Цыган.** Я ведаю, Міхайла, як ты любіш музыку, і хоць у народзе кажуць, што няздатны ты да скокаў, але гэта няпраўда. Музыкі, калі ласка, "цыганачку"!

(*Гучыць мелодыя вясёлага танца. Мядзведзь, танцуючы за цыганку, смешыць гасцей і гаспадароў.*)

**Каза.** Дзякуй нашым артыстам за танец. Цяпер просім гаспадароў дазвол даць, каб у цікавую гульню пагуляць.

**Гаспадыня.** Калі ласка, гуляйце, сваіх звычаяў, традыцый не забывайце.

**Каза.** То будзем гуляць у "Яшчара".

**Усе** (*разам*). Згодны. Давайце пагуляем.

**Каза.** Хто ведае гэтую гульню?

**3-і калядоўшчык.** Я ведаю. Выбіраем Яшчара, і ўсе, хто хоча пагуляць, даюць Яшчару якую-небудзь рэч: насовачку, пярсцёнак, грэбень ці іншае. Рэч гэтая будзе называцца вяночкам, які абавязкова трэба забраць у Яшчара. За вяночак ён загадае спець, паскакаць, загадку загадаць ці то каго пацалаваць. Не адкупішся – застанешся з Яшчарам.

(*Выбраны Яшчар сядзіць у крэсле, усе спяваюць яму песню, водзячы карагод.*)

**Усе** (*разам*).

Яшчар, Яшчар, паночак,
Проша аддаць вяночак,
Ой, я ж яго руціла,
Пару злотых плаціла,
Пару злотых чырвоных
За вяночак зялёны,
Два конікі-іржакі,
Два музыкі-казакі,
Дзве шабелькі ясныя,
Дзве паненкі красныя.

(*Яшчар, не гледзячы, бярэ хусцінку і кажа: "Гаспадару ці гаспадыні гэтага вяночка трэба спець, іначай вяночак застанецца ў мяне, а гэта дрэнна – шчасця не будзе".*)

**Гаспадыня** (*выходзячы*). Ды ўжо ж спяю, пан Яшчар.

(*Спявае.*)

Цячэ вада каламутна.
Чаго, дзеўка, ходзіш смутна?
Я не смутна, не сярдзіта –
Я была ўчора біта.
Біла мяне маці з ночы
За Івана кары вочы.
Шчэ й, казала, будзе біці,
Як яго буду любіці.

**Гаспадар.** Малайчына, Настачка, адкупілася ад Яшчара.

**Яшчар** (*аддае "вяночак" Гаспадыні і прыгаворвае, паглядаючы на дзяўчат*).

Сядзіць Яшчар на залатым крэсле,
На шчаслівым месцы,
Якую паненку палюблю,
Такую і ўхаплю.

(*Кідаецца лавіць дзяўчат, тыя разбягаюцца.*)

**Яшчар** (*беручы рэч*). А за гэты прыгожы "вяночак" падбяры скорагаворкі, што скаціліся з узгорка.

**1-ы калядоўшчык.**

Цябе, Яшчар, не баюся, скорагаворкай адкуплюся.

Пераелі, перапілі, пералушчылі,
Перапалолі, перамалолі, пературшчылі.
Спакойна кроп палоў Пракоп,
Лёг пад кропам і захроп.

(*Смех.*)

**Голас.** Аддавай, Яшчар, і гэты "вяночак".

**Яшчар.** А вось за гэты "вяночак" нехта нам мусіць паскакаць.

**2-і калядоўшчык.** То мой вяночак. Зайграйце, музыкі, вясёлую "Кадрылю". (*Усе танцуюць.*)

**Музыка.** Фігура першая. Пачынальная.

**Музыка.** Фігура другая. Абмен дзяўчатамі.

**Музыка.** Фігура трэцяя. Развітальная.

(*Пасля танца.*)

**Цыганка** (*дастае з рэшата некалькі сухіх травінак, разглядае іх*). А жыць вам, мае брыльянтавыя, доўга ды зладжана – так, як гэтыя доўгія і пераблытаныя паміж сабою сухія травінкі. А каб у вас было чыста ў хаце, не вадзілася, крый Божа, нячыстае і дрэннае, няхай наша Баба Яга абмяце сваёй чароўнай мятлой чатыры куты вашай хаты. Бабуля, дзе ты падзелася? Здаецца, толькі скакала "Кадрылю".

(*Усе шукаюць Бабу Ягу. Яна спіць на палку каля печы.*)

**Баба Яга** (*пацягваецца*). Вой, як змарыў мяне сон у цёплай хаце, а я ж працую на холадзе. Добра, абмяту я вашу хату, бо бачу, людзі вы добрыя, харошыя.

(*Абмятае мятлой вуглы, пераскоквае на мятле з кута ў кут пад музыку.*)

**3-і калядоўшчык** (*з паклонам*). Дзякуй гэтаму дому, ці не пара нам ісці к другому?

**4-ы калядоўшчык.** Дзякуй вашай хатцы, ці не пара вымятацца?

**5-ы калядоўшчык.** Каб вы здаровыя былі, каб Бог падоўжыў вам гады!

**1-ы калядоўшчык.** Каб пшаніца і жыта ўрадзілася!

**2-і калядоўшчык.** Ды жывёла заўсёды вадзілася!

**3-і калядоўшчык.** Каб радзілі памідоры, агурочкі, а гаспадары цвілі, што кветкі ў садочку!

**Каза** (*сыплючы жытам*). А я сыплю жыта на шчасце, здароўе, на доўгае жыццё! А крынічкай вады, каб не зналі бяды, ды трошкі солі, каб не зналі нашчадкі кепскае долі!

**4-ы калядоўшчык.** А цяпер хутчэй дарыце, нас не марыце!

**5-ы калядоўшчык.** Бо кароткія світкі, памерзлі лыткі.

**Цыган.** Кароткія кажушкі, павылазяць душкі.

**Цыганка.** Гаспадынька, не скупіся, пірагамі адары нас.

**Баба Яга.** Нясі сала, ды нямала! А ў мяшэчку, каб не траска, ты накінь яшчэ й каўбаску!

(*Гаспадары кладуць пачастункі гасцям у торбу.*)

**Усе** (*разам*). Дзякуй вам за пачастункі, за сардэчныя дарункі. Пойдзем мы калядаваць, усіх са святам вітаць!

**Гаспадар і Гаспадыня** (*разам*).

Шчасліва хадзіце,
Здаровы бывайце,
У наступным годзе
Зноў завітайце!

**Музыка** (*гучна*). Вясёлая, адыходная, шчодрая, калядна-паходная!

(*Пад музыку госці выходзяць.*)

**Алена МАСКЕВІЧ,**
педагог.

*Аўтар ахвяруе ганарар на развіццё часопіса.*





*Вяртанне да вытокаў*

Анатоль СТАТКЕВІЧ-ЧАБАГАНАЎ

# ЖАЎРЫДЫ ГЕРБА "РАДВАН"




**Герб "Радван" роду Жаўрыдаў.**

Звесткі пра старажытны беларускі род Жаўрыдаў герба "Радван" сустракаюцца з пачатку XIX ст. Родапачынальнікам лічыцца польскі шляхціч Мікалай Жаўрыд з Жабрыдава, які меў чын палкоўніка войск Вялікага Княства Літоўскага і па прывілеі польскага караля Жыгімонта ад 20 верасня 1514 г. "за аказаныя Айчыне і прастолу паслугі атрымаў староства Аршанскае, якое знаходзіцца ў Віцебскім ваяводстве".

Генеалагічная схема радаводнага дрэва дваранскага роду Жаўрыдаў налічвае 65 прадстаўнікоў у 11 пакаленнях. У пастанове Мінскага дваранскага дэпутацкага сходу ад 17 мая 1832 г. пра дваранскае паходжанне роду Жаўрыдаў герба "Радван" сказана: "…прадстаўлена просьба дараніна Слуцкага павета Даменіка сына Яна Жаўрыда, які жыве ў засценку Клешаве на зямлі князя Радзівіла, з тлумачэннем, што прозвішча Жаўрыдаў, якому належаў герб Радван (харугва жоўтая касцельная з трыма палямі, з якіх на кожным унізе паркоўкі, на версе яе крыж, у шлеме тры страусавыя пёры) у Княстве Літоўскім з даўніх часоў абаранялася годнасцямі дваранскаму званню ўласцівымі, валодала маёнткамі і за выдатныя паслугі дзяржаве ўзнагароджана было чынамі". У час войнаў Жаўрыды страцілі свае дзедзічныя маёнткі і дакументы на іх, якія вельмі цяжка было аднавіць. Таму сцвярджаць сваё паходжанне маглі толькі на аснове згаданага прывілея 1514 г.

У Мікалая Жаўрыда нарадзіўся сын Павел, у будучым – віцебскі баярын, а ў Паўла – сын Пратазій. Пра гэта сведчыць дарчы ліст ад 4 красавіка 1530 г., выдадзены князем Алелькавічам на засценак пры рацэ Ужы. Ліст гэты быў актыкаваны ў 1649 г. унукам Паўла, Грыгорыем Жаўрыдам, у Навагрудскім павятовым судзе, а затым яго братам Базыліем у Слуцкім замку. Дзякуючы гэтым дакументам вядома, што ў Пратазія было тры сыны – Грыгорый, Базылій і Стэфан.

У пятым калене роду Грыгорый Жаўрыд меў двух сыноў: Базылія і Захарыяша, а Стэфан Жаўрыд – Адама і Яцака. Пра гэта сведчыць прадажнае права ад 27 ліпеня 1649 г., прызнанае 12 жніўня гэтага ж года ў Слуцкім замку, ад Адама Стэфанавіча Жаўрыда роднаму брату Яцаку Жаўрыду на засценак Прарокаўшчызну. У гэтым жа дакуменце згаданы Захарыяш і Павел Жаўрыды, дваюрадныя браты Адама Жаўрыда.


По описи неутвержденныхъ дѣлъ №

ДѢЛО

Минскаго Дворянскаго Депутатскаго Собранія
о дворянскомъ происхожденіи
рода Жавридовъ

Первоначальныя опредѣленія Депут. Собранія
17 мая 1832 года

Указъ Правительствующаго Сената о неутвержденіи
отъ [illegible] 18[illegible] года, за № [illegible]

**Справа Мінскага дэпутацкага сходу пра дваранскае паходжанне роду Жаўрыдаў герба "Радван".**

*Часопісны варыянт выбраных раздзелаў з кнігі "Я – сын Ваш"* ***Анатоля Статкевіча-Чабаганава*** *друкуецца з № 4 за 2010 г.*

Вядома, што Базылій Грыгор'евіч не меў нашчадкаў, а ў Захарыяша нарадзіліся сыны Мікалай, які стаў каралеўскім возным, і Дзімітр. Жонка Дзімітра, зямянка Слуцкага княства Рэгіна Корзун, разам з сынам Паўлам купіла ў Філона Тэадоравіча і Кацярыны Жаўрыдаў зямлю каля Грозава. Рэгіна пакінула тастамент ад 26 чэрвеня 1722 г., у якім падзяліла маёмасць паміж дзецьмі і завяшчала сыну Паўлу пахаваць яе пры Грозаўскай Мікалаеўскай царкве.

У Адама Стэфанавіча былі сыны Тэадор і Ян. Па інвентары маёнтка Грозава ад 10 жніўня 1717 г., Ян жыў у вёсцы Ужа. А пра майго продка Тэадора Жаўрыда вядома, што яго жонка паходзіла з роду Сеўрукаў. 25 сакавіка 1691 г. Тэадор атрымаў квітацыйны дакумент на пасагавую суму ад Сеўрука Стэфанавіча, у якім яго родны брат Ян і дваюрадны Мікалай падпісаліся сведкамі. У Тэадора быў сын Філон, зямянін Слуцкага княства, і дачка Ганна. Ганна, хутчэй за ўсё, да шлюбу жыла ў ваколіцы Ужа, была прыхаджанкай Грозаўскага касцёла. Яна выйшла замуж за майго продка, сына Аляксандра Крыштафавіча Сыцько, двараніна Андрэя Сыцько. Ганна пакінула тастамент ад 2 снежня 1727 г., у якім завяшчала сынам Якаву і Грыгорыю маёнтак Востраў Барок. Як бачым, жонка Філона і муж Ганны паходзілі з аднаго і таго ж роду Сыцько.

У далейшым шматлікія прадстаўнікі роду Жаўрыдаў аж да пачатку XX ст. жылі каля Слуцка, Навагрудка, Капыля. Сустракаюцца Жаўрыды і на Любаншчыне: паводле сямейнай легенды, іх продак у сярэдзіне XIX ст. пераехаў з Гродзеншчыны (сёння мы можам удакладніць, што з-пад Навагрудка). На Любаншчыне ён купіў зямлю і заснаваў хутар Жаўрыды, захаваліся звесткі, што ён кіраваў будаўніцтвам храмаў.

*Пераклад з рускай мовы.*

*Працяг будзе.*

*Аўтар ахвяруе ганарар на развіццё часопіса.*

## КАЛЯНДАР ПАМЯТНЫХ ДАТАЎ І ЮБІЛЕЙНЫХ ДЗЁН на 2012 год

ЛЮТЫ

*Заканчэнне. Пачатак на с. 53.*

90 гадоў з дня нараджэння Леаніда Шостака (1922 – 1993), разьбяра па дрэве

**17 лютага** – 60 гадоў з дня нараджэння Уладзіміра Крываблоцкага, мастака манументальна-дэкаратыўнага мастацтва, жывапісца

25 гадоў таму створаны Нацыянальны акадэмічны аркестр сімфанічнай і эстраднай музыкі Рэспублікі Беларусь пад кіраўніцтвам М. Фінберга

**18 лютага** – 100 гадоў з дня нараджэння Кліма Грыневіча (1912 – 1941), паэта

90 гадоў з дня нараджэння Мікалая Браценнікава (1922 – 2001), скрыпача і педагога, заслужанага дзеяча мастацтваў Беларусі

90 гадоў з дня нараджэння Міхаіла Савіцкага (1922 – 2010), жывапісца, народнага мастака Беларусі і народнага мастака СССР

**19 лютага** – 80 гадоў з дня нараджэння Альфрэда Шутава, дзеяча самадзейнага мастацтва, заслужанага работніка культуры Беларусі

**20 лютага** – 115 гадоў з дня нараджэння Кіры Барышнікавай (1897 – 1978), беларускага і рускага педагога, мовазнаўцы

90 гадоў з дня нараджэння Міхаіла Цікоцкага, мовазнаўцы, журналіста

75 гадоў з дня нараджэння Юрыя Нікіфарава (1937 – 2003), графіка і жывапісца

**21 лютага** – 75 гадоў з дня нараджэння Славы Сакалова (1937 – 2005), мастака манументальна-дэкаратыўнага і ўжытковага мастацтва, афармляльніка

**22 лютага** – 90 гадоў з дня нараджэння Міхаіла Марусалава (1922 – 1982), дзеяча цыркавога мастацтва, заслужанага дзеяча мастацтваў Беларусі

90 гадоў з дня нараджэння Івана Ціханава (1922 – 1993), жывапісца, мастака манументальна-дэкаратыўнага мастацтва, заслужанага дзеяча мастацтваў Беларусі

80 гадоў з дня нараджэння Івана Міско, скульптара, заслужанага дзеяча мастацтваў Беларусі, народнага мастака Беларусі

80 гадоў з дня нараджэння Ірыны Назімавай, мастацтвазнаўцы, графіка, педагога

75 гадоў з дня нараджэння Віктара Чуглазава, мастака-афармляльніка, акварэліста

**23 лютага** – 105 гадоў з дня нараджэння Станіслава Станкевіча (1907 – 1980), паэта, літаратурнага крытыка, публіцыста, вучонага-філолага, грамадска-палітычнага і культурнага дзеяча. Жыў у ЗША

**24 лютага** – 110 гадоў з дня нараджэння Івана Хвораста (1902 – 1983), танцоўшчыка, балетмайстра, збіральніка беларускага харэаграфічнага фальклору, заслужанага работніка культуры Беларусі

75 гадоў з дня нараджэння Ігара Крэйдзіка (1937 – 2008), плакатыста і мастака тэатра

**26 лютага** – 80 гадоў таму пачала выходзіць штотыднёвая беларуская грамадска-палітычная і літаратурна-мастацкая газета "Літаратура і мастацтва"

**28 лютага** – 210 гадоў з дня нараджэння Фёдара Шымкевіча (1802 – 1843), беларускага, украінскага і рускага мовазнаўцы, педагога

110 гадоў з дня нараджэння Паўла Гаўрыленкі (1902 – 1961), жывапісца, графіка

110 гадоў з дня нараджэння Сымона Куніцкага (1902 – 1940), крытыка і літаратуразнаўцы

85 гадоў з дня нараджэння Марка Смагаровіча (1927 – 2006), паэта

75 гадоў з дня нараджэння Георгія Галенчанкі, гісторыка-медыявіста, кнігазнаўцы

**29 лютага** – 140 гадоў з дня нараджэння Вітольда Бялыніцкага-Бірулі (1872 – 1957), беларускага і рускага жывапісца-пейзажыста, народнага мастака Беларусі

*Паводле картатэкі БДМЛМ.*

# НЯСПЫННАЕ ЖЫЦЦЁВАЕ ГАРЭННЕ

## ДА 120-ГОДДЗЯ УЛАДЗІСЛАВЫ ЛУЦЭВІЧ

*Слава Вам, што нястомна трымалі*
*Сцяг жыцця да канца сваіх дзён…*

Т. Масэнка.

Невычэрпная моц жыцця, чулае да людзей сэрца, жывое срэбра… Так успаміналі, пісалі, гаварылі пра Уладзіславу Францаўну Луцэвіч, калі вызначалі яе характар. Неаднойчы прысвячалі ёй свае ўспаміны, вершы, згадкі многія пісьменнікі, сучаснікі незабыўнага Янкі Купалы, жонкай якога яна была амаль 25 гадоў. Кожны дадаваў у скарбонку памяці сваё бачанне характару жанчыны, сапраўднай асобы ў беларускай культуры. У гэтых успамінах бачыш нешта новае, не заўважанае раней, і глыбей пранікаеш у сутнасць зробленага Уладзіславай Францаўнай у жыцці. Значна дапамагаюць у гэтым фонды музея Янкі Купалы, стваральнікам і першым дырэктарам якога яна была. Тут ашчадна зберагаецца не толькі спадчына народнага паэта, але і матэрыялы пра жыццё і дзейнасць яго жонкі ад нараджэння да адыходу ў вечнасць. Паплечніца класіка беларускай літаратуры Янкі Купалы, яна не страціла ўласнага "я" ў водблісках яго таленту і славы, Уладзіслава Францаўна годна ішла поруч з ім і прысвяціла жыццё ўшанаванню яго памяці. Сёлета мы адзначаем 120-я ўгодкі яе нараджэння. Мінула больш за паўстагоддзя, як яна пайшла ад нас, але справа яе жыве, пра што найперш сведчаць цёплыя водгукі наведвальнікаў нашага музея…

Паходзіла Уладзіслава Францаўна з адметнай сям'і: прадзед, дзед, бабуля, удзельнікі паўстання 1837 і 1863 гг., былі сябрамі беларускага пісьменніка Ф. Багушэвіча. Бацька Франц Станкевіч працаваў лесніком на Валожыншчыне, маці Эмілія, францужанка з роду мастака-імпрэсіяніста Клода Манэ, настаўнічала. Беларусь стала для яе другой радзімай. Эмілія Станкевіч-Манэ была цікавым чалавекам, вельмі эрудыраваным, пра што сведчаць успаміны беларускай паэткі К. Буйло, для якой яна стала і выкладчыцай, і блізкім сябрам. Прафесія маці прадвызначыла і шлях Уладзіславы Францаўны: больш за трыццаць гадоў яна аддала педагагічнай дзейнасці, працавала ў розных дзіцячых установах Наркамасветы. Яна ўкараняла новыя формы работы, што было ў той час вялікім крокам наперад, займалася выхаваннем дзяцей на аснове народнай творчасці. На вялікі жаль, сваіх дзяцей у Я. Купалы і У. Луцэвіч не было – усё сваё нерастрачанае мацярынскае пачуццё жанчына аддавала пляменнікам народнага паэта, якія выхоўваліся ў іх доме, і дзецям, з якімі працавала.



**Уладзіслава Францаўна Луцэвіч.** 1925 г.

Уладзіслава з дзяцінства любіла фальклор, асабліва народныя песні, якія вельмі хораша спявала. Менавіта яе спевы ўпадабаў малады паэт Я. Купала, яны выклікалі ў яго творчы ўздым і натхнілі на стварэнне вершаў.

Знаёмства Янкі Купалы і У. Станкевічанкі – так падпісвала свае творы ў "Нашай Ніве" Уладзіслава Францаўна – адбылося ў рэдакцыі гэтай газеты ў 1908 г. у Вільні. А прадоўжылася ў найпрыгажэйшай мясціне на Лагойшчыне. Брат Уладзіславы Вінцэнт Станкевіч працаваў у памешчыка Чаховіча ў Малых Бясядах, у чыйго дзеда ў дзяцінстве Янка Купала браў чытаць кнігі. А ў Акопах, што побач, кожнае лета з 1911 г. ён жыў у маці ў арандаваным фальварку. Тут была яго творчая калыска, дзе з'явіліся самыя лепшыя вершы, многія паэмы і ўсе п'есы. Купала часта наведваў знаёмы з дзяцінства маёнтак, а Уладзіслава адпачывала ўлетку ў свайго брата. Малады паэт, калі гасцяваў у іх, іншым разам затрымліваўся на некалькі дзён.

«Ён часта прасіў мяне заспяваць якую-небудзь беларускую народную песню, – распавядала Уладзіслава Францаўна, – асабліва любіў ён "Ці ў полі, ці ў полі не бярозка расла". Я. Купалу падабаліся гэтыя словы, і ён напісаў верш "Ці на небе, ці на небе не мільён зорак свеціць" (верш "Мусіць трэба было")» [2].



**Канстанцыя Буйло і Уладзіслава Луцэвіч.** 1946 г.

бы апярэджваючы час, Уладзіслава Францаўна ў сваім выступленні перад пісьменнікамі ў 1950 г. выказвала ідэю пра стварэнне агульнага літаратурнага музея. Галіна Жылуновіч, дачка Цішкі Гартнага, успамінала, як Уладзіслава Францаўна гаварыла тады: "Музей Янкі Купалы – гэта пачатак арганізацыі літаратурных музеяў. Мне здаецца, што пара ўжо падумаць аб збіранні матэрыялаў аб Кузьме Чорным, і аб Змітраку Бядулі, і аб Самуйлёнку…" [5].

Пра гасціннасць Купаліхі, як называлі яе сучаснікі, згадваецца амаль ва ўсіх успамінах. Яе добразычлівасць, хлебасольства, жаданне смачна накарміць гасцей вядомы яшчэ з часоў "дома пад таполяй" (такое найменне ў Мінску ў 1930-я гг. насіў дом паэта). Адкрыты гасцінны дом стварыла цёця Уладзя і ў пасляваенным Мінску, спачатку па вуліцы Савецкай, а потым у доміку па Омскім завулку, вакол якога заўсёды раслі любімыя кветкі цёці Уладзі. Хто толькі не наведваў гаспадыню, каб разам з ёй адзначыць памятныя даты ці проста павітацца: артысты, мастакі, пісьменнікі, грамадскія дзеячы, сваякі, вучні, студэнты, жыхары купалаўскіх мясцін. Уладзіслава Францаўна працягвала традыцыі Купалавага дома, а сваё жыллё жартаўліва называла «Рэстаран "Перманент"» ці "Накармі ўсіх". А ў канцы абеду заўсёды спявалі, па ўспамінах, гаспадыня любіла спяваць песню "Цёмная ноч".

«Уладзіслава Францаўна была тыповым прадстаўніком старой беларускай інтэлігенцыі, што ўцалела ў гады сталінскага вынішчэння нацыянальных кадраў, – пісаў старэйшы беларускі пісьменнік М. Аўрамчык, – сваю безабароннасць перад новым ладам яна, як бранявым шчытом, закрывала словам "таварыш", з якім звычайна

Успаміны сучаснікаў У. Луцэвіч захавалі вобраз маладой жонкі паэта. Яны абвянчаліся ў 1916 г. у Маскве. Пісьменніца Зінаіда Бандарына, аўтар кнігі "Ой рана на Івана" пра дзяцінства і юнацтва Янкі Купалы, дзялілася ўражаннямі пасля сустрэчы з маладой гаспадыняй Купалавага дома:

"З адкрытай прыязню пазіралі яе шэрыя, ласкавыя вочы, па абодва бакі твару віселі вясёлымі абаранкамі светлыя, туга заплеценыя косы, апранута яна была ў белую палатняную сукенку. Трымалася надзвычай проста, свабодна. Невялікія, зграбныя, у той жа час моцныя яе рукі, відаць, не ўмелі адпачываць…" [3].

Праз усё жыццё пранесла У. Луцэвіч шчырае сяброўства з К. Буйло, з якой бясконца перапісвалася. Нядаўна да значнай колькасці лістоў К. Буйло да У. Луцэвіч, якія знаходзяцца ў фондах музея Янкі Купалы, дадаліся лісты Уладзіславы Францаўны 1950-х гг. да найбліжэйшай сяброўкі ў Маскву. Напрыклад, у лісце ад 31 снежня 1953 г. мы знаходзім успаміны пра Вільню: "Страшно подумать, что уже пошёл мне 63 год. А иногда мне кажется, что я ещё девочка, что мы с тобой ходим по Вильнюсу, увлекаемся всем хорошим, верим в счастье и т. д." [4].

Вера ў шчасце і ўсё добрае вельмі дапамагала ёй пасля трагічнай гібелі Янкі Купалы, падтрымлівала ў складаных музейных справах. Ішоў пошук матэрыялаў, збіраліся ўспаміны, заказваліся мастацкія творы. Стваралася экспазіцыя ў дзвюх залах будынка на плошчы Свабоды, затым у пяці залах памяшкання Саюза пісьменнікаў па вуліцы Энгельса. Акрамя гэтага, быў клопат пра ўзвядзенне асобнага будынка музея на месцы іх ранейшага дома і не толькі… Ні-



**Валянцін Катаеў, Уладзіслава Луцэвіч, Янка Маўр.** 1952 г.

звярталася да ўсіх, замест таго, каб называць іх па імю і імю па бацьку…

У гэтай жанчыне выгодна спалучалася энергічнасць з тактоўнасцю, сціпласць з вясёласцю. Я ніколі не чуў, каб яна абгаворвала або высмейвала каго-небудзь.

Калі Уладзіслава Францаўна з'яўлялася на ажыўленых вуліцах Мінска, з ёю на кожным кроку віталіся, яе спынялі. Здавалася, што ўся сталіца ведае яе асабіста» [6].

Калі хто здзіўляўся эмацыянальнасці Уладзіславы Францаўны, яна жартам гаварыла, што маці ў яе – француженка, адтуль і тэмперамент. Яна любіла, каб усё рабілася хутка, жвава, калі пасылала каго па нейкай справе, заўсёды ўслед гаварыла: "Толькі, калі ласка, хуценька, на адной назе…"



**Янка Купала, Уладзіслава Луцэвіч.** Полацк. 1916 г.

Менавіта таму вельмі цяжка перажывала У. Луцэвіч маруднасць, з якой ішло будаўніцтва новага музея. Але справа ўсё ж такі рухалася, і ў яе лістах да сяброўкі К. Буйло ў Маскву мы знаходзім усю хроніку стварэння асобнага музейнага будынка. Зразумела, што гэтыя звесткі вельмі важныя як для гісторыі музея вялікага Песняра, так і для музейнай справы 1940 – 1950-х гг. У кожным лісце 1957 – 1959 гг. – клопат Уладзіславы Францаўны пра музей, стварэнне экспазіцыі ў новым будынку.

Цікавыя згадкі пра будаўніцтва музея захавалі ўспаміны беларускага паэта С. Грахоўскага:

«…Я не памыліўся і не перабольшыў, сказаўшы "будавала". Так, будавала. Яна спрачалася з архітэктарамі і будаўнікамі, "выбівала" патрэбныя матэрыялы… Яна была прарабам і суровым кантралёрам па якасці і натхняла будаўнікоў як найлепш…» [7].

Нарэшце, у допісе да сяброўкі ў Маскву 29 снежня 1959 г. паляцела радасная навіна пра пераезд у новы будынак. І такой жа радасцю поўняцца словы з апошняга ліста да брата В. Станкевіча ў Люблін (Польшча), напісанага 30 снежня 1959 г., дзе Уладзіслава Францаўна піша пра прыгажосць новага будынка, пра вялікую працу, якая яшчэ чакае. Побач з радасцю – словы пра адзіноту, пра дрэнны стан здароўя. У апошнія гады жыцця яна сапраўды вельмі хварэла, скардзілася К. Буйло ў лісце: "Мне бывает иногда очень и очень одиноко, а кажется, я всю жизнь старалась сделать людям только хорошее…" [8].

Сучаснікі ўспамінаюць, што часта ў размовах Уладзіслава Францаўна любіла паўтараць: "Мы будзем жыць, колькі захочам…" Аднак, на вялікі жаль, яе шлях абарваўся на 69-м годзе 25 лютага 1960 г. Справу ўсяго жыцця У. Луцэвіч – адкрыццё новага музейнага будынка і экспазіцыі ў ім – працягвалі яе паслядоўнікі, беларускія пісьменнікі, дзеячы культуры і мастацтва, грамадскія дзеячы, кіраўнікі ўрада.

Сёння Дзяржаўны літаратурны музей Янкі Купалы стварае да 130-годдзя народнага паэта новую экспазіцыю. Там абавязкова знойдзе месца раздзел, прысвечаны жыццю і дзейнасці стваральніцы музея Уладзіславе Францаўне Луцэвіч. Плануецца паказ першых экспанатаў, сабраных У. Луцэвіч рукапісаў і ўнікальных выданняў паэта, мастацкіх твораў, якія яна замаўляла мастакам – сучаснікам Я. Купалы. Музей народнага Песняра пачаўся менавіта з тых матэрыялаў, што ашчадна, з любоўю збірала яго Купаліха.

120-годдзе стваральніцы і першага дырэктара нашага музея адзначана выстаўкай "Зерне, кінутае ў ніву, усходзіць ды красуе…" і юбілейнымі мерапрыемствамі. Яе жыццёвыя шляхі і плённая праца назаўсёды застануцца прыкладам для музейных супрацоўнікаў розных пакаленняў, таму музей Янкі Купалы – месца ўшанавання памяці не толькі народнага паэта, але і незабыўнай цёці Уладзі.

**Спіс літаратуры**

1. **Масэнка, Т.** Вішнёвыя зоры Украіны / Т. Масэнка. – Мінск, 1961. – С. 87.
2. **Луцэвіч, У.** Успаміны пра Янку Купалу / У. Луцэвіч // Янка Купала : зборнік матэрыялаў аб жыцці і дзейнасці народнага паэта. – Мінск, 1952. – С. 51.
3. **Дзяржаўны літаратурны музей Янкі Купалы** (далей – ДЛМЯнК). – Ф. 75. – Воп. 1. – Адз. зах. 63.
4. **ДЛМЯнК.** КП 23122 / л – 3272.
5. **ДЛМЯнК.** КП 14450 / у – 821.
6. **Аўрамчык, М.** З імем Купалы – у сэрцы / М. Аўрамчык // Полымя. – 1992. – № 7. – С. 179.
7. **Грахоўскі, С.** Купаліха / С. Грахоўскі // ЛіМ. – 1982. – № 7. – С. 8 – 9.
8. **ДЛМЯнК.** КП 23104 / л – 3254.

**Фаіна ВАДАНОСАВА,**
вядучы навуковы супрацоўнік Дзяржаўнага літаратурнага музея Янкі Купалы.

*З гісторыі музычнага мастацтва*

# ПЕРАЕМНАСЦЬ ТРАДЫЦЫЙ РУСКАЙ ВАКАЛЬНАЙ ШКОЛЫ М. ГЛІНКІ І ЯГО ПАСЛЯДОЎНІКАЎ У СУЧАСНАЙ БЕЛАРУСКАЙ ВАКАЛЬНАЙ ШКОЛЕ

На аснове аналізу гістарычнай пераемнасці традыцый абгрунтоўваецца неабходнасць для вырашэння актуальных праблем усебаковай прафесійнай падрыхтоўкі спевака ў сярэдніх і вышэйшых спецыяльных навучальных установах Беларусі, паглыбленага вывучэння вакальна-педагагічнай спадчыны заснавальніка рускай школы спеваў М. Глінкі, а таксама яго сучаснікаў і паслядоўнікаў.

**Ключавыя словы:** вакальная школа, вакальная педагогіка, спеўнае мастацтва, вакалізацыя, канцэнтрычны метад.

The author of this article scientifically proves the idea of substantial research of the vocal and pedagogical heritage of M. Glinka, who was the founder of Russian school of singers, his contemporaries and followers. That heritage can be valuable for solving actual problems of full professional secondary and high vocal education in Belarus. The analysis of historical successive is used here.

Пасля з'яўлення новых кірункаў у сучасным музычным мастацтве, якія сфарміраваліся ў другой палове XX ст., змяніліся і патрабаванні да выканальніцкага майстэрства, адпаведна наспела неабходнасць іншых падыходаў у падрыхтоўцы спевака да яго прафесійнай дзейнасці. Нельга не адзначыць, што пераемнасць традыцый у апошнія гады спрыяла ўздыму вакальнага мастацтва ў нашай краіне. Аднак агульны ўзровень пеўчага мастацтва пакуль яшчэ не мае належнага ўзроўню, таму музычныя тэатры, канцэртныя арганізацыі пастаянна адчуваюць цяжкасці пры адборы спецыялістаў, здольных справіцца са складанымі выканальніцкімі задачамі іх рэпертуару. Да таго ж шматлікія прафесійныя спевакі завяршаюць пеўчую дзейнасць занадта рана, у 40 – 45 гадоў, або заўважна скарачаюць яе аб'ём па прычыне пагаршэння вакальных здольнасцей. Гэта сведчыць пра недахопы ў адукацыйным працэсе, падчас якога, на жаль, недастатковая ўвага аддаецца захаванасці голасу спевака на раннім этапе яго развіцця. Як паказваюць шматлікія назіранні і ўласны досвед, прафесійнае навучанне выканаўцы (асабліва на пачатковым этапе) у Беларусі неабходна засноўваць на найлепшых дасягненнях розных вакальных школ, і ў першую чаргу – італьянскай і рускай (пры ўсёй індывідуальнасці кожнай з іх), блізкіх адна да адной эстэтычнымі прынцыпамі, ідэйна-мастацкай скіраванасцю і спецыфікай гукаўзнаўлення.

Падпарадкаваўшы вакальна-віртуозныя сродкі задачы праўдзівага, глыбока псіхалагічнага раскрыцця мастацкага вобраза, руская школа спеваў паказала ўсяму вакальнаму мастацтву, і ў тым ліку беларускаму, сапраўдны шлях далейшай эвалюцыі. Дбайнае вывучэнне гісторыі развіцця і тэарэтычных асноў рускай школы мастацкага спеву і правільнае разуменне кароткіх, але вельмі змястоўных метадычных указанняў М. Глінкі дапамогуць маладым спевакам, якія займаюцца ў музычных навучальных установах Беларусі, авалодаць належнай вакальнай тэхнікай, накіраванай на ўдасканаленне і захаванасць голасу.

Традыцыі вакальнай школы М. Глінкі, а таксама развіццё нацыянальнай тэмы ў музыцы працягваў яго паслядоўнік А. Даргамыжскі. Наследаванне традыцый ён спалучаў з наватарствам, стварэннем яркіх арыгінальных выразных сродкаў у вакальным мастацтве, адным з якіх стала перадача ў музыцы інтанацый жывога чалавечага маўлення.

Сучаснікі М. Глінкі – А. Аляб'еў, А. Варламаў, А. Гурылёў, вядомыя сёння, галоўным чынам, як аўтары песень і рамансаў, – таксама ўзбагацілі традыцыю рускай вакальнай школы, унеслі ў яе новыя матывы, што развіваюць рускую музычную культуру.

Адначасова кампазітар і педагог спеваў, М. Глінка заклаў падмурак рускай вакальнай школы з уласцівым ёй наватарствам, узняў яе якасны ўзровень, паўплываўшы на фарміраванне зыходных, класічных, нацыянальных якасцей, што спрыяла ўдасканаленню айчыннага спеўнага мастацтва. Вакальная педагогіка М. Глінкі адрознівалася глыбокай арыгінальнасцю, ён "разумеў спевы як складаны псіхафізіялагічны працэс, што патрабуе поўнай мабілізацыі творчых сіл спевака" [4, с. 29]. Кампазітар пакінуў пасля сябе мноства паслядоўнікаў у гэтай сферы, сярод якіх адметнае месца занялі А. Пятроў, А. Лодзі, Д. Ляонава і інш. [12, с. 55]. Як адзначаў Б. Асаф'еў, "традыцыі гэтай школы прайшлі скрозь XIX стагоддзе, праз плеяду кампазітараў і выканаўцаў, і ўвасобіліся ў майстэрстве Шаляпіна ў сусветную з'яву" [1, с. 21].

Беларуская вакальна-адукацыйная сфера таксама многім абавязана М. Глінку. Цэнтраль-

нае месца ў ёй па-ранейшаму займае задача выхавання спевака-акцёра з яркім мастацкім мысленнем.

Важнае месца ў развіцці голасу спевака на пачатковым этапе навучання павінен мець канцэнтрычны метад М. Глінкі. Вядома, у вакальнай школе яго варта выкарыстоўваць з улікам дасягненняў сучаснай навукі, індывідуальнасці вакальнага стану навучэнца, звязанага з функцыянальнай спецыфікай фанацыі і асаблівасцю марфалагічнай структуры галасавога апарату.

У сваім навукова-метадычным даследаванні І. Назаранка падкрэсліваў: «…метад Глінкі прадпісвае ўдасканаліць найперш натуральныя тоны "без всякого усилия берущиеся", затым варта далучыць тоны з імі сумежныя іншых рэгістраў, якія бяруцца з намаганнем, але не адразу, а з паступовым пашырэннем голасу» [13, с. 205]. Нягледзячы на тое, што "ў галіне ўспрымання культуры спеўнага тону Глінка быў многім абавязаны італьянскім спевакам і педагогам", яго "ўнікальны канцэнтрычны метад, непарыўна звязаны з прынцыпам вакалізацыі, развіццём рухомасці, мае цалкам самастойнае значэнне" [4, с. 35].

Асаблівую ўвагу М. Глінка аддаваў выкананню практыкаванняў, экзэрсісаў, эцюдаў без акампанементу ва ўнісон або актаву, што спрыяе "не толькі выраўноўванню гучання голасу, але і аказвае вялікае ўздзеянне на музычнасць спевака: развівае ўнутраны слых, адточвае дакладнасць інтанацыі, прывучае да самастойнасці. Такімі практыкаваннямі выпрацоўваецца яснае ўнутранае разуменне спеўнага тону" [4, с. 39]. Гэтая вакальна-метадычная канцэпцыя М. Глінкі надзвычай узбагаціла рускую вакальную школу. Спевы без суправаджэння як метадычны прынцып у працы са спевакамі не страцілі свайго значэння для сучаснай рускай і беларускай вакальнай педагогікі. Аднак у наш час у выхаванні спевакоў на пачатковым этапе навучання, на жаль, ён выкарыстоўваецца вельмі рэдка, што з'яўляецца сур'ёзным недахопам.

Самабытнасць, арыгінальнасць і нацыянальная спецыфіка, закладзеныя М. Глінкам у падмурак рускай вакальнай школы, дазваляюць, разам з тым, выкарыстоўваць сёння ў Беларусі і найлепшыя дасягненні міжнароднага досведу, у прыватнасці італьянскай вакальнай школы, якая моцна паўплывала на вакальную і музычную творчасць педагога ў цэлым.

Напрыклад, вялікае значэнне для прафесійнага развіцця голасу спевака ў музычных навучальных установах Беларусі мае рэкамендацыя М. Глінкі вакалізаваць «на литеру "А" (итальянское)». Паводле дадзеных параўнальнай і эксперыментальнай фанетыкі, рускі націскны гук [а] па спектральным складзе і спосабе фарміравання нічым не адрозніваецца ад італьянскага. Гэтаму ёсць пацвярджэнне і ў фанетыцы італьянскай мовы. Прафесар І. Грывенка ўказвае на тое, што "італьянскае А вымаўляецца, як рускае націскное А (гэта значыць, выразна і паўнагучна)" [13, с. 524].

Аднак наш шматгадовы прафесійна-педагагічны досвед у выхаванні спевакоў дазволіў упершыню выявіць пэўны нюанс пеўчага італьянскага галоснага [а] ў спецыфіцы пеўчай фанацыі. Гэты нюанс утрымлівае элемент універсальнай вакальна-фанетычнай стылявой асаблівасці, што ўплывае не толькі на тэхніку гукавядзення, але і на выхаванне эстэтычнай, маўленчай, спеўнай і музычна-вобразнай культуры, якая ў сваю чаргу спрыяе ўтварэнню рэзанатарных, высокапазіцыйных, палётных адчуванняў. Пэўны інтарэс у працэсе выхавання спевакоў-пачаткоўцаў уяўляюць і зробленыя ў свой час навуковыя адкрыцці І. Назаранкі і Ю. Барсава, якія адзначалі, што італьянскі [а] ў М. Глінкі ўтрымлівае і сваю спецыфічную акустычную форму вакальнага [а], што фарміруецца ў «высокай пеўчай пазіцыі з выяўленымі пеўчымі фармантамі ў акустычным спектры тону, у адрозненне ад звычайнага рускага маўленчага "А"». Прыведзеныя звесткі пацвярджаюць станоўчы ўплыў традыцый італьянскай школы спеваў, перанятых у якасці метадычных прыёмаў ад італьянскіх маэстра М. Глінкам і яго паслядоўнікамі, якія займаюцца навуковымі даследаваннямі ў сферы пераемнасці традыцый у вакальным мастацтве не толькі ў Расіі, але і ў Беларусі [13, с. 209].

Разам з тым у вакальнай методыцы М. Глінкі ў вялікай ступені адлюстравалася ўсё найлепшае і, галоўнае, рацыянальнае, назапашанае як рускімі спевакамі, педагогамі пеўчых школ, вучылішчаў, акадэмій XI – XVIII стст., так і яго сучаснікамі. Аднак сёння ў вакальна-метадычнай літаратуры Расіі і Беларусі прафесійныя сувязі М. Глінкі з яго папярэднікамі і сучаснікамі асветлены недастаткова.

Выключэнне складаюць працы У. Багадурава [2, 3], Ю. Барсава [4 – 6] і І. Назаранкі [13], дзе гаворыцца, напрыклад, пра агульнасць асобных метадычных прынцыпаў у вакальных школах А. Варламава і М. Глінкі, якія рэкамендавалі займацца пераважна на натуральных тонах. Варламаў прапаноўваў пачынаць "са спеваў на працягу паўгадзіны сярэдніх гукаў, што не патрабуюць ніякіх намаганняў" [13, с. 226]. Прыведзенае выказванне пацвярджае прыярытэтнасць усталяванага ў вакальна-метадычнай літаратуры

М. Глінкам і А. Варламавым прынцыпу фарміравання голасу ад сярэдзіны дыяпазону, які быў успрыняты педагогамі спеваў Беларусі яшчэ ў канцы XIX ст., яго варта выкарыстоўваць і ў сучасных сярэдніх і вышэйшых навучальных установах.

Так, вялікую карысць у справе пачатковага навучання спевака ў нашай краіне могуць прынесці і незаслужана забытыя, але не меней важныя працы Г. Ламакіна і Ф. Яўсеева. Напрыклад, "Школа для спеваў" Ф. Яўсеева (выдадзеная ў Пецярбургу ў 1838 г.) змяшчае прыёмы, якія зберагаюць голас. Падобная да канцэнтрычнага метаду М. Глінкі тэхніка выкладзена і ў "Поўнай школе спеваў" А. Варламава. "Кароткая метода спеваў" Г. Ламакіна, надрукаваная ў 1837 г., – глыбокая сур'ёзная праца, якая заслугоўвае вывучэння і ў наш час. Пытанні пеўчага голасу разглядаюцца аўтарам у непарыўнай сувязі з задачамі музычнай адукацыі вакаліста ў цэлым. Як і М. Глінка, Г. Ламакін у якасці найважнейшага фактару вылучае сістэму навучання. Яна скіравана на захаванне голасу, дзе галоўная ўмова – развіццё "тонкага" музычнага слыху і эмацыйна-спецыфічнага пеўчага дыхання.

Асаблівую каштоўнасць для павышэння прафесійнага ўзроўню вакальных педагогаў у сярэдніх спецыяльных навучальных установах Беларусі маюць значныя, гістарычна сфарміраваныя традыцыі рускай вакальнай школы і пэўныя пазіцыі пераемнасці ў ёй, прааналізаваныя ў даследаванні Ю. Барсава. Ён паказвае, што «"Метода спеваў І" Ламакіна як быццам спецыяльна створана ў адпаведнасці з "канцэнтрычным" метадам Глінкі» і прызначана для працы з яшчэ не спрактыкаванымі спевакамі. Асвятляючы пытанне вакалізацыі, Г. Ламакін сапраўды дакладна ўказвае галосныя, на якіх яна павінна ажыццяўляцца: *а, е, о*. Укараняць вакалізацыю ў працэс навучання Г. Ламакін раіць не адразу, "а пасля паўгода заняткаў па практыкаваннях у гамах, што выконваюцца па метадзе сальфеджыравання, з назвай нот" [7, с. 16 – 17]. Аналагічных поглядаў прытрымліваўся і А. Варламаў, які лічыў "самым" прыдатным для вакалізацыі галосным *а*, а пасля яго – *о* і *е* [13, с. 230].

Такім чынам, вывучэнне прац Г. Ламакіна, Ф. Яўсеева, А. Варламава, больш блізкае знаёмства з мастацтвам рускіх спевакоў канца XVIII – пачатку XIX ст. дазваляюць зрабіць выснову, што асноўныя рысы рускай вакальнай школы, якія вызначыліся яшчэ ў "даглінкаўскі" (дакласічны) перыяд, выяўляюць станоўчую пераемнасць рускіх традыцый.

Адпаведна, асноўныя прынцыпы класічнай школы спеваў, закладзеныя М. Глінкам, яго папярэднікамі і паслядоўнікамі, сталі падмуркам для далейшага развіцця рускай, а таксама беларускай вакальнай педагогікі. А ўмелы зварот педагогаў-практыкаў на пачатковым этапе навучання спевака да гістарычна правераных і рацыянальных метадаў як да найбагацейшай педагагічнай спадчыны будзе спрыяць удасканаленню вакальна-выканальніцкіх педагагічных прынцыпаў у сучаснай вакальнай адукацыі Беларусі.

*Пераклад з рускай мовы.*

**Спіс літаратуры**


1. **Асафьев, Б. В.** М. И. Глинка / Б. В. Асафьев; под ред. Р. Г. Бутаковой. – Л. : Музыка, 1977. – 311 с.
2. **Багадуров, В. А.** Очерки по истории вокальной методологии / В. А. Багадуров; под ред. Л. Калтат. – М. : Музгиз, 1932. – Ч. 2. – 312 с.
3. **Багадуров, В. А.** Очерки по истории вокальной педагогики / В. А. Багадуров; под ред. К. Соловьевой. – М. : Музгиз, 1956. – 268 с.
4. **Барсов, Ю. А.** Вокально-исполнительские и педагогические принципы М. И. Глинки / Ю. А. Барсов; под ред. Л. В. Соллертинской. – Л. : Музыка, 1968. – 66 с.
5. **Барсов, Ю. А.** Из истории русской вокальной педагогики / Ю. А. Барсов // Вопросы вокальной педагогики : сб. ст.; под ред. Т. Н. Овсянниковой. – Л., 1982. – Вып. 6. – С. 6 – 22.
6. **Барсов, Ю. А.** Креативность личности как необходимое условие для овладения искусством пения / Ю. А. Барсов // Вопросы вокального образования : методические рекомендации для преподавателей вузов и средних специальных учебных заведений / РАМ им. Гнесиных, Ростовская конс. им. С. В. Рахманинова; сост. и ред. Н. Д. Шпилер, М. С. Агин. – М., 1994. – С. 15 – 20.
7. **Вопросы вокальной педагогики** : сб. ст. / под ред. Т. Н. Овсянниковой. – Л., 1982. – Вып. 6. – 184 с.
8. **Исмаилов, Ф. Ю.** Преемственность в историческом процессе : автореф. дис. … д-ра филос. наук : 09.00.11 / Ф. Ю. Исмаилов; АН Респ. Узбекистан, Ин-т философии и права им. И. М. Муминова. – Ташкент, 1993. – 49 с.
9. **Калач, Е. Б.** Преемственность в культуре. Традиции и инновации : учеб. пособие / Е. Б. Калач; Белорус. гос. ун-т трансп., каф. философии, истории и политологии. – Гомель : БелГУТ, 1995. – 32 с.
10. **Ладыгина, А. Б.** Преемственность – закономерность развития художественной культуры (соотношение народности, партийности, современности) : автореф. дис. … д-ра филос. наук : 09.00.04 / А. Б. Ладыгина; Бел. гос. ун-т им. В. И. Ленина. – Минск, 1974. – 41 с.
11. **Ломакин, Г.** Краткая метода пения / Г. Ломакин. – М. : Юргенсонъ, 1882. – 70 с.
12. **Машевский, Г.** Вокально-исполнительские педагогические принципы А. С. Даргомыжского / Г. Машевский; под ред. В. В. Рубцовой. – Л. : Музыка, 1976. – 63 с.
13. **Назаренко, И. К.** Искусство пения / И. К. Назаренко; под общ. ред. Р. Берберова. – М. : Музыка, 1968. – 622 с.
14. **Свешников, А. В.** О состоянии и задачах вокального образования в стране : по материалам Всесоюзного вокального совещания / А. В. Свешников // Музыкальные кадры; под ред. Т. Кравченко. – Л., 1954. – № 2-3. – С. 1 – 8.



**Наталля ВАРОНІНА,**
выкладчык Беларускага дзяржаўнага
ўніверсітэта культуры і мастацтваў.


*Артыкул паступіў у рэдакцыю 20.09.2011.*

*Мастацтва ў кантэксце часу*

# ОПЕРА “РАЎНІНА” ЯК ЗНАКАВАЯ З’ЯВА Ў ПРАЦЭСЕ ПРАФЕСІЯНАЛІЗАЦЫІ КІТАЙСКАГА ОПЕРНАГА МАСТАЦТВА

У артыкуле аналізуецца лібрэта, эстэтычныя ідэі, сюжэт, сімфанізацыя, структура, фактура, аркестр, жанр, вакальная лінія і іншыя складнікі поспеху вядомай оперы “Раўніна” кітайскага кампазітара Цзінь Сяна. Гэта знакавы твор у працэсе прафесіяналізацыі кітайскага опернага мастацтва. Спалучэнне заходніх кампазіцыйных тэхнік з яркім каларытам, уласцівым кітайскай традыцыйнай культуры, спрыяла ўзнікненню ўнікальнага твора, які стаў візітоўкай сучаснай кітайскай оперы.

**Ключавыя словы:** опера “Раўніна”, знакавы твор, лібрэта, сюжэт, герой, структура оперы.

This article analyzes the libretto, aesthetic ideas, plot, symphonization, structure, texture, band, genre, vocal line and other key ingredients of success of the famous opera “Plain” of Chinese composer Jin Xiang. This is a landmark product in the process of professionalization of Chinese opera. The combination of Western compositional techniques with vivid colors, the inherent traditional Chinese culture, allowed to create a unique product that has become hallmark of modern Chinese opera.

Опера “Раўніна” стала знакавым творам як у творчасці кампазітара, так і ў культурным жыцці Кітая. Менавіта гэтая опера, прэм’ера якой адбылася ў Пекіне ў 1987 г., першай прагучала на еўрапейскай і амерыканскай сцэнах і тым самым прэзентавала свету найвышэйшы ўзровень кітайскага опернага мастацтва [1, с. 1].

Галоўным стваральнікам оперы з’яўляецца Цзінь Сян – кампазітар, дырыжор, музычны крытык – ключавая постаць у культуры Кітая другой паловы XX – пачатку XXI ст.

Лібрэта оперы “Раўніна” напісала Вань Фан, дачка вядомага кітайскага драматурга, “Шэкспіра Кітая”, Цаа Юя. Ван Фан перапрацавала аднайменную драму бацькі, створаную ў 1937 г., якая мела ў той час велізарную папулярнасць.

Варта адзначыць, што падчас працы над драмай “Раўніна” драматург Цаа Юй знаходзіўся пад моцным уражаннем ад твора “Імператар Джонс” Юджына О’Ніла, аднаго са знакамітых амерыканскіх драматургаў, які ў сваёй творчасці адштурхоўваўся ад ідэй Ніцшэ. Нястрымная эмацыйнасць, канфлікт са светам, безнадзейнасць – усё гэта характэрна для “Раўніны” [2, с. 162]. Разам з тым Цаа Юй максімальна рэалістычна паказвае ўзаемаадносіны герояў, іх трагедыю. Такі сінтэз несупастаўляльных з’яў, экспрэсіянізму і рэалізму, вызначае ўнікальнасць творчага метаду драматурга, а таксама падкрэслівае еднасць дзвюх культур – еўрапейскай і азіяцкай.

Эстэтычныя ідэі, увасобленыя ў драме, захапілі Цзінь Сяна, і кампазітар звярнуўся да музычнага экспрэсіянізму, аднак пры гэтым ён адмаўляўся цалкам успрыняць ідэал “абыякавай духоўнасці”, бо галоўная ідэя оперы – паказаць духоўнае адраджэнне галоўнага героя. Цзінь Сян лічыць, што ў оперы павінна адбывацца максімальнае ўзаемадзеянне музыкі і драмы. На думку кампазітара, оперную драматургію неабходна выбудоўваць паводле законаў драмы, толькі тады можна стварыць па-сапраўднаму вартую оперу [3, с. 1].

Сюжэт оперы “Раўніна”, напоўнены змрокам і песімізмам, развіваецца ў поўнай адпаведнасці з сюжэтам драмы, але пры гэтым вылучаюцца істотныя адрозненні ў трактоўцы вобразаў герояў: кампазітар аддае больш увагі асабістым перажываванням і псіхалагічнаму стану персанажаў, іх душы глыбокія і шматгранныя. Калі ў драме дамінуе тэма нянавісці і помсты, то ў оперы помста мяжуе з каханнем і пакаяннем.

Дзеянне разгортваецца ў 1920 г. на поўначы Кітая ва ўмовах жорсткай сацыяльнай няроўнасці. Землеўладальнікі бязлітасна абыходзяцца з сялянамі: забіваюць, прадаюць у рабства.

Галоўны герой оперы Чжоу Ху вяртаецца ў родную вёску пасля васьмі гадоў турэмнага зняволення. Усе яго думкі поўняцца помстай: ён хоча забіць Цзяа Янь Вана, жорсткага памешчыка, які жывым пахаваў бацьку Чжоу Ху, прадаў яго сястру ў прытон, дзе яна і памерла, а таксама, абвінаваціўшы героя ў кіраўніцтве бандытамі, пасадзіў яго ў турму, захапіўшы пры гэтым усе землі няшчаснай сям’і. Ад вулічнага вар’ята Чжоу Ху даведваецца, што Цзяа Янь Ван памёр, яго жонка аслепла, а каханая галоўнага героя па прымусе стала жонкай Да Сіна, сына памешчыка, з якім Чжоу Ху сябраваў у дзяцінстве. Прага помсты яшчэ больш авалодвае ім, ён хоча забіць сям’ю свайго ворага, знішчыць яго род.

Паралельна з лініяй помсты героя развіваецца лінія нянавісці Маці Цзяа (маці Да Сіна) да жонкі свайго сына, Цзінь Цзы. Яна праклінае нявестку за яе прыгажосць, старая ўпэўнена ў нявернасці маладой жанчыны і не перастае паўтараць гэта сыну. Але Да Сін бязмежна закаханы

ў жонку і ўмольвае маці прыняць яе. Цзінь Цзы прыгнечана нянавісцю свякрухі і тым, што жыве з нялюбым, але смутак дзяўчыны рассейваецца, калі з'яўляецца Чжоу Ху разам з надзеяй на шчасце.

Нянавісць і варожасць герояў прыводзяць да трагічнай гібелі Да Сіна, якога забівае Чжоу Ху, а таксама да смерці немаўляці, дзіцяці Цзінь Цзы, памылкова забітага Маці Цзяа.

Чжоу Ху і Цзінь Цзы ўцякаюць ад пераследу міліцыі ў лес. Аднак, дамогшыся ўсяго, чаго жадаў, Чжоу Ху не адчувае задавальнення, ён пакутуе ад згрызот сумлення. У хворым уяўленні забойцы ўзнікаюць здані, якія патрабуюць адплаты за зробленае. Чжоу Ху не можа вынесці пакут і заканчвае жыццё самагубствам.

Такім чынам, у оперы пануе псіхалагізм і практычна адсутнічае дзеянне. Кампазітар стварае псіхалагічныя партрэты герояў, максімальна выразна апісвае іх узаемаадносіны, акцэнтуе ўвагу на тонкіх праявах чалавечых пачуццяў, канцэнтруецца на сферы ілюзій персанажаў. Пры гэтым насычаныя ўнутраныя працэсы фарміруюцца на фоне глыбокай асабістай трагедыі кожнай з дзейных асоб, што ўзмацняе драматызм оперы. Такое пагружэнне ў суб'ектыўнае сведчыць пра прыналежнасць оперы "Раўніна" да жанру псіхалагічнай драмы, зварот да якога мы назіраем як у заходнееўрапейскай, так і ў рускай opernай традыцыі (яркія прыклады – оперы "Дон Карлас" Д. Вердзі і "Русалка" А. Даргамыжскага).

Цзінь Сян як тонкі псіхолаг па-майстэрску стварае неабходныя вобразы. Выкарыстоўваючы дасягненні еўрапейскага опернага мастацтва, кампазітар аб'ядноўвае еўрапейскі псіхалагізм, рацыяналістычны па сваім метадзе, і глыбокае пагружэнне ў духоўную сферу чалавечай свядомасці, характэрнае для духоўных практык Усходу. Пры гэтым аўтар прафесійна валодае рознымі еўрапейскімі тэхнікамі, узбагачаючы іх нацыянальнымі элементамі. Санорыка, пуантылізм, алеаторыка – усё афарбавана каларытам кітайскай традыцыйнай музыкі [4, с. 99]. Гэты сінтэз заканамерны: шматлікія еўрапейскія кампазітары XX ст. у сваіх філасофскіх пошуках часта звярталіся да эстэтыкі Усходу. Так, адным з цэнтральных прынцыпаў творчасці Джона Кейджа стаў прынцып выпадковасці, запазычаны ім са старажытнакітайскага трактата І-Цзін – "Кнігі змен", па якой можна было варажыць з дапамогай манеткі або галінкі крываўніку (гэты спосаб папярэднічаў алеаторыцы). Але адметнай рысай у оперы "Раўніна" з'яўляецца выкарыстанне Цзінь Сянам рацыяналістычных метадаў еўрапейскіх кампазітараў для стварэння яркіх эмацыйных вобразаў.

Опера "Раўніна" мае характэрную драматургію, пабудаваную на кантрастах, якія выяўляюцца як у больш лакальных эпізодах, так і ў суадносінах вялікіх частак формы. Нягледзячы на тое, што ў оперы ёсць даволі завершаныя нумары, "Раўніна" імкнецца да тыпу оперы скразной драматургіі. Усе эпізоды перацякаюць адзін у адзін. Нават рэзкі кантраст паміж некаторымі сцэнамі не разбурае агульную лінію развіцця.

Асноўным прынцыпам пабудовы драматургіі ў оперы з'яўляецца выкарыстанне лейтматываў. Лейтматывамі надзелены галоўныя героі, а таксама абстрактныя з'явы: тэма "раўніны" (утапічны вобраз месца, дзе Чжоу Ху і Цзінь Цзы могуць знайсці душэўны спакой) і дзве тэмы кахання – узнёслага пачуцця і трагічнай прадвызначанасці.

Гаварыць пра сімфанізацыю ў оперы "Раўніна" наўрад ці магчыма, бо трансфармацыя вобраза Чжоу Ху адбываецца за кошт увядзення новых сродкаў выразнасці, а не праз пераасэнсаванне першапачатковага матэрыялу. Сімфанічнае развіццё мае на ўвазе дынамізацыю вобраза, а ў даследаванай оперы адбываецца адваротны працэс.

Для "Раўніны" больш уласцівы прынцып медытатыўнасці, глыбокага пагружэння ў асобныя грані вобраза. Гэты метад, характэрны для ўсходняй традыцыі, выкарыстоўваюць многія сучасныя кампазітары сусветнага значэння. Яркі прыклад – творчасць Гіі Канчэлі, Арво Пярта. Аднак названыя аўтары не працуюць у жанры оперы. Адметнасць жа opernай творчасці Цзінь Сяна якраз і заключаецца ў сумяшчэнні медытатыўнасці і дзеяння, заснаванага не на дынаміцы развіцця вобраза, а на яго ўяўным згасанні. Нават асноўны лейтматыў оперы, тэма "раўніны", – гэта ўтопія, небыццё, куды так імкнуцца трапіць галоўныя героі.

Структуру оперы складаюць уверцюра і чатыры акты, пры гэтым першы і другі, а таксама трэці і чацвёрты акты звязаны паміж сабой аркестравымі інтэрлюдыямі.

Першы акт экспануе ўсе вобразы і іх узаемадзеянне, прычым лініі помсты Чжоу Ху і нянавісці Маці Цзяа гучаць ярчэй, чым індывідуальныя характарыстыкі герояў. Яркім кантрастам паўстаюць пры супастаўленні рэчытатыў Маці Цзяа (нянавісць і праклёны, магічныя заклінанні вуду) і дуэт Да Сіна і Цзінь Цзы, напоўнены энергіяй маладосці і парыву.

У другім акце дамінуе лінія кахання Чжоу Ху і Цзінь Цзы, што супрацьстаіць негатыву, які дамінуе ў першым акце.

Канцэнтрацыя дзеяння адбываецца ў трэцім акце, дзе здзяйсняецца помста Чжоу Ху: ён забівае Да Сіна. Маці Цзяа, якая жадала смерці Чжоу Ху, па памылцы забівае свайго ўнука. Лініі

помсты і нянавісці зліваюцца, утвараючы трагічную кульмінацыю оперы.

Чацвёрты акт – эпілог. Толькі два героі – Чжоу Ху і Цзінь Цзы, толькі два станы – кахання і вар'яцтва, якое суправаджаецца з'яўленнем духаў. Гэты акт максімальна кантрасны ў адносінах да папярэдняга, дзе сутыкаліся ўсе вобразныя сферы оперы. Тут выяўляюцца таксама ўнутраныя кантрасты – дуэт Чжоу Ху і Цзінь Цзы, заснаваны на тэме ўзнёслага кахання, поруч са сцэнамі вар'яцтва і самагубства Ху.

У агульнай атмасферы змроку і асуджанасці звяртае на сябе ўвагу лірычная лінія оперы – тэма кахання, прычым у "Раўніне" паўстаюць дзве лініі кахання: безнадзейнае пачуццё Да Сіна да Цзінь Цзы і каханне Цзінь Цзы і Чжоу Ху. Абедзве лініі трагічна абрываюцца, пры гэтым ствараецца неабходны для драматургіі эфект кантрасту. Такім чынам, у оперы аб'ядноўваюцца драматычны і лірычны элементы з відавочным дамінаваннем першага. Адсутнасць эпічнага пачатку больш ярка падкрэслівае псіхалагізм твора.

Адзін з нумароў у чацвёртым акце прадстаўлены дыялогам. Эпізадычна дыялогі сустракаюцца і на працягу ўсёй оперы, што сведчыць пра ўнясенне ў яе драматургію метадаў драмы.

У "Раўніне" прысутнічаюць шматлікія ансамблевыя эпізоды: дуэты і трыа. Адметна тое, што поруч з "дуэтамі згоды" (Чжоу Ху і Цзінь Цзы ў другім акце) актыўна гучаць ансамблі "рознагалосся", дзе супастаўляюцца кантрасныя вобразы і эмоцыі, а таксама выяўляецца сутыкненне інтарэсаў розных персанажаў (трыа Да Сіна, Цзінь Цзы і Чжоу Ху з трэцяга акта).

Наяўнасць ансамбляў "рознагалосся" сведчыць пра змены ва ўсходнім мысленні, манадыйным па характары. За кароткі перыяд (крыху больш за пяцьдзясят гадоў) дуэты і трыа, якія выконваліся ва ўнісон у кітайскай оперы "Сівавалосая дзяўчына", пераўтварыліся ў складаныя пабудовы, што здзіўляюць незвычайным прафесіяналізмам у распрацоўцы раўназначных кантрасных музычных вобразаў.

Звяртаюць на сябе ўвагу харавыя эпізоды. Пры гэтым хор успрымаецца як нейкая нярэчыўная субстанцыя, як тэмбр. Увядзенне хору адбываецца ўжо ва ўверцюры. Тут ён гучыць як экзатычны тэмбр у складзе сімфанічнага аркестра. Выканаўцы не спяваюць. Уся харавая лінія насычана разнастайнымі спецыфічнымі прыёмамі: уздыхі, дэкламацыя негатыўна афарбаваных слоў ("помста", "нянавісць", "лютасць", "цемра"), смех, глісанда, ускрыкі – усё гэта разам з каларыстычнымі прыёмамі аркестра стварае даволі жудасную і змрочную атмасферу. Ствараецца ўражанне, што ў гэтым эпізодзе ўверцюры кампазітар хацеў заглыбіць гледачоў у стан чалавечай душы, дзе адбылося магутнае разбурэнне. Такога эфекту можна было дасягнуць толькі дзякуючы тэмбру хору.

Паліфанізацыя харавой фактуры дазваляе выявіць асобныя адценні псіхалагічнага стану Чжоу Ху. У басовай партыі як фундаментальная ідэя гучыць адзіны гук пэўнай вышыні на склад "хэн", які нясе сэнсавае адценне нянавісці, помсты. Сінкапіраваныя рэплікі жаночых сольных галасоў, пераклікаючыся, праводзяцца без вызначанай вышыні на словах "змрок", "нянавісць". Пры гэтым у партыі тэнараў гучаць рэплікі пра Царства Нябеснае, якія прыцягваюць увагу дзякуючы tutti і паўторам. Потым гэтыя кантрасныя вобразы змешваюцца. Кампазітар раскрывае ідэю духоўнай барацьбы: спачатку на паменшаным сэптакордзе гучаць словы "цемра-рай-цемра-рай…", затым санарыстычная пляма. Але ў выніку фактуру прабівае рэзкае сола сапрана – перамагае цемра [5, с. 18 – 22].

Кароткачасовае ўвядзенне харавых тэмбраў адбываецца ў трэцім дзеянні ў арыі і рэчытатыве Чжоу Ху. Тэмбры сапрана і альта зліваюцца ў гучанні тэмы "раўніны". Такое вырашэнне не выпадковае: кампазітар звяртаецца да тэмбру чалавечага голасу як да самага тонкага інструмента. У гэтай арыі Чжоу Ху ўсвядоміць, што забойства не прынесла доўгачаканай палёгкі – цяпер яго рукі ў крыві. Названы эпізод – "ціхая" кульмінацыя ўсёй оперы, самы патаемны маналог, найглыбейшае самаўсведамленне галоўнага героя, які нарэшце робіцца відушчым, вызваляецца ад улады помсты.

У чацвёртым акце хор паўстае ў вобразе духаў. У хворым уяўленні Чжоу Ху дрэвы становяцца зданямі, якія прыйшлі забраць яго душу ў пекла. Кампазітар зноў карыстаецца санарыстычнымі эфектамі: гучанне хору імітуе жудаснае выццё зданяў. Таксама вяртаецца эпізод перадачы духоўнай барацьбы Чжоу Ху, які ўжо пачынае вар'яцець. Герою сніцца пекла, сустрэча з д' яблам, асуджэнне на смерць, якое ў шаленстве дэкламуе хор.

Пры разглядзе ўсёй фактуры оперы "Раўніна" назіраецца арганічнае спалучэнне розных пластоў музычнай тканіны.

Аркестр уяўляе з сябе мабільную субстанцыю, якая жыва адгукаецца на ўсе падзеі і перажыванні герояў і спалучае мноства функцый: функцыі суправаджэння і абагульнення; стварэння аб'ектыўнай і суб'ектыўнай рэальнасці; каларыстычную функцыю і г. д.

Вылучаюцца самастойныя аркестравыя эпізоды, якія нясуць вялікую сэнсавую нагрузку, канцэнтруючы асноўныя вобразы і ідэі. Уверцюра мае трохчасткавую структуру, дзе ў першай частцы задаецца агульная атмасфера ўсёй оперы, у другой мы паглыбляемся ў свет душэў-

ных пакут Чжоу Ху, а ў трэцяй частцы экспануюцца асноўныя лейтматывы оперы (тэма "раўніны", матывы помсты і лёсу).

У інтэрлюдыі паміж першым і другім актамі гучыць тэма ўзнёслага кахання, яна праводзіцца тут упершыню і нібы "расцвітае" ў аркестравым гучанні. Паміж трэцім і чацвёртым актамі адбываецца абагульненне змрочных падзей, якія разварочваліся ў трэцім акце, аркестравымі сродкамі перадаецца ўвесь трагізм таго, што адбылося.

Кампазітар стварае своеасаблівае гучанне сімфанічнага аркестра, насычанага разнастайнасцю тэмбраў. У партытуры выкарыстоўваецца мноства каларыстычных прыёмаў і эфектаў. Шматлікія тэмбры атрымліваюць розныя трактоўкі: ад стварэння ілюзіі "звонкай" цішыні да выражэння агрэсіі з дапамогай струнных інструментаў.

Цзінь Сян уводзіць у партытуру англійскі ражок, бас-кларнет і контрафагот, фартэпіяна, вібрафон, ксілафон – інструменты, якія валодаюць спецыфічным тэмбрам і актыўна выкарыстоўваюцца сучаснымі еўрапейскімі кампазітарамі. Разам з гэтым прадстаўлены традыцыйныя кітайскія інструменты, у асноўным у групе ўдарных. Гэта розныя калатушкі, вялікі кітайскі барабан, маленькі кітайскі гонг, жалезны ланцуг, тонкае жалеза, якія ствараюць адметны каларыт.

Гэтак жа прафесійна, як у працы з аркестравымі тэмбрамі, Цзінь Сян стварае выразныя вакальныя лініі. Пры гэтым кампазітар найперш абапіраецца на слова. Музыка ідзе за інтанацыямі маўлення. Для кітайскага спеўнага мастацтва такая з'ява вельмі характэрная, бо сама мова музычная, кожная інтанацыя нясе пэўны сэнс, што тлумачыцца сістэмай чатырох тонаў у кітайскай мове.

Асноўныя вакальныя жанры оперы "Раўніна" – арыі і рэчытатывы. Толькі аднойчы, у другім акце, гучыць кітайская народная песня "Чакаю каханага". Да такога драматургічнага рашэння аўтар звяртаецца, каб паказаць шматграннасць і глыбіню пачуцця Цзінь Цзы, для чаго выкарыстоўвае цытату, паколькі ў народнай музыцы найбольш ярка выяўляецца душа чалавека.

Вакальная лінія Вар'ята прадстаўлена асаблівай характэрнай мелодыкай – бясконцы паўтор аднаго матыву, фаршлагі, інтанацыі дзіцячых "дражнілак". Падобны вобраз мы сустракаем у оперы "Барыс Гадуноў" М. Мусаргскага. Але там юродзівы з'яўляецца голасам народа, што патрабуе большай драматызацыі характару, а ў оперы "Раўніна" – голасам аўтара, што вымагае пэўнага адасаблення і апавядальнасці.

З'яўленне Вар'ята адбываецца ў значныя моманты оперы. Такое "ўключэнне" персанажа ў часавай прасторы – адзін са спосабаў пабудовы цэльнай драматургіі.

Але, несумненна, асноўным сродкам аб'яднання частак у оперы з'яўляецца выкарыстанне сістэмы лейтматываў. Вылучаюцца як яркія і разгорнутыя лейттэмы (тэма "раўніны", тэма ўзнёслага кахання), так і лейтматывы, складзеныя ўсяго з некалькіх інтэрвалаў, але пры гэтым не меней значныя і запамінальныя.

Выкарыстанне лейттэмбру – таксама адзін з асноўных прынцыпаў аб'яднання ў даследаванай оперы. Так, заўсёды пры з'яўленні Маці Цзяа гучыць тэмбр саксафона.

Яркім аб'яднальным фактарам з'яўляецца і монаінтанацыя – узыходзячы фаршлаг да палавіннай ноты. Гэтая інтанацыя бесперапынна праводзіцца на працягу ўсёй оперы, а таксама служыць зернем для ўтварэння шматлікіх тэм, у тым ліку і лейтматываў.

Самыя яркія вобразы оперы "Раўніна" – Чжоу Ху, Маці Цзяа і Цзінь Цзы. Да Сін таксама мае выразную, рознабаковую характарыстыку, але ў параўнанні з названымі персанажамі ён саступае па сіле выяўлення. Калі Маці Цзяа на працягу ўсяго твора застаецца ў адным вобразе – помслівай старой, то Чжоу Ху і Цзінь Цзы паказаны вельмі шматгранна. Даволі яркая іх сумесная характарыстыка – каханне, агульная мара, выяўленая ў тэме "раўніны", якая часта гучыць у арыях герояў і сумесных сцэнах.

Прааналізаваўшы некаторыя асаблівасці оперы "Раўніна", можна меркаваць пра высокую мастацкую каштоўнасць гэтага твора. Прызнанне, якое атрымала опера ва ўсім свеце, выклікана найперш высокім прафесіяналізмам аўтараў. Сумяшчэнне заходніх кампазіцыйных тэхнік з яркім каларытам, уласцівым кітайскай традыцыйнай культуры, дапамагло адбыцца ўнікальнаму твору, які стаў візітнай карткай сучаснай кітайскай оперы.

*Пераклад з рускай мовы.*

**Спіс літаратуры**

1. **Цзінь, Сян.** Опера "Раўніна" / Сян Цзінь. – Шанхай : Шанхайскае музычнае выдавецтва, 2005. – 412 с. (*на кітайскай мове*).

2. **Цаа, Юй.** Аўтабіяграфія Цаа Юя / Юй Цаа. – Наньцын : Выдавецтва культуры Цянсу, 1996. – 246 с. (*на кітайскай мове*).

3. **Мін, Янь.** Гістарычная ацэнка оперы "Раўніна" / Янь Мін // Пекін : музычнае даследаванне. – 2008. – № 4. – С. 17 – 21 (*на кітайскай мове*).

4. **Ху, Бо.** Агульная характарыстыка оперы "Раўніна" / Бо Ху, Цзінь Хуан // Ухань : музычнае выхаванне. – 2008. – № 12. – С. 99 (*на кітайскай мове*).

5. **Цзінь, Сян.** Уражанні, з якімі я пісаў оперу "Раўніна" / Сян Цзінь // Шанхай : Шанхайскі оперны тэатр. – 2009. – № 2. – С. 18 – 22 (*на кітайскай мове*).

**Чжан БІНЬ,**
аспірантка Беларускай дзяржаўнай акадэміі музыкі.

*Артыкул паступіў у рэдакцыю 04.10.2011.*

# ПАКАЗАЛЬНІК МАТЭРЫЯЛАЎ, ЗМЕШЧАНЫХ У ЧАСОПІСЕ за 2011 г.



#### ЛІТАРАТУРА І ЧАС

МОВЫ РЫСЫ НЕПАЎТОРНЫЯ

**МЕТОДЫКА І ВОПЫТ**

**ДА 120-ГОДДЗЯ З ДНЯ НАРАДЖЭННЯ МАКСІМА БАГДАНОВІЧА**



***Крытыка і бібліяграфія***

### *Новыя выданні*



### *Паэтычная старонка*



### *Літаратурная старонка*



### *Літаратурны ветразь*

**СПІС КАЛЯРОВЫХ ІЛЮСТРАЦЫЙ**

# КРЫЖАВАНКА

## З НОВЫМ ГОДАМ!




**Па гарызанталі: 1.** Беларускі паэт, аўтар вершаваных казак для дзяцей. **4.** Трава, з якой ладзілі рогі казы – галоўнага персанажа каляднага абраду. **7.** Зерне для святочнага салодкага печыва. **9.** Харэаграфічны ансамбль, што стварыў праграму на фальклорным матэрыяле каляднай гульні "Жаніцьба Цярэшкі". **10.** Кантынент, у многіх краінах якога традыцыйнай навагодняй стравай лічыцца фаршыраваны індык. **14.** Марозны малюнак на аконным шкле. **15.** Старажытны беларускі танец-карагод. **16.** Асобная оперная партыя. **19.** Халодны будынак, прызначаны для захоўвання збожжа, мукі і іншых прадуктаў, рэчаў. **20.** Хатняя вопратка. **21.** Міфалагічная казачная птушка – сімвал вечнага абнаўлення. **24.** Знак прывітання, удзячнасці; сардэчнае зычэнне. **25.** Малітоўны верш у гонар праваслаўнага свята. **27.** Дробныя рэчы, пажыткі, складзеныя ў торбу ці звязаныя кавалкам тканіны. **29.** Палатняны выраб, што традыцыйна лічыцца родавым абярэгам. **33.** Горад абласнога падпарадкавання на Брэстчыне. **34.** Парны бальны танец. **37.** Гераіня аповесці "Ноч перад Калядамі" Мікалая Гогаля. **40.** Абавязковы ласунак на святочным стале. **41.** Шасцітыднёвы пост перад Калядамі. **42.** Дасціпны выраз, нагода для смеху. **45.** Народнае паданне. **46.** Высакаякасны гатунак гарэлкі, настоенай на карэннях. **47.** Пачэснае месца за сталом на покуці, куды садзяць шаноўнага госця. **48.** Касметычны сродак. **49.** Невядомасць, загадка.

**Па вертыкалі: 2.** Рыбны далікатэс. **3.** Навагодняя страва, што ў японцаў сімвалізуе поспех у справах. **5.** Невялікі тугі камяк, зляплены са снегу. **6.** Сімвал і прадмет культу ў хрысціян. **7.** Пазалочаныя або пасярэбраныя металічныя ніткі для вырабу парчовых тканін або ўпрыгожанняў. **8.** Краіна – арганізатар зімовых Алімпійскіх гульняў 2010 года. **9.** Запіс гістарычных падзей у храналагічнай паслядоўнасці. **11.** Вясковая ўскраіна, дзе звычайна вадзілі карагоды з нагоды праводаў зімы. **12.** Род жаночай прычоскі. **13.** Транспарт для гарадскіх паездак. **17.** Радзіма Снежнай каралевы. **18.** Беларуская страва, якая абавязкова прысутнічала на стале ў Шчодры вечар. **22.** Камень – разнавіднасць агату, сімвал красамоўства. **23.** Пачатак спаборніцтва. **24.** Шматгадовы лёд у палярных водах. **26.** Адно з сузор'яў Задыяка. **28.** Навагодняе апавяданне Антона Чэхава. **30.** Цэнтр раёна на Заходнім Палессі, вядомага традыцыйнымі вырабамі зімовага адзення мотальскіх майстроў. **31.** Невялікая эстрадная п'еса жартаўлівага зместу. **32.** Жаночае футравае паліто свабоднага пакрою. **35.** Міфалагічны персанаж, волат. **36.** Паўднёвы плод (у Грэцыі гаспадар апоўначы пад Новы год разбівае яго аб сцяну). **38.** Першапасяленец, зачынальнік. **39.** Аздоба. **43.** Зімовае жыллё эскімосаў. **44.** Буйназярністы снег, што ўтвараецца ў гарах.

### Адказы

**Па гарызанталі: 1.** Вітка. **4.** Асака. **7.** Мак. **9.** "Харошкі". **10.** Амерыка. **14.** Узор. **15.** "Падушачка". **16.** Сола. **19.** Свіран. **20.** Халат. **21.** Фенікс. **24.** Паклон. **25.** Трапар. **27.** Клунак. **29.** Ручнік. **33.** Кобрын. **34.** Танга. **37.** Аксана. **40.** Торт. **41.** Піліпаўка. **42.** Жарт. **45.** Легенда. **46.** Акавіта. **47.** Кут. **48.** Пудра. **49.** Тайна.

**Па вертыкалі: 2.** Ікра. **3.** Каштан. **5.** Снежка. **6.** Крыж. **7.** Мішура. **8.** Канада. **9.** Хроніка. **11.** Аколіца. **12.** Кукса. **13.** Таксі. **17.** Лапландыя. **18.** Верашчака. **22.** Онікс. **23.** Старт. **24.** Пак. **26.** Рак. **28.** "Ліберал". **30.** Іванава. **31.** Скетч. **32.** Манто. **35.** Асілак. **36.** Гранат. **38.** Піянер. **39.** Акраса. **43.** Іглу. **44.** Фірн.

Склаў **Іосіф КАРПЫЗА.**

Установа «Рэдакцыя часопіса "Роднае слова"». Заснавальнік – Міністэрства адукацыі Рэспублікі Беларусь. Рэгістрацыйны нумар часопіса 561.
220035, г. Мінск, пр. Пераможцаў, 47, кор. 1, пад'езд 2 (уваход з вул. Гвардзейскай, код на ўваходзе: 43 + званок).
Р/р № 3015702170012 у аддзяленні № 527 ААТ "Белінвестбанк" г. Мінска, код 739, УНН 190241571, ОКПО 37551965.

*Тэлефоны:* галоўнага рэдактара **(017) 203-35-17**, намесніка галоўнага рэдактара **(017) 203-24-69**,
рэдактараў і галоўнага бухгалтара **(017) 203-34-79**, адказнага сакратара і загадчыка прыёмнай **(017) 203-07-40**,
факс **(017) 203-07-40**.
E-mail: **rodnaje_slova@tut.by**
**www.rs.unibel.by**

Падп. да друку 09.12.2011. Фармат 60x84 1/8. Папера газетная. Гарнітура "Minion Pro". Афсетны друк. Ум.-друк. арк. 9,1.
Ум.-фарб. адбіт. 11,07. Ул.-выд. арк. 11,5. Тыраж 3141 экз. Зак. 3334.
Надрукавана ў Рэспубліканскім унітарным прадпрыемстве «Выдавецтва "Беларускі Дом друку"».
220013, Мінск, пр. Незалежнасці, 79. ЛП 02330/0494179 ад 03.04.2009.